# *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Генадзь ПАШКОЎ

# КАБ ЛЮБІЦЬ

## АДВЕЧНАЕ

Хаджу ля Дзвіны, ці ля Нёмана —
нябесная сінь, ці віры —
жыву тваім роднасным гоманам
у полі, у смольным бары.

Я шмат пабываў дзе, пабачыў
дзівосаў на гэтай Зямлі.
Ды толькі ад сцежак юначых
мяне не адлучыш ані!

У травах яны, паміж лёну,
ля гэтых імклівых віроў.
За рай той якісьці хвалёны
бліжэй мне легенды бароў.

З лясамі, азёрамі,
хатамі,
прыціхлымі каля вады,
зямля,
на паэтаў багатая,
якая ж выдатная ты!

Так ёсць…
Так спрадвеку вялося…
І будзе далей, як было,
каб словаў радзімых
калоссе
у сэрцах нашчадкаў жыло!

## ТАЛАШОВА ХАТА

З ракі ўзыходзіць вецер колкі
на выспу,
дзе ўчарнелы краж.

---

*Пашкоў Генадзь Пятровіч нарадзіўся 23 сакавіка 1948 года ў вёсцы Ліпавічы Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1971). Працаваў на Беларускім радыё, у часопісах «Полымя» і «Тэатральная Беларусь», быў галоўным рэдактарам «Цэнтральнай газеты», галоўным рэдактарам і дырэктарам выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Цяпер — першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Кляновік» (1975), «Дыстанцыя небяспекі» (1979), «Гравюры дарог» (1981), «Зямлю слухаю» (1983), «Маналог на кастрышчы» (1986), «Крокі» (1988), «Люблю, спадзяюся, жыву» (1990), «Журавінавы востраў» (1998), «Тваім святлом благаславёны» (2006), «Маё лета» (2011), «Званы юнацтва» (2012) і інш., вершаваных кніг для дзяцей «Дзяўчынка з блакітным мячыкам» (1986), «Пціч» (1992), «Зорнае поле» (1999), кніг нарысаў «Будзень як свята» (1977), «Палескія вандроўнікі» (1998). Пераклаў кнігу рускага паэта Юрыя Воранава «Масты памяці» (1991).*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1998).*

Дзень добры,
вёска Навасёлкі!
Ты пакажы, дзе жыў Талаш.

І паляшук каржакаваты,
як волат беларускі наш,
агледзеў з макаўкі да пятак:
— Я пакажу,
дзе жыў Талаш…

Мясі пясок.
Звярні ў завулак.
Ля хаты брама —
проста храм!
І коціцца ад студні гулка
сабачы брэх
пад ногі нам.

Ступі на ганак.
Нізка дзверы, —
то пакланіся
у парог.
Маланкай вострая сякера
у змроку выблісне ля ног.

Як бабка Наста,
неразлучнай
была сякера з Талашом.
Калоды пляжыў ёй на кручы,
з ёй да чыноўнікаў ішоў.

Калі калгасную паперу
начальству важнаму нясе,
глядзяць —
за поясам сякера,
то ўжо лагодненькія ўсе!..

Быў дзед Талаш мастак на жарты
і словам славіўся сваім.
Вяскоўцы кажуць:
вып'е кварту, —
за поўнач казкі баіць ім.

Ды гэткіх быляў-небыліцаў
не чуў, напэўна, Божы свет.
Паверыць нехта,
забаіцца, —
тады вядзі дахаты, дзед!

Пражыў стары сабе на славу,
і слава будзе векаваць,
як і яго старая лава,
дзе можна ўпоперак ляжаць.

Тут сам народ
легенды варты —
як несмяротны корань наш!
Ён — моцны,
хваткі,
хітраваты,
ну, акурат,
як дзед Талаш!

## ЗІМА. БЯРЭЗІНА. СЦЮДЗЁНКА

### Згадка на летнім Барадзінскім полі

Лютаўскія…
Шэрыя…
Марозна!
Да крыві рабінавай!
Да слёз!..
Заблудзіўся ў гурбавых баразнах
серабром нагружаны абоз.

Не зара дыміцца ў чарнаголлі,
а бярозы пухам замяло.
І такая ціша ў наваколлі,
як раней ні разу не было.

Эх, зіма!
Палютавала?
Досыць!
Мы нашэсці церпім да пары!
Як над полем ратным,
там, дзе косці, —
варанне закаркала ўгары.

Ад абозаў,
праз шурпак каравы —
кінь у лесе непасільны груз! —
уцякай, пакуль ёсць пераправы,
нацянькі,
як некалі француз!

Спалымнелай на марозе гронкай
гаркавее спаконвечны лёс…
Без аблогаў будзь, мая старонка,
родная, адзіная да слёз!..

*Барадзіно. Чэрвень 2012*

* * *

Іду задумны ўсцяж дарогі.
І думкі сумныя мае.
Чым менш салдатаў Перамогі,
тым больш накатаў на яе.

І хто б падумаў зорным маем,
як завяшчаў нашчадкам жыць,
што прыйдуць дні,
якія маем,
каб Перамогу бараніць.

А быў жа час!
Гула Еўропа!
І ўся Амерыка гула!
І бульбачкай,
і лапкай кропу
так пахлі вуліцы сяла!

Жыву
з пары год пераможных
і тым, як заўтра маю жыць.
А век нервова-насцярожаны,
як мост над прорваю,
дрыжыць.

## РАКУЦЁЎШЧЫНА

У будане, пад сховай вецця,
даўно ты колісь жыў, паэце.
…Пагасцяваў паэт нядоўга,
ды пачуваўся, як у Бога,
між маляўнічых скрозь пагоркаў,
дзе палыном вятры прагорклі,
дзе ціха выплывае знічка,
гаючая бруя крынічыц
і чыста, радасна і весне
душу надвечар лашчыць песня,
як салаўі тут па начах,
ды так — аж слёзы на вачах!
Схілі чало,
стань на калені:
у свеце — святасці свячэнне.

Міганне зораў…
Ззянне рос…
Яшчэ хвіліна —
Сам Хрыстос
у белым воблачным адзенні
зямлі кранецца
як збавенне.

…У студзень снежны,
цёплы май
хай благаславіць
наш родны край!

## У ПІЛЬКАЎШЧЫНЕ

Неба вераснёўскае суцешвае.
Далячынь — нібы на далані.
А дубы магутныя
ля сцежкі
пасплятлі ў травах карані.

Выпі сінь сцюдзёную з калодзежа.
Твар з дарогі
халадком абмый.
І адчуй:
у цэнтры ты знаходзішся,
у зялёным,
сама што зямным!

А іначай быць не даспадобы.
Як яшчэ
у краі гэтым быць,
дзе святла багата
і свабоды,
дзе з глыбінь,
дзе з неба
можна піць?!

## КАШУЛЯ АД БРАНІСЛАВА

Уся ад чысцюткага поля,
белатуманнага з ранку, —
паэт падарыў,
як долю,

на свята мне
вышыванку.

Удзячны,
прыняў я кашулю:
Душа — само сонца вышняе!
А палатно
матуля
паэта Спрынчана
вышыла!

На Украіне…
З лёну…
Ці ж беларусу не блізкая?!
Яна з халадком каляным,
тугая,
лагодная,
чыстая!

Навідавоку ляжыць
з далёкай пары вышыванка.
Узоры славянскай душы —
як поле вячыстае з ранку!

Як лютыя дзьмуць халады,
як чорны зламыснік драконіць,
кашуля Спрынчана
тады,
нібыта кальчуга,
бароніць!

## ПАДРАНКІ

*Георгію Марчуку*

На мяжы між спагадай і злом,
дзе марозам ашпараны ранак,
ён ад свету чакае цяпло —
на вятрах суравейных
падранак.

Дым казыткі,
як дух аржаны,
апякае сасмаглыя губы…
Узышоў на руінах вайны,
на слядах усяленскае згубы.

Не марозная сіняя стынь:
у вачах, у дзіцячых, — надзея.
Трэсне лёд.
Ажывае Гарынь…
Будзе новая, мабыць, падзея?

Зноў маленства…
І юныя сны…
Ля балота —
згарэлыя танкі…
Эх, вы, хлопцы з далёкай вясны,
так, ці гэтак,—
усе мы падранкі.

## КАЛЯДНЫ ЛІСТ

Няхай з віном,
няхай без гэтага, —
глынуўшы хвоевы азон,
душа захмеліцца
ад светлага
пад урачысты перазвон!

Хай лёс над намі не дурачыцца
і не падкідвае асцё.
Няхай спагадна абазначыцца
падараванае жыццё.

* * *

Тут мора гуло Герадота…
Няўжо,
дзе дубровы,
гуло?..
Гуло!
Размывала!
А потым?
А што пасля мора было?..

Ляжу…
Раскашую…
Не гора…
І гэта прытрызніцца мне
на дне Герадотава мора:
раскоша бывае на дне…

## МАЯ САСОНКА

Дзе ты, пушчанка мая, расцеш,
смалой набіраешся светлаю?
Дзе пакланіцца,
дзе ж
жывой
жывому паэту?..

Сустрэча адбудзецца
позна ці рана…
з табою сустрэнемся мы нечакана…

А покуль над намі
вецер шуміць,
няма болей выбару —
будзьма жыць!

* * *

Цябе вырываю балюча
з сябе.
Сілаю вырываю.
О, як гарыць,
смыліць на губе
буянне даўняга маю!

Як жа мы гэтак?
Як жа мы так
не ўбераглі святое?!
Дзесьці крычыць
растрывожаны птах.
А можа, мінулае тое?..

* * *

Смугою густой апавіты,
пакінь за сабою шашу,
і колас ударыць наліты,
як звон залаты,
у душу.

Дзе зорацца далі крутыя,
дзе стылых галактык быццё, —
тры сілы,
стыхіі святыя —
Жыта,
Жанчына,
Жыццё!

* * *

Край мой Віцебскі, светлы
ад азёраў і плёсаў,
ад бароў і ад вербаў
у карунках марозу.

Хто насустрач — прывечу.
Ды спакой не парушу.
Чарванеецца вечар.
Крок прыспешваць я мушу.

Будуць рады — не рады,
ды я ўсцешаны буду,
калі прымуць у хату
незнаёмца-прыблуду.

Век не быў тут, вядома.
Ды куды мне падзецца,
як не маю больш дома,
а сцяжына —
скрозь сэрца!

* * *

Не багата адпушчана жыць,
ды кажу,
паўтараю бясконца:
мы прыйшлі на зямлю,
каб любіць
і рассыпацца кроплямі сонца.



Раіса БАРАВІКОВА

# РАСПАГОДЖАНЫЯ ДНІ

*Аповесць*

*Некалькі гадоў таму ў часопісе «Полымя» пад назвай «Вецер з Чорнага яра» друкавалася першая частка маёй аповесці «Чорны вецер». У ёй расказвалася пра падзеі, якія разыграліся ў далёкім 1937 годзе, калі адзін з герояў твора знаходзіць залатыя манеты і з боем забірае іх у людзей, якіх улады маюцца выслаць у Сібір... І хоць кажуць, што ўчынкі бацькоў на дзецях не адбіваюцца, тым не менш, ужо нашым часам, у сям'і нашчадка, што атрымаў у спадчыну тое золата, адбываецца драма... Практычна вымірае ўвесь род... Застаецца толькі Маня Праневіч, калісьці непрызнаная дзедам унучка. Пра яе далейшы лёс і распавядаецца ў другой частцы аповесці «Распагоджаныя дні».*

Аўтар

## *Частка другая*

### Кастрычнік 2004-га. Дзень першы. Неспадзяваны госць

На чыгуначны вакзал Людміла Міхайлаўна гэтым ранкам спяшалася як ніколі раней у сваім жыцці. І не дзіўна. Яна і падумаць не магла, што аднойчы да яе ў Баранавічы па нейкай пільнай справе нечакана прыедзе Анжэлчын свёкар. Ага-а... Вячаслаў Станіслававіч! Дзякуй богу, адразу назваўся, а то ўжо, можа, і не згадала б, якое імя ў яго. Колькі ж гэта гадоў прайшло? Колькі гадоў, як яны з Колем, ейным мужам, ездзілі ў Маскву на

---

***Баравікова Раіса Андрэеўна** нарадзілася 11 мая 1947 года ў вёсцы Пешкі Бярозаўскага раёна. Скончыла Літаратурны інстытут імя М. Горкага (1971). Працавала ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у газеце «Чырвоная змена». Была галоўным рэдактарам часопісаў «Алеся», «Маладосць».*

*Аўтар кніг паэзіі «Рамонкавы бераг» (1974), «Слухаю сэрца» (1978), «Такое кароткае лета» (1981), «Адгукнуся голасам жалейкі» (1984) і інш. Выдала кнігі прозы «Кватарантка» (1980) і «Вячэра манекенаў» (2002), а таксама кнігі для дзяцей «Казкі астранаўта» (2006), «Казкі з гербарыя» (2008) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1987), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1994) і спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (1998).*

Анжэлчына вяселле?! Ды, напэўна, гадоў пятнаццаць будзе, ці мо трошкі менш. Дакладна ўжо і не памятае, недзе ў канцы васьмідзясятых тое было… Анжэлка, яе адзіная пляменніца, рана замуж выскачыла, яшчэ і дзевятнаццаці ёй тады не споўнілася. Першы курс універсітэцкі заканчвала. Яна зірнула на Глеба, свайго зяця, які ўчора позна вечарам прыехаў да яе з Мінска, каб узяць што з гародніны, і вось зараз паслухаўся, вёз яе на вакзал, хоць і дамоў хутчэй вяртацца яму трэба, каб якога прагулу не запісалі.

— Дык як ты, Глеб, думаеш, га? Чаго гэта ён раптам надумаўся? — запыталася яна ў зяця, а хутчэй сама ў сябе, не знаходзячы ніякага адказу. — Якая такая патрэба ў яго з'явілася? Што магло здарыцца, каб чалавек усё кінуўрынуў і толькі на адзін дзень да мяне выправіўся? Зараз прыедзе, а вечарам назад у Маскву!

— Не ведаю, Людміла Міхайлаўна. — Глеб уздыхнуў. — Не ведаю… Вы ў мяне пра гэта ўжо трэці раз пытаецеся. Учора пыталіся, сёння ледзь толькі прачнуўся… З-за яго на фірму трэба званіць, што толькі перад абедам на працы з'яўлюся.

— А ты хацеў, каб мы з гэтым чалавекам таксі бралі? Ну-ну… Ён жа таксама немалады, а аўтобуса, сам ведаеш, бывае, не дачакацца! Ды і не чужы ён, лічы, сваяк наш. Тэлефанаваў жа, калі Анжэлка загінула ў той авіякатастрофе… І паразмаўлялі мы тады як свае людзі, як сваякі.

Горад ужо прачнуўся. Глеб раз-пораз спыняўся, прапускаючы пешаходаў.

— Нешта ж раней не аб'яўляўся сваяк ваш гэты! — адгукнуўся ён і, нарэшце, выехаў на прывакзальную плошчу. — Вам трэба спяшацца, — сказаў Людміле Міхайлаўне. — Цягнік можа быць праз хвілін пятнаццаць. Я тут вас буду чакаць.

І калі ўжо яна ішла па пероне, прыкідваючы, дзе можа быць трэці вагон, у якім ехаў Вячаслаў Станіслававіч, як цягнік спыніцца, у думках вярнулася да Глебавых слоў, што прагучалі быццам папрок які, і ўжо як бы і пагаджалася з зяцем: «Ну, а для чаго яму было і аб'яўляцца ў нас?! Ён і сапраўды, можна сказаць, сваяк даволі ўмоўны… — думалася ёй. — Сват яе сястры Галі! Калі Галя яшчэ жыла, тады ён, здаралася, і ім з Колем прывітанні перадаваў, і праз Анжэлку свае паклоны слаў таксама. Анжэлка так і казала: «Вам паклон ад Вячаслава Станіслававіча!» Ну, а цяпер, калі даўно ўжо няма ні сястры, ні Анжэлкі, ні мужа ейнага, што, называецца, жыццё развяло, і ў ім ужо нічога іх не звязвала. Ды і што Вячаслаў Станіслававіч, чалавек, можна сказаць, здалёку! Калі нават з Васілём, шваграм яе, усё абарвалася, як толькі Галі не стала… Эх, Бузяк, Бузяк… — і адразу, варта было ўспомніць мужа сястры, як сэрца ўмомант сцялося… Яна да гэтага часу яму нічога не даравала. — Ды і як дараваць, ці можна забыцца, зямля яму пухам?!»

Людміла Міхайлаўна ажно спынілася. Стаяла, пазіраючы ўбок, адкуль павінен быў прыбыць маскоўскі цягнік, што ішоў на Брэст, і ўспаміната мінулае, такое ўжо даўняе і разам з тым яшчэ вельмі балючае, нібыта ўсё адбывалася толькі ўчора, што, напэўна, так ужо ніколі і не загоіцца. Васіль тады сам патэлефанаваў ёй, каб сказаць пра гора тое, што няма ўжо Валодзькі, пляменнічка яе, што з Масквы, беднага, у труне прывезлі… І яна тым жа днём, яшчэ і цёмна як след не зрабілася, з мужам і дачкою ўжо была ў Мінску. Дзверы ў кватэру ім тады адчыніў незнаёмы хлопец, як потым аказалася, сын той самай Ірэны Вацлаваўны, якая і адшукала Валодзьку ў маскоўскай трупярні… Ледзь пераступілі парог, адразу кінулася ў вялікі пакой, дзе стаяла труна… Доўга галасіла над пляменнікам, а потым запыталася ў Таццяны, Анжэлчынай сяброўкі, маўляў, а дзе ж Васіль Канстанцінавіч? Трэба ж яму спачувальныя словы сказаць, і яны разам паплачуць, усё лягчэй будзе.

— Ён там, у сваім пакоі, — сказала Таццяна.

І яна пайшла ў той пакой, але мусіла затрымацца каля прыадчыненых дзвярэй, міжволі адхінуўшыся ад іх… Швагер і Ірэна Вацлаваўна сядзелі на канапе і ён усё спрабаваў і спрабаваў наваліцца на яе. Яна адштурхоўвала яго і даволі гучна шаптала:

— Не ў пару, Вася… Не заводзь мяне! Не цяпер жа, кажу! І паедзем мы сёння ж, затрымлівацца не будзем… — І вырывала руку з яго рук, якую ён імкнуўся пацалаваць. — Мне заўтра абавязкова ў Маскве трэба быць! А ты сына хавай… Хавай Валодзьку, Вася! Ніхто не вінаваты ў тым, што здарылася. Бачыў бы ты навальніцу тую! Вецер дрэвы ламаў. З карэннем з зямлі выдзіраў.

— А ты жыццё мне ломіш! Няма ў мяне жыцця без цябе! Пахаваю Валодзьку, кватэру прадам і да Анжэлкі ў Маскву пераеду! Да цябе бліжэй буду! Ненавіджу-у! Алфёрава твайго ненавіджу-у-у! — і ён тварам тыкаўся ў яе плячо…

— Пра Маскву і думаць не смей! — яна рэзка адштурхнула яго, паднялася з канапы: — І званкамі сваімі не даймай! Я сама тэлефанаваць буду, — задумалася, патрапала яго валасы рукою, прамовіла амаль ласкава: — Мы будзем бачыцца, Вася… Будзем! Старое каханне не іржавее… хоць і паедзем мы сёння. Праз дзве гадзіны выклікай таксі!

Людміла Міхайлаўна тады стаяла, як укамянелая, і ўсё ж знайшла сілы, каб моцна пацягнуць дзверы на сябе, бразнула імі: хай ведаюць, што нехта іх чуў… Вярнулася да труны, але ўжо не галасіла, горка плакала моўчкі, шкадуючы і Валодзьку, і сястру Галю, якая адышла на той свет незадоўга да Валодзькавай смерці… «А ці ж ведала яна, бедная, што яны палюбоўнікі? Так… Любяцца яны і, відаць, даўно. Магла ведаць Галя, дык чаму ж тады мне ані слоўка ніколі не сказала? Чаму не пажалілася?» — і яе ціхі плач пераходзіў у рыданне…

Ірэна Вацлаваўна сапраўды тым вечарам разам з сынам паехала ў Маскву, а Васіль Канстанцінавіч зачыніўся ў сваім пакоі, сказаўшы, што ў яго ўжо аніякіх сіл няма, каб яшчэ і ноч сядзець каля труны. І астатнія ўсе, хто быў тады ў кватэры, развіталіся, нават Таня з мужам пакінула іх да раніцы. Яны з Колем і праседзелі тады ўсю ноч адны каля Валодзькі. І як жа хацелася ёй пайсці ў пакой да Васіля і выказаць яму ўсё, што было на душы, але стрымала сябе, не пайшла. Нічога не сказала і назаўтра, калі Васіль замест таго, каб хоць на момант які падысці да сынавай труны, і, як гэта належыць бацьку, паплакаць, з самай раніцы пачаў тэлефанаваць у Маскву, цікавіцца, ці прыехала ўжо Ірэна Вацлаваўна.

— Не звяртайце на яго ўвагі, вам і так цяжка, — сказала ёй тады Таццянка, якая паспела ўжо прыехаць да іх, праўда, адна, без мужа.

А Людміла Міхайлаўна і сама ўжо ні на што не звяртала ўвагі. Усё зацьміла гэтая страшная бяда: у труне ляжыць такі маладзенькі пляменнік. І толькі ўжо тады, калі вярнуліся з могілак, калі памянулі Валодзьку за жалобным сталом і людзі ўсе разышліся, яна і выказала Васілю ўсё, што пра яго цяпер думала…

«Чаго ж гэта я стаю, — раптам спахапілася яна, — ужо цягнік падышоў, хутка спыніцца… Пяты, шосты вагон, а мне трэці патрэбен! Трэба хутчэй ісці наперад…»

І, калі цягнік канчаткова спыніўся, Людміла Міхайлаўна подбегам набліжалася да трэцяга вагона… «Хоць бы не размінуцца, — непакоілася яна. — Вунь ужо людзі пачынаюць сыходзіць». Але трывожылася дарма. Вячаслава Станіслававіча яна пазнала адразу, як толькі ён з’явіўся ў дзвярах вагона. «Схуднеў

вельмі, — адзначыла ў думках, — а з твару і не змяніўся! І ўвогуле такі ж, як і раней, імпазантны… Шалік модны, бы ў маладога!» Адышла трошкі ўбок, каб стаяць навідавоку, і ў нейкі момант зразумела, што ён таксама яе пазнаў, заўсміхаўся, а калі падышоў, дык і абняў за плечы, прыгарнуў да сябе…

— Мілая вы мая Людміла Міхайлаўна, вельмі рады бачыць. Вочы… Вочы, як у Галіны Міхайлаўны… Прыміце ўсе спачуванні, хоць і запозненa. Душою быў з вамі!

І ўжо калі ехалі ў машыне, калі пазнаёміла яго з Глебам, яшчэ ўсхваляваная, трошкі збянтэжаная і расчырванелая ад сустрэчы, запыталася, пра што вельмі карцела запытацца:

— Вы ўчора па тэлефоне нічога мне не сказалі. І я ўсё думала, думала… Можа, што пра Анжэлку ўсплыло? Пра Вадзіма вашага? Пра сыночка іхняга? Можа, якія падрабязнасці, альбо…

Ён адказаў не адразу, адвярнуўся да акна, доўга глядзеў у яго, і яна пашкадавала ўжо, што зачапіла, пэўна, самае балючае для гэтага чалавека, але ж і ёй тое самае баліць, як жа не запытацца?! Але вось ён даткнуўся да яе рукі і прадоўжыў распачатую ёю гаворку:

— На жаль… На жаль, дарагая Людміла Міхайлаўна, ніякага альбо… Калі б раптам што добрае, вы даўно б ужо ведалі. Я і рэчаў Анжэліных не прывозіў бы! А, дарэчы… Вы разабраліся з яе рэчамі? Можа, там цікавае што знайшлі?

— Пра якія гэта рэчы вы кажаце? — не разумеючы яго, запыталася яна і міжволі падумала: «Рэчы Анжэлчыны прывозіў? Куды? Да каго? Можа, яшчэ, калі Васіль жывы быў?» І яна не памылілася ў гэтым сваім меркаванні.

— Значыцца, Таццяна Віктараўна з вамі не звязвалася, — зноў не адразу адказаў ён. — А я думаў, я думаў… — зрабіў паўзу. — Дык вы што, не былі на пахаванні Васіля Канстанцінавіча? — у голасе чулася здзіўленне.

І Людміла Міхайлаўна захвалявалася, ажно кроў прыліла да твару: што ж адказаць яму? Як патлумачыць?

— Не… Мы яго не хавалі. Пасвараныя моцна былі, — нарэшце адказала яму.

— Так моцна, што і ў апошні шлях не правялі?

— Ён не хацеў мяне бачыць. І я… І я таксама яго. — Нечакана цвёрда прамовіла яна. — Сястра, даруйце, не была з ім шчаслівая.

Людміла Міхайлаўна бачыла праз акно машыны, што яны ўжо праехалі цэнтр. Глеб павярнуў на вуліцу, што цягнулася да гарадской ускраіны. Яшчэ квартал і пад'едуць да яе дома.

— Я пра многае здагадваўся, — адазваўся Вячаслаў Станіслававіч, — але, як кажуць, пра памерлага альбо добра, альбо нічога… Я прыязджаў у Мінск, калі Васіль Канстанцінавіч з другім інсультам у бальніцы ляжаў. Ён ужо быў ніякі. Думаю, што і не пазнаў мяне, ва ўсялякім выпадку, так здавалася. Пагаварыць не змаглі… А рэчы… Я ўсё там, у кватэры яго пакінуў. Калі ён памёр, Таццяна Віктараўна тэлефанавала мне ў Маскву…

— Пра тое, што ён памёр, і мы ведалі, — глуха выціснула з сябе Людміла Міхайлаўна. — Нэля, дачка мая, жыве ў Мінску, яна неяк і заходзіла, але Васіля не было ўжо тады. Мой муж, Коля, усё хацеў з ім пабачыцца, а я не… Не хацела! Моцна ўзненавідзела ў нейкі момант…

— Мікалай Фёдаравіч яшчэ працуе, ці ўжо на заслужаным адпачынку? — не адразу запытаўся Вячаслаў Станіслававіч.

— У мінулым годзе пахавала я Колю…

— Даруйце… Спачуваю… Не ведаў. Зусім не ведаў.

— У магазін не трэба? — прамовіў Глеб. — Я адразу паеду ў Мінск. Глядзіце, каб потым вам не хадзіць.

— Не-не, у мяне ўсё нагатавана і на сняданак, і на абед, — адказала Людміла Міхайлаўна, і ўзрадавалася, пабачыўшы веснічкі свайго дома. «Ну, нарэшце! Неяк не так гаворка ў машыне пайшла… Пра яго самога нічога не распытала. А ён усё ж змяніўся, у машыне добра разгледзела. І пастарэў, і твар моцна стомлены. Лепш бы пра Васіля не заводзілі ніякай гаворкі! Аказваецца, ён да Васіля прыязджаў… Мог бы тады з Мінска патэлефанаваць і мне, ды чамусьці не патэлефанаваў. А цяпер вось прыехаў… Чаго?!»

І адказ на гэтае сваё пытанне Людміла Міхайлаўна атрымала адразу, як толькі Глеб паехаў у Мінск. Спачатку яна хацела паказаць госцю свой падворак, але ён адмовіўся ад гэтых агледзін. Толькі дом пахваліў, сказаў, што добра цэглай абкладзены. Са сняданкам таксама папрасіў пачакаць, маўляў, яшчэ не галодны. У прыхожым пакоі зняў куртку, запытаўся, куды можна праходзіць… І, калі сеў на канапу, папрасіў і яе сесці побач.

— Не люблю ніколі нічога адкладваць… Таму адразу ж і патлумачу прычыну свайго прыезду. Ведаеце, у мяне кампаньён з'явіўся, пляменнік з Курска. Аднаму кіраваць кампаніяй стала цяжка. Кватэру, дзе жылі Вадзім з Анжэлай, не прадаваў, вось пляменніка туды і пасяліў. Ён і знайшоў усё гэта… у Вадзімавым сейфе, пра які, у прынцыпе, я і не ведаў.

— Што «гэта»? — не зразумела яна.

— Зараз усё пакажу і, вядома ж, аддам вам. Дзеля гэтага я і прыехаў.

Людміла Міхайлаўна глядзела на яго з пачуццём вялікага недаўмення: што магло быць у Вадзімавым сейфе, каб нейкім чынам тычылася і яе? А Вячаслаў Станіслававіч падняўся з канапы, выйшаў у пярэдні пакой, дзе пакінуў дарожную сумку, і вярнуўся адтуль са звычайнаю папкаю для папер. Зноў сеў на канапу, запытаўся:

— Скажыце мне, дарагая мая, хто такая Маня Міхайлаўна Праневіч? — запытальна паглядзеў на яе.

— Маня Праневіч? — перапытала яна.

— Так-так… — Вячаслаў Станіслававіч заківаў галавою. — Я ніколі нічога пра яе не чуў, даведаўся толькі з гэтых папер. Можа, якая сваячка ваша? Прычым, цікава, як… Не Марыя, у нас бухгалтарка ў кампаніі ёсць, Маняша, а бывае, што яе і Маняй завуць. Але па ўсіх дакументах яна — Марыя… А тут і ў копіі пасведчання аб нараджэнні, і ў дагаворы грашовага ўкладу, і ў пасведчанні аб праве на спадчыну… Усюды: Маня Міхайлаўна Праневіч. Унясіце яснасць. Каму ўсё гэта трэба перадаць?..

Ён бачыў, як змяніўся твар Людмілы Міхайлаўны. Яна ў сваю чаргу запытальна пазірала то на яго, то на папку з паперамі.

— Я… Я не ведаю… Далібог, не ведаю, пра каго вы кажаце. Пра каго пытаецеся. Няма ў нас такой сваячкі, — нарэшце прамовіла ў вялікім замяшанні. — Праневіч… Гэта дзявочае прозвішча і маё, і Галіна… Мы абедзве Міхайлаўны… А Маня?.. — Памаўчала і патлумачыла. — Сястрычка была ў нас Маня… Маці яе пасля мяне нарадзіла… У 1940 годзе. Але Маня не жыла доўга, у чатыры месяцы Маня памерла. Містыка нейкая…

— Зусім не, мілая Людміла Міхайлаўна, ніякай містыкі тут няма, — Вячаслаў Станіслававіч узяў у рукі копію пасведчання аб нараджэнні. — Вось глядзіце… Маня Міхайлаўна Праневіч. Нарадзілася ў жніўні 1984. Сірата… Выхоўвалася ў дзіцячым доме… Тут і адрас гэтага дзіцячага дома ёсць. Анжэла ўсё сама афармляла, дагавор на грашовы ўклад, права на спадчыну, усё роўна як прадбачыла, што з ёй можа нешта здарыцца.

— А якая ж у Анжэлкі спадчына? І кажаце, што яна сама ўсё афармляла? — разгублена прашаптала Людміла Міхайлаўна. — Не паверыце, слухаю вас і для мяне ўсё гэта, як дзіўны сон… Забіце, але толькі сястрычка была ў нас Маня. Манечка… Больш Маняў не было. А тут… 1984 год, дзіцячы дом… Хто гэтая Маня? Чаму я ўпершыню пра яе чую? Ды і калі ж Анжэлка ўсе гэтыя паперы змагла аформіць?

І Вячаслаў Станіслававіч адказаў ёй:

— У дзевяноста трэцім годзе, калі прыязджала да Васіля Канстанцінавіча адразу ж, як з ім здарыўся першы інсульт… Ён тады і кватэру на Анжэлу перааформіў, відаць, у бальніцу юрыста яна прывозіла… А вы пра спадчыну пытаецеся… Наколькі я разумею, кватэра, дзе цяпер жыве Таццяна Віктараўна, належыць Мані Праневіч, калі яшчэ ў сіле права на спадчыну. Я ж не ведаю вашых законаў. — І ён пагладзіў руку Людмілы Міхайлаўны. — Супакойцеся, бачу, вы вельмі расхваляваліся… А, давайце-ка зараз мы што-небудзь з вамі куснём, ну, а потым… Потым зноў вернемся да гэтых папер.

Людміла Міхайлаўна толькі і змагла згодна кіўнуць галавой, маўляў, ну, вядома, давайце куснём, і як ніколі марудна накрывала на стол, расстаўляла посуд… У галаве круціліся абсурдныя, неверагодныя думкі і выплываў з памяці ўспамін… Тады, у дзевяноста трэцім, калі Анжэлка прыязджала ў Мінск да бацькі, яна і да іх, у Баранавічы, заехала, літаральна на паўдня. Нэлю, дачку іхнюю, якая тады вучылася ў дзясятым класе, угаворвала і яе, Людмілу Міхайлаўну, прасіла, каб адпусціла Нэлю ў Мінск, маўляў, трэба, каб нехта пры бацьку жыў, пакуль канчаткова ачуняе пасля інсульту, мала што: доктара трэба будзе выклікаць, ці ў магазін збегаць… У іх каля дома і школа добрая, якая розніца, дзе вучыцца — у Баранавічах ці ў Мінску. У сталіцы дык нават лепш! Людміла Міхайлаўна амаль паддалася тады на гэтыя Анжэлчыны ўгаворы, але на такое не пагадзіўся сам Васіль Канстанцінавіч, сказаў, што лепш няхай некаторы час у яго пажыве Таццяна з мужам. І ўсё, відаць, з-за той сцервы, Ірэны Вацлаваўны, з-за іх адносін, дзе Нэля міжволі была б сведкаю, як і што там у іх адбываецца… А Таццянка што? Чужы чалавек… Ёй усё роўна, з кім любіцца аўдавелы бацька яе сяброўкі! «Але Бог з ім, з Васілём, — ледзь не ўголас прамовіла Людміла Міхайлаўна. — Чаму Анжэлка мне нічагусенькі не сказала ні пра гэты грашовы ўклад, які яна, як аказалася, у той свой апошні прыезд зрабіла на некага невядомага, ні пра тое, што бацька перапісаў на яе кватэру?! Вось дзе загадка… А можа, усё вельмі проста, — раптам падумалася ёй. — Гэтая Маня Праневіч тады дзіцем была… Сіраціна ў дзіцячым доме… Можа, хварэла цяжка, даруй мне божа! Спонсарская дапамога была патрэбна. Анжэлка магла пра гэта прачытаць у газеце. Ну і кальнула, зачапіла… Прозвішча матчына, блізкае, роднае… А тут і імя супала з імем матчынай маленькай сястрычкі, якая калісьці памерла, але пра якую ведала, чула Анжэлка неаднойчы. Вось і зашчымела душа, вырашыла дапамагчы бедалазе дзяўчынцы. У яе ж быў дастатак, яна магла гэта сабе дазволіць!»

І Людміла Міхайлаўна не стала таіць гэтыя свае думкі. Сказала пра тое, што ёй падумалася, Вячаславу Станіслававічу, як толькі селі за абедзенны стол.

— Ну вось і скажыце, хіба не магло быць такое? Тады ж якраз пачыналася гэтае спонсарства…

— Але… Пачыналася… Магчыма… — Вячаслаў Станіслававіч ледзь прыкметна ўсміхнуўся. — Толькі ж, наколькі мне помніцца, грашыма тады ніхто асабліва і не раскідваўся. Наадварот, хто што мог спяшаўся ўхапіць… Паўза спрыяльная для людзей спрытных была ў тым паслясаюзаўскім жыцці. — І дадаў: — Людміла Міхайлаўна, так не пойдзе, ем толькі я… — і ён падклаў ёй салаты ў талерку.

Яна сумелася. На душы было невыносна горка. Але не пра невядомую ёй Маню Праневіч Людміла Міхайлаўна зараз думала, а пра тое, што ад яе нешта, несумненна, утаілі, ёй да канца не давяралі: можа, і родная сястра, і, відавочна, пляменніца, і вось як яно ўсё выйшла, пакінулі ёй загадку… Пра гэта ж, напэўна, думаў і Вячаслаў Станіслававіч, таму што раптам, адстаўляючы ад сябе талерку, сказаў:

— Думаю, што нейкая таямніца за ўсім гэтым хаваецца, Людміла Міхайлаўна, да якой нават вас не наблізілі.

Яна міжволі ўздрыгнула, а ён працягваў:

— Я толькі тады, калі ўзяў у рукі паперы гэтыя, нешта такое пачаў успамінаць… Грашовы ўклад немалы, дваццаць тысяч долараў. І ў тым дзевяноста трэцім, калі Анжэла ехала ў Мінск, пяць тысяч яна ў мяне пазычыла, відаць, для круглай сумы. Я і не распытваў, для чаго… У мяне свой боль, свая драма жыцця была, якою я ўсё яшчэ жыў…

Ён задумаўся. Памаўчаў. А калі загаварыў ізноў, у голасе з'явілася нейкая асаблівая даверлівасць:

— Вы ж ведаеце, маёй Валянціны Сямёнаўны не стала неўзабаве пасля іхняга вяселля. Раптоўна пайшла з жыцця: інфаркт! Нейкія свае вельмі глыбокія пачуцці не змагла перажыць… А калі прасцей, іншую дзяўчыну побач з Вадзікам бачыла.

— Божа, — Людміла Міхайлаўна ажно прыўстала, склала на грудзях рукі. — Хочаце сказаць, што ў гэтым вашым горы была Анжэлчына віна?

— Ні ў якім разе… Ды вы сядзьце. Вадзім кахаў Анжэлу, моцна кахаў, адпаведна і я з Валяю… Мы любілі яе. Даруйце, не туды мяне занесла… Дык слухайце далей. Помню, у той вечар, як Анжэла паехала да бацькі, Вадзік быў у мяне… Я тады сказаў яму, што ім трэба забраць цесця да сябе, а кватэру ў Мінску прадаць, на што Вадзік адказаў, што цесця яны з цягам часу можа і забяруць, а вось з кватэрай пытанне ўжо вырашана. Яна будзе перапісана на Анжэлу, і што яе ёсць каму пакінуць… Разумееце, Анжэла ехала ў Мінск не толькі дзеля хворага бацькі… Яна добра ведала пра існаванне гэтай дзяўчыны і пра тое, што яна павінна для яе зрабіць… Думаю, што яна загадзя ўсё абдумала. Ну, не Таццяне ж Віктараўне яна збіралася падарыць кватэру!

Людміла Міхайлаўна, быццам перапыніўшы ход нейкіх сваіх думак, уздыхнула і перапытала:

— Вы сказалі — дзяўчыны?

— Ну канечне… Зараз 2004 год. Гэтая Маня Праневіч нарадзілася ў восемдзесят чацвёртым. Падлічыце, ёй ужо дваццаць гадоў, тады была дзіцем, цяпер дарослы чалавек… — Ён на момант перарваўся і працягнуў: — Пасля дзіцячага дома, без пэўнага апірышча ў жыцці ў наш няпросты час, грошы для маладой дзяўчыны не будуць лішнімі. Знойдзе, як іх скарыстаць. За ўсе гэтыя гады набеглі яшчэ і працэнты… Людміла Міхайлаўна, напружце памяць, паварушыце яе, ну няўжо ніякай зачэпкі? Можа, усё ж радня нейкая ваша далёкая. Няўжо нічога не ўспомніце? Вы ж былі як адна сям'я…

І Людміла Міхайлаўна ўспомніла, але гэты ўспамін не быў звязаны з Маняй Праневіч. На нейкі кароткі момант прамільгнула, як аднойчы даўно яна прыехала ў Мінск да сястры… Анжэлка тады моцна хварэла, ужо была ў выпускным класе, рыхтавалася да экзаменаў. А Васіль тою раніцай з камандзіроўкі, з Масквы вярнуўся… Анжэлка выйшла ў пярэдні пакой, радасна заўсміхалася:

— Татулік прыехаў… А падарункі? Што ты мне прывёз з Масквы?

Тады Людмілу Міхайлаўну ўразіў і абурыў ягоны грубы адказ:

— Падарункі для цябе?! Не, ад мяне, дочачка, ты нічога ўжо не дачакаешся! Здагадваешся, чаму? Вунь, цётка твая сядзіць, яна што, табе з Баранавіч падарункаў не прывезла?! А яна ж тут, як галоўны член сям'і… Ад'язджаю — бачу яе, прыязджаю — зноў яна!..

Ну, так… Вячаслаў Станіслававіч мае рацыю, яна і была, як член сям'і. Васіль недалюбліваў яе і ніколі не хаваў гэтай непрыязнасці, а для Галкі, для Анжэлкі і Валодзькі, бліжэй за яе нікога не было. І Людміла Міхайлаўна чамусьці заплакала, падхапілася з крэсла, зрабіла выгляд, што хоча прыбраць са стала парожнія талеркі. Ёй раптам стала шкада пляменніцу. Як толькі Анжэлка вырасла, Васіль перастаў яе прыкмячаць, неяк падкрэслена аддаліўся ад дачкі. І вось зараз гэты чалавек… Ну так, яны з жонкаю, пэўна, змірыліся з выбарам сына, а ці папраўдзе любілі Анжэлку? А яна… Во-о як турбавалася пра нечае беднае дзіця! Хто ж яно? Хто?! Вячаслаў Станіслававіч намерваецца пакінуць гэтыя паперы ёй, а для чаго? Каб яна паспрабавала адшукаць гэтую дзяўчыну?

— Людміла Міхайлаўна, ды вы ніяк плачаце? — ён таксама падняўся. — Пашкадавалі бедную дзяўчынку? Я таксама шкадую сірот. Наша кампанія фінансава дапамагае аднаму дзіцячаму дому ў арганізацыі летняга адпачынку… Вось і вы дапаможаце, хай сабе і аднаму з выхаванцаў. Думаю, вам трэба будзе звязацца з тым дзіцячым прытулкам, дзе выхоўвалася Маня Праневіч, у іх можа быць інфармацыя пра яе далейшы лёс. Гэта ж можна зрабіць і па тэлефоне, неабавязкова ехаць туды… — Ён зрабіў паўзу, зірнуў на талеркі, якія Людміла Міхайлаўна трымала ў руках. — Вялікі дзякуй за пачастунак, вельмі смачныя былі катлеты з грыбамі…

— Я вам з сабою ў Маскву грыбочкаў дам, марынаваных, яны таксама павінны спадабацца. Зяць мой хваліць не нахваліцца!

— Не адмоўлюся, грыбкі, ведаеце, заўжды найлепшы далікатэс. Ну, а зараз, даруйце, я хацеў бы гадзіну-другую адпачыць, у мяне цягнік на Маскву ў васямнаццаць трыццаць. — Ён ледзь прыкметна ўсміхнуўся. — На жаль… На жаль, не тыя гады, каб дзве ночы ў цягніку, лічыце, без адпачынку.

— Вядома… Вядома, адпачыць трэба, — хутка адказала яна. — Ну, а я… Я за гэты час, можа, паспрабую датэлефанавацца да дзіцячага дома? Вы казалі, што яго адрас ёсць у тых паперах…

— Не спяшайцеся. Гэта вы можаце зрабіць і заўтра, і праз тыдзень…

Але тэлефанаваць у дзіцячы дом Людміле Міхайлаўне ўвогуле не давялося. Таму што Вячаслаў Станіслававіч, калі ўжо раннім вечарам чакаў выкліканае таксі, наадрэз адмовіўшыся, каб яна праводзіла яго на вакзал, раптам сказаў:

— Усё мы з вамі абгаварылі, Людміла Міхайлаўна, а вось пра Таццяну Віктараўну і забыліся! Вы спачатку ёй патэлефануйце… — Трошкі памаўчаў і перавёў размову на іншае: — Ведаеце, я тады ў бальніцы, калі ў апошні раз бачыў Васіля Канстанцінавіча, спрабаваў давесці яму, што кватэру сваю, у прынцыпе, ён на вас павінен быў нейкім чынам аформіць. Анжэлы ўжо тады не было, а пра гэтыя паперы я нічога не ведаў. Толькі ж… Толькі Васіль Канстанцінавіч быў ужо ў такім стане… Думаю, і не разумеў, пра што я вяду гаворку. У выніку, кватэра засталася за Таццянай Віктараўнай…

— Не-е… Не-е! — замахала яна рукамі, быццам адмахвалася ад нечага, пра што і чуць не хоча. — Не трэба пра гэта! Таццяна з мужам яго даглядалі, усё ён зрабіў па-людску. Хоць тут як чалавек праявіў сябе.

— Я разумею… І ўсё ж трошкі дзіўна, што вы да гэтага часу нічога не ведалі пра тыя Анжэліны рэчы, якія, у прынцыпе, я пакінуў для вас… Таццяна

Віктараўна казала, што звяжацца з вамі, дык чаму не звязалася?! Не адзін год прайшоў… Усё выкінула?! А там жа яшчэ былі фотакарткі, паштоўкі, лісты… Тое, што завецца дарагой памяццю.

Людміла Міхайлаўна адвярнулася ад яго, на вочы нагарнуліся слёзы…

— Даруйце… Я так… — Ён дакрануўся да яе пляча. — Нейкія свае думкі выказаў услых. Помніцца, Таццяна Віктараўна некалькі разоў прыязджала да Анжэлы ў Маскву, у іх было вельмі блізкае сяброўства… Мяркую, што ўсё ж варта ў яе запытацца пра Маню Праневіч. Яна можа штосьці праясніць.

І ўжо потым, калі развіталася з Вячаславам Станіслававічам, ёй і самой стала дзіўна, што Таццянка ні разочку, ніколі за ўвесь гэты час не патэлефанавала ёй. Хаця… Аднойчы званіла, калі яшчэ Васіль жыў. Жалілася, што ёй цяжка з ім, што ён ужо ніякі, а яшчэ і дзіўная манія ў яго з'явілася: проста нейкая нялюдская, хваравітая боязь скразнякоў, ветру… Трыма коўдрамі яго накрывала. Тады яна адказала Таццянцы, што ў яго гэта, напэўна, спадчыннае. Ад Галі чула, што ў ягонай маці было такое: летам у валёнках хадзіла і ўсё прыгаворвала, што ў яе скразняк па нагах бегае, а ў вушах вецер гудзе. І тады ж яна сама папрасіла Таццянку не тэлефанаваць ёй, нічога не расказваць пра Васіля, нічым не нагадваць пра яго, нават калі той памрэ, няхай самі хаваюць... Маўляў, толькі ён вінаваты, што ўся сям'я іхняя разладзілася і рухнула. Усе на той свет пайшлі, адно за адным, а ён і не шкадаваў асабліва нікога, быццам душу засляпіла яму тая маскоўская фіфа, Ірэна Вацлаваўна. Яна і цяпер гэтак лічыць, гэтак думае. А Таццянцы патэлефанаваць, вядома ж, трэба. Калі нічога і не дазнаецца ад яе пра гэтую дзяўчыну, дык хоць дамовіцца, каб рэчы Анжэлчыны зяць забраў, якія, можа, яшчэ не выкінула яна.

Міжволі хвалявалася, як набірала знаёмы нумар. Калісьці сястра заўжды сама падымала тэлефонную трубку, пачуўшы міжгародні званок, з радасцю адгукалася на яе голас… І вось як распарадзілася жыццё, зараз адгукнецца Таццянка, у прынцыпе, чужы чалавек:

— Я слухаю… Слухаю вас…

Людміла Міхайлаўна адкашлялася, запяршыла ў горле:

— Ну, дык гэта я… Ці пазнаеш мяне?

— Вядома… Канечне, пазнала! — Таццянка раптоўна замоўкла. Але хутка адгукнулася зноў і як быццам нават папракнула Людмілу Міхайлаўну: — Маглі б як-небудзь і раней патэлефанаваць. Тут жа рэчы Анжэлчыны ў нас…

— Ды ведаю, Таццянка, ведаю я пра рэчы. Але не з-за іх цябе турбую. Ці паверыш, сёння да мяне Вячаслаў Станіслававіч з Масквы прыязджаў, свёкар Анжэлчын, і паехаў назад мо з якую гадзіну. Ведаеш, ён паперы мне прывёз, дзеля іх ехаў…

І Таццянка адазвалася не адразу. Яна зноў нейкі момант маўчала. Потым загаварыла нязвыкла раздражнёна, павысіла голас:

— І вы тут жа кінуліся мне званіць! Ага-а…— Хвілінная раздражнёнасць змянілася ноткамі з'едлівасці. — Разлічваеце на спадчыну! Спадзеяцеся? Нэля ваша бескватэрная! Я здагадваюся, якія паперы! Ну так… Усё правільна! Васіль Канстанцінавіч некалі перапісаў кватэру на Анжэлку, а калі яна загінула ў той авіякатастрофе, усё перааформіў на нас… законна! Меў права, яго ўласнасць… — Перапынілася і ўжо спакойна папрасіла: — А рэчы яе вы ўсё ж забярыце…

Людміла Міхайлаўна ў нейкі момант нават адвяла ўбок трубку. Дык вось яно што! Таццянка думае, што я буду прэтэндаваць на нейкую там спадчыну, — падумала яна. — А ў мяне ж і не ў галаве такое! Можа, яна гэтага і баялася, таму і не тэлефанавала, што ў іх ляжаць рэчы Анжэлчыны, якія ўжо, можа, і сатлець паспелі.

— Ну канечне… Канечне, я забяру рэчы, — паспяшалася суняць Таццянку. — Але ты мяне не даслухала да канца, умомант расхвалявалася, крычыш на мяне, кажаш нешта не тое, нервы свае распусціла… А я ж табе званю, як самай блізкай сяброўцы Анжэлчынай. Загадку адну трэба праясніць. Анжэлка пакінула грашовы ўклад на імя нейкай Мані Праневіч. Дык мы і гадалі тут са Станіслававічам, што да чаго. Каго гэты ўклад тычыцца? Я ж ніякай Мані не ведаю, дык, можа, ты што калі пра яе ад Анжэлкі чула?! Што магло звязваць Анжэлку з гэтаю Маняю? Сірата яна, у дзіцячым доме выхоўвалася.

Таццяна маўчала, і маўчанне гэтае зацягвалася.

— Алё-ё… Ты мяне чуеш, Таццянка? Бачыш, вось і ты задумалася…

— Ды не задумалася я, цётка Люда, — нарэшце адгукнулася Таццянка. — Над чым мне задумвацца! Толькі ж размова не тэлефонная.

— Дык ты нешта ведаеш пра сірату гэтую?

— Ведаю… Даўно ведаю! — І тут жа паспешліва, быццам ёй не хацелася адказваць на гэтае пытанне, дадала. — Вы вось што… У Мінск прыязджайце і пра ўсё пагаворым мы з вамі, і рэчы заберацe…

— Калі прыязджаць? — бы не сваім голасам прамовіла Людміла Міхайлаўна, ашаломленая такім нечаканым паваротам, маўляў, Таццянка штосьці чула ад Анжэлкі пра Маню Праневіч, толькі чамусьці так відавочна пазбягае размовы пра яе.

— Ды ў любы час, цётка Люда. Хоць заўтра! Я некалькі адгулаў узяла, з дачкою дома сяджу, хварэе яна ў нас.

— Ну дык няхай папраўляецца дачушка твая, — і, не развітаўшыся як след, Людміла Міхайлаўна паклала трубку.

Ёй раптам зрабілася горача, па целе разлівалася млявасць: размова не тэлефонная, ледзь не ўслых паўтарыла яна Таццянчыны словы. А што ж гэта за размова такая, што па тэлефоне пра ўсё і не пагаворыш?! Што ж такое можа ведаць Таццянка? Гэтыя пытанні яе непакоілі ўжо ўвесь вечар і адказ на іх яна, вядома ж, магла атрымаць толькі ад Таццянкі. «Дык трэба заўтра і ехаць, па тэлефоне Таццянка нічога не скажа, — ужо дзесьці перад самым сном вырашыла яна. — Вазьму гэтыя паперы і паеду ранішняй электрычкай, нешта вельмі няпростае хаваецца за імі. Гм-м… Дваццаць тысяч долараў… Анжэлка зрабіла гэтакі ўклад! Таццянцы нешта расказала, а роднай цётцы не даверылася!»

І той жа ноччу, ужо дзесьці пад раніцу Людміла Міхайлаўна пабачыла сон… А, можа, і не сном гэта было. Ляжыць яна ў ложку і адчувае на сабе чыйсьці позірк. Расплюшчвае вочы, а за круглым сталом Галка, сястра яе стаіць, і такая маладая-маладая, у даўнішняй квяцістай сукенцы з крэпдэшыну, аб спінку крэсла рукамі абаперлася і ўсміхаецца ясна, светла… А потым і прамовіла ціха:

— Даруй, Людачка, што буджу цябе. Будзеш размаўляць з Маняю, дык скажы ёй, каб ад бацькі не адварочвалася, няхай горнецца да яго.

І бы растаяла… Знікла Галка, а Людміла Міхайлаўна і сапраўды расплюшчыла вочы…

## Дзень другі. Разгадка таямніцы сям'і Бузякоў

Было яшчэ вельмі цёмна… «Галя прыходзіла, — Людміла Міхайлаўна хутка падхапілася, прыўзнялася з ложка, зірнула ўбок акна, недалёка ад якога знаходзіўся той самы круглы стол, і які цяпер патанаў у цемрадзі. — Вунь там стаяла… У сне з'явілася, ніколі раней не снілася, а тут прыйшла. Маня… Зноў

Маня… Ну так… Галка непакоіцца пра гэтую Маню. Я яшчэ не ведаю, хто яна, а сястра падказала, яна ўжо дзесьці там ведае, што я буду размаўляць з ёю. Што пабачуся. Дзіва… Круглая сірата, а Галцы нешта вядома і пра бацьку яе. А дзе ж ён, той бацька?!»

Навобмацак дастала з-пад падушкі невялікі ліхтарык, націснула на кнопку…

Зыркае святло высвеціла на гадзінніку, што вісеў на сцяне, амаль пяць раніцы, дзень завязаўся, летам дык ужо днела б. Паднялася з ложка, прайшла на кухню, запаліла святло. Тут жа дастала з паліцы акуратна складзеную газетную старонку: «Ну, канечне, — падумала, — мне трэба ехаць у Мінск не электрычкай, а хуткім цягніком. Навошта мучыць сябе гэтаю загадкаю? Нейкія дзве гадзіны і я ўжо буду ў Таццянкі… — Зазірнула ў газету: — Добра, што расклад цягнікоў не выкінула. Во якраз у восем з хвілінамі і цягнік маскоўскі, ім і паеду…»

І Людміла Міхайлаўна пачала няспешна збірацца ў дарогу. Калі ўжо добра развіднела, выйшла з хаты, каб узяць са склепа што-небудзь з прыпасаў для дачкі. У суседнім двары заўважыла суседа, які корпаўся каля машыны, штосьці складваў у багажнік.

— Пецця, ты ніяк ужо на працу збіраешся, — крыкнула яму. — Дык, можа, мяне да вакзала падкінуў бы? Мне ў Мінск сёння трэба.

— Не пытанне, Люда. Чаму б не падкінуць! Толькі ў цябе ўсяго хвілін дваццаць ёсць. Паспееш сабрацца, выходзь да брамкі.

— Паспею, Пецечка… Зборы ў мяне хуткія! — і яна ледзь не подбегам рушыла да склепа…

На вакзале Людміла Міхайлаўна, як толькі ўзяла білет, адразу ж па мабільніку патэлефанавала дачцэ, папрасіла, каб да вагона, у якім яна будзе ехаць, падышоў зяць і забраў у яе цяжкую сумку. Ну, а калі ў яго будзе час, дык каб і завёз яе на Карла Маркса да Таццянкі, гэта ж зусім там недалёка… Прычыну свайго прыезду ў Мінск тлумачыць не стала. Гэтак жа, як і ўчора Таццянка ёй самой, на пытанні дачкі: «Што здарылася? Чаго яна едзе?», адказала:

— Гэта ўсё не па тэлефоне, трэба доўга расказваць. Свёкар Анжэлчын быў у мяне, ты ж ужо, напэўна, даведалася ад Глеба… Дык трэба да Таццянкі пад'ехаць. Размова ёсць да яе. Мо і заначую ў вас, дык купі каробку цукерак ад мяне для сватоў.

Нэля з Глебам жылі ў ягоных бацькоў і, пакуль не было ў іх дзяцей, з уласнай кватэрай не спяшаліся. Адно што на чаргу кватэрную сталі. Ім было добра і з бацькамі. А вось яна, Людміла Міхайлаўна, заўжды бянтэжылася, калі зрэдку даводзілася заставацца ў іх на начлег. Навошта абцяжарваць людзей, калі ёсць да Баранавіч і маршрутка, і электрычка… Ім у невялікай трохпакаёўцы, дзе яшчэ жыла і Глебава сястра-студэнтка, і самім цесна. Але сёння, відаць, давядзецца заначаваць...

Яна выйшла на перон, агледзелася, мо хто знаёмы, як і яна, у Мінск едзе, дык будзе з кім словам у цягніку перакінуцца. Нікога са знаёмых людзей на пероне Людміла Міхайлаўна не пабачыла, але ўжо ў цягніку ў яе знайшлася спадарожніца. У плацкартным вагоне, куды яна села, пасажыраў было няшмат, і, пакуль цягнік стаяў, да яе ніхто не падсаджваўся. Але як толькі ён скрануўся з месца, да яе тут жа падсела даволі пажылая кабеціна:

— Вы не супраць? Я там, — махнула рукой углыб вагона, — да маладых прыбілася, дык ім са мною нецікава, ды і мне... — Жанчына ўладкавалася насупраць Людмілы Міхайлаўны, паставіла побач з сабою невялікую сумку. — Вой, даруйце, яшчэ не прысела, а ўжо стала галаву вам тлуміць!

— Нічога, нічога, тлуміце…

Абедзве лагодна заўсміхаліся.

— Гэта я сёння гаваркая такая, каб у цягніку не спаць, — зноў адазвалася жанчына, — а то потым толькі галава ўвесь дзень балець будзе. Заначаваць мне давялося пад Баранавічамі ў знахаркі, дык вачэй цалюткую ноч не звяла. Не паверыце, нейкая боязь навальвалася і навальвалася.

Людміла Міхайлаўна не хавала здзіўленасці і запыталася ў пасажыркі з цікавасцю:

— Кажаце, начавалі пад Баранавічамі ў знахаркі? Век у іх пражыла, а пра знахарку, далібог, першы раз чую.

— Проста патрэбы ў вас такой не было, да знахаркі звяртацца.

— А ў вас была? — з яшчэ большай цікавасцю зірнула на спадарожніцу Людміла Міхайлаўна.

Тая адказала не адразу. І ўсё ж адказала:

— Я ў Мінску ўсё экстрасэнса шукала, вось мне і падказалі людзі… Праўда, знахарка папрасіла, каб экстрасэнсам яе не называла, яна проста — знахарка. Замовамі пры любой бядзе дапамагае.

— Дапамагла вам?

— Не ведаю… Цяжка будзе. Сказала, што трэба зрабіць, але ці зробіцца так?!

І Людміла Міхайлаўна ўжо на працягу ледзь не ўсёй дарогі пераважна маўчала, слухаючы чужую споведзь, блытаную, пераблытаную жыццём. Жанчына расказвала пра дачку, якую ўжо з год, як пакінуў муж. Дванаццаць гадоў пражылі разам і вось пайшоў да іншай жанчыны, збасячыўся, скруціўся, знаёмыя людзі перадаюць, што піць пачаў, цяпер нават да дзяцей не патыкаецца. Праўда, грошы, капейку нейкую, на дзяцей высылае, хоць яны яшчэ афіцыйна і не разведзеныя. Але што тыя грошы, дзецям бацька патрэбен! Ды і дачка пакутуе… Ці лёгка гэта быць пакінутай!

— І ведаеце, што цікава, — жанчына бліжэй падалася да Людмілы Міхайлаўны, быццам хацела расказаць ёй нешта вельмі таемнае. — Знахарка тая сапраўднай знахаркай аказалася, не аферыстка… Вось зайшла я да яе, як і вам расказала ёй пра дачку, пра зяця, пра другую жанчыну, тую, да якой пайшоў зяць, нават фотакартку дачкі паказала… Ну, дык гэта… Выслухала мяне знахарка, потым сказала: «Вы трошкі тут пасядзіце, а я ў другі пакой выйду, раскіну, што да чаго»… Хвілін пятнаццаць яе не было, а калі вярнулася, усё і расклала мне, праўду чыстую сказала.

— І якая ж гэта праўда чыстая?

— Цэлая гісторыя… Гэта ж цераз пакаленне дачка на сябе кару з-за свякрухі маёй прыняла. Яе грэх адбывае, на дачку ўсё перакінулася… — Уздыхнула і запытальна зірнула на Людмілу Міхайлаўну. — Не верыце? Дык слухайце далей… У свёкра майго і свякрухі каханне было, але цьфу-у, якая яна мне свякруха, і якое там каханне! Сяброўства школьнае. Школа закончылася, свякруха на цаліну падалася, тады ж усе ездзілі туды ў заробкі. Свёкар пачакаў яе, пачакаў, ну і… Хлопец жа малады, закахаўся ў іншую дзяўчыну. Справа да вяселля дайшла, ужо і заручыны былі. І тут з'яўляецца свякруха мая, паведаміў нехта ёй, што жэніцца яе хлопец, вось умомант… усё і разладзіла! На сабе майго свёкра жаніла, ну, а тая дзяўчына, што падманутай аказалася, канечне, перажывала моцна, казалі, нават труціцца спрабавала… Разбітым яе жыццё аказалася, ды і ў свякрухі са свёкрам нічога не атрымалася. Гадоў пяць яны пражылі, сын у іх нарадзіўся, гэта, значыцца, муж мой, Ігар… Яму гады чатыры было, як свякруха зноў на цаліну тую з'ехала, і ўжо ніколі не вярталася да іх. Свёкар сам гадаваў Ігара, і больш не жаніўся. Можа, спадзяваўся,

што некалі адумаецца яна, вернецца… Не вярнулася, адно людзей і блізкіх, і далёкіх пакутаваць змусіла. А цяпер вось дачушка мая пакутуе, унукі мае… Яе грэх на іх лёг, яны сваімі пакутамі за яго расплачваюцца.

Спадарожніца адвярнулася да акна… А Людміла Міхайлаўна ўсю дарогу не-не, ды і пазірала ў яго. Сасновыя стромкія бары змяняліся густым алешнікам ды бярозавымі гаямі, што прыцягвалі да сябе верасовымі палянкамі. Восень яшчэ раскашуе, падумала яна. Лісце пажоўклае, залатое, але яшчэ моцна трымаецца на галінах, пэўна, не час яму ападаць. А ўслых сказала:

— Ну і чым жа дапамагла вам знахарка? Наколькі я зразумела, вы хочаце, каб зяць да дачкі вярнуўся?

— Ну, але… — хутка адказала спадарожніца і трошкі памаўчала. Потым зноў загаварыла. — Пляшку гарэлкі замоўленай яна мне дала. Сказала, каб зяць з гэтай пляшкі чарку выпіў, але наліць і паднесці тую чарку яму абавязкова дачка мая павінна. Каб з яе рук ён яе ўзяў. — Яна зноў замоўкла, запытальна зірнула на Людмілу Міхайлаўну. — А як жа ён возьме чарку з рук маёй дачкі, калі да нас ні нагой?! Нават на званкі тэлефонныя не адказвае, да дзяцей не азываецца. І як быць у такой сітуацыі? — у вачах спадарожніцы заблішчэлі слёзы.

— Не адчайвайцеся, — уздыхнула Людміла Міхайлаўна. — Гэта ж — жыццё, свае ў яго законы і правілы, як кажуць, каб ведаў, дзе ўпадзеш, саломку падаслаў бы. Вы зяця ў свой дом вярнуць хочаце… А вось мне жыццё загадку падкінула, дзяўчыну адну маладзенькую расшукаць трэба. Калі расшукаю, дык нечаканасць для яе прыемная будзе, усё роўна, як сюрпрыз жыцця. Грошы немалыя атрымае. Чалавек жыве, як жыве ўся прырода, таму падумайце, а ці варта вяртаць вам зяця, калі ўжо ён сышоў? Каханне ў чалавека прайшло, і ён стрыжань у сабе нейкі страціў. Бывае, што і ў іншых каханне праходзіць, але стрыжня не страчваюць, іншымі пачуццямі жывуць. Прывычкаю, любоўю да дзяцей… — І Людміла Міхайлаўна чамусьці ўспомніла свайго швагра. Але ён як выплыў з памяці, так і сплыў, а яна працягвала: — Вось мы з вамі садзіліся ў Баранавічах, якая імжа над усім вісела, якой халоднай вільгаццю яна дыхала і ў твар, і ў шыю! Здавалася, што само неба на дахах дамоў ляжыць, а зараз… Вунь якім яно высокім стала, на вачах распагоджваецца. Лёс таксама распагоджаным бывае. Цісне, цісне, а потым нешта і выблісне… Яшчэ ў жыцці вашай дачкі ўсё ўмомант змяніцца можа, — і Людміла Міхайлаўна раптам збянтэжылася, разгубілася ад свайго такога красамоўства і хуценька завяршыла гэтую сваю натхнёную прамову. — Прыедзем у Мінск, дык, можа, і сонца засвеціць…

Яна не памылілася. Мінск сустракаў іх сонцам.

— Я дапамагу вам вынесці сумку, яна ж у вас, бачу, цяжкая, — сказала спадарожніца, як толькі цягнік спыніўся. А Людміла Міхайлаўна ўжо ўгледзела ў акно Глеба і запыталася:

— Можа, вас падвезці? Зяць мяне сустракае, на машыне ён. Мы едзем у бок вуліцы Карла Маркса…

— Не-не, дзякуй, я люблю на метро.

Канчаткова яны развіталіся ўжо на платформе. І неўзабаве Глеб высаджваў Людмілу Міхайлаўну каля дома, які ўпершыню за шмат гадоў здаўся ёй чужым і непрыветным. Хутка ўвайшла ў знаёмую арку, і міжволі здзівілася, што ўжо адвыкла ад вузкага тратуара ў двары, з гэтым домам яе даўно ўжо нічога не звязвае, адно што ўспаміны… Але і яны паціху асядаюць на самае дно памяці, і толькі калі зайшла ў цемнаваты пад'езд, сэрца міжволі зашчымела: можа, ужо ў апошні раз яна ў гэтым пад'ездзе, дзе калісьці даўно адразу ж

каля ліфта яе неаднойчы сустракаў Валодзька, ейны пляменнік, якога Галка пасылала насустрач, а сама стаяла на лесвічнай пляцоўцы чацвёртага паверха, пазірала ўніз, быццам ёй не цярпелася як мага хутчэй пабачыцца з сястрою… Можа, і не цярпелася. Тое, што яны засталіся ў бацькоў толькі ў дзвюх пасля таго, як памерла маленькая Манечка і загінуў брат, неяк па-асабліваму радніла іх. Людміла Міхайлаўна нават не ведала, ці былі ў Галкі блізкія сяброўкі, яна была ўсім для яе: і сястрою, і сяброўкай адначасова… «А вось жа, бачыш, пра гэтую Маню я нічога не ведаю», — пацяла думка, калі выходзіла з ліфта, і мусіла спыніцца, пабачыўшы новыя дзверы ў кватэры пад нумарам сто адзінаццаць. Новыя гаспадары па-свойму пачалі абжывацца тут, — не без жалю адзначыла ў думках і націснула на кнопку званка…

— Цётка Люда? — Таццянка не хавала свайго здзіўлення, калі адчыніла дзверы. — Дык вы сапраўды сёння ўзялі і прыехалі?! Я, прызнацца, не чакала.

— Ну, як бачыш, прыехала. Мы ж нібыта дамовіліся. Ты сама сказала, што хоць заўтра прыязджайце. Дык што, буду здымаць паліто? — Гэтак казала Людміла Міхайлаўна і азірала ўжо цалкам чужы, з іншаю мэбляй пярэдні пакой: толькі сцены тыя ж!

— Распранайцеся… Канечне, — і асаблівай радасці не было на яе твары. Хутчэй незадаволенасць, што не да часу яна ўзнікла ў яе жыцці. — Вось сюды ў шафу вешайце… Я зараз. Чакайце хвілінку… — Таццянка зазірнула ў пакой, які калісьці быў Васілёвым пакоем. — Клара Маркаўна, тут да нас прыехалі… Цётка даўнішняй сяброўкі, дык я правяду яе ў залу. Хаця, — звярнулася яна ўжо да Людмілы Міхайлаўны, забіраючы з яе рук паліто, каб самой павесіць у шафу, — вы лепш у былы Анжэлчын пакой прайдзіце… Лепш туды. У нас зараз доктар. Я ж вам казала, што Волечка наша хварэе. Сумачку можаце тут пакінуць і туфлі не здымайце…

— Не, туфлі я здыму.

— Дык вось тапкі… — Таццянка на хвілінку задумалася. — Там у пакоі і рэчы ляжаць Анжэлчыны, вы адразу пабачыце іх. І фотакарткі, і лісты ў пакеце на тумбачцы… Знойдзеце, чым заняць сябе.

«Вядома, знайду, — падумала Людміла Міхайлаўна. — Хаця ўжо не ў тых гасцях я, усё роўна, як і не ў той кватэры. Усё тут памяняла Таццянка на свой лад».

Але, калі зайшла ў былы Анжэлчын пакой, дык міжволі і спынілася, застыла ў дзвярах: тут, у гэтым маленькім пакоі, нічога не чапалі! Нават абоі на сценах тыя ж самыя, ужо прыкметна выцвілыя, і гардзіны на вокнах… Усё, як было пры Анжэлцы, пры Галцы… Яна павольна, з сумам узіралася ў кожную рэч: столік, дзе Анжэлка рабіла ўрокі, кніжная паліца, на якой яна нават разгледзела «Тры мушкецёры», якія сястра з цяжкасцю ў часы кніжнага буму раздабыла некалі за макулатуру, тумбачка з усё той жа настольнай лямпай і даволі тоўстым пакетам, пра які, відаць, і казала Таццянка. Люстэрка-трумо на камодзе… Каля століка вялікі чамадан і, перавязаная шпагатам, яшчэ большая кардонная каробка, пэўна з тымі рэчамі, якія некалі прывёз сюды Вячаслаў Станіслававіч. Канапа, прыкрытая ўсё тым жа зялёным плюшавым дыванком. На яе і села Людміла Міхайлаўна, і не стрымала сябе, заплакала, пачала гладзіць плюш рукою: «Мая ты Галачка, на гэтай канапе ты калісьці памірала». Потым яна проста сядзела, пераводзячы позірк з адной рэчы на другую… У кутку над століком заўважыла павуцінне, захацелася зняць яго, і Людміла Міхайлаўна нават паднялася з канапы, але ў пярэднім пакоі пачуліся галасы… «Відаць, доктара Таццянка праводзіць», — мільганула думка, і яна зноў села. Пачала чакаць Таццянку. Тая ўсё не ішла да яе, і тады Людміла

Міхайлаўна ўзяла ў рукі пакет з тумбачкі, разгарнула яго і пачала перабіраць фотакарткі, паштоўкі… Вось Анжэлка — яшчэ школьніца ў белым фартушку і піянерскім гальштуку, а гэта — Валодзька, відаць, на школьным ганку… Потым паштоўка, перавярнула яе і прачытала: «Дарагая дочачка! Віншую з Новым 1991 годам вас усіх! Шчасця вам вялікага, здароўя моцнага…» І зноў фотаздымак, пажоўклы ўжо ад часу. Людміла Міхайлаўна міжволі заўсміхалася: калі ж гэта было? Галка тады толькі-толькі ў медыцынскі інстытут паступіла, а яна сама яшчэ была школьніцай… Здымак рабіў іхні сусед у сваім садзе. Галка сядзіць на гушкалцы, звычайнай дошцы, пакладзенай на дзве вяроўчыны, перакінутыя цераз тоўстую галіну старой яблыні, а яна стаіць каля Галкі, ухапіўшыся рукою за вяроўку, быццам хоча разгушкаць сястру… Яны тады сапраўды ў тым садзе гушкаліся, і маці, угледзеўшы іх з ганка, крыкнула бацьку, які нешта рабіў каля хлява: «Міша, зірні за суседаў плот, што нашы дзяўчаты там вырабляюць! Не нагушкаліся, як малымі былі!» І засмяялася радасна, відаць, залюбавалася імі. Зноў паштоўка: «Анжэлачка! З жаночым святам цябе, з Днём 8-га сакавіка…» І яшчэ фотаздымак: Анжэлка з мужам сваім, з Вадзімам. Вадзім трымае на руках іхняга маленькага сына Мікітку… А вось канверт… Пісьмо заказное, з паведамленнем, каб абавязкова аддалі Анжэлцы ў рукі, каб яна распісалася за яго. Дастала з канверта ліст, разгарнула: «Анжэла, гэта я зноў! Пішу наўздагон таму лісту, які ты ўжо атрымала. Не хачу нічога ад цябе хаваць, здаецца, у мяне ўсё безнадзейна. Канечне, Сямён Паўлавіч падбадзёрвае, але я сама доктар, я ўсё добра разумею. Слабну, сіл ніякіх не застаецца, усё можа здарыцца і вельмі хутка… Мы абміналі гэтую гаворку, неяк усё ўсплывала між іншым, і як усплывала, так і заканчвалася. Але цяпер уважліва выслухай мяне, і зрабі ўсё так, як я прашу, зрабі, як і павінна зрабіць маці. Можа, гэта ўжо апошняя мая просьба: не пакінь Маню на волю лёсу! Я ўжо нічога не магу для яе больш зрабіць, цяпер табе самой трэба сэрцам павярнуцца да свайго дзіцяці…»

Ліст задрыжэў у руках Людмілы Міхайлаўны: якое дзіця? Якім сэрцам? І яна яшчэ раз перачытала радкі. У нейкі момант роспачна абхапіла галаву рукамі, маўляў, а ці гэта ўсё праўда? І зноў вярнулася да ліста, пачала чытаць далей:

«Гэта ж твая крывіначка, і я ведаю, як бы ты ні апраўдвалася, што б ні казала, для яе, як і для Мікіткі, як і для Вадзіма, ёсць месца ў тваім сэрцы і яго ніхто не зойме да канца тваіх дзён. Інакш некалі будзеш вельмі пакутаваць, дык зрабі ўсё цяпер, як гэта звычайна робяць маці, не адкідвай яе ад сябе. Раскажы пра Маню Вадзіму, ён зразумее… Вадзім у цябе чулы, калі і не зможа палюбіць Маню, дык пашкадуе. Я высылаю табе копію яе пасведчання аб нараджэнні… Хацелася мне яшчэ разочак пад’ехаць у Лясную, ды, пэўна, ужо не змагу. Давядзецца паслаць да Манечкі Валодзьку, я баюся, што яе могуць удачарыць, таму мушу пра ўсё расказаць яму. Я павінна гэта зрабіць, каб Валодзька ведаў, што ў яго ёсць пляменніца…»

Людміла Міхайлаўна на момант застыла, знерухомела, потым хутка падхапілася з канапы.

— Таня! Танечка-а! — Гучна выціснула з сябе і няпэўным крокам, быццам баялася спатыкнуцца, пайшла да дзвярэй з лістом у руках: — Танечка!

— Што здарылася, цётка Люда? — з кухні адазвалася Таццянка. — Морс для Волечкі раблю. Ідзіце сюды. Ёй піць многа трэба. Гарачка ў яе.

— Танечка, — Людміла Міхайлаўна прайшла на кухню. — Што ж гэта, скажы ты мне! Я ліст Галчын прачытала да Анжэлкі, — і бы не сваім, прыгнечаным голасам, з вялікім недаўменнем, быццам ніяк не магла паверыць прачытанаму, прамовіла: — Дык Маня… Маня… Яна… Яна… Дачка…

— Угу-у, — Таццяна кіўнула галавою, маўляў, гэтак яно і ёсць, і спакойна сказала: — Ну так… Маня Праневіч — Анжэлчына дачка!

Людміла Міхайлаўна апусцілася на крэсла каля стала. Усё ў ёй выказвала няўцямную бездапаможную разгубленасць, губы засмяглі, і яна ледзь разняла іх:

— Як жа гэта… Калі ўсё адбылося? А я ж нічагусенькі… Я нічога не ведала. Танечка, дык калі? Калі яна магла нарадзіць?! Мне цяжка ў такое паверыць.

— Даўно, цётка Люда. Вельмі даўно, — жыва адазвалася Таццянка. — Дваццаць гадоў таму назад. У дзявятым класе Анжэлка вучылася. Пятнаццаць гадоў ёй тады было. — Таццянка прамаўляла ўсё гэта надзвычай хутка, быццам адказ быў ужо загадзя падрыхтаваны. Потым перадыхнула і дадала: — Вы пачакайце, я морс Волечцы занясу. У яе ангіна моцная, пасля запалення вушэй пачалася. А то засне мая дзяўчынка.

Людміла Міхайлаўна засталася адна. Яшчэ раз прабегла позіркам па радках ліста… Зараз 2004, — думала яна. — Калі адкінуць дваццаць гадоў, атрымліваецца, што Анжэлка нарадзіла ў 1984… А калі ж гэта магло адбыцца? І яна пачала пракручваць у памяці, наколькі гэта было магчыма, ледзь не ўвесь 1984 год. Тады да сястры ў Мінск яна прыязджала на Каляды, на самым пачатку новага года, потым на 8-га Сакавіка Галя з Анжэлкаю былі ў яе… Ну, а пасля? Пасля ў канцы мая сястра Валодзьку да іх у Баранавічы на канікулы прывезла, і ён ледзь не цалюткае лета ў іх правёў. Ну але… быў усё лета. Галка прасіла, казала, што Анжэлка, можа, у тэхнікум які будзе паступаць, дык Валодзька ёй толькі рыхтавацца да экзаменаў перашкаджаць будзе. І яна ёй паверыла. Але, напэўна, пра тэхнікум Галка прыдумала, уся справа была ў Анжэлчынай цяжарнасці. І, як толькі Таццяна вярнулася на кухню, Людміла Міхайлаўна запыталася:

— Анжэлка летам раджала?

— У канцы жніўня. Недзе на Гомельшчыне. — Задумалася і патлумачыла. — Там доктарка знаёмая ў Галіны Міхайлаўны была. Анжэлка нават на заняткі на некалькі дзён спазнілася, прыйшла ў клас худая-худая… І ніхто падумаць не мог, ну а я ж у курсе ўсяго была, Анжэлка мне сама расказвала.

— Божа, — Людміла Міхайлаўна не ведала, як ёй стрымаць хваляванне, і то складвала ліст, то разгортвала яго. — Што ж атрымліваецца? Што яны адмовіліся ад дзяўчынкі? Пакінулі яе ў радзільным доме? Галачка ты мая, як жа можна было дапусціць такое! Чужых дзетак удачараюць… А ты сваю, родненькую, пакінула! Таццянка… Скажы мне, Таццянка, ты пакінула б сваю малую?!

— Цётка Люда, вам трэба супакоіцца. Вы той час згадайце! Гэта цяпер усё можна, усё па-іншаму, разгуляева, адным словам, а тады… самі ведаеце, амаральшчына! Васіль Канстанцінавіч кар’еру рабіў, а тут з дачкою такі пасаж, такая ганьба па тым часе. Колькі шуму было б, гаманы рознай.

— Дык а што ж Галка? Чым дзіцятка вінаватае? Плюнула б на яго кар’еру!

— Не скажыце… Галіне Міхайлаўне яшчэ і дачку было шкада, невядома, як лёс у яе склаўся б з дзіцяткам на руках! Усё ж дачка… Цьфу-у, што я кажу! Наколькі я ведаю, яна хацела на час родаў з Анжэлкаю куды-небудзь паехаць, а потым вярнуцца і сказаць, што гэта яна нарадзіла. Але Васіль Канстанцінавіч быў катэгарычна супраць, тым больш, што ў яго ўжо тады раман з Ірэнай Вацлаваўнай пачынаўся. І раптам дзед, — яшчэ даволі малады мужчына!

Людміла Міхайлаўна ўздыхнула:

— Сястры яшчэ і гэта перажыць трэба было.

— Думаю, што яна асабліва і не пераживала. Наадварот… — Таццяна ўключыла чайнік. Паставіла на стол кубачкі. — Ведаеце, калі б Васіль Канстанцінавіч сышоўся з Ірэнаю Вацлаваўнай, у вашай сястры развязаліся б рукі. Яна, несумненна, удачарыла б Маню, забрала б яе з дзіцячага дома… — і Таццяна пачала заварваць гарбату. — У мяне смачнае пячэнне ёсць, а можа, вам бутэрброд зрабіць? Вы, можа, і не снедалі, а ўжо хутка абед.

— Пачакай з бутэрбродамі, сядзь да стала, — Людміла Міхайлаўна на нейкі момант задумалася. — Калісьці ў Колі, майго мужа-нябожчыка, на працы ў некага такое было. Дык там жа адразу бацькі дамовіліся паміж сабою. Дзяўчынка нарадзіла, а як стала паўналетняй, хлопец і ажаніўся з ёй.

— Ды які там хлопец у Анжэлкі, — Таццяна наліла чаю ў кубачкі, паставіла на стол пячэнне. — Выпадкова ўсё ў яе атрымалася. Яна нават прозвішча таго хлопца не ведала, адно што імя. Чакайце… Ага-а… Алегам, па-мойму, яго звалі. У госці тады Анжэлка ездзіла ў Зялёны Луг, да дзяўчынкі, дзе ў іх была раней кватэра. Калі не памыляюся, Каця яе звалі. Жылі на адной пляцоўцы, кватэры іхнія былі побач. Вы, можа, і памятаеце тую Кацю?

— Чакай, здаецца, успамінаю…— Не адразу адказала Людміла Міхайлаўна. — Тоўсценькая такая была дзяўчынка, аднойчы блузачку Анжэлчыну прымерала і парвала яе, шво разышлося…

Таццянка засмяялася. І Людміла Міхайлаўна таксама ўсміхнулася.

— У вас яшчэ добрая памяць, цётка Люда! Ого-о! Я не ўсё помню. — І ўжо іншым тонам Таццяна распавяла далей. — Дык вось… Брат Кацін дамоў у той вечар прыехаў, вучыўся не ў Мінску ён, ну і сябра да яго зайшоў, — Анжэлка мне так расказвала, — той самы Алег… Ён ужо студэнтам быў. Тады ж усё з Анжэлкаю ў іх і адбылося. І ўсё! На гэтым знаёмства іхняе і скончылася. З ім яна больш не сустракалася. І бацькам пра яго не расказвала, а калі і расказала? Хіба ім патрэбен быў скандал?! А скандалу было б не абмінуць: спакусіў непаўналетнюю! Піце гарбату…

Людміла Міхайлаўна маўчала. Перад вачамі ўзнік яе сённяшні досвітны сон, у якім пабачылася Галка, стаяла за круглым сталом у даўнішняй крэпдэшынавай сукенцы і гэтак ясна ўсміхалася ёй: «Даруй, Людачка, што буджу цябе… Будзеш размаўляць з Маняю, дык скажы ёй, каб ад бацькі не адварочвалася, няхай горнецца да яго». Цяжка ўздыхнула і падумала: «Эх, Галя, Галя… Відаць, нічога табе Анжэлка не расказвала, ніякіх падрабязнасцей: што, дзе, як?! Ды і ці распытвала ты сама нешта ў яе?! Прагледзелі Анжэлку, кожны сам па сабе жыў. А цяпер, на тым свеце, хочаш, каб яна да бацькі гарнулася».

— Бачу, зноў расхваляваліся, — адазвалася Таццяна. — Бярыце пячэнне… — І бліжэй падсунула каробку з пячэннем да яе.

— Не-е, Танечка, дзякуй. Трэба ўжо мне да Нэлі сваёй дабірацца. Па рэчы як-небудзь зяць заедзе, куды ж я іх зараз вазьму? Ну, а пакет забяру… Можа, адсюль, з Мінска, днямі і ў дзіцячы той дом паеду, як ужо Нэля мне параіць. А, можа, і разам з ёю, каб нешта пэўнае пра ўнучку Галіну дазнацца, пра Манечку. Там жа павінны трымаць сувязь з былымі выхаванцамі? — запытальна паглядзела на Таццянку.

— Ды ні ў які дзіцячы дом вам ехаць не трэба, цётка Люда! Маня ў Мінску. У тэхналагічным універсітэце вучыцца, на лесагаспадарчым факультэце.

Людміла Міхайлаўна хацела нешта сказаць і не змагла, бы папярхнулася, нават злёгку адкашлялася. А Таццяна ўдакладніла:

— На трэцім курсе яна. Я неяк цікавілася ёю, званіла ў рэктарат… Усё ж дачка сяброўкі.

— Дык чаму ты нам… Мне ты чаму раней пра яе не расказала?! Ведаць такое і маўчаць! — у голасе Людмілы Міхайлаўны чуўся непрыхаваны папрок, нават абуранасць.

— А вы мне паверылі б, што яна Анжэлчына дачка? — Таццянка таксама павысіла голас. — Калі б цяпер да вас не прыехаў Вячаслаў Станіслававіч, можа б, вы і чуць не схацелі ні пра якую Маню!

Людміла Міхайлаўна пачала расшпільваць гузікі верхняй шарсцяной кофты, потым стала абмахваць сябе Галчыным лістом, які ўсё яшчэ трымала ў руках. Яе ўсю бы абдало раптоўнай гарачынёй. Яна адпіла гарбаты з кубачка і засяродзілася на нейкіх сваіх думках, як бы і не слухаючы Таццянку, якая ўжо была як заведзеная. Без усялякіх паўз, без перапынку кінулася расказваць, як некалькі гадоў таму назад да яе завітала Маня, якую яна адразу ж пазнала па завушніцах і па ланцужку з прыгожай вісюлькаю з таго залатога наборчыка, які некалі быў у Галіны Міхайлаўны. А яшчэ пазнала і па валасах, якія на скронях трошкі завіваліся, як і ў Анжэлкі. І колер валасоў у іх быў аднолькавы. Распавяла і пра тое, што пачула ад самой Мані, як да яе ў дзіцячы дом адразу пасля смерці Галіны Міхайлаўны прыязджаў Валодзька, якога яна і спадзявалася тут знайсці, таму што Валодзька ў дзіцячым доме пакінуў гэты адрас… Тады і сказала Маня, што паступіла ў тэхналагічны ўніверсітэт.

— Я і пра Анжэлку ёй расказала, што загінула яна ў авіякатастрофе, каб не думала, што некалі маці аб’явіцца. Праўда… Не стрымала сябе. Вы мяне чуеце?

— Чую, Танечка, чую…

— Дык значыцца… Канечне, я Анжэлкаю паабуралася. Яе і маці нельга назваць. Ну якая яна маці была для Мані?! Самі разважце, ніколі не ўспомніла пра яе! А бач жа, бач… Грашовы ўклад пакінула. Інстынкт прачнуўся. — Іранічна ўсміхнулася і пацікавілася. — Ну і колькі ж яна адарвала ад сябе?

— Нямала. Дваццаць тысяч…

— Долараў?

— Ага-а… Дзяўчыне не лішнімі будуць.

— Канечне, — пагадзілася Таццяна і тут жа запыталася. — І яшчэ ж нешта прывёз Вячаслаў Станіслававіч? Вы казалі, паперы… Дык што там?

— Ну, калі табе так цікава, ёсць яшчэ адзін дакумент, які тычыцца Мані. Сама ж ведаеш, што Васіль некалі перапісаў гэтую кватэру на Анжэлку. Думаю, Анжэлка з Вадзімам меліся з часам забраць яго да сябе ў Маскву, таму што яна адразу, тады ж, як была ў Мінску, у сваю чаргу перааформіла ўсё на Маню. Вось што вынікае з дакумента, — і Людміла Міхайлаўна паглядзела на Таццянку. — Зараз атрымліваецца, што гэтая кватэра Мані належыць, калі па-справядлівасці…

— Па якой справядлівасці, цётка Люда?! — Таццяна ажно падхапілася з крэсла. — Я ўсё гэта прадчувала. Далібог… Інтуіцыя мне падказвала! Нюхам чула. Не-е… Вы скажыце, вы гэта сур’ёзна?! Мне смешна! Ага-а… Ды ў мяне дарчая на руках. Разумееце?! Падарыў нам гэтую кватэру Васіль Канстанцінавіч… Гэта падзяка, што мы дагледзелі яго, што пахавалі як чалавека. Мы ўсё зрабілі як людзі! Ні пра якую Маню ён бы і чуць не схацеў! Яна для яго не існавала! Ён адрокся ад яе яшчэ ненароджанай! Чуеце, адрокся! І іншых адрачыся прымусіў, і перад смерцю яе не прыняў бы!

І Таццяна апусцілася на крэсла, нервова пацірала рукі, і нечакана расплакалася, хутчэй разрыдалася. Уся сцялася.

— Вось ён, чалавечы эгаізм… Вось няўдзячнасць жыцця! Вы не думаеце, што кажаце. Гэта ненармальна! Яшчэ не бачылі Маню, яшчэ не сустрэліся з

ёю, а ўжо пра яе клапоціцеся. Вядома, яна сваёй аказалася! А я ж вам тэлефанавала, — Таццянка падняла на Людмілу Міхайлаўну заплаканы позірк. — Я ж расказвала, як мне цяжка… Чаму ж вы тады не прыехалі, каб швагра свайго дагледзець! Ён жа жыццё з сястрою вашай пражыў! Ён быў бацькам вашай пляменніцы і пляменніка.

— Якое там было жыццё…

— Ага-а… На мяне ўсё скінулі, на чужую… памперсы, капрызы яго. Ён жа, здаралася, суткамі нешта крычаў, як вар’ят! І я суткамі яго супакойвала, сядзела каля яго. На працы адпачынкі за свой кошт брала. А кватэра гэтая?! — Яна ўсхліпнула. — Яшчэ летам нічога… жыць можна. А як толькі восень, дык быццам зло якое з ланцуга тут зрываецца! Пакой Анжэлчын, што лядоўня робіцца! Вецер ледзь не сцены прадзімае, скразнякі па ўсіх пакоях нізам ходзяць, босаю нагою на падлогу не ступіць, — яна перавяла дыханне і было бачна, што паціху супакойваецца. Слёз ужо не было, толькі голас гучаў жаласна. — Волечка з хвароб не вылазіць, то вушы, то горла, то кашаль… У гэтай кватэры тры труны стаяла, дзве смерці было, — зірнула на Людмілу Міхайлаўну. — А вы ніколі не задумваліся, што за вельмі кароткі час уся сям’я вымерла, на той свет пайшлі, адно за адным… Нават Вадзім з малым Мікіткам! І іх зачапіла. Як праклятая гэтая кватэра! Над ёю штось нядобрае вісіць! — Таццяна развяла рукамі: — Дык як жа нам быць цяпер?! У гэтых сценах? Я баюся… Элементарна баюся! Раптам бяда якая і на нас абрынецца?!

Людміла Міхайлаўна дакранулася да Таццянчынага пляча, пагладзіла яго, і, як бы са шкадаваннем, сказала:

— Ну-у, калі ты ўжо ў галаву бярэш такое, дык табе трэба экстрасэнса шукаць. Ведаеш… Сёння ў цягніку да мяне жанчына падсела, дык яна недзе пад нашымі Баранавічамі знахарку знайшла, рады шукала.

— Людміла Міхайлаўна, кіньце, — Таццянка махнула рукою. — Я сама сабе экстрасэнс, — і трошкі сцішыла голас. — Вы ж ведалі, што ў іх золата было, манеты залатыя… А Васіль жа Канстанцінавіч не панскага роду! Не шляхта! Анжэлка казала, што ад бабулі яны засталіся. Ад сялянкі, значыцца, у спадчыну перайшлі? Не было золата ў сялян. Напэўна, скарб нейкі бацькі Васіля Канстанцінавіча знайшлі. Вось і азалаціліся! Але ж скарбы, ну ведаеце… спрадвеку так кажуць, шчасця не даюць, яны бядою дыхаюць. З часам гэтае золата сябе і паказала. Праявіла на ўсю моц… з размахам!

— Ну, а ты… Ты, Таццянка, чаго баішся? Ты ж да золата гэтага дачынення не маеш.

— Як сказаць, вы паслухайце… — і Таццянка яшчэ больш прыцішыла голас. — Не стала Васіля Канстанцінавіча і мы, канечне ж, адзенне яго… Самі разумееце. Нешта аддалі некаму, а штосьці і павыкідалі… Я гарнітур яго святочны глядзела, у ім і знайшла чатыры манеткі. Дзірка ў кішэні была, яны і запалі пад падшэўку. Ён іх шукаў, не знайшоў, а мяне, дурную, гэтае золата прыцягнула… Манеткі мы прадалі, грошы на нешта разышліся. Вось і ўкруціліся мы ў вір гэтай ужо дзесьці там… — узняла рукі ўгору, — асуджанай, няшчаснай сям’і.

Людміла Міхайлаўна ўздыхнула, ёй не спадабалася, як Таццяна выказалася пра сям’ю яе сястры.

— Усе пад Богам ходзім, — сказала яна. — Гэта ўжо, як у каго складзецца. — І зноў уздыхнула. — Ты вось што, Таццянка… Прынясі мне сюды той пакет з лістамі ды фотаздымкамі, што ў Анжэлчыным пакоі. Заседзелася я. Бачыш, як у жыцці бывае. Я дзяўчыну, чалавека чужога кінулася шукаць, а знайшла ўнучку сястры і дачку пляменніцы. Да яе зараз мне трэба ехаць.

— Куды ж вы паедзеце, Людміла Міхайлаўна? Ужо і заняткі маглі скончыцца ва ўніверсітэце. Лепш заўтра, з раніцы…

— Дык жа субота заўтра!

— Нічога… І ў суботу студэнты вучацца, гэта школьнікі адпачываюць. — Запытальна зірнула на Людмілу Міхайлаўну. — Ну, а рэчы? Там біжутэрыя розная ёсць, прыгожая… Вы хоць бы яе забралі. Нэлі аддалі б!

— А-а… — Людміла Міхайлаўна махнула рукой, маўляў, не да біжутэрыі.

І ўжо потым, калі яна развіталася з Таццянай і на якую хвіліну прысела на лаўку каля пад’езда, каб перадыхнуць, адысці ад усяго, што ашаламіла, пра што ўведала з Галчынага ліста, таксама і ад няпростай размовы з Таццянкай, якая нават напаслед ёй сказала: «Вы ж толькі Мані ў галаву не ўкладвайце, што ў яе ёсць правы на гэтую кватэру. Ніякіх правоў у яе няма. Кватэра ўвогуле магла б дзяржаве адысці. Каб не мы, тут зусім бы ўжо чужыя людзі жылі». Але… Магло і гэтак быць. Маглі жыць чужыя людзі, у Васіля не было ніякіх сваякоў, каму б магла застацца кватэра. Толькі ж не думае яна пра ніякую кватэру, што адбылося, тое адбылося, гэта чамусьці Таццянка ўвесь час непакоіцца. А ў яе іншыя думкі: як заўтра Маня павядзе сябе? Як яны сустрэнуцца, як паразмаўляюць?! Можа, Маня выслухае і адвернецца ад яе, і пойдзе… І ніякіх папер не захоча бачыць. Столькі гадоў ніякай радні, і вось аб’явілася, знайшлася! А яна магла крыўду ў душы затаіць, пакутаваць, глыбока хаваючы боль, што не-не ды і разварушваўся…

Валодзька прыязджаў да яе, калі яна зусім малая была, што ён ёй казаў? Напэўна, абнадзеіў чымсьці, сваім прыездам паказаў, што яна не адна на гэтым свеце, што ў яе ёсць нехта са сваякоў, адрас свой пакінуў… І яна, канечне, жыла столькі гадоў нейкай сваёй дзіцячай надзеяй. Канечне, жыла, калі, як толькі апынулася ў Мінску, адразу прыйшла, каб знайсці, пабачыцца з Валодзькам. А ў таго ўжо і костачкі сатлелі, ён у тым жа годзе пайшоў з жыцця, але дзіця не ведала, чакала… Галя напісала ў сваім апошнім пісьме да Анжэлкі, што яна ўжо нічога не можа больш зрабіць для Мані, а што яна рабіла для яе? Маня не казала Таццянцы, што бачылася, што сустракалася з бабуляй. Значыцца, Галка ні разочку не наведала яе, хоць ёй было вядома, у якім дзіцячым доме выхоўваецца. Чаму? А Анжэлка? Уклад грашовы зрабіла, кватэру меркавала ёй пакінуць, паперу афарміла, а сама ніяк не аб’явілася, не паехала ў дзіцячы дом, ці ж не рвалася яе сэрца да свайго дзіцяці? А як яна магла аб’явіцца? Жыццё складвалася без Мані. Вадзіму, напэўна, прызналася… Інакш ці сказаў бы ён бацьку, што кватэру ёсць каму пакінуць. Не Таццянку ж ён меў на ўвазе, кватэра тады ўжо была на Анжэлу перапісана. Дык што ж Анжэлку стрымлівала? А як жа ёй самой быць цяпер? Вячаслаў Станіслававіч прасіў яе патэлефанаваць яму, калі адшукаецца Маня Праневіч… А як яна патэлефануе? Што скажа яму? Маня — дачка Анжэлкі, якую пляменніца нарадзіла ў пятнаццаць гадоў і адмовілася ад яе… Разам з маці, сваццяй яго, пакінулі Маню ў дзіцячым доме! Не-е… — Людміла Міхайлаўна нават ціхенька застагнала. — Такога яна ніколі яму не скажа. Тады — што сказаць?! Гэтага яна не ведала. І пасяшалася адысці ад гэтых сваіх сумных разважанняў, падумаць пра нешта іншае. Успомніла свой сённяшні сон, Галчыны словы: «Скажы Мані, няхай не адварочваецца ад бацькі»… А як яна можа адварочвацца ці не адварочвацца ад яго, калі ўвогуле ніколі нічога не чула пра бацьку?! І нечакана для сябе самой, колькі потым не ўспамінала гэты момант, ніяк не магла вытлумачыць, чаму раптоўна прыняла такое рашэнне, быццам нейкая невядомая сіла штурхала яе, падказвала, што трэба рабіць. Ну, так…

Яна, канечне, павінна паехаць у Зялёны Луг, туды, дзе калісьці жыла сястра. Не факт, што тая, некалі тоўсценькая і не надта гаваркая дзяўчынка Каця, з якой сябравала Анжэлка, яшчэ жыла там… Маглі памяняць кватэру ці ўвогуле пераехаць у іншы горад, але чаму б ёй не паспрабаваць нешта высветліць, дазнацца пра таго ж самага Манінага бацьку? Яна дастала з сумачкі мабільнік, было некалькі званкоў да яе, якіх яна не пачула. Нэля… Глеб… Яшчэ раз Нэля… Глебу тэлефанаваць не стала, набрала нумар дачкі і, выслухаўшы яе, сказала, што ў яе ўсё добра, што з Таццянкай яна ўжо развіталася, і, як аказалася, не дарэмна з ёю сустрэлася, але трэба пад'ехаць яшчэ да адных людзей у Зялёны Луг, адкуль яна перазвоніць. Паклала мабільнік у сумку і паднялася з лаўкі, каб рушыць да трамвайнага прыпынку…

Праз якую гадзіну Людміла Міхайлаўна падыходзіла да дома, які адразу пазнала. Вунь ужо бачыцца той пад'езд, у якім калісьці жыла сястра, і ў глыбіні душы на нейкі момант узнікла сумненне: а ці трэба ёй чапаць тое, што зацягнулася часам, да чаго яе, блізкага, роднага чалавека, ніякім бокам не наблізілі, што ад яе ўтаілі, значыцца, думалі, што гэтая тайна ёй ніколі не раскрыецца… Яна і магла б не раскрыцца, але раптам нібы адумаўся Манін лёс і пачаў імкліва ўсё змяняць, выпісваючы новы сцэнарый яе жыцця. Усё ж адбылося ў лічаныя дні. Імгненна. Нечакана знаходзяцца паперы ў сейфе і тут жа Вячаслаў Станіслававіч едзе да яе ў Баранавічы. Яна хоча пры ім звязацца з дзіцячым домам, ён раіць ёй спачатку паехаць да Таццянкі. Яна знаходзіць у пакеце, даўно прывезеным, Галчын ліст, і Таццянка пацвярджае, што, маўляў, так… Маня — дачка Анжэлкі. А праз некалькі гадзін усё тая ж невядомая сіла зноў падштурхнула яе, зноў падказала, што трэба ехаць сюды… Інтуіцыя? Ці яшчэ штосьці большае? Што кіруе чалавекам, вядзе яго і непрадказальна раскладвае, як лічыць патрэбным, яго дні, гады… Дык трэба і падпарадкавацца гэтай сіле, няхай вядзе яе і далей, яна не будзе працівіцца ёй.

Людміла Міхайлаўна ўвайшла ў цемнаваты пад'езд, дзе яшчэ не гарэла святло, але на дварэ ўжо дзесьці блізка блукаў ранні восеньскі адвячорак. Паднялася на другі паверх, на імгненне затрымалася каля знаёмых дзвярэй, за якімі калісьці пачыналі сваё сямейнае жыццё Галка з Васілём, і націснула на кнопку званка суседняй кватэры…

Дзверы адчыніла поўная, але яшчэ даволі маладая жанчына ў майцы-безрукаўцы з маленькім хлопчыкам на руках, запыталася:

— Вам каго?

Людміла Міхайлаўна ўдыхнула цёплае, вільготнае паветра, якім пацягнула з кватэры, і адказала:

— Мне Каця патрэбна.

Жанчына трошкі памарудзіла, нарэшце прамовіла:

— Ну, я — Каця, але вы, відаць, памыліліся кватэрай.

— А, можа, і не? — Людміла Міхайлаўна кіўнула на зачыненыя дзверы побач. — Тут некалі сям'я жыла, дык дзяўчынка ў іх была: Анжэла… Я — цётка яе, сястра ейнай маці, Галіны Міхайлаўны. Жыву ў Баранавічах.

Людміла Міхайлаўна бачыла, што твар жанчыны змяніўся, памякчэў, у позірку з'явілася цікавасць…

— Праходзьце, — больш ветліва сказала яна. — Толькі асцярожна, тут усё завалена, ступіць няма куды.

Людміла Міхайлаўна прайшла ў невялікі пярэдні пакой, дзе грувасціліся крэслы — адно на адным, тумба з тэлевізарам, на падлозе ўзвышаліся стосы кніжак.

— Ларачка, — гукнула Каця. — Вазьмі Генку да сябе. — І тут жа адазвалася да Людмілы Міхайлаўны: — З Анжэлаю, вой-вой, як даўно мы бачыліся! Як яна? А вы да мяне па нейкай справе?

Да іх выйшла дзяўчынка гадоў дванаццаці, узяла на рукі малога Генку, сказала:

— З ім жа я не змагу шпалеры абдзіраць…

— Ты проста пагуляй з ім, пакуль мы тут пагаворым, — і, калі дзяўчынка пайшла, Каця прапанавала Людміле Міхайлаўне: — Вы прысядзьце сюды, на крэсла…— Падсунула яго бліжэй да яе. — Бачыце, у нас невялікі рамонт, мяняем шпалеры, дык і запрасіць вас няма куды, запэцкаецеся.

— Ды я ж на хвілінку, па справе… Доўга не затрымаюся, — і Людміла Міхайлаўна прысела на крэсла, захвалявалася. — Ты, Кацечка, напэўна мне падкажаш. З хлопцам адным некалі Анжэлку нашу знаёміла, вы тады школьніцамі яшчэ былі. Алегам яго звалі, ён сябраваў з тваім братам. Дык мне б яго каардынаты, — падумала і дадала: — Вядома, калі ты што пра яго цяпер ведаеш.

— Усё зразумела, — хутка адазвалася Каця. — Адваката шукаеце! Алег добры адвакат, да яго многія звяртаюцца, ён умее павесці справу.

«Вось і знайшла я гэтага Алега», — падумала Людміла Міхайлаўна і запыталася:

— Дык як жа мне з ім звязацца? Можа, у цябе тэлефон яго ёсць?

— На жаль…— Каця развяла рукамі, быццам выбачалася. — Не даводзілася мне яму тэлефанаваць. Яны з братам, часам, сустракаюцца яшчэ. А я зрэдку толькі ў магазіне бачуся.

— А з братам ты можаш звязацца?

— Навошта? — хутка адказала Каця. — Алег жыве ад нас недалёка і здаралася, што я з Віцем заходзіла да яго. Значыцца… Калі выйдзеце з нашага пад’езда, — пачала яна тлумачыць Людміле Міхайлаўне, — дык па тратуарнай сцежцы, што паміж дамоў, ідзіце ўглыб квартала, нікуды не зварочвайце, якраз і ўвапрэцеся ў пяцьдзясят шосты дом… Пяты пад’езд у яго, трэці паверх, трохпакаёўка, як і нашая, адно нумара кватэры ўжо дакладна і не памятаю.

— Ты ўсё добра мне, Кацечка, патлумачыла, толькі сляпы не знойдзе… Дзякуй. — І яна паднялася з крэсла. — Больш не буду замінаць. — Усміхнулася. — А я ж некалі жыла тут два гады ў сястры, калі ў медвучылішчы вучылася. Маленькая ты была, бачыш, мяне і не пазнала.

— Я і Галіну Міхайлаўну добра ўжо не помню. Пасля іх ажно тры сям’і жыло. — І тут жа Каця запыталася: — Вы мне не сказалі, як Анжэла? Неяк даўно-даўно тэлефанавала ёй, дык бацька яе сказаў, што замуж у Маскву выйшла.

Людміла Міхайлаўна села, але тут жа і паднялася з крэсла:

— Доўга расказваць не буду, ды і што тут ужо расказваць, у некалькіх словах сказаць можна. Няма ўжо Анжэлы, у авіякатастрофе загінула, з мужам і з маленькім сынам.

— Жах які, — схамянулася Каця. — Шкада Анжэлу…

Калі праз некалькі хвілін Людміла Міхайлаўна пачала развітвацца, Каця сказала ёй:

— Алег павінен вам дапамагчы, але, калі што… На мяне спасылайцеся, скажыце, што я вас накіравала да яго.

«Канечне, скажу, што ад Каці, калі што, — потым думала Людміла Міхайлаўна. — Толькі ж я не па судовай справе, як гэта вырашыла Каця». Яна ўжо выйшла з пад’езда, але пакідаць гэты двор не спяшалася. Нейкае гнятлівае

пачуццё з’явілася ў душы. «Як усё хутка пралятае, мінаецца…— Яна глядзела на вокны другога паверха і разважала…— Гэта напачатку ўсё здаецца бясконца доўгім, а насамрэч людзі нібы прабягаюць па жыцці, і ў кожнага свая дыстанцыя, сатканая з асобных эпізодаў, дзён, начэй… Вось Каця… Ужо і ўспомніць яе не змагла, і Галку не памятае. Гэтаксама і гэты Алег… Анжэлка даўно магла выпасці з яго памяці, як выпадае шмат эпізодаў з жыцця, выпадковых, нязначных. Яму ўжо, напэўна, недзе пад сорак, адвакат… Колькі чалавечых лёсаў прайшло праз яго! Напэўна, шмат самых розных жыццёвых вузлоў давялося разблытваць, а як жа разблытае свой вузел, пра які нават і не здагадваецца? І невядома яшчэ, ці схоча ён нешта разблытваць! У яго ж, напэўна, сям’я, ужо немалыя дзеці… Тады быў момант… Быў юначы парыў. Але вузельчык завязаўся і даў пачатак Манінаму лёсу… гаротнаму лёсу, сірочаму».

Яна яшчэ раз зірнула на вокны другога паверха і дастала мабільнік, каб набраць нумар дачкі і сказаць, што яна ўжо вольная, і, калі Глеб яшчэ на працы, дык няхай бы падабраў яе на якім-небудзь прыпынку, таму што сіл у яе ўжо ніякіх няма штурхацца ў аўтобусе. Выгляд у Людмілы Міхайлаўны сапраўды быў надта стомлены. У яе даўно ўжо не было такога доўгага-доўгага дня, дзе нечакана столькі сплялося ўсяго ў адно і стала, пра што і падумаць ніколі не змагла б, яе цяжкім вузлом, які яна і спрабуе цяпер разблытаць, развязаць…

## Дзень трэці. Ты не сірата, Маня!

Людміла Міхайлаўна, як ні збіралася, як ні спяшалася раніцай у тэхналагічны ўніверсітэт, каб патрапіць туды да заняткаў, а ўсё ж спазнілася, хоць Глеб і падвёз яе да ўніверсітэта. Відаць, толькі-толькі празвінеў званок, таму што ў вестыбюлі, у які зайшла яна, ужо амаль нікога не было. Толькі некалькі хлопцаў хутка ўзбягалі па шырокай высокай лесвіцы, ды каля акна стаялі дзве дзяўчыны і, напэўна, з выкладчыцай. Але вось яшчэ ледзь не бяжыць адзін хлопец, за ім няспешна ідзе дзяўчына, папраўляючы доўгія валасы, да яе і азвалася Людміла Міхайлаўна:

— Затрымайцеся на хвілінку, папытацца хачу… — Дзяўчына прыпынілася, і яна сказала: — Я студэнтку адну вашу шукаю — Маню Праневіч, на лесагаспадарчым факультэце яна вучыцца, дык як мне пабачыцца з ёю, куды трэба ісці?

— Ведаю я Маню Праневіч, але вучуся на іншым факультэце,— прамовіла дзяўчына і дадала: — Гэта толькі на кафедры могуць сказаць, у якой аўдыторыі яна цяпер. Падыміцеся на трэці паверх, хаця… Чакайце, вунь жа Салавейчык стаіць, — і грукнула, пазіраючы на дзяўчат, што размаўлялі з выкладчыцай каля акна: — Салавейчык, Света! Тут Праневіч пытаюцца, дык падкажы… — і дзяўчына хутка ўзбегла па лесвіцы.

— Вы пытаецеся пра Маню? — адгукнулася да Людмілы Міхайлаўны адна з дзяўчат, што стаялі каля акна, але насустрач ёй не пайшла, відаць, не хацела адрывацца ад размовы з выкладчыцай. І Людміла Міхайлаўна сама падышла да іх.

— Так… Я пытаюся, з Баранавіч прыехала. Маня — унучка маёй сястры, мне трэба Маню пабачыць. Ці можна яе паклікаць?

— Зараз Мані няма, — адказала дзяўчына і паглядзела на выкладчыцу. — Яна ў дзве гадзіны будзе, прыходзьце ў дзвесце пятнаццатую аўдыторыю.

— Значыцца, у яе заняткі з абеду?

— Ды не, яна ўчора старасту папярэджвала, што з раніцы яе не будзе, — і тут жа пачала тлумачыць, а хутчэй расказвала для ўсіх: — Нехта з выхаванцаў, што быў разам з ёю ў дзіцячым доме, захварэў цяжка. Аперацыю за мяжой дарагую трэба рабіць, вось былыя сябры грошы на яе і збіраюць. Маня ўсё па скупках бегала, у яе ўпрыгажэнні залатыя былі, але там не тыя грошы давалі. А тут нехта падказаў калекцыянера нейкага, які мастацкія вырабы з золата скупляе. Сёння Маня і паехала да яго, ён абяцаў добра заплаціць, і адразу на рахунак грошы трэба перавесці, — дзяўчына зірнула на выкладчыцу, потым на Людмілу Міхайлаўну і яшчэ раз сказала. — У дзве яна абавязкова будзе ў дзвесце пятнаццатай…

«Напэўна, наборчык той Галчын прадае, — думала Людміла Міхайлаўна, калі выходзіла з універсітэта. — Таццянка ж казала, што па тых Галчыных завушніцах і па ланцужку яе і пазнала. — Яна цяжка ўздыхнула, і на нейкае імгненне ўявіла тыя завушніцы, і тут жа ўспомніла, як моцна накрычала на Анжэлку з-за іх, якая адразу ж пасля жалобнага стала, у той жа дзень, як пахавалі Галку, пачала шукаць той наборчык, і днём раней, як толькі прыехала, шукала, яшчэ і не паплакаўшы як след над труною маці… І, вядома ж, не знайшла. Тады Васіль абвінаваціў яе, маўляў, ты — сястра і ты каля нябожчыцы ўвесь дзень апошні сядзела, дык, можа, яна табе і аддала яго, а магла ты і сама ўзяць… Яна тады моцна пакрыўдзілася на Васіля, і на Анжэлку зазлавала, што не па маці плача, а, бач ты, хутчэй наборчык залаты яе шукае… — Не-е… Не Анжэлчына душа ў Мані. Характарам, відаць, не ў яе. Апошнім, што яе звязвае з крэўнымі людзьмі, хай сабе яны і не сталі роднымі, ахвяруе».

Людміла Міхайлаўна прыпынілася, дастала з сумачкі мабільнік і, набраўшы нумар, запыталася:

— Глеб, ты ўжо дома, ці, можа, яшчэ дзе ў горадзе? Маня толькі а другой гадзіне ва ўніверсітэце будзе. Не пабачылася я з ёю, — і калі пачула, што зяць недалёка ад вакзала, што ён заехаў у прыватную майстэрню, каб ключ ад кабінета службовага запасны зрабіць, папрасіла: — Дык заедзь па мяне. Я пачакаю трошкі каля ўніверсітэта. Потым у Зялёны Луг падкінеш, туды, адкуль забіраў мяне ўчора.

Доўга чакаць Глеба Людміле Міхайлаўне не давялося. Ён прыехаў хутка. І, як толькі яна села ў машыну, пацікавіўся:

— А вы чаго ў Зялёны Луг едзеце? Вам зноў да той жанчыны трэба? Пра нешта забыліся спытаць у яе?

— Ды не, запыталася пра ўсё я, Глеб. Проста час ёсць да сустрэчы з Маняй, дык з чалавекам яшчэ адным пабачуся. У гэтым жа раёне жыве, адвакат ён.

Глеб зірнуў на яе, усміхнуўся:

— Няўжо сабраліся кватэру ў Таццяны Віктараўны адбіраць?

Яна адмоўна крутнула галавою і было відно, што нешта яе непакоіць.

— Ты лепш з Нэляю жартуй, — адказала Глебу, — а мне вось што скажы, чуў калі-небудзь, што золата знойдзенае бяду прыносіць?

Глеб пацiснуў плячамі.

— Я шмат кніжак чытаў пра скарбы, праўда, прыгодніцкіх… Там, наадварот, шчаслівыя былі, калі хто іх знаходзіў. — І ён запытальна зірнуў на Людмілу Міхайлаўну.

Яна маўчала. Думкі набягалі адна на адну: «Таццянка цэлую тэорыю вывела пра Васілёвы чырвонцы, пра манеты яго залатыя. А, можа, нешта такое і ёсць у жыцці, шмат жа самых розных загадак, якія і разгадаць немагчыма. Можа, толькі на тым свеце пра нешта такое і ўведаеш. Я вось учора думала

пра нейкую невядомую сілу, якая раптоўна штосьці пачала змяняць у Манінім жыцці, быццам адумаўся яе лёс. Гэтая сіла і мяне ўсё штурхае і штурхае… А сёння тая дзяўчына каля акна сказала, што Маня па скупках бегала, каб упрыгажэнні Галіны прадаць, і праз гэтае золата дапамагчы якомусьці хлопцу, каб хоць нейкай малой частачкай прыкласціся да яго ўратавання. Дык, можа, як толькі яна пачала бегаць па скупках, то тут жа сваяк Вячаслава Станіслававіча і знайшоў паперы ў Вадзімавым сейфе, і ўсё ўмомант закруцілася… Хм-м, дзіўна як! Ці ж не магло быць гэтак?» А ўслых сказала Глебу:

— Ты, напэўна, цяпер дадому паедзеш, дык парайся з Нэляю… Можа, мы сёння ўсе разам да мяне ў Баранавічы пад'едзем? Якая там язда, тут жа не вельмі далёка. Мяне завязеш, ну і Маня пабачыць, дзе і як я жыву… — Паглядзела на яго. — Глеб, мне ж пра многае трэба яе распытаць, ды і ёй самой ёсць што сказаць, нам усім трэба адразу радніцца.

— Пабачым, Людміла Міхайлаўна. Вунь ужо той прыпынак, дзе ўчора садзіліся ў машыну…

І калі Глеб ад'ехаў, яна не пайшла дварамі, як учора раіла ёй Каця, а недзе з паўквартала прайшла вуліцай. Потым звярнула з яе, дзе, зводдаль, быццам пад лінейку стаялі тры пяціпавярховыя будынкі. «Напэўна, адзін з гэтых і будзе тым домам, які мне патрэбен», — падумалася ёй. І Людміла Міхайлаўна не памылілася. Як толькі падышла бліжэй, на сярэднім з іх адразу і пабачыла буйную лічбу: 56. Заўважыла і сцежку, выкладзеную тратуарнай пліткай, якая сапраўды ледзь не ўпіралася ў гэты дом. Падзівілася, што пад вокнамі на клумбах надта ж весела разрасліся чарнабрыўцы, як быццам яшчэ і не восень. Наадварот, яны вельмі хораша ўпісваліся ў золата дрэў, што раскінулі свае, такія ж вясёлыя галіны над імі. Каля пятага пад'езда на лавачцы сядзеў дзядок з кульбаю ў руках і ў шэрым капелюшы. Чамусьці прывіталася з ім, і дзядок ніяк не адрэагаваў на яе прывітанне. «Нядобры знак, — мільганула ў яе думка. — Яшчэ не зайшла ў пад'езд, а ўжо адчула няветлівасць». Няветлівым аказаўся і гаспадар кватэры, куды яна пазваніла на трэцім паверсе. Праўда, дзверы адчыніў вельмі хутка, як быццам ён толькі і чакаў яе. Яна адзначыла, што выгляд у яго яшчэ даволі малады, прыемная знешнасць, высокі, хударлявы.

— Я… Вы ж — Алег, — Людміла Міхайлаўна запнулася. — Даруйце, не ведаю, як вас па-бацьку. У мяне надзвычай далікатная справа…

Ён склаў рукі, абшчапіўшы далонямі локці і, як ёй здалося, нават з лёгкай іроніяй скрывіў рот, але адазваўся да яе даволі спакойна:

— Гэта — кватэра, шаноўная. Для ўсіх спраў, далікатных і не далікатных, ёсць офіс, а прасцей — кантора.

— Алег… Ды скажыце, як вас па-бацьку. Я, можа, выказалася не так, у мяне асабістая справа да вас, — і Людміла Міхайлаўна здзівілася рашучасці, з якой прамовіла гэтыя словы. — Вы даруйце, адрас гэты мне Каця дала. Яна тут жыве недалёка, сястра вашага даўняга сябра.

Ён нейкую хвіліну павагаўся, потым сказаў глуха, без асаблівай ахвоты:

— Праходзьце, — і тут жа папярэдзіў: — Толькі не надоўга, я ўжо сабраны на дачу, — і паказаў рукою: — Ідзіце ў той пакой…

Людміла Міхайлаўна прайшла ў невялікі пакойчык, дзе адразу кінулася ў вочы непрыбранасць. На пісьмовым стале стаяла талерка з кавалачкам каўбасы і некалькімі акуркамі, на канапе — скамечаная коўдра, на дыване — шматкі парванай паперы, на падлозе каля канапы — шкарпэткі…

— Дзівіцеся з майго кавардаку? — праз некалькі хвілін ён таксама зайшоў у пакой, і Людміле Міхайлаўне падумалася, што, напэўна, ён тэлефанаваў Каці, пытаўся пра яе, таму і памякчэў голас.

— Сядайце, — ён паказаў рукою на канапу і спахапіўся: — Хвілінку, прыбяру коўдру, — і тут жа папрасіў: — Вы толькі не распыляйцеся. Усё сцісла. Выкажаце сутнасць. Я спяшаюся.

Ён акуратна склаў коўдру. Яна села. Узнікла паўза. Людміла Міхайлаўна пашкадавала, што загадзя не прадумала гэтую размову: расказаць сцісла пра Маню ў яе, вядома ж, ніяк не атрымаецца.

— Ну, вы шукаеце адваката, — ён па-свойму вытлумачыў яе маўчанне і спрабаваў падштурхнуць яе да размовы, абапёрся аб стол і, як у пярэднім пакоі, склаў рукі…

— Ды які адвакат,— запнулася на хвілінку, — бацьку я шукаю, — і далей яна ўжо не перапынялася. Гаварыла без перадыху, пакуль не расказала яму ўсё, што пачула ад Таццянкі: — Вам, можа, і цяжка будзе ўспомніць, дваццаць гадоў прайшло… Каця, ну, што адрас ваш дала, з Анжэлкай — пляменніцай маёй вас некалі пазнаёміла. Вы тады студэнтам былі і прыйшлі да Кацінага брата. Ну… Вось… Тады, у той вечар і адбылося ў вас з Анжэлкаю, што можа адбыцца паміж дзяўчынай і хлопцам. Ды якая дзяўчына! Анжэлка ў дзявятым класе яшчэ вучылася. Ад вас яна тады зацяжарыла. Нарадзіла дзяўчынку, і сіратою сваё дзіця зрабіла, у радзільным доме яе пакінула. Маня ў дзіцячым доме выхоўвалася. Ну, а цяпер… Цяпер — студэнтка, у тэхналагічным універсітэце тут, у Мінску, вучыцца.

Людміла Міхайлаўна ўздыхнула. З хваляваннем пазірала на яго: што ж адкажа?

— Аднак гісторыйка, — нарэшце адазваўся ён і зноўку злёгку скрывіў рот, як быццам хацеў усміхнуцца. — Можа, я і паверыў бы ў гэтую вашу баечку, калі б не адно але… — у яго голасе з’явіліся зласлівыя ноткі: — Вы цікава тут пра ўсё расказалі, але… я — бяздзетны, шаноўная! — Адышоў ад стала, і, спыніўшыся перад ёю, паўтарыў. —Бяз-дзе-тны! Ад мяне жонка некалькі тыдняў таму сышла… Не было ў нас дзяцей, хоць і пражылі адзінаццаць гадоў. Ад іншага яна зацяжарыла, да яго і пайшла. А вы мне тут вешаеце!..

— Я нічога вам не вешаю, божа барані. — І ўмомант з усяго, што ён сказаў, Людміла Міхайлаўна зрабіла сваю выснову, адазвалася так, быццам думала ўслых: — А, можа, таму вы цяпер і бяздзетны, што ўсё з Маняю так выйшла… Мною сіла нейкая авалодала і павяла, павяла, бачыце, я нават да вас дайшла. А чаго — і сама не ведаю. Мне невядома нават, чаму дзяўчынку запісалі на прозвішча Праневіч, на дзявочае прозвішча сястры, ад мяне ўсё ўтаілі. — Людміла Міхайлаўна надзвычай разнервавалася, пачала тлумачыць: — Галя — гэта сястра мая, яна мне нічога не расказала. Пра Маню я сама толькі ўчора дазналася, што мы радня. Спачатку Вячаслаў Станіслававіч прыехаў, паперы, якія нейкай Мані тычыліся, прывёз… А ўчора я ліст сястрынябожчыцы прачытала, дзе яна пра яе пісала, Анжэлку прасіла не пакідаць Маню. А потым я яшчэ і пачула ад сяброўкі Анжэлчынай — і пра Маню, і пра вас таксама. Анжэлка ёй расказвала калісьці… — Яна на нейкі момант перадыхнула і ціха дадала: — А тое, што ў вас няма больш дзяцей… Кажуць жа, што ўсё, што б ні рабіў чалавек, да яго тым жа назад вяртаецца. Гэта вас нешта пакарала.

— За грэх маладосці, — неяк асабліва з’едліва сказаў ён.

— Значыцца, быў гэты самы грэх? Вы ўсё ўспомнілі, ага-а?

— Ды якая вам розніца, што я ўспомніў, што не ўспомніў! Я ўсё вам сказаў!

— Э-э, розніца ёсць…— Людміла Міхайлаўна на імгненне задумалася. — Сіротамі робяцца пры розных абставінах. У адных бацькі, здараецца,

паміраюць, але дзеці пра іх ведаюць, можа, нават помняць. І шануюць памяць пра іх, па-свойму аплакваюць… А ёсць сіроты, каму няма каго ні шанаваць, ні аплакваць. Вось і Маня Анжэлку не аплакала, і, відаць, ніколі ўжо не паплача па ёй. — І яна міжволі адвярнулася да акна, на вочы нагарнуліся слёзы, ёй стала шкада пляменніцу, а ўголас пашкадавала Маню: — Сірата, ад якой адмовіліся…

Людміле Міхайлаўне яшчэ вельмі хацелася расказаць гэтаму чалавеку пра свой учарашні сон, але ён нечакана выйшаў з пакоя і вельмі хутка вярнуўся з вялікай дарожнай сумкай у руках, паставіў яе на падлогу, гучна выцягнуў ніжнюю шуфлядку стала і пачаў перакладваць з яе ў сумку невялікія кардонныя каробкі.

— Я, відаць, вам замінаю? Сама не ведаю, чаго так разгаварылася.

— А я вас не слухаю! Я ж не псіхіятр! Вы працягвайце, працягвайце і далей. Я зараз сыду з кватэры, мне ўжо даўно ехаць трэба было, а вы можаце заставацца, і гаварыце, гаварыце… Самі сабе, колькі палічыце патрэбным! Толькі не забудзьцеся потым на кнопку замка націснуць.

— Ды што вы, Бог з вамі, чаго гэта я буду заставацца ў вашай кватэры? — Людміла Міхайлаўна паднялася з канапы і выгляд у яе быў вельмі збянтэжаны. — Мне думалася… Я думала… Сёння пабачу гэтую дзяўчынку… Мне хацелася ёй сказаць: «Ты не сірата, Маня, не сірата!» Ды што ж гэта я? Даруйце. Усяго вам добрага.

— Хвілінку, — ён не чакаў, што яна так хутка пачне развітвацца, і нават трошкі разгубіўся. — Я правяду вас да дзвярэй, — запнуўся і, можа, нават нечакана для сябе, запытаўся: — Скажыце, а вы нічога з таго, што я пачуў, не расказвалі Кацярыне?

— А што расказваць? Гэта ўсё толькі вас тычыцца… асабістае. — Яна ўжо выйшла з пакоя і, азірнуўшыся, хутка прамовіла: — Ідзіце ж, адчыняйце мне дзверы…

Да ўніверсітэта Людміла Міхайлаўна падыходзіла з цяжкім настроем. Яна нават выйшла на прыпынак раней з трамвая: хацелася на паветра… «Ну, што мне крыўдаваць на гэтага чалавека? Як па-іншаму ён мог сябе павесці? На што яна разлічвала, што ён з радасцю ўспрыме пачутае, што паверыць ёй, як яна паверыла Таццянцы? А, можа, Таццянка што наблытала, столькі часу прайшло? Але ж ён не стаў адмаўляцца, не сказаў, што ніякай Анжэлкі ён не ведае. Ну і што? Прыснілася Галя? Ды якія толькі сны не сняцца! Не трэба было ў гэта лезці? Навошта ехала? — дакарала яна сябе і згадвала свайго бацьку. — Ён любіў да ўсяго дакопвацца, ва ўсё ўнікаць, шукаючы ў людзях нейкую сваю праўду, калі бачыў белае, дык хацеў, каб і іншыя бачылі белае, і часта расчароўваўся, тады маці суцяшала, супакойвала яго, маўляў, ты сам лезеш, куды цябе не просяць, чаго ты чэпішся да людзей, калі гэта проста — людзі… Кожны чалавек па-свойму ўстроены, нікому нічога ты не дакажаш… Але ж я нічога гэтаму чалавеку і не даказвала, я проста расказала яму пра Маню…»

Людміла Міхайлаўна ўжо стаяла каля будынка ўніверсітэта і хацела падняцца на ганак, але паглядзела на гадзіннік і вярнулася, села на лаўку. Было яшчэ рана ісці ў дзвесце пятнаццатую аўдыторыю, і яна зноў у думках вярнулася да размовы з Алегам. «Канечне, калі ён прапанаваў ёй прайсці ў пакой, а сам затрымаўся, не пайшоў следам, без сумнення, з другога пакоя ён патэлефанаваў Каці і запытаўся пра мяне, каму яна дала адрас. Кацця нагадала яму пра Анжэлку, і, калі ён успомніў, сказала, што я — яе цётка. Так… Ён злаваўся, у нейкі момант гатовы быў узарвацца, хоць я ні ў чым яго не вінавація,

і разам з тым, калі я ўжо сабралася ісці, пацікавіўся, ці не расказала я пра ўсё гэта Каці. Ён баіцца агалоскі, значыцца, дапускае, што такое магло здарыцца». І раптам… Людміла Міхайлаўна ажно прыўзнялася з лаўкі… Міма яе ішла дзяўчына, і, калі б яна нават ніколі нічога не чула пра Маню, увогуле не ведала б пра яе існаванне, дык, пабачыўшы гэтую дзяўчыну, напэўна азірнулася б і тут жа ўспомніла б сястру Галю, — такое было падабенства… «Ну, зусім як Галка ў маладосці, калі паступала ў мединстытут, калі б яшчэ той пінжачок, які любіла насіць сястра, — яна захвалявалася, штосьці вельмі жаласнае агортвала і агортвала яе. — Анжэлка, здаецца, і не надта была падобная на маці, а ўнучка нібы падправіла прыроду, і тая ў яе абліччы адлюстравала вобраз сястры. Пышныя каштанавыя валасы, вочы…»

Дзяўчына ўжо набліжалася да ганка, і Людміла Міхайлаўна ціха гукнула:

— Маня!

Потым яшчэ раз, больш гучна:

— Маня Праневіч!

Дзяўчына азірнулася і спынілася. У вялікіх вачах, што нагадвалі дзве цёмныя бліскучыя пацеркі, застыла пытанне:

— Вы звалі мяне?

## ЭПІЛОГ

Прайшло два месяцы з дня гэтай першай сустрэчы з Маняй. Людміла Міхайлаўна пачынала ўжо рыхтавацца да сустрэчы Новага года і найперш зняла з гарышча вялізную кардонную каробку з цацкамі, якімі звычайна ўпрыгожвала навагоднюю ёлку. Спачатку гэтую ёлку яны ставілі ў хаце для дачкі Нэлі, клалі пад яе падарункі… А як Нэля вырасла, дык Коля, ейны муж, пасадзіў невялікую елачку недалёка ад хаты, на краёчку саду каля старых дрэў, маўляў, дрэвы некалі спілуюцца, і елка вельмі прыгожа глядзецца будзе. А яна і так добра глядзелася. Яны пачалі ўпрыгожваць штогод яе вось гэтымі цацкамі. І ў хаце ўжо ёлку не ставілі, для каго было ставіць? Нэля, як толькі паступіла на вучобу ў мінскі ўніверсітэт, не заўжды прыязджала на навагоднія свята да іх, а калі выйшла замуж за Глеба, дык ужо стала і правілам: прыязджаць да іх на Каляды, а Новы год яны сустракалі ў Мінску…

Яна падсунула крэсла да акна, села і раскрыла каробку, міжволі ўздыхнула: доўга ж яна не даставала гэтыя цацкі, летась не чапала іх. Коля памёр у верасні, на пачатку восені, дык як ужо было і ўпрыгожваць тую елачку без яго! І Людміла Міхайлаўна зірнула ў акно, падзівілася, што за нейкіх сем гадоў елачка вырасла, стала сапраўдным вялікім дрэвам. Заўтра пачну яе ўпрыгожваць, — падумала і схілілася над раскрытай каробкай… «Што ні цацка, дык абавязкова нейкі ўспамін, быццам год за годам схаваны ў гэтай каробцы. Жывеш, жывеш, а потым жыццё аказваецца такім кароткім, праз цацку можна кожны новы год успомніць, а іх жа, гэтыя цацкі, пачалі збіраць яшчэ ейныя бацькі, як ставілі ёлку для старэйшых дзяцей, для брата, для сястры Галі, калі яна сама яшчэ і не нарадзілася». Узяла ў рукі маленькую блішчастую шышачку… Гэтая са старых цацак, сціпленькая, бацькі некалі куплялі, і выбіралі якую больш танную, не да цацак было ў тым безграшоўі, калі цукеркі, святам былі. Іх, разам з цацкамі, таксама на ёлку вешалі. А яшчэ ланцужкі, якія рабілі з каляровых вокладак старых сшыткаў. Дагэтуль на дне гэтай каробкі ляжаць тыя ланцужкі. Людміла Міхайлаўна ўзяла ў рукі ружовенькі самавар, ён таксама са старых цацак, — падумала. І якраз у гэты момант званком адазваўся

мабільнік. Паклала цацачны самавар назад у каробку, паднялася з крэсла, узяла са стала мабільнік і тут жа адазвалася на званок:

— Маня! Добра, што звоніш… А я саменька што цацкі ёлачныя гляджу, каробку зняла з гарышча. Як ты там?

— Сёння перад заняткамі да мяне мужчына прыходзіў, — сказала Маня. — Алегам Пятровічам назваўся.

Людміле Міхайлаўне здалося, што ў яе перахапілася дыханне: няўжо? Але яна гэтак жа спакойна і проста запыталася:

— Ну і што ён, Манечка?

— Сказаў, што як быццам… Ну, што ён можа аказацца маім бацькам, — не адразу адказала Маня. — Што не ўсё проста і гладка бывае ў жыцці… І яшчэ сказаў, што нам з ім невялікую працэдуру трэба прайсці, праз якую бацькоўства ўстанаўліваецца, каб у мяне ніколі не ўзнікла сумнення ў тым, што ён мой бацька, каб я прыняла яго, як роднага мне чалавека.

«Бач, які разумны… Хутчэй за ўсё хоча прайсці тую працэдуру, каб самому ўпэўніцца, каб у самога не было ніякіх сумненняў, а сказаў, што гэта патрэбна для Мані», — падумала Людміла Міхайлаўна і запыталася:

— Ну і што ж, Манечка, ты яму адказала?

— Разгубілася я. Вагалася… Дзіўна мне было бацьку бачыць. І цяпер не верыцца. Але я пагадзілася. Мы павінны заўтра з ім сустрэцца.

Людміла Міхайлаўна больш нічога не пыталася ў Мані, толькі коратка сказала:

— Я знаёма з Алегам Пятровічам. Ты правільна зрабіла, што пагадзілася.

А праз некалькі дзён, напярэдадні навагодняга свята, калі ў двары ўжо зіхотка красавалася ўпрыгожаная елачка, прыцягваючы цікаўныя ўсмешлівыя позіркі прахожых, а Людміла Міхайлаўна, як калісьці, у ранейшыя часы, з прыўзнятым настроем рыхтавалася да прыезду гасцей: чакала Нэлю, Глеба, Маню, быў яшчэ адзін тэлефонны званок на яе хатні нумар. Тэлефанавала Таццянка, і адразу ж пасля слоў прывітання нейкім апушчаным, бясколерным голасам запыталася:

— Ну, куды ж вы зноў прапалі, цётка Люда?! — Памаўчала і пацікавілася: — Маню, канечне ж, бачылі? Паперы, вядома ж, паказвалі ёй…

— Я не толькі паказвала, Танечка, я ўсё Мані аддала. Гэта ж яе паперы.

— Ну-у… Свята ж… Новы год, — Таццянка запнулася. — Вы, можа, гэтымі днямі будзеце ў Мінску? Не магу супакоіцца. Памятаеце, я вам казала… У Васіля Канстанцінавіча была манія, а ў мяне штосьці сваё пачалося, як быццам нешта кругамі наўкол цалюткімі днямі ходзіць і ходзіць… — У голасе чулася ўсё тая ж апушчанасць. — Волечка наша зноў хварэе. І ўвогуле, Людміла Міхайлаўна… Анжэлку часам успомню, плакаць хочацца. Цяжка мне, — Таццянка ўздыхнула, змоўкла на момант, быццам абдумвала, ці тое кажа, і нарэшце прамовіла: — Вы ж, канечне, прыедзеце да Нэлі на свята, дык прыходзьце з Маняю да нас. Бацькі мае летась дом пабудавалі пад Мінскам, дык хочуць, каб мы там жылі.

І Людміла Міхайлаўна не ведала, што адказаць Таццянцы, толькі падумала: «Навошта ж мне цяпер з Маняю некуды ездзіць? У яе ж — бацька… Дык няхай яны ўжо самі мяркуюць, што да чаго, трэба ім ехаць да Таццянкі ці не?!»



Таццяна МУШЫНСКАЯ

# «ПРАСТОРА ЧУЖОЙ ДУШЫ...»

* * *

Мяне закранула каханне
Сваім лебядзіным крылом.
Спагадаю і дараваннем
Па сцежках нябачных вяло.

Яно закранула і знікла,
Растала, як водар і гук.
Мне пёрка ў далонях пакінула
І сэрца трывожнага стук.

* * *

Няўжо наша стрэча
Застанецца мараю?
Яна прыйдзе воблакам,
Яна сыдзе хмараю.

Няўжо наша стрэча
Застанецца мрояю?
Нязбытнасць джаліць
Пчаліным роем.

* * *

Мой кожны верш —
Ілюзія і сон,
Што можа стацца
Некалі рэальнасцю.

* * *

Прастора чужой душы —
Я крочу ў ёй асцярожна.
Парушыць гармонію можна
Ў прасторы чужой душы.

Пачую мелодыю ціхую —
Ты толькі яе не глушы!
На ўсе пытанні адкажа
Гучанне чужой душы.

* * *

Ёсць столькі адценняў
У слове «каханне»!

---

*__Мушынская Таццяна Міхайлаўна__ нарадзілася 26 чэрвеня 1958 года ў Мінску. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1981). Працавала ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». З 1991 года — рэдактар аддзела музыкі часопіса «Мастацтва».*

*Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар паэтычных кніг «Я вандрую ў стагоддзях» (1998), «Рабро Адама» (1999), «Сны кахання» (2006), «Души ожиданье» (2006), кнігі прозы «Доўгае развітанне» (1997), кніг для дзяцей «Калі тата — Дзед Мароз» (2000), «Свята печанай бульбы» (2003), «Вожыкі ў футбол гуляюць» (2008) і інш.*

Каханне — цярпенне,
Каханне — трыванне.

Каханне — нянавісць,
Каханне — пакута,
Душа да душы
Ланцугамі прыкута.

І рэўнасць, і прага
Каханнем завецца…
І ўсё гэта ў песнях
Маіх адгукнецца.

* * *

Я пабачу цябе... Я пабачу!
Лёс уласны ўвесь перайначу!

Я пачую, ў сабе я пачую
Несціханую музыку тую.

Я крануся. Цябе я крануся
І з табой болей не размінуся!

* * *

Як хваля марская няспынна
Цалуе пустэльны свой бераг,
Так поўняцца мроі начныя
Думкай адной — пра цябе.

Як вецер вяснова-халодны
Гайдае заснулыя дрэвы,
Так словы твае неспакойныя
Гайдаюць пачуцці мае.

* * *

Я буду тваёй асалодай
Ці неспадзяванай прыгодай.
І шчасцем тваім бясконцым,
Адзіным святлом у аконцы.

Няспыннай марскою хваляй,
Засмужанай сіняй даллю,
І караваем поўным,
І сумнай гаротнай поўняй.

І казачнаю дубровай,
І небам хмурна-суровым,
І вогненнаю маланкай,
І ціхай пяшчотаю ранку.

* * *

На далёкім  крутым віражы,
Калі знікнуць усе міражы,
Будзе так непрытульна душы...
Памажы ты мне, памажы!

Памажы сваёю спагадай
І адчайна-вясёлым паглядам,
Лёс шчаслівы навараажы!
Памажы ты мне, памажы...

* * *

Ноч без зор.
Знік зорак узор.
Больш не маю надзей.
Ноч — дакор.

Сум і змрок.
Зусім адна.
Ноч да самага дна
Не відна.

Хоць крычы
Ў безнадзейнай начы.
Сэрца маё,
Лепш маўчы!

Поўніцца раніца
Непазбыўнай журбой.
Дзе ж падзецца
Ад сябе самой?

Самота і роспач,
Туга і адчай
Спавіваюць душу.
Адзіноту страчай!

Адзінота звініць
Нясцерпнай цішынёй.
Як вярнуцца
Да сябе самой?

* * *

Найперш расхінулася бездань
пачуццяў,
Што цягне, як вір, у сваю глыбіню.
Пасля расхінулася бездань разлукі,
Лёс скажа зласліва: «Цябе не міну!»

Пасля расхінулася бездань адчаю,
Як рэха пачутага:
«Больш не кахаю...»
Прадоннем бязмежнага сіняга мора
Здаецца прастора сардэчнага гора.

* * *

Вецер кружыць старое лісцё
На месцы былога спаткання.

Жменька попелу, жменька прысаку
На кастрышчы былога кахання.

* * *

Адышло, адбалела,
Больш ужо не баліць,
Не вярэдзіць пякуча,
У душы не смыліць.

Адышло, адбалела,
Успамінамі стала,
У паветры празрыстым
Ўсё растала, растала…



Наталія КАСЦЮЧЭНКА

# ЗДРАДА

*Аповесць*

***Здраднікі здраджваюць***
***перш за ўсё сабе...***
Плутарх

Мне сорак сем гадоў. Я даўно, з юнацтва, пішу. Але ніколі не пісала пра любоў. Не, не пра тую любоў, якою называюць пачуцці да радзімы, да маці, да чалавецтва, да самога жыцця, урэшце. Я маю на ўвазе каханне — любоў паміж хлопчыкам і дзяўчынкай, юнаком і дзяўчынай, мужчынам і жанчынай.

Калі я прыносіла свае рукапісы ў рэдакцыю і ў мяне цікавіліся, пра што ж я пішу, то пасля маёй нядоўгай разгубленасці адразу ж, звычайна з нейкай паблажлівай добразычлівасцю або нават з іроніяй, падказвалі: «Пра каханне?» Ну, вядома ж, пра што яшчэ можа пісаць дзяўчына, жанчына?! І тады я рашуча і абурана адказвала: «Ну што вы! Тэмы маёй прозы больш сур’ёзныя. Я закранаю пытанні філасофскія і псіхалагічныя. Напрыклад: дзеля чаго жыве чалавек на зямлі?»

Так ужо атрымалася. Ніводнай гісторыі пра каханне за столькі год. І вось. Я хачу паспрабаваць напісаць пра любоў, расказаць пра любоў. І не магу пайсці з жыцця, так ні разу не паспрабаваўшы зрабіць гэта. Хаця кульмінацыяй гісторыі, якую раскажу, будзе здрада. Магчыма, слушна тое, што сказаў К. Гельвецый: «Сутнасць любві заключаецца ў тым, каб ніколі не быць шчаслівым».

Балюча вяртацца ў думках у мінулае. Можа, нехта іншы, калі ўзгадвае пражытыя гады, падсумоўвае ў першую чаргу асабістыя перамогі і дасягненні. Ён беражліва ўкладвае іх, нібы цаглінкі, у той падмурак, на якім самазадаволена пакажа сябе свету. Такі ўпэўнена гаворыць пра свае заслугі. Ён горды.

---

*__Касцючэнка Наталія Мікалаеўна__ нарадзілася 5 кастрычніка 1963 года ў вёсцы Старая Іолча Брагінскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла лесагаспадарчы факультэт Беларускага тэхналагічнага інстытута імя С. М. Кірава (1987). Працавала інжынерам-азеляняльнікам у Мінскзелянбудзе, дырэктарам прадпрыемства па фітадызайне і народных промыслах «Белы комін», дырэктарам фітастудыі «Квецень».*

*З 2005 года працавала рэдактарам аддзела прозы часопіса «Нёман». Цяпер — намеснік старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ.*

*Аўтар кніг прозы «Таямніцы пачуццяў» (2005), «Сугучнасць» (2005), «Добро и зло — две половинки любви» (2005).*

Біяграфія... Часцей за ўсё добра напісаная ўласная біяграфія, адметна станоўчая і пазітыўная, — не больш чым ілюзія. Ілюзія, у якую гатовы паверыць сам аўтар і, што яшчэ горш, прымусіць паверыць у яе іншых. І чым болей у гэтай ілюзіі ілюзорнага, тым з большым запалам яе прымаюць і ёй апладзіруюць.

Нам патрэбны героі... Але ці існуе герой, які ні разу не ўпаў? Вялікая і горкая праўда ў словах: «Свет падзяляецца на грэшнікаў, якія лічаць сябе праведнікамі, і праведнікаў, якія лічаць сябе грэшнікамі».

Але я глыбока веру, што далёка не кожны, застаючыся сам-насам з сабой, ганарыцца сваім пражытым. Напэўна, шмат хто пакутуе ад пачуцця віны або сораму і жадае перапісаць тыя ці іншыя старонкі жыцця нанава.

Наўрад ці хто здольны расказаць сапраўдную сваю біяграфію. Сапраўдная біяграфія такая ж рэдкая з'ява, як і добра пражытае жыццё. Далёка не кожнаму дадзена захаваць сябе ў поўнай чысціні, заўсёды быць свабодным ад слабасцей і спакус, славалюбства альбо зайздрасці. Наўрад ці каму ўдасца ні разу не заплямiць сваю душу і не стаць здраднікам.

Запомніліся тыя ночы... Месячныя, ясныя, зорныя і цёмныя — хоць вока выкалі. Тыя ночы хвалявалі магічнай мяккасцю ціхіх гукаў, мігатлівай цемраддзю, што трапяталася ў мудрагелістых ценях і формах, пахамі, якія глыбока пранікалі ў кроў і рабіліся часткай тваёй плоці. Ночы, якія пахлі жыццём, нараджалі ў тваёй душы найтанчэйшыя мелодыі невядомых раней пачуццяў і зачароўвалі цябе.

Якім было зачараванне ад тых начэй... Яшчэ б! Хіба не абвастраюць успрыманне свету ўласцівыя юнацтву захопленасць і стан улюбёнасці альбо чаканне, прадчуванне гэтага стану ўлюбёнасці? Калі табе яшчэ пятнаццаць. І ты ў хваляванні толькі пачынаеш адчуваць, хаця яшчэ не ўсведамляеш, тыя змены, што зараджаюцца ў табе, ва ўсёй тваёй сутнасці, змены, якія як дзіва, як нейкае ашаламляльнае адкрыццё рыхтуе ўсім без выключэння прырода.

Юнае, асаблівае, нечаканае, хвалюючае... Якое ўзрушвае цябе да глыбіні душы, здзіўляе сваёй сілай, першае пачуццё! На тое, першае, не будзе потым падобнага ніколі. Па вастрыні, па чысціні, па шчырасці...

Ночы... Далёкія і блізкія. Як далёка і як блізка ўсё тое, што было ў тваім жыцці. Летнія ночы ў вёсцы, цішыню якіх не парушала, а нават неяк па-асабліваму ўзмацняла нястрымная весялосць ап'янелых імі конікаў. Толькі брэх сабак калі-нікалі разрываў яе, нагадваў, што ў гэтай ачмурэлай, амаль нерэальнай прасторы нехта не дрэмле, не забываецца, а заўжды напагатове. Ночы, якія неўпрыкмет растаюць, шарэюць і знікаюць пасля першых пеўняў.

Часам, з ужо дарослай іроніяй і лёгкім смуткам, прыгадваю, як мы са стрыечнай сястрой Рытай вярталіся пасля нашых начных гулянняў. Як асцярожна, каб нікога не разбудзіць у хаце, намацаўшы клямку, паволі адчынялі цяжкія ўваходныя дзверы, якія, нягледзячы на нашае старанне, усё роўна па-здрадніцку скрыпелі. У сенцах пасля прахалоды ночы нас абдавала нейкай цёплай і салодкай душнасцю, знаёмай і прыемнай. Пахла лекавымі травамі, якія сушыла бабуля, і малаком. Не забуду, пакуль жыву, тыя адчуванні і пахі.

Помню, як на дыбачках, няспешна, каб не зачапіцца за ўслон ці табурэтку, мы праходзілі праз першы пакой, дзе спалі бабуля з дзедам, у другі. Там ціхенька здымалі з сябе прыгожыя сукенкі, клапатліва, навобмацак вешалі іх на спінкі крэслаў і ўсё гэтак жа, на дыбачках, баючыся, каб не рыпелі масніцы, пракрадваліся да сваіх ложкаў.

Доўга не маглі заснуць. Зачароўвала і не дазваляла адвесці ад яе вачэй перарэзаная крыжам аконнай рамы светла-шэрая дрымота адыходзячай ночы. У душы ўсё яшчэ віравалі эмоцыі, хацелася падзяліцца ўражаннямі, пашаптацца. І мы не вытрымлівалі, шапталіся, пакуль на другой палове пакоя разбуджаны намі старэйшы Рыцін брат, які быў ужо жанаты і страціў цікавасць да такіх вось начных прыгод, сярдзіта не абрываў нас: «Дзеўкі! Ану, не перашкаджайце спаць!»

Пачуцці, падобныя на тыя, што ўпершыню нараджаліся ў юнай душы, будуць на працягу жыцця нараджацца яшчэ неаднойчы, але ніколі ўжо не ўзнікне пры гэтым такога шчырага здзіўлення, такой прагнай чуллівасці, упэўненасці ў выключнасці і непаўторнасці тых з’яў, што ўразілі цябе сваёй навізной. Пачуццё, якое яшчэ не абцяжарыў зямны вопыт і да якога натуральна, па прыродзе сваёй, рыхтуецца яшчэ недасведчаная і наіўная душа, наканавана стаць ледзь не містычным. Першая закаханасць застаецца назаўсёды асаблівай. Не-не, ды і замільгаціць яна ў памяці далёкім, але нязгасным агеньчыкам, непадобным на тыя, што былі або яшчэ будуць узгарацца ў тваім жыцці.

Дзеўкі-дзеўкі... Не спіцца ім. Шэпчуцца... І ўсё ўглядаюцца, углядаюцца туды, за акно, у шэрую, ледзь-ледзь кранутую святлом наступнага дня, раніцу...

Што за гэтым акном іх чакае? Што?..

Тым летам, калі я і Рыта, нясмела і сарамліва, натхнёныя самымі лепшымі спадзяваннямі, хадзілі ў клуб або да ракі, дзе ля вогнішча збіралася моладзь, мы хацелі падабацца, закахацца, сустрэць кожная свайго «прынца на белым кані».

Не бяруся разважаць пра пачуцці сястры, але ўжо ў маёй душы дык сапраўды агромністым світальным зарывам разгаралася надзея. Яшчэ не паспеўшы закахацца, я ўжо была закаханая. Чароўна закаханая. Часта раніцай, падышоўшы да акна, углядалася некуды паверх дрэў у садзе, у тое, што пакуль яшчэ было нябачным, недасяжным і далёкім, і ў думках запытвала: «Дзе ты? Хто? Што робіш? Ты ж ёсць, мая палавінка. Жывеш... І не здагадваешся, што я вось тут, зараз, думаю пра цябе... »

І я, вось так дзівосна закаханая, ужо была не адна. Я свята верыла ў існаванне яго — нарачонага, адзінага, роднага. І не сумнявалася, што хутка, вельмі хутка адбудзецца наша з ім сустрэча.

Аднак першы, хто смела, рашуча і адкрыта падышоў да мяне, аказаўся зусім не «прынцам». Мяне, нясмелую і сарамлівую, выбраў самы дзёрзкі ў аколіцы, умоўна судзімы за бойку п’яніца і хуліган. Фёдар, альбо, як яго называлі, «цыган», быў гады на тры старэйшы за мяне. Рослага, плячыстага, з моцнымі кулакамі і яркай, нейкай не мясцовай, ці то паўднёва-ўкраінскай, ці то малдаванскай, знешнасцю чарнявага хлапца абміналі і баяліся. Ды і сам ён трымаўся ад усіх асобна. Я ні разу не бачыла яго цвярозым.

Маё чаканне цуду нечакана раскалолася і рассыпалася на дробныя асколкі, калі ён аднойчы, як толькі скончыліся ў клубе танцы, трохі пахістваючыся, падышоў, прама, без сарамлівасці паглядзеў мне ў вочы і, нічога не спытаўшы, моўчкі, без ніводнага слова, на невялічкай адлегласці пайшоў следам за мной і сястрой. І так на другі вечар. І на наступны...

«Ох, і папалася ты, дзяўчынка. Ён жа бандыт...» — спачувалі мне. Я не паварочвала галавы ў яго бок, калі вярталася з клуба дадому з сястрой і сяброўкамі. Але бакавым зрокам бачыла яго вялізны цёмны сілуэт і агеньчык

папяросы. Я яго баялася. І гэта быў нейкі асаблівы, амаль жывёльны страх. Гарачым клубком нарастала нервовае напружанне. Увесь прыдуманы мною чароўны свет абрынуўся. І цяпер, апроч Фёдара, ніхто з хлопцаў ужо не мог да мяне падысці.

— Ну ж, мае ўнучкі, раскажыце, хто вас праводзіў? — як звычайна, раніцай, з хітраватай цікаўнасцю распытвала ў мяне і Рыты бабуля. І, заклапочана ківаючы галавой, гаварыла ў адрас майго «кавалера»: — Гэта ж трэба, каб хлопец з самай апошняй на ўсе вёскі сям'і ды выбраў маю ўнучку! Кажуць, што ў іх у хаце, можа, і ложка няма. На сене, засцеленым посцілкай, спяць, разам з сабакамі. Ні каровы, нічога. Толькі гарэлачку папіваюць. То ж, мая ўнучка, самыя апошнія людзі! Яны ў нас тутака нядаўна, з Украіны перасяліліся: Варка, яе мужык, двое сыноў — адзін з іх — твой, унучка, кавалер — ды дачка, самая меншая, Ленка. Кажуць, у дзіцяці з абутку толькі гумавыя галошы... Малая была, шчэ ў школу не хадзіла, а ўжо ў бацькоў выпіць прасіла. Падыдзе да стала і плача: «Хачу гарэлкі», — і, пакамячыўшы ў пальцах падол свайго фартуха, паглядзела на мяне і папярэдзіла: — Добра, што Федзька, што за табой ходзіць, стрэльбу калі ў суседа бярэ ды палюе, а то б зусім есці не было чаго. Глядзі ж, мая ўнучка, ото ж надхудшых за іх няма.

Рыту, хоць тая была і старэйшая за мяне на два гады, пакуль ніхто не праводзіў. Не вельмі добрая ў бабулі пра яе любімых унучак вымалёўвалася карціна. Хоць дзеўкі і відныя, як яна лічыла, гарадскія, але... Паўздыхаўшы, а затым падбадзёрыўшы нас: «Ну, нічога, нічога... Вашае яшчэ ўсё наперадзе», — бабуля пачала выстаўляць з печы сняданак.

Аднойчы Фёдар прыйшоў у клуб вельмі п'яны. Яго хістала ў розныя бакі, нібы той дуб ад моцнага ветру. І раптам, калі загучала танцавальная музыка, ён накіраваўся да мяне рашуча, размашыста і няроўна. Я спалохалася. Мне здавалася, што такі, як ён, калі яму адмовіць у танцы, заб'е альбо ўдарыць. Пакінуўшы сястру і сяброўак, я выбегла на вуліцу, стралой прамчалася праз астравок святла, якое падала ад адзінага ля клуба ліхтара, і, азірнуўшыся, ці не гоніцца за мной Фёдар, убегла ў толькі дзе-нідзе прарэджаную жоўтымі агеньчыкамі хат цемрадзь.

Каб мяне нельга было ні дагнаць, ні ўбачыць, я пабегла не па вёсцы, а па бездарожжы, праз саўгасны сад, спатыкаючыся, чаплялася за кусты, потым цераз поле ўсцяж лесу. Я баялася, што ён апярэдзіць мяне і сустрэне каля хаты. І гэта быў не проста страх, а нешта большае. Задыхаючыся, я падала, уставала і зноў бегла. Усе наступныя дні, да ад'езду ў Мінск, я ў клуб не хадзіла.

Праз год, летам, я зноў прыехала ў вёску.

Стаяла спякота. І, нягледзячы на чэрвень, у сівізне лісця вербаў, што тужліва выцягнуліся ўздоўж вясковай вуліцы, праглядвала жаўцізна. Толькі аднойчы прайшоў невялікі дождж, які скупа апырскнуў высушаныя дабяла пяскі.

Апякаючы ступні, я хадзіла басанож. Штогод, ад пачатку лета да восені, у любое надвор'е, як у гарачыя дні, так і ў дождж, і ў прахалоду, я ігнаравала абутак, думала, а дакладней, адчувала, што такім чынам, праз дакрананне, пранікае ў мяне нейкая асаблівая пяшчота роднай зямлі. Цэлы год я сумавала па ёй. Прывозіла з сабой у Мінск жменькі яе ў карабках з-пад запалак. Калі прыязджала ў вёску, дык разувалася проста на станцыі, каб вось так, басанож, хадзіць да ад'езду, абуваючыся толькі з нагоды — у клуб або ў горад.

Я зноў з задавальненнем стала бываць у клубе і з радасцю выявіла, што Фёдар там не паяўляецца. Вярталіся пасля танцаў вялікай кампаніяй. Мяне і

маіх сяброvак, ні да каго адкрыта не заляцаючыся і нікога з нас не выдзяляючы, праводзілі хлопцы з нашай і суседніх вёсак. Іншы раз яны каталі нас на матацыклах, а калі лавілі рыбу — частавалі ля Дняпра юшкай.

Аднойчы Надзя, адна з вясковых сяброvак, папрасіла мяне схадзіць з ёю ў суседнюю вёску да сваякоў.

— Захварэла карова. А Віталіка прывезлі на лета. Мамка сказала, каб схадзіла па малако.

Віталік — шасцігадовы бялявы хлопчык, сын яе старэйшай сястры, што жыла недалёка, за трыццаць кіламетраў, у маладым горадзе атамшчыкаў — Прыпяці. Там, на Чарнобыльскай атамнай станцыі, працаваў яе муж. Кожнае лета яна прывозіла свайго Віталіка ў вёску да бацькоў — «на малако».

Іолча... Суседняя вёска. Яна бліжэй да Дняпра. Уздоўж яе вербы яшчэ больш магутныя, чым у маёй любімай Прудавіцы. Мы з Надзяй сядзім на лавачцы, прыхінуўшыся да штыкетніку. Чакаем, пакуль падояць карову, якая толькі што прыйшла з пашы. Хвалямі льсніцца на вербах ад ветру, што раптам узняўся, сівое лісце. Чырванавата-ружовы захад сонца злёгку падрумяньвае яго, ледзь прыкметнымі мазкамі накладвае цёплае адценне.

— Можа, вецер дождж нагоніць... Хай бы... А то ўсё сохне без дажджу, — па-даросламу заклапочана разважае Надзя.

Іалчанская дарога не пясчаная, як у нас у Прудавіцы. Яна вымашчана бетоннымі плітамі і цягнецца да Дняпра. Бетонныя пліты, можна сказаць, вечныя, яны захаваліся з часоў вайны. Дарогу так да гэтага дня і называюць — ваеннай. Пліты цёплыя, ледзь шурпатыя, па іх хадзіць прыемна. А пасля дажджу дзе-нідзе на іх у лужынах стаіць вада. Яна настолькі чыстая і празрыстая і так хутка праграецца, што ў такіх лужынах, быццам у маленькіх басейнах, любяць плёскацца дзеці.

І раптам з суседняга двара з нізкім, скрыўленым частаколам, які нібы патануў у траве, выйшаў, выкатваючы ровар, да рамы якога была прывязана вудачка, высокі плячысты хлопец. Ён глянуў у наш бок, лёгка перакінуў нагу і ўскочыў на ровар, потым няспешна стаў ездзіць узад-уперад па бетонцы, застаючыся ў полі нашага зроку.

Надзя, задуменна правёўшы яго вачыма, заўважыла:

— Адкуль у яго веласіпед? У Даленюкоў і на хлеб грошай няма. Можа, папрасіў у хлопцаў?

Я ашаломлена і ў той жа час зачаравана, без боязі глядзела на хлопца. Гэта быў Фёдар. Цвярозы. Клятчастая кашуля, завязаная над жыватом вузлом, ад ветру надзімалася, нібы ветразь. Вецер развяваў яго непаслухмяныя чорныя кучары. Шакаладны загар цёпла адцяняўся вечаровым сонцам. Ён трымаў спіну роўна, галаву — горда, і, зрабіўшы колькі кругоў ля нас, паехаў у бок Дняпра.

— Ух, ты! — захоплена і, як і раней, задуменна выдыхнула Надзя. — От жа Бог даў чалавеку прыгажосць! А між іншым, калі б знайшлася такая дзяўчына — але каб ён у яе па-сапраўднаму закахаўся — ды ўзяла яго ў рукі, які б з яго хлопец мог быць!..

Надзя вымавіла гэтыя словы з такой шчырай і гарачай упэўненасцю, што мне падалося, быццам яны зыходзілі ад некага іншага, больш важнага і дасведчанага, хто сказаў мне гэта праз яе, каб закрануць маю душу ўсім іх сэнсам.

У выхадны дзень Фёдар прыйшоў у клуб. У кіназале паказвалі ўжо чарговы фільм, што прывозілі штодня, апроч панядзелка.

Успышкай мяне ахапіла радасць. Я хацела, каб ён прыйшоў: цвярозы альбо п'яны — любы.

Фёдар быў п'яны. Я сядзела ў другім радзе. Адшукаўшы мяне вачыма, ён неяк груба, цяжка апусціўся на крэсла наперадзе мяне. Азірнуўся.

— Фёдар, — упершыню звярнулася да яго я, — шкада, што ты нецвярозы. А я думала папрасіць правесці мяне дадому.

Ён на імгненне абмёр, страсянуў галавой, нічога не адказаўшы, усхапіўся і выйшаў.

Да канца фільма, якога я, тупа гледзячы на экран, вядома ж, не бачыла, ён у кіназале не з'явіўся. У памяшканні, дзе пасля былі танцы, яго таксама не аказалася.

Пасля танцаў я ў агульным гурце выйшла з клуба. Разам з сяброўкамі прайшла асвечаную ліхтаром частку дарогі. І тут узнік ён! Не так, як мінулым летам, на адлегласці, а побач, зусім побач.

Мы ішлі і размаўлялі, але мала. Аб чым — не помню. Больш маўчалі. Запомнілася толькі хваляванне.

Пазней ён раскажа мне, што тады, пакінуўшы кіназал, накіраваўся прама да калодзежа, і чэрпаючы вядро за вядром ваду, пракульваў сабе на галаву.

— Ты будзеш у клубе заўтра? — запытаў ля маіх веснічак Фёдар.

— Не трэба ў клуб, Федзя, — мы ўпершыню стаялі блізка, твар у твар. Толькі я глядзела на яго знізу ўверх, а ён — ледзь нахіліўшы да мяне галаву. Так я яшчэ ніколі ні перад кім не стаяла. Пачуццё, якое я пры гэтым зведала, не перадаць словамі, але яно застаецца свежым і вострым дагэтуль. — Прыходзь лепш, як пачне цямнець, сюды. Толькі цвярозы.

Ён, пагадзіўшыся, кіўнуў. Не развітваючыся, я пайшла ў хату.

Мы нават не дамовіліся аб часе сустрэчы. І наступным днём, не вельмі старанна, паспешліва выканаўшы нескладаныя бабуліны даручэнні, у хвалюючым, крыху нервовым і ў той жа час шчаслівым чаканні я выглядала ў акно, назіраючы, як цямнее вечар.

Адчувала, ведала: калі... Здавалася, цэлую вечнасць ішла ад хаты да веснічак. Дрыжачымі рукамі адчыніла іх і ў нерашучасці спынілася. Мае вочы выхапілі на светлаватым фоне пясчанай дарогі знаёмы цёмны сілуэт, які быў спачатку нерухомы, а потым упэўнена накіраваўся ў мой бок.

Я і Фёдар сталі сустракацца. Не ў клубе. А ля маіх веснічак.

Мы прагульваліся па вёсцы, шпацыравалі па дарозе ўздоўж лесу, нават хадзілі на луг. Я — заўжды басанож. Мне падабалася быць нашмат ніжэйшай за Фёдара ростам і адчуваць яго фізічную перавагу. Тая акалічнасць, што я босая і што мы хадзілі ў цемры, узмацняла яго хваляванне за мяне, ад чаго я ўпотай цешылася. Хоць і выяўляў ён свой клопат ледзь прыкметна і стрымана, толькі ўздрыгваў, калі я дзе-небудзь злёгку спатыкалася, і асцярожна прытрымліваў мяне за руку.

Мне было прыемна, што такі смелы, магчыма, грубы і моцны чалавек так кранальна баяўся браць маю далонь у сваю. Але калі гэта здаралася, я з захапленнем адчувала надзейную мазолістую пяшчоту яго моцнай рукі. Паступова вадзіць мяне за руку амаль да світання стала адзінай і самай большай блізкасцю, якую ён дазволіў сабе.

Фёдар хадзіў на сустрэчу са мной штовечар, а раніцай ішоў на працу. І з таго першага нашага спаткання п'яным яго я не бачыла. Падчас сустрэч мы часцей за ўсё маўчалі. Але іншы раз, жадаючы даведацца што-небудзь пра яго жыццё, я асцярожна, хаця і з вялікай цяжкасцю, натыкаючыся на яго панурае супраціўленне, выцягвала з яго скупыя словы.

Тое, аб чым я даведвалася пра Фёдара ад яго самога і ад іншых, адначасова і радавала, і прычыняла боль.

— Мая ўнучка, — раз-пораз паведамляла бабуля, — людзі так дрэнна гавораць пра цябе. Сягоння ізноў у лаўцы пыталіся: «Ці праўда, што твая Наташка з гэтым Даленюком зблыталася? А мы ж думалі, яна такая харошая ды сціплая дзяўчынка».

— Бабулечка, а чым жа я не сціплая? Ён зусім не крыўдзіць мяне. І мы нічога дрэннага не робім, — як магла апраўдвалася я.

А яна працягвала пераконваць:

— Я веру, унучка. Ды толькі ж ён не для цябе. Хто ты, а хто ён. Хто яго бацькі, а хто твае. — І ўздыхаючы: — Той жа Федзька пасля васьмі класаў школу кінуў, так піў. А ты ў нас выдатніца, гарадская, разумных бацькоў! Нашто ён табе? Ох, і сорамна мне перад людзьмі, мая ўнучка. Ох, і сорамна. Не такога хлопца я табе хацела.

І тады, слухаючы бабулю, я раптам зразумела, здагадалася пра тое, у чым не прызнавалася самой сабе: сустракаючыся з Фёдарам, я саромелася яго, як саромеюцца дрэнных продкаў альбо сваякоў-злачынцаў, і старалася, каб мяне не ўбачылі побач з ім людзі. Ці не таму перастала хадзіць у клуб? І разам з маёй душэўнай слабасцю і баязлівасцю зарадзілася і хутка стала набіраць сілу здрада, хай сабе пакуль яшчэ не прыкметная, але сапраўдная.

Аднойчы, ходзячы з Фёдарам позна ўвечары па вёсцы, мы сустрэлі даярак, якія вярталіся з фермы. Я не прывіталася, баючыся, што мяне пазнаюць па голасе, і хацела «скрозь зямлю праваліцца». Добра, што ў цемры Фёдар не ўбачыў, як я пачырванела.

Тое, што ён зрэдку расказваў пра сябе, калі мне з цяжкасцю, але ўсё ж удавалася разгаварыць яго, кранала і хвалявала. У такія хвіліны я сама брала яго за руку і злёгку сціскала яе.

З дзяцінства Фёдар быў, хутчэй за ўсё, не хуліганам, як лічылі людзі, а задзіракам, які біўся з тымі, хто крыўдзіў. Сам жа ён называў сябе не інакш як вырадкам. І ці магла быць іншай самаацэнка ў чалавека, па натуры запальчыва-ранімага, гордага і непакорлівага, але які ўвесь час сутыкаўся з кпінамі, пагардай і скосымі позіркамі аднавяскоўцаў? І ў яго постаці, і ў разгорнутых шырокіх плячах, і ў тым, як ён высока насіў сваю чубатую галаву на моцнай шыі, і ў жаўлаках, якія нярэдка хадзілі пад яго смуглымі скуламі, я ўгадвала гэту гордую непакорлівасць і з захапленнем, нават з нейкай незразумелай асалодай успрымала яе ў ім.

Ён біўся. Біўся хлапчуком, калі вясковыя дзеці дражнілі і насміхаліся з яго. Падымаў кулак падлеткам, каб нанесці ўдар у адказ. Ён ненавідзеў п'янства сваіх блізкіх і, каб заглушыць тое, што ўвесь час мучыла яго, выпальвала душу, піў сам. Піў, курыў і, сціснуўшы зубы, маўчаў. Чамусьці менавіта такім, з жаўлакамі, якія часта хадзілі пад скуламі, мне часам успамінаецца яго аблічча. «П'яніца», «бандыт», «хуліган», або проста, па дадзеным яму ад нараджэння лёсе, — ізгой...

І той чорны цень няўмольна-бязлітаснай людской пагарды, які, колькі ён помніў сябе, нязменна цягнуўся следам за ім, падпоўз, працягваючы свае агідныя шчупальцы, і да мяне. Людская пагалоска... Людзі пляткарылі, шапталіся, абгаворвалі, смакуючы, перадавалі пачутае ў вочы і за вочы. Усіх, нават прыяцелек, маё сяброўства з Фёдарам бянтэжыла.

І дзядуля, калі пачуў ад некага благое пра мяне, зайшоў у хату, акінуў мяне гнеўным позіркам і працадзіў скрозь зубы:

— Бач, якая аказалася ўнучка! Знайшла з кім блытацца... Дажыць да такой ганьбы!..

Бабуля засмуцілася. Я таксама. Едкай агіднай атрутай уваходзіла ў мяне чужое асуджэнне. І тады мне так нястрымна захацелася вызваліцца, адмыцца ад яго, скінуць з сябе ўсё тое бруднае, што я ледзь не рассталася з Фёдарам. Перастала выходзіць да яго за веснічкі. А ён прыходзіў і чакаў.

Але ў душы чалавека столькі супярэчнасцей, адно пачуццё, бывае, ідзе ў разлад з другім.

Праз некалькі дзён я не вытрымала, выйшла да Фёдара. Ён ні пра што не спытаў. І мы проста, побач, моўчкі пайшлі... За вёску, на луг. Толькі бясконцае, бяздоннае, наша з ім неба без слоў размаўляла з намі, абдымала, разумела і суцяшала.

Ніколі ні з кім мне не даводзілася вось так маўчаць. Але як лёгка, як шчасліва было ад таго нязмушанага маўчання...

Фёдар працаваў у саўгаснай брыгадзе рознарабочым. Трохі пазней — на трактары. Калі раней ён кожны свой заробак, проста кажучы, прапіваў, то на гэты раз...

Увечары, як толькі сцямнела, я доўга стаяла ля веснічак, углядалася ў шэрую стужку дарогі, нервавалася, потым пайшла ў напрамку яго вёскі, вярнулася, услухоўвалася — Фёдара не было. Здзекліва нялюба на гэты раз стракаталі конікі. Калючымі зоркамі холадна глядзела на мяне неба. Ціха, непазнавальна і непрыемна пуста было вакол... Без яго. Злой п’яўкай смактала душу трывога.

Як жа гэта нясцерпна — вось так чакаць. Гадзіна, болей?..

Спачатку я не ўбачыла яго, а пачула тупат ног. Я ведала, што гэта ён. Фёдар бег. У цемры ледзь не наляцеў на мяне і рэзка спыніўся, перарывіста і шумна хапаючы ротам паветра. Ён быў апрануты ў нешта светлае, а на грудзях, на светлым фоне — цёмныя плямы.

Я здзіўлена, наколькі гэта было магчыма ў цемры, прыглядалася да яго.

— Што здарылася?

— Ды вось, — усё яшчэ шумна дыхаючы, са смехам пачаў гаварыць Фёдар, — хацеў пахваліцца перад табой. З палучкі ў лаўцы сарочку купіў.

Я працягнула руку і стала кранаць цёмныя ліпкія плямы на ёй.

— Што гэта?

— Кроў, — засмяяўся Фёдар. — Думаў прыйсці да цябе ў новай сарочцы, ды не паспеў. Кавалеры твае не далі. Я-то нічога, а яны здачы атрымалі. Помніць будуць. Толькі хто ж так робіць: восем на аднаго...

— Якія яшчэ кавалеры?

— Ды ўсе з вашай кампаніі, у якой ты гуляла да мяне.

— Што значыць, гуляла? Мы ж так, усе разам, каб не сумна было. Без заляцанняў.

— Ты думаеш, я не ведаю. — Фёдар перастаў усміхацца і спакойна, сур’ёзна сказаў: — Я ўсё пра цябе ведаю. Спадабалася ты там некаторым. — І, пераводзячы дыханне, з яўнай гордасцю, працягваў, нібы справаздачу перад камандаваннем даваў пасля бою: — Я б з імі справіўся хутка, калі б спінай было да чаго ўперціся. Упрэшся спінай — і ўсе перад табой. Тады ўжо ніхто цябе не падолее. А так абкружылі з усіх бакоў. Вось і затрымаўся...

Я не ведала, ці плакаць мне, ці смяяцца. Спытала:

— За што яны цябе?

— Чакалі. Знаді, што да цябе іду. Вырашылі папярэдзіць: буду хадзіць — прыб’юць. — І цвёрда дадаў: — Хацелі не пусціць. Не выйдзе.

Ля калодзежа, набраўшы ў вядро вады, мы замылі кроў на яго кашулі. Фёдар сказаў, што яна бірузовая. І я ўявіла, як ён выбіраў і купляў яе і як радаваўся, калі ішоў у ёй на спатканне.

Сэрца ныла. Я папрасіла:

— Федзя, пойдзем заўтра ў клуб.

Увесь наступны дзень я ўяўляла, як увайду з Фёдарам у клуб, трымаючы яго за руку перад усімі, не адпускаючы. Як горда, смела і з пагардай пагляджу ў вочы тым... Абавязкова пагляджу. І ўпэўнена паклялася сабе: «Я буду засцерагаць Фёдара, ад усякага зла засцерагаць. І ніколі больш не засаромеюся таго, што я з ім!»

Вечарам мы з Фёдарам весела і рашуча адправіліся ў клуб. Увайшлі, калі пасля фільма пачаліся танцы. Я трымала яго за руку. Тое, што мне ўбачылася, было як у запаволеным кіно. Чамусьці ўсе, так мне здалося, быццам у нейкай разгубленасці, сталі глядзець на нас. І яны сапраўды глядзелі. Здзіўлена і з цікавасцю. Я раптам адчула, што не ведаю, куды вочы схаваць, і па-здрадніцку выслабаніла руку. Фёдар, ледзь схіліўшы да мяне галаву, ціха запытаў:

— Калі хочаш, пойдзем?

Я, не ўзнімаючы вачэй, кіўнула. І мы пайшлі.

Праз нейкі час Фёдару далі пакой у доме, які належаў саўгасу. Ён перасяліўся туды  і забраў з сабой малодшую сястру.

— Няхай я недавучыўся. А Ленцы трэба дапамагчы. Там, з маімі, якая вучоба? Сап’ецца. А харошая ж дзяўчынка. Шкада яе.

Мяне кранаў такі дарослы, мужчынскі клопат Фёдара пра сястру. З кожнай зарплаты ён спраўляў ёй штосьці з вопраткі і абутку. І калі дзяліўся або раіўся са мной, я дзесьці ў душы радавалася і ўпотай ганарылася сваім дачыненнем да гэтага.

Падчас зімовых канікулаў я прыехала ў вёску з бацькамі. Жадаючы пазбегнуць непрыемных размоў, бо бацька ў мяне, як і дзядуля, суровага характару, бабуля мяне падманула, паведаміўшы, што Фёдара раптоўна прызвалі ў армію.

Я здагадвалася, што армія — мара Фёдара, таму што ў ёй ён бачыў адзіную магчымасць паехаць з вёскі, дзе пераважыў столькі прыніжэнняў. Ён часта звяртаўся ў Брагінскі райваенкамат, прасіў, каб яго прызвалі. Але безвынікова. Перашкодай была ці то нейкая хвароба, ці то ўмоўная судзімасць за бойку. Я дакладна не ведала і, каб не бянтэжыць Фёдара, не дапытвалася.

Я засумавала, хоць недзе ў душы парадавалася за яго, а перад ад’ездам у Мінск захацела, падзяліўшыся сваімі планамі з бабуляй, наведаць Лену, нягледзячы на тое, што з ёю яшчэ не сустракалася.

Фёдар жа ні ў якую армію не быў прызваны і, атрымаўшы ад мяне ліст з паведамленнем, што прыеду, кожны вечар прыходзіў на тое месца, дзе мы сустракаліся летам. Бабуля, як потым мне прызналася, яго цішком выглядала і вельмі перажывала, а пасля не вытрымала і сама выйшла да яго.

— Мой жа ж унучак, — сказала яна Фёдару, — Наташка прасіла перадаць, што не хоча з табой сустракацца. Ты ж і сам зразумей — не па табе яна, Федзька. Не хадзі сюды болей.

А за два дні да майго ад’езду бабуля ва ўсім прызналася.

Увесь вечар я, пакуль зусім не змерзла, стаяла на вуліцы. Фёдара не было. А назаўтра раніцой бабуля, пакаяўшыся, паведаміла:

— Наташачка, унучка мая, не перажывай. Я з самага рання збегала да яго маткі і наказала перадаць Федзьку, што ты будзеш чакаць яго ў шэсць гадзін вечара ля двара.

Я ледзь дачакалася вечара. Шэсць гадзін, сем — Фёдар не з'явіўся. Зноў штосьці было не так... Падманулі, не перадалі? Або нешта здарылася? Я, ужо не адчуваючы ні страху, ні сораму, рашыла зараз жа сама пайсці да яго. І пайшла, прайшла амаль паўдарогі. І раптам насустрач мне, па снезе, у адных штанах і майцы — ён. Зноў бягом. Не пазнаўшы, прабег міма.

Я яго паклікала:

— Фёдар!

І зараз бачу, як ён стаіць перада мной на марозе ў тапках на босыя ногі і апраўдваецца:

— Я ж не жыву з бацькамі. Матка от толькі прыйшла і сказала, калі я сядзеў за сталом і вячэраў. Гляджу на гадзіннік — пачатак восьмай. Я ў чым быў, у тым і пабег. Чуў, як матка ўслед крычала: «Дурны, вярніся! Адзенься...»

Ці варта расказваць аб той сустрэчы, аб перажытых пачуццях? Наступным днём я з бацькамі паехала.

А Фёдар перахварэў запаленнем лёгкіх.

Вясной, у маі, яго і сапраўды прызвалі ў армію. Я прыехала развітацца. У той адзіны вечар ішоў дождж. І мы схаваліся ад яго ў саўгасным свірне, дзверы якога былі шырока расчынены. Праз гэты праём віднелася цёмная сцяна лесу, які быў блізка, за фермай. Фёдар ляжаў на сене на спіне, закінуўшы рукі за галаву, і глядзеў на мяне. Я сядзела побач, высцеліўшы вакол сябе шырокі падол сваёй сукенкі, і глядзела на лес. Мы моўчкі развітваліся.

— Я буду табе пісаць, — раптам Фёдар прыўстаў і рэзка пацягнуўся да мяне.

Такі яго парыў усхваляваў, адгукнуўся ўва мне раптоўнай гарачынёй. Потым ён, быццам нечага спалохаўся, гэтак жа рэзка адкінуўся назад.

Фёдар пайшоў у армію, так ні разу і не пацалаваўшы мяне.

Я вучылася на лесагаспадарчым факультэце ў тэхналагічным інстытуце. Па праўдзе сказаць, бацька, не палічыўшыся з маім жаданнем, перад гэтым настаяў, каб я паступала ў народнагаспадарчы. Але, калі ён быў у камандзіроўцы, я, паспяхова здаўшы тры экзамены, забрала адтуль дакументы.

Бацька ў мяне фізік, мама — матэматык. Пачуўшы пра маё жаданне стаць філолагам або журналістам, бацька катэгарычна запярэчыў:

— Журналісты, як і ўсе іншыя пісакі, — балбатуны. Гуманітарны — гэта несур'ёзна. Ну што ж, калі ўжо не захацела ў наргас на фінансавы, выбірай самастойна прафесію, але давай дамовімся: паступаць будзеш толькі на тэхнічны факультэт.

Выбрала лесагаспадарчы. Усё ж прыроду я любіла. Ні фінансістам, ні тым больш бухгалтарам быць не хацела.

Але хоць я і вучылася ў тэхнічным інстытуце, калі-нікалі пісала вершы і апавяданні, друкавала іх у студэнцкай газеце.

З Фёдарам перапісваліся. Мае лісты былі доўгія, можа, нават з празмернымі падрабязнасцямі. Напэўна, так я задавальняла сваю патрэбу ў творчасці. Я пісала, быццам вяла дзённік, расказвала пра ўсё, што хвалявала, адчувала

і аб чым думала. Яго лісты былі, наадварот, кароткія, надзвычай лаканічныя, напісаныя невыразным почыркам. І з памылкамі. Фёдар звычайна паведамляў, што служба ідзе нармальна, што жывы, здаровы і сумуе. Змест кожнага яго ліста я ведала загадзя, перш чым распячатаць канверт.

Маме было непрыемна бачыць тыя лісты, што прыходзілі на наш адрас. Такая перапіска, на яе думку, не рабіла гонару ні мне, ні ўсёй нашай сям'і. Яна чакала, не хаваючы ад мяне свайго непрымання нашага з Фёдарам сяброўства, калі ж уся гэта бязглуздзіца, нарэшце, скончыцца. Неяк мама незадаволена падала мне чарговы ліст, які знайшла ў паштовай скрынцы — звычайна пошту я старалася забіраць сама, — і, настаўляючы, сказала:

— Як ты не бачыш, што вы — не пара. Вы вельмі розныя па ўзроўні. З часам закаханасць праходзіць, саступіўшы месца прыхільнасці, сяброўству і духоўнай блізкасці, якія магчымы пры адной умове — калі ёсць агульныя інтарэсы. І вось тады ты адчуеш, наколькі памылілася ў выбары. Няхай ён нядрэнны, але ж важна, каб твой спадарожнік жыцця цябе яшчэ і разумеў. Я сумняваюся, што ён будзе здольны на гэта. Плюс — гены. Ты ўпэўнена, што ён зноў не стане піць? А ўсвядоміўшы вашу з ім неадпаведнасць, наўрад ці будзе шчаслівы з табой. Калі ён не павысіць свой узровень да твайго — а гэтага, хутчэй за ўсё, не адбудзецца, — то ты апусцішся да яго.

Мама гаварыла прыгожа, няспешна, складваючы словы ў старанна падабраныя фразы; непахісная ўпэўненасць у сваёй праўдзе амаль заўсёды зыходзіла ад яе слоў, калі яна мяне выхоўвала або нечаму вучыла. Яна не раіла, а, як сапраўдны педагог, настаўляла. І гэта яе ціхая, няспешлівая, сканцэнтраваная ўпэўненасць у тым, што яна адстойвала, узвышала яе над з'явамі, якія адбываліся, амаль у кожнай сітуацыі. Я ведала, што яна была чалавекам сумленным, надта прыстойным, патрабавальным і строгім не толькі ў адносінах да іншых, а перш за ўсё да сябе і таму свята верыла ў выключную справядлівасць яе довадаў.

Я разумела, што мама жадае мне дабра. І ёй было неабыякава, з кім водзіцца яе дачка. Неяк яна не вытрымала і прачытала лісты Фёдара. Яе абурыла яго непісьменнасць. Бо галоўнае, што яна цаніла ў чалавеку, — узровень яго ведаў і адукаванасць. Нават за тату — свайго былога аднакласніка — яна пайшла замуж таму, што ў час іх спатканняў ён з запалам рашаў разам з ёй задачы па матэматыцы.

— Той для мяне не мужчына, хто не ведае матэматыкі і фізікі, — сказала яна калісьці ў юнацтве — хоць і з гумарам, а ўсё ж праўду — майму тату. І ён, пасля яе слоў, каб не аказацца нявартым сваёй аднакласніцы-выдатніцы, у якую з чацвёртага класа быў закаханы, апантана стаў «грызці граніт навукі».

Не скажу, што мяне зусім не бянтэжылі памылкі ў лістах Фёдара, а хутчэй за ўсё нейкая абмежаванасць у яго здольнасцях выказваць свае думкі. Не, наадварот. Тое, што мне так спадабалася ў ім у час нашых спатканняў, і яго лісты — былі розныя рэчы. Той, з кім я сустракалася, мяне трывожыў і захапляў. Аўтар жа гэтых лістоў выклікаў ува мне дзіўнае, супярэчлівае пачуццё і... расчараванне. Аднак негатыўную рэакцыю я ў сабе старанна заглушала, уяўляючы малюнкі будучага: «Вёска... Фёдар — трактарыст, я — ляснічая, яго жонка. Стомлены, прапахлы саляркай і мазутам, ён вяртаецца дамоў. Я радасна сустракаю яго і падаю яму на вячэру ўкраінскі боршч...» То ўяўляю, як ён коле дровы, а я ў гэты час мыю яго кашулі. А ў холад апранаю ватоўку і павязваю галаву квяцістай хусткай. І бачу, што падабаюся яму. У маім рамантычным уяўленні не было месца пачуццям, якія б маглі згаснуць, саступіць звычцы, а таксама цяжкасцям, з якімі можа сутыкнуцца вымушаны жыць у

вёсцы не загартаваны для цяжкай працы гарадскі чалавек. Такое мне здавалася немагчымым.

Пад канец навучальнага года недалёка ад Мінска, у Негарэльскім навучальна-даследчым лясгасе, я праходзіла практыку. Адзін з выкладчыкаў — малады, якому не было і трыццаці, кандыдат навук — звярнуў на мяне ўвагу. Павел Сцяпанавіч, энергічны і гаваркі, у дадатак да ўсяго яшчэ хораша спяваў ды іграў на баяне. І часта вольны ад выкладання і навуковай працы час ён праводзіў са студэнтамі.

Я адчула, што Павел Сцяпанавіч адносіўся да мяне не так, як да іншых студэнтаў, а больш уважліва і з павагай, нават учыняў для мяне індывідуальныя экскурсіі, у час якіх знаёміў з рознымі тыпамі лесу і ляснымі культурамі. Гэта цешыла маё самалюбства. Асабліва калі я заўважала, з якой цікаўнасцю і нават з зайздрасцю глядзелі на мяне аднакурснікі.

Калі-нікалі я наведвалася дамоў і расказвала бацькам, як праходзіць практыка. Маму інфармацыя пра Паўла Сцяпанавіча асабліва цікавіла і радавала. Яна распытвала пра яго і прасіла расказваць падрабязней.

Я ніколькі не была закаханая ў свайго выкладчыка, але мне падабалася рэакцыя іншых на яго адносіны да мяне. Адчувала, як паступова, дзякуючы гэтым адносінам, узрастаў сярод студэнтаў і нават у вачах мамы мой аўтарытэт. Кожны чалавек у той ці іншай ступені прагны да пашаны. Я не была выключэннем.

Пасля заканчэння вытворчай практыкі Павел Сцяпанавіч вызваўся праводзіць мяне і дапамагчы даставіць дадому маю цяжкую, з кнігамі, адзежай і іншымі рэчамі, сумку. Я запрасіла яго на гарбату і пазнаёміла з бацькамі.

Павел Сцяпанавіч стаў у нас дома частым госцем. Сяброўства, якое так нечакана завязалася, было, бадай, не паміж ім і мной, а паміж ім і маёй мамай. Ён нязменна прыносіў для мамы жывыя кветкі, вёў з бацькамі ветлівыя і разумныя гутаркі. Хаця нельга сказаць, што майму бацьку Павел Сцяпанавіч вельмі ўжо спадабаўся, хутчэй ён адносіўся да яго стрымана. Бацька любіў узяць чарку і ўвечары, пасля працы, звычайна сабе ў гэтым не адмаўляў. А Павел Сцяпанавіч падкрэслена ветліва ўставаў з-за стала, падыходзіў да ўмывальніка на кухні і набіраў у сваю чарку водаправодную ваду.

— Не-не, нічога не трэба. Я не п’ю, — гаварыў ён на вялікую радасць маёй маме. — Аддаю перавагу чыстай вадзічцы.

Бацька шмат курыў. Прычым толькі моцныя папяросы. «Беламор», напрыклад. Павел Сцяпанавіч не курыў наогул.

Летам, у час маіх студэнцкіх канікулаў, бацькі ўзялі водпуск, і мы ўсе разам адпачывалі на вёсцы. Там жа, адначасова з намі, праводзіла свой адпачынак і бацькава сястра — мая любімая цётачка Марына, Рыціна маці.

З Рытай мы іншы раз хадзілі ў клуб. Хоць я гэта рабіла без былога энтузіязму, а толькі дзеля таго, каб скласці кампанію сястры. Мне больш хацелася, калі цямнела, пасядзець ля нашага двара на лавачцы, дзе я магла ўяўляць і амаль фізічна адчуваць гэта сваё ўяўленне, як па дарозе, з боку Іолчы, ідзе на спатканне да мяне Фёдар.

Мама мне доўга сядзець не дазваляла. Яна быццам ужо прызначыла мне зусім іншы, больш сур’ёзны статус.

— Наташа. Ідзі дамоў. Садзіся і пішы адказ Паўлу Сцяпанавічу.

Цётачка Марына падтрымлівала маму. Яны абедзве проста зачытваліся доўгімі, пісьменнымі, выведзенымі фігурыстым прыгожым почыркам лістамі Паўла, у якіх ён падрабязна і ледзь не па-мастацку апісваў свае навуковыя

даследаванні, кожны раз падкрэсліваючы, што рыхтуецца да абароны доктарскай дысертацыі.

— Які разумнік, — гаварыла з захапленнем цётачка Марына. — Я яго не бачыла, але ўжо ўяўляю па лістах. Гэта табе не Далянюк!

— Мне Павел не падабаецца, нават знешне, — прызналася я.

— Дурненькая, — не згаджалася са мной цётачка. — У будучыні ты зразумееш, што знешнасць — не галоўнае. Калі быў бы ён Квазімода, я ўсё роўна пажадала б такое замужжа сваёй дачцэ.

Меркаванне цёткі, вядомага і таленавітага юрыста, было аўтарытэтным.

— Садзіся за стол, — амаль што загадвала мне мама, падаючы ручку і паперу. — Пішы.

І я пісала. Не такі, як Фёдару, а кароценькі, у пяць-сем сказаў, скупы на эмоцыі ліст — сухую і халодную справаздачу пра тое, чым займаюся ў вёсцы.

У клубе да мяне пастаянна падыходзіла высокая, з кароткай стрыжкай, падобная на хлапчука, дзяўчына Аня. Раней я яе не заўважала, а дакладней, не ведала. Яна жыла ў Іолчы і была суседкай Даленюкоў.

— Фёдар табе піша? — пацікавілася яна ў мяне, калі падышла першы раз.

— Піша.

— А ты яму?

— Таксама пішу.

— Глядзі ж, чакай яго.

Мне здавалася, што яна сочыць за мной. Аня кожны раз садзілася недалёка ад мяне ў кіназале, падыходзіла ў час танцаў і стаяла побач са мной. Яна паводзіла сябе, быццам хлопец, і гэтым бянтэжыла мяне.

Толькі праз некалькі год я даведалася, што Фёдар — яе першае каханне. І да гэтага часу да шчымлення ў сэрцы дзіўлюся, як без зайздрасці, рэўнасці і эгаізму яна з такой шчырай стрыманасцю апекавала, ахоўвала і сцерагла мяне для яго.

Да пачатку верасня мы з бацькамі вярнуліся ў Мінск. Павел Сцяпанавіч, неўпрыкмет стаўшы для нас Пашам, з нязменным пастаянствам наведваўся да нас у госці. Ён усё гэтак жа быў уважлівы, ветлівы і прыносіў кветкі.

Мама заўсёды была рада яму. Я заўважыла, што дзякуючы яго наведванням яна нават стала часцей усміхацца, смяяцца.

— Мама, ды ён прыходзіць не да мяне, а да цябе. От ты з ім і вадзіся, — супраціўлялася я, калі яна спрабавала выцягнуць мяне з пакоя, дзе я рыхтавалася да заняткаў альбо чытала кнігу.

— Наташа, але гэта ж няёмка. Ён — твой госць. Ану, не ўпірайся, выходзь.

Чым больш настойліва ён стараўся стаць сваім у нашай сям'і, тым менш мне хацелася з ім нават размаўляць.

— Дык гэта ж ты прывяла яго калісьці ў наш дом, — дакарала мяне мама. — Паша нам падабаецца. А ты абыходзішся з ім нядобра. Нельга крыўдзіць чалавека.

Я выходзіла са свайго пакоя, прысаджвалася да стала. Але адчувала сябе адчужана, неахвотна ўдзельнічаючы ў агульнай гутарцы. Мне здавалася, што Павел, калі размаўляў, слухаў толькі сябе. Ды і гаварыў ён больш пра сваё, выхваляючыся і шматслоўна. Выслухаўшы аднойчы маё меркаванне пра Паўла, мама сказала, што я памыляюся, упарта не жадаю яго зразумець. Але Павел нейкім іншым бокам, зусім не такім, як маме і ўсім астатнім, адкрываўся мне. Я інтуітыўна адчувала: было ў ім нешта не маё, зусім не маё.

Ён запрашаў нас з мамай на прагулку. І мы іншы раз гулялі ўтраіх.

— Ой, Наташачка, надзень шапачку, а то прастудзішся. На вуліцы вецер, — прадбачліва і неяк не па-мужчынску мітуслiва дагаджаў мне Паша.

Маму гэта кранала: які клапатлівы мог бы быць у Наташы муж! Мне ж яго заляцанні былі непрыемныя. Пазней я не раз заўважала, што саладжавая далікатнасць у манерах, ужыванне памяншальна-ласкальных суфіксаў падчас размовы і шматслоўе характэрныя для мужчын з жаночым характарам, нямужных, угодлівых.

Я маму разумела. Яна не толькі жадала для мяне такога ўважлівага, адукаванага і аўтарытэтнага мужа, як Павел, але і, магчыма, сама для сябе знаходзіла ў ім аддушыну. Тым болей што бацька быў суровы, уладарны, а часам звыш меры жорсткі. Майму брату даставалася меней, чым мне і маме, бо, на думку бацькі, Сярожа — усё ж мужчына. Гэта з «бабамі» трэба быць стражэй. Хаця пад чарку ён змякчаўся, станавіўся больш ласкавым, любіў пажартаваць. А цвярозага мы яго пабойваліся і, калі ён быў дома, больш маўчалі.

А тут — Павел, не п’е, не курыць, ветлівы.

Той, напэўна, і сам адчуў у маме шчырага свайго саюзніка. І, ці то інтуітыўна, ці то наўмысна, стаў рабіць на яе стаўку: кветкі, кампліменты, мяккалісліваe абыходжанне... Да таго ж, што падабалася ўсім, ён хораша спяваў і іграў на баяне.

І вось на пачатку вясны Павел зрабіў мне прапанову выйсці за яго замуж. Пісьмовую прапанову я атрымала і ад Фёдара, у якога ў маі павінен быў скончыцца тэрмін службы. «Адкажы мне шчыра і канкрэтна, — папрасіў ён у лісце. — Мне трэба прыняць рашэнне. Калі адмовіш — я застануся ў арміі звыштэрмінова».

Мама ўвечары, перад тым як легчы спаць, сядзела на краі маёй пасцелі. Строга глядзела мне ў вочы.

— Я не буду лічыць цябе сваёй дачкой, калі ты выйдзеш замуж за Фёдара, — катэгарычна паведаміла яна.

Я маўчала, быццам не чула. Адчужана глядзела некуды, міма мамы.

Наперадзе чакалі бяссонныя ночы...

Вяселле спраўлялі ў маі. Пышна. Шырока. Адзін дзень — у Мінскім рэстаране, і ўвесь тыдзень — на радзіме ў Паўла, у Белавежскай пушчы.

Бацька Паўла — галоўны ляснічы. Дзед быў ляснічым. Ды і ўся іхняя дынастыя з пакалення ў пакаленне — лясная. Брат Паўла таксама скончыў лесагаспадарчы, абараніў кандыдацкую дысертацыю. Сам жа Паша — малады доктар навук, незадоўга да вяселля абараніўся.

Калі мае бацькі яму сказалі: «Наташы выходзіць замуж яшчэ ранавата», ён адказаў:

— Я вашу Наташу гатовы хоць дзесяць гадоў чакаць. Але я спяшаюся. Мне ўжо трыццаць.

Перад тым як падаць з Пашам заяву ў загс, я напісала Фёдару, што выходжу замуж.

Пасля вяселля Паша захацеў, каб мы з ім нейкі час правялі ў пушчы — у вёсцы ў яго бацькоў. У Негарэльскім вопытным лясгасе, дзе я мінулым летам праходзіла практыку, у Пашы быў дом, дакладней, ведамаснае жыллё, дадзенае маладому спецыялісту. Ён сказаў, што, калі вернемся, я ўвайду ў яго гаспадыняй.

Свёкар, Сцяпан Паўлавіч (у іхнім родзе ўсе былі Сцяпаны ды Паўлы), вазіў мяне з Пашам на сваім уазіку па запаведных мясцінах пушчы, паказваў славутасці, у некалькі абхватаў гіганты-дубы, рэдкія расліны, расказваў пра птушак, дзікоў і зуброў.

Раніцай Пашава мама, прытрымліваючыся мясцовага дзесяцідзённага абраду, які прынята свякрусе спраўляць над нявесткай, падпяразвала мяне фартухом, завязвала на галаву хустку і брала з сабой працаваць. Я разам з ёю гатавала ежу, частавала гасцей, мыла посуд, даглядала хатнюю жыўнасць і дапамагала на гародзе. Таму, чаго я не ўмела, яна цярпліва вучыла.

Надвячоркамі мы з Пашам прагульваліся па пушчанскіх сцяжынках, слухалі птушак і любаваліся магутнымі, векавымі, як у старой добрай казцы, дрэвамі. Мне падабаліся белаватыя пяскі на сцяжынках, такія ж, як і ў маёй вёсцы.

Я неўпрыкмет пачынала прывыкаць і адтайваць. Думала: «Не так ужо ўсё і страшна, не так і дрэнна... »

Нам, як маладым, выдзелілі асобны пакой на другім паверсе. Мне запомніўся від з акна: лес і неба...

Я ўпершыню адчула да мужа няхай сабе і не каханне, але нейкі давер і цяпло. У тым пакойчыку, калі мы з Пашам ужо ляглі адпачываць, я, гледзячы ў акно на неба, шчыра, урачыста, як нешта запаветнае, вельмі важнае для сябе і для яго, паведаміла:

— Ведаеш, я выпішуся ад бацькоў і прапішуся да цябе. Я заўсёды марыла жыць у вёсцы. Хай сабе Негарэлае — не вёска, а лясгас, не так гэта важна. У лесе мне таксама падабаецца...

Раптам Павел рэзка ўсхапіўся, нервова захадзіў узад і ўперад па пакоі і нейкім незнаёмым мне, узбуджана-вісклівым голасам адказаў:

— Я не дзеля таго з табой ажаніўся! У мяне наперадзе — сур’ёзная кар’ера. Мне патрэбна прапіска ў Мінску.

Нечаканае, халодна-разважлівае і такое меркантыльнае прызнанне апякло балюча, у адзін момант знішчыла ўва мне душэўную блізкасць да яго, якая толькі-толькі пачынала нараджацца.

Павел неўзабаве апамятаўся, уцяміў, што сказаў неабдумана, паспешліва. Падбяры ён іншыя словы — усё, магчыма, успрынялося б інакш. Але было позна! Я адвярнулася ад яго да сцяны.

...Хаваючы шар сонца, ледзь ружавелі вершаліны дрэў; іхнія мяккія, невыразныя цені ў лянівай дрымоце з кожнай хвілінай усё болей і болей выцягваліся, спаўзаючы на лясныя паляны. Я і Павел, як звычайна, вечарам прагульваліся па пушчы.

— Хочаш убачыць зблізу дзікоў? — спытаў мяне Паша.

Зразумела, я зацікавілася. Я не была супраць таго, каб глянуць на агрэсіўных і небяспечных для людзей насельнікаў пушчы, пра якіх напярэдадні расказваў свёкар. Успомніла пра тое, як Сцяпану Паўлавічу зубр, што сустрэўся па дарозе, ледзь не разбіў ушчэнт машыну. А дзікі, якіх я ніколі не бачыла, паводле апісанняў былі намнога большыя, чым хатнія свінні, і з ікламі.

Паша падвёў мяне да паляўнічага вальера. Усе дзікі, якіх за агароджай было каля дзесяці, убачыўшы нас, замерлі, пакуль адзін з іх, успудзіўшыся, не павярнуўся і з гучным тупатам не памчаўся ў аддаленую частку вальера. За ім, як па камандзе — усе астатнія. Драўляная агароджа, да якой пабеглі вепрукі, з грукатам паваліласа на зямлю. Дзікі статак жывёл апынуўся на волі.

Я нават не паспела спалохацца, а толькі, як заварожаная, глядзела ў той бок, куды гулка і шалёна, ускопваючы капытамі зямлю, уцякалі напалоханыя да смерці нядаўнія нявольнікі.

Я павярнулася — Пашы побач не аказалася. У процілеглым баку ад таго, куды ўцякалі дзікі, даволі далёка ад месца, дзе мы хвіліну таму яшчэ стаялі разам, я ўбачыла яго. У Паўла, як кажуць, толькі пяткі мільгалі. Муж спалохаўся, пакінуў мяне адну, ад страху нават не азірнуўся. Я так і стаяла, нерухома, і з нейкім непрыемным, грэблівым здзіўленнем глядзела яму ўслед.

Ён у хуткім часе вярнуўся, непрыемна ўсміхаючыся, сказаў, што пажартаваў, правяраў мяне. Я яму не паверыла.

— Добра бегаеш, — адказала я мужу.

Пасля двухтыднёвага знаходжання ў пушчы я і Паша прыехалі ў Негарэлае.

Я ўвайшла, як і абяцаў муж, гаспадыняй у невялікі цагляны дом, які складаўся з веранды, калідорчыка, кухні і некалькіх пакояў. Да дома ляпіліся невялікія прыбудовы. Метраў за дзесяць ад штыкетнічка, што абгароджваў двор, знаходзіўся якраз такі ж цагляны дом — навуковая лабараторыя, у якой Павел, малады вучоны, праводзіў свае даследаванні. Гэтыя два дамы належалі вучэбна-доследнаму лясгасу і былі на той час у поўным веданні майго мужа.

Адразу ж за гэтымі двума ўчасткамі суцэльнай сцяной стаяў лес. Самая блізкая вёска знаходзілася кіламетры за тры. Недалёка ад дома была аўтатраса, за ёю — студэнцкія інтэрнаты і сталовая, якія большую частку года пуставалі, пакуль у студэнтаў не пачыналася практыка. Па той жа бок ад трасы — дэндрапарк з рэдкімі дэкаратыўнымі пародамі. А за ўсім гэтым — зноў лес.

На вяселле рэктар нашага інстытута, сябар Пашынага бацькі, які працаваў з ім калісьці ў Белавежскай пушчы, падарыў нам чыстакроўную лайку, якую даставілі на самалёце з Сібіры. Паша пасяліў яе ў будцы на двары.

— Сабаку не месца ў доме, — сказаў ён, калі я прывяла лайку на веранду.

Негарэлае мне спадабалася яшчэ падчас леташняй практыкі. Таму новае месцажыхарства я ўспрыняла з радасцю.

З Мінска ў выхадныя дні да нас прыязджалі сваякі, каб не толькі пабачыцца, але і адпачыць у лясной зоне як на дачы. Самым частым госцем была Пашава сястра Іна. Яе звязвала з братам не толькі кроўная роднасць, але, як мне падалося, надзвычайная духоўная блізкасць. Яны падоўгу размаўлялі аб нечым сваім, адышоўшы ў домік насупраць.

Маё з’яўленне ў жыцці брата Іна не ўспрыняла і са мной не мела зносін. Я бачыла, як выцягваўся і без таго тонкі і бледны твар Іны, калі яна, разуваючыся ў прыхожай, глядзела на мой абутак. Усё новае ў доме, што было звязана са мной, ёй было непрыемна. Паша нават іншы раз хаваў ад сястры мае рэчы. А калі Іна заставалася начаваць, падоўгу сядзеў ля яе ложка і гладзіў па руцэ, пакуль тая не засынала. Я здагадвалася, што, будучы сама не замужам — Іна на некалькі год была старэйшая за мяне, — яна не магла прымірыцца з тым, што я парушыла яе непадзельны, даўно ўсталяваны саюз з братам. Ва ўсякім разе, рэўнасцю тлумачыў яе адносіны да мяне Павел:

— А ты будзь разумнейшай. Больш цярплівай. У яе гэта пройдзе, калі выйдзе замуж.

Але не толькі адносіны Іны да мяне ўзмацнялі маё адчужэнне да мужа. Рэўнасці ў адказ або пачуцця саперніцтва яго сястра ўва мне не выклікала, відаць, таму, што Пашу я не любіла. Хаця сітуацыя, што склалася, мяне прыніжала.

Больш складаным для мяне аказалася тое, што даводзілася быць сведкай нястомнай, невычэрпнай гаварыльні мужа. Увесь час слухаючы, як ён расказ-

вае пра сваe поспехі, захапляецца сабой і сваёй дынастыяй і амаль не заўважае нічога вакол, калі гэта не тычылася яго асабіста, я з жахам адчувала, што ў маім успрыманні свету ён сваёй прысутнасцю ўсё заціраў і пазбаўляў колераў. Я ўжо наперад ведала, што і дзе ён будзе гаварыць. І мне здавалася, што ад тых слоў гублялася ўсё сапраўднае і жывое, нават само жыццё, з якога выцягвае сокі любое шматслоўе.

Павел імкнуўся да поспеху. Праводзячы даследныя работы на лясных аб'ектах, ён браў у памочнікі дзяцей з блізкай вёскі. Гэта былі дзеці з ненадзейных сямей, худыя і дрэнна апранутыя, яны прыходзілі да яго на працу, каб за гэта сытна паесці.

Аднойчы я гатавала ім абед і адкрыла слоік тушонкі з мяса дзічыны, каб заправіць ёю звараную бульбу. Убачыўшы, Паша выхапіў слоік з маіх рук:

— Гэта ж пушчанскі далікатэс! Ты што, зусім не разбіраешся, каго і чым частаваць?! — і, тыцнуўшы мне ў рукі кавалак старога жоўтага сала, ужо больш ветліва сказаў: — Засквар, калі ласка.

Затое перад тымі людзьмі, ад якіх ён залежаў, Паша абавязкова раскланьваўся і, перш чым зрабіць візіт, набіваў вось гэтымі самымі далікатэсамі свой партфель. Той партфель, распухлы, дэфармаваны, прапахлы ўсялякай смакатой і карыснымі ляснымі травамі, я ціха ненавідзела. Дасюль не пераношу паху пушчанскай зуброўкі і мяса дзічыны.

Павел, ведаючы пра маё захапленне літаратурай, пра неажыццёўленыя жаданні стаць філолагам або журналістам, звярнуўся да мяне па дапамогу. Расклаўшы перада мной даведачную літаратуру і падручнікі, папрасіў папулярна напісаць аб адной з лясных культур. Вучонаму патрэбны публікацыі — дзесьці для нечага яны ўлічваюцца. Яго артыкулы па лесазнаўстве, якія ён прапаноўваў у рэспубліканскі часопіс «Родная прырода», час ад часу вярталі на дапрацоўку.

Я напісала. На гэты раз артыкул узялі адразу, без крытычных заўваг.

Павел з падвоеным энтузіязмам ставіў перада мной усё новыя і новыя задачы:

— Цяпер напішы аб папаратніку-арляку.

— Не ўжо, хопіць, — адмовіла я мужу. — Мне непрыемна бачыць над сваімі артыкуламі тваё імя.

— А хто ты такая? Нікому не вядомая студэнтка. Ты не задумвалася, чаму мяне публікуюць? Таму, што я доктар навук! А з табой у ніводнай рэдакцыі нават размаўляць не стануць.

Яго словы закранулі мяне за жывое, хацелася даказаць адваротнае. І я адправілася ў «Родную прыроду». Не саромеючыся, усё яшчэ абураная ад крыўды, увайшла ў кабінет галоўнага рэдактара часопіса. Павітаўшыся, прадставілася студэнткай лесагаспадарчага факультэта.

— Хачу прапанаваць Вам свой артыкул аб папаратніку-арляку.

— Навошта табе гэты папаратнік-арляк? — здзіўлена ўзняў на мяне вочы, адарваўшыся ад праглядвання нейкіх папер, рэдактар. — Лепей напішы апавяданне. Ды не пра папаратнік, а пра... напрыклад, пра звярушак.

Я вярнулася дамоў, села за пісьмовы стол і за ноч напісала апавяданне «Папалявалі», у якім апісала здарэнне, якое адбылося ў Негарэлым.

Раніцай зноў прыйшла да рэдактара.

— Напісала?

— Напісала.

— Апавяданне? Так хутка? Ану ж, пакажы.

Я падала яму набраны на машынцы тэкст. Ён паглыбіўся ў чытанне. Праз нейкі час зірнуў на мяне:

— Тут дзед у тваім апавяданні так смачна курыць, што і мне захацелася. Можна?

— Курыце, а як жа.

Рэдактар прыкурыў цыгарэту, з задавальненнем зацягнуўся і стаў чытаць далей. Скончыўшы, дапытлівым позіркам паглядзеў мне ў вочы:

— Сама пісала?

— Сама.

— А калі папраўдзе?

— Сама. Вы ж учора мне далі заданне. Вось за ноч і напісала.

— Што я табе скажу... Калі ты сур'ёзна возьмешся за гэту справу і не будзеш ленавацца, успомніш мае словы, з цябе будзе толк.

І запрасіў рэдактара аддзела:

— Падрыхтуй у бліжэйшы нумар.

Такім чынам, дзякуючы Паўлу, а дакладней, свайму закранутаму самалюбству, я пачала сур'ёзна пісаць.

Толькі трэці месяц ішоў, як мы з Паўлам пажаніліся, а я ўсё больш адчувала, што ў маёй душы спее нейкі разлад. З аднаго боку, у ёй нарастаў неспакой, а з другога — утваралася пустата. Людзі, увесь свет, само жыццё ад мяне быццам адгароджваліся сцяной.

Застаючыся адна ў доме, я глядзела ў акно: недзе там, за лесам, яшчэ зусім нядаўна ў мяне было іншае жыццё. А цяпер нітачка за нітачкай я ўплятала ў яго штосьці вельмі чужое і нямілае. Няўжо так будзе да самай смерці? Ува мне памірала адна і нараджалася іншая «я», з расчараванай і завязанай тугім вузлом душой.

Купіўшы ў Мінску на рынку маленькае, белае ў цёмныя плямінкі кацяня, я прывезла яго ў Негарэлае. Увайшоўшы ў дом, радасна паведаміла Паўлу:

— Вось, цяпер у нас — яшчэ адна жывая душа. Прымай.

Муж, убачыўшы ў маіх руках коціка, паморшчыўся:

— Трымаць у доме жывёлін негігіенічна. Вынесі яго на двор і памый рукі.

Я ледзь угаварыла Паўла пасяліць кацяня на верандзе.

— Раз купіла — хай жыве. Але толькі, калі ласка, не дакранайся да яго рукамі.

Я разумела, што мы з Паўлам — вельмі розныя. І паступова аддалялася ад яго. Разам з гэтым ува мне ўзнікла і з часам усё болей узмацнялася непрыманне блізкасці фізічнай. І чым больш я аддалялася, тым настойлівей муж патрабаваў ад мяне блізкасці. Паддаючыся яму, я адчувала, як тое, што недзе глыбока цяплела, было яшчэ непазнаным і не паспела да канца абудзіцца дзеля жыцця, праз гэту маю пакорлівасць ламалася і памірала ўва мне.

Пашына сястра прыехала як звычайна, у пятніцу, напярэдадні выхадных. Стаміўшыся ад «халоднай вайны», якая зацягнулася паміж намі, я падышла да яе, як толькі яна з'явілася на парозе, і працягнула рукі:

— Давай з табой радніцца.

Схаваўшы свае рукі за спінай, Іна адвяла ад мяне позірк:

— Мы занадта для гэтага несумяшчальныя.

Паша неяк разгублена, вінавата паглядзеў на сястру і адазваў мяне ўбок:

— Хіба ты не бачыш, што Іна не хоча з табой размаўляць?

— Але, калі я ёй такая непрыемная, навошта яна прыязджае да нас? Мне не падабаецца, што вы пастаянна адыходзіце ў лабараторыю, быццам я вам перашкаджаю.

— У такім выпадку ты будзь разумнай, саступі госці. Каб не перашкаджаць — узяла б ды і прагулялася. Ты ж любіш гуляць па лесе.

Мне і сапраўды падабалася тут, у Негарэлым, гуляць па лесе. Выходзіла ў лес часта: толькі б далей ад дома, далей ад мужа. У лесе я супакойвалася.

Адвярнуўшыся ад Пашы, я выйшла на веранду, узяла на рукі кацяня і, прыціснуўшы яго да грудзей як адзіную блізкую душу, пайшла ў лес. Коцік быў ласкавы, палюбіў мяне, прывык да маіх рук і не вырываўся.

Тады, у лесе, я адчувала, што ішла ад чужога мне свету ў родны. Здавалася, што лес без слоў размаўляў са мной і, даючы свой, асаблівы, прытулак, суцяшаў.

Выйшла на лясную паляну і, прысеўшы сярод папараці, глядзела, як дагарае неба.

Цямнела. Было халаднавата, а я не ўзяла кофту. Але вяртацца дадому не хацелася. Адшукаўшы вялікую, з шырокім полагам, яліну, схавалася з коцікам пад ёю. Села, прыціснуўшыся да ствала. Зямля была мяккая, усыпаная ігліцай. «Тут мяне ніхто не ўбачыць, — супакойвала я сябе, — ні звер, ні нядобры чалавек».

Усё ж, калі зусім сцямнела, мне стала страшна, вельмі страшна. І холадна. Кацяня, напэўна, таксама баялася, бо маўчала, не вырывалася з рук, маленькім камячком сцішыўшыся ў мяне на каленях. Сціскала горла крыўда, гордасць не дазваляла вярнуцца дадому.

Так, пад елкай, з коцікам, я і праседзела ноч, пакуль пад раніцу, калі пачало віднець, не пачула мамін голас:

— Наташачка-а... Наташа...

Я ўскочыла і на непаслухмяных, самлелых ад доўгага сядзення, нагах кінулася на голас:

— Ма-ма-а!

Так атрымалася, што мама, як і Пашына сястра, прыехала да нас на выхадны. Дома знайшла толькі Іну і зяця. Пачакала мяне нейкі час. А калі сцямнела, пайшла шукаць. Так і шукала ўсю ноч.

Шукаў, вядома, і Паша, але...

Назаўтра раніцай у мяне пачаўся моцны крывацёк. «Хуткая дапамога» адвезла ў бальніцу ў Мінск. Мама паехала са мной. Выявілася — пагроза выкідыша, амаль тры месяцы цяжарнасці. Дактары папярэдзілі: калі страчу дзіця, то, з маім адмоўным рэзус-фактарам, магу больш не мець дзяцей.

Тыдзень не згаджалася на аперацыю. Збівала, хаваючы ад доктара, тэмпературу. Толькі калі слупок тэрмометра стаў паказваць амаль сорак, спужалася.

Дактары ўжо не прасілі ў мяне згоды, а сказалі маме:

— Трэба ратаваць ужо не будучае дзіця, а вашу дачку. У яе можа пачацца заражэнне крыві.

Пасля бальніцы, у жніўні, я паехала да бабулі, у сваю вёску. Павел прыязджаў, угаворваў вярнуцца з ім у Негарэлае, але я адмовілася.

Бацькі пісалі, што ён часта бывае ў іх, перажывае, начуе, не здымаючы вопраткі, у зале на канапе. Угаворвалі мяне памірыцца, магчыма, і скарыцца—

Павел усё ж муж, — і вярнуцца дадому. Тым больш што вось-вось пачнецца верасень, пачатак наступнага вучэбнага года ў інстытуце.

Інстытут, трэці курс дзённага аддзялення... Я разумела, што трэба, вельмі трэба ехаць, але ехаць не было сіл. Сілы былі толькі на тое, каб заставацца ў сваёй вёсцы, у сваёй Прудавіцы, і кожнай, яшчэ жывой клетачкай душы, быццам за выратавальную саломінку, трымацца за яе.

З надыходам верасня я атрымлівала тэлеграмы ад Паўла, лісты ад бацькоў. Але пад уздзеяннем усяго таго, што ў апошні час так старанна прыглушала ў сабе і чаму нарэшце дазволіла вырвацца на волю, я больш не магла падпарадкоўвацца нікому. Цяпер я слухала толькі сябе. Вырашыла: няхай будзе, што будзе, хоць увесь свет абрушыцца — нікуды не паеду.

Мінуў верасень. Надышоў кастрычнік.

Павел выкладаў у маім інстытуце, і яму нічога не заставалася, як самому перааформіць мае дакументы і перавесці мяне на завочнае навучанне.

У вёску я прыехала ў жніўні і сама не думала, што затрымаюся тут надоўга, таму цёплага адзення з сабой не брала. Але настолькі я адчувала сябе камфортна ў бабуліных бурках, ватоўцы, у яе кофтачках і хустках, так прыемна было грэцца ля знаёмай да кожнай пражылачкі і трэшчынкі беленай грубкі, такую незвычайную пяшчоту і супакаенне знаходзіла мая душа, што хацелася толькі аднаго: каб усё гэта працягвалася як мага даўжэй.

Я шмат гуляла па навакольнай мясцовасці. Выходзіла за веснічкі і спярша ўглядалася ў шэрую бязлюдную далеч дарогі, якая звілістай стужкай агінала вёску, потым пераводзіла позірк на высокія магутныя вербы ўздоўж грэблі, а потым ужо ішла на луг, што межаваўся з балотамі, зарослымі асакой ды чаротам. Дзікімі непралазнымі астраўкамі сярод балот раскідваўся алешнік. І ўсё гэта, адвячоркам зліваючыся з прыцемкамі, засцілала восеньская, тужлівая, у лёгкай смузе дрымота.

Калі ў вёсцы стала магчымым спакойна, не спяшаючыся, і, самае галоўнае, непрыкметна ні для каго падумаць пра сваё жыццё, я ўжо не магла і ўявіць працягу якіх бы там ні было шлюбных стасункаў з Паўлам. Усё, што мяне магло чакаць побач з ім, — гэта пустэча. Пустэча, якая не залежала ні ад мноства спраў, ні ад падзей, ні ад планаў. Я разумела, што ўжо не быць нашай з ім будучыні. І цяпер хацела толькі аднаго: як мага хутчэй атрымаць свабоду. Ужо тое, што дазволіла сабе заставацца ў вёсцы, было першай, галоўнай прыступкай да гэтай свабоды.

Чым больш мая душа адтайвала для жыцця і хацела жыць, тым мацней агортвала яе туга. Ходзячы па знаёмых дарогах і сцежках, я заўважала, з якой патрабавальнай настойлівасцю вяртала мяне ў мінулае памяць. Знемагаючы ад прадчуванняў, я чагосьці жадала і чакала.

Тое, што я прадчувала і чаго неўсвядомлена чакала і жадала, адбылося. Аднойчы цёмным кастрычніцкім вечарам, здаецца, гэта было а дзясятай гадзіне, у дзверы пастукалі.

На стук выйшаў дзед. Праз хвіліну зазірнуў у пакой, дзе я, захутаўшыся ў цёплую коўдру, сядзела на ложку і чытала.

— Нейкі хлопец да цябе. Не знаю ў твар. Пытаецца пра Надзю, тваю сяброўку. І чаго не да Надзі пайшоў, а сюды? Ды так позна? Выйдзі пагавары.

Закалацілася сэрца. Накінуўшы на сябе бабуліну хустку, я выскачыла ў сенцы. Ля расчыненых насцеж уваходных дзвярэй на ганку стаяў Фёдар...

— Матка мне напісала, што ты тут, у Прудавіцы. Даўно. І без мужа. Людзі гавораць, хварэеш, — расказваў Фёдар на другі дзень, калі мы сядзелі ў хляве на вышках, куды нас употай ад дзеда правяла бабуля. — Як атрымаў ад цябе ліст ды прачытаў, што выходзіш замуж — я тады ў сталовай сядзеў, абедаў, — дык у мяне ўвесь той абед... таго, назад... У вачах пацямнела... Усё! — Памаўчаўшы, ён працягваў: — Куды мне было і навошта вяртацца? Тут у мяне нічога добрага. Напісаў заяву, папрасіў пакінуць у арміі. Працаваць.

У Фёдара на шчоках захадзілі жаўлакі. Ён закурыў. Зірнуў на мяне, памякчэў:

— А як атрымаў ад маткі ліст, што ты тут ды што табе дрэнна, стаў прасіць водпуск. Сказаў: вельмі трэба, што, калі не пусцяць, збягу. Адпусцілі.

Мы сядзелі побач і проста, не саромеючыся, упершыню глядзелі адно аднаму ў вочы пры дзённым святле, што прабівалася праз шчыліны ў сценах і ў прачыненыя дзверы хлява.

— А пра Надзьку я знарок прыдумаў, каб не выклікаць падазрэння, — Фёдар усміхнуўся. — Хаця дзед у цябе не дурань. Мне здалося, што ён нешта сцяміў.

— Не, — адказала я, — дзядуля не зразумеў.

Правёўшы бяссонную ноч пасля таго, як вечарам на ганку мы з Фёдарам усхвалявана і коратка дамовіліся аб гэтай сустрэчы, я верыла і ўсё яшчэ не верыла ў рэальнасць таго, што адбывалася. Ды і сустрэліся ўжо не хлапец і дзяўчына, а мужчына і жанчына. Праўду сказаць, дык я была жанчынай, якая не набыла ў сваім вопыце нічога, акрамя расчаравання.

Бабуля прынесла і падала нам на вышкі па кубку малака і гарачыя, толькі што з печы, аладкі.

— Не бойцеся, дзеткі. Дзед лёг адпачыць. Можна і на двор выйсці. Калі што, я папярэджу.

Бабуля, якая раней была супраць нашых з Фёдарам стасункаў, пачала нам дапамагаць.

Не адразу адбылося тое, што ўжо немінуча, па самай натуральнай логіцы і законах жыцця, павінна было адбыцца. Не адразу і атрымалася. Фёдар рэзка адвярнуўся ад мяне. І я, расхваляваная і збянтэжаная, глядзела, як уздрыгвалі ягоныя плечы. Хвіліна — і ён нібы супакоіўся. Але працягваў сядзець да мяне спінай, моўчкі выкурваў цыгарэту. Потым азірнуўся, звузіўшы вочы, паглядзеў на мяне. І я амаль не дыхала пад яго цяжкім і жорсткім позіркам.

— Не думаў, што дастанешся мне пасля кагосьці, — сказаў ён такім тонам, быццам сербануў з талеркі астылага ўчарашняга баршчу. — А я ж цябе бярог. Не крануў. Шкадую цяпер, што не крануў. Што не я — першы.

— Ты ж ведаў, што я замужам.

— Ведаў... — працадзіў ён скрозь зубы. — Толькі не думаў, што цяжка будзе пераступіць праз гэта...

Мы з Фёдарам сустракаліся штодня. Хадзілі на луг, да зашклёнага халоднай, восеньскай, празрыста-стальной шэрасцю Дняпра. Смажылі на вогнішчы сала і пяклі бульбу. Зрывалі з амаль голых, з абляцелай лістотай, кустоў падмёрзлую ажыну.

У лістападзе выпаў снег. Я апранала вялікае мне старое бабуліна паліто.

У стозе сена Фёдар выграбаў, лоўка ўладкоўваў утульную «норку», пасля коратка камандаваў:

— Залазь.

Дзівосна-клапатлівая ўладарнасць гэтага чалавека нейкім дзіўным чынам уздзейнічала на мяне. Я паслухмяна, пакорліва, адчуваючы нават асалоду ад той сваёй пакорлівасці, з яго дапамогай забіралася ўнутр, пасля чаго забіраўся, прымошчваўся побач і ён сам, злёгку замаскіроўваючы выхад сенам. Так мы грэліся.

Вядома, я перажывала. Тачыла, раз'ядала душу ўсведамленне ўласнага граху. У думках паўставала перад вачамі строгая, цнатлівая, заўжды надта прыстойная мама. Непакоіў страх перад бацькам. У гэтыя хвіліны я пачынала здавацца сабе вельмі дрэннай.

Але калі побач са мной быў Фёдар і я глядзела на яго, то адчувала сябе прасветленай і шчаслівай, бадай што самай шчаслівай на свеце.

Ішлі дні. У Фёдара заканчваўся водпуск, а мне, у любым выпадку, ужо трэба было вяртацца дадому, тым больш што да дзеда сталі даходзіць чуткі, чым займаецца ў вёсцы яго ўнучка. Аказваецца, нават у поля і ветру ёсць вушы і вочы...

За дзень да ад'езду (Фёдара — на службу, а майго — у Мінск) мы дамовіліся правесці нашу адзіную — першую і апошнюю — ноч разам, у яго хаце на гарышчы.

Каб было ў чым мне ехаць дадому, мама даслала цёплую вопратку. Некалькі летніх рэчаў лёгка ўвайшлі ў невялікую дарожную сумку.

Я развіталася з дзедам і бабуляй і нібыта адправілася на станцыю да вячэрняга цягніка.

Бабуля правяла мяне за веснічкі, і мы разам падышлі да Фёдара, які чакаў ля двара. Было цёмна, на што мы і спадзяваліся. Толькі так можна было заставацца незаўважанымі. Фёдар узяў з маіх рук сумку.

Бабуля на развітанне абняла і пацалавала мяне, пагладзіла па руцэ Фёдара:

— Глядзіце ж, мае дзеткі. Толькі акуратненька.

Па драбінах з боку саду мы ўзлезлі на гарышча. Фёдар там ужо загадзя ўсё падрыхтаваў: панасцілаў сена, прынёс цёплую коўдру, ліхтарык.

Не паспелі мы размясціцца, як з хаты, пачуўшы шум, выбегла Фёдарава маці.

— Ты што гэта надумаў, сынок? Ідзі зараз жа ў хату!

— Я перад дарогай хачу падыхаць паветрам, мама. Буду спаць на гарышчы.

— Якое яшчэ паветра ў такі мароз?

Яна зазлавала, на чым свет стаіць лаяла сына. Але Фёдар, нягруба адлаяўшыся, сказаў цвёрда, што ён так вырашыў. Затаіўшыся, я ціхенька, баючыся дыхаць, сядзела, трымала яго за руку і слухала.

Нарэшце яго маці ўціхамірылася, схадзіла ў хату, узяла яшчэ адну коўдру, вярнулася, паднялася па рыпучых драбінах і са словамі: «Дурны! От дурны!» закінула яе на гарышча.

Я яшчэ не ведала, не здагадвалася тады, на гарышчы, што ўсё перажытае, убачанае, зазнанае той ноччу застанецца назаўсёды гарачым і цэласным узрушэннем ува мне. Не, не цялесная прыгажосць і асалода ўразілі мяне, а тое простае цяпло жыцця, якое лёгка, непрыкметна да самых патаемных глыбінь напоўніла мяне.

Кожны рух яго рук быў скупы і дакладны. Але як адклікалася ўся сутнасць, сама душа мая на гэтыя рукі. Прытульваючы мяне да сябе, ён раз-

пораз правяраў, як я накрыта, нацягваў, падгортваў і падтыкаў, каб не змерзла, пад мяне коўдру.

Раніцай, як толькі развіднела, Фёдарава маці адправіла старэйшага сына праверыць, ці жывы іх «дурань» і што прымусіла яго начаваць на гарышчы.

Такім чынам, нас знайшлі. Пазвалі — сказалі спусціцца абаім — у хату.

Фёдар дапамог апрануцца, зашпіліў, абтрос на мне сукенку. А я не зводзіла з яго вачэй. Кожны яго рух быў упэўнены і няспешны. Ён быццам падпарадкоўваў мяне сабе. Я ніколі раней не здагадвалася, як прыемна бывае проста слухацца. І, больш не баючыся нічога, шчасліва давяралася той спакойнай сіле, цярплівасці і клапатлівасці, якія ішлі ад яго — ад чалавека, як я цяпер ведала, неспакойнага, нецярплівага і гарачага. Усё глыбей і шырэй ён адкрываўся мне, і дзякуючы гэтаму дзесьці далёка-далёка, здавалася, за межамі самога жыцця, засталіся, расталі і забыліся ўсе нанесеныя раней лёсам раны.

Мы спусціліся ў хату, дзе нас ужо чакалі гарбата і толькі што звараная бульба, якая дымілася над адкрытым чыгунком смачнай парай. На маё здзіўленне, бацька і маці Фёдара былі мне рады, прынялі быццам сваю і адправілі пагрэцца на гарачую печ. І нягледзячы на тое, што ў хаце было бедна і не зусім чыста, я сябе адчувала як дома, і было мне сярод гэтых людзей утульна і спакойна.

— Я знаю, знаю, Федзька даўно любіць цябе, — гаварыў мне яго бацька. — Правільна, вязі, забірай яе, сынок.

Фёдар, прыціснуўшы палец да вуснаў, паказваў мне: маўчы.

Ніхто ў той дзень у яго сям'і не дакрануўся да спіртнога.

А вечарам мы раз'ехаліся: я — у Мінск, а Фёдар — да сябе ў часць, у Падмаскоўе.

* * *

Нягледзячы на тое што, развітваючыся, Фёдар сказаў мне: «Разводзься з мужам», я гэтага не рабіла.

Пачакаць, падумаць, даць прайсці часу, каб не смяяліся людзі, папрасіў мяне Паша. «Ды і як на гэта, — перажываў ён, — адрэагуюць у інстытуце?» Бацькі, хоць цяпер і не выказвалі ранейшага спачування Паўлу, таксама раілі не спяшацца, а засяродзіць усю сваю ўвагу на вучобе, якую я запусціла.

Пры сустрэчы Павел з хваляваннем, якое непрыемна ўразіла мяне, працягнуў, спрабуючы абняць, рукі, але я рашуча і з такой адкрытай агідай адхілілася ад яго, што ён усё зразумеў.

Я стала жыць у бацькоў. Павел — у сябе ў Негарэлым. Адчуўшы палёгку ад раптоўнай свабоды, я не надавала вялікага значэння таму, што ўсё яшчэ знаходжуся ў шлюбе, палічыўшы развод фармальнай працэдурай, якую ўсяго толькі адклала на нейкі час.

Працягваючы вучобу на завочным аддзяленні, уладкавалася на працу па спецыяльнасці, у лесаўпарадкавальнае прадпрыемства.

Употай, «да запатрабавання» — каб не засмучаць маму — перапісвалася з Фёдарам.

Дні ў плаўным аднастайным спакоі спляталіся з начамі, і пацяклі тыдні, месяцы...

Галоўнай прычынай, якая перашкаджала мне прымаць сур'ёзныя рашэнні, якія тычыліся майго далейшага жыцця, была праблема са здароўем. Пасля бальніцы і таго, што ў першыя месяцы пасля замужжа адбылося, я з кожным днём усё болей і болей марнела і худнела.

Яшчэ ў вёсцы Фёдар, агледзеўшы мяне з ног да галавы, не хаваючы свайго расчаравання, быццам пугай выцяў: «На каго ты стала падобна... Цябе ж амаль не засталося. А якая раней дзеўка была!» І, убачыўшы, як я засаромелася, засмуцілася, апамятаўся: «Ну, нічога. Ты ўсё роўна прыгожая».

Урачы мне паставілі нейрацыркулятарную дыстанію, іначай кажучы, аслабленне нервовай сістэмы, аднак працягвалі абследаваць — шукалі больш сур'ёзныя прычыны такой схуднеласці, якая незразумела чаму прагрэсіравала.

Мінула зіма. Я паспяхова здала сесію. А вясной над маёй радзімай запалаў Чарнобыль. Ішоў 1986 год.

Замільгацелі ў турботах будні. Мы з бацькамі, і многія іншыя людзі, прымалі ў свае кватэры і дамы эвакуіраваных землякоў. Асабліва маладых, з маленькімі дзецьмі і цяжарных жанчын. Запоўніла сабою, адцягнула ад асабістых праблем вялікае агульнае гора.

У перапоўненых санаторыях, прафілакторыях і дамах адпачынку — усюды разгубленыя, усхваляваныя, якія не ведалі свайго далейшага лёсу, такія родныя, такія блізкія, са знаёмай палескай гаворкай людзі.

І я, колькі ні спрабую сёння што-небудзь яшчэ выцягнуць з памяці аб тых днях ад вясны да восені 1986-га, нічога, акрамя гэтага агульнага гора, не помню.

Вясной, калі ў бліжэйшых да Чарнобыля раёнах адмянілі абмежаванне на спіртное, якое дагэтуль выдавалі па картачках, сарвалася пасля змушанай цвярозасці, як казалі, «згарэла ад гарэлкі», Фёдарава маці. Летам памерла, не вытрымала адсялення з роднай вёскі бабуля Наталка, якая выхавала маю маму і яе брата. А ўвосень мы ўсёй сям'ёй больш за тыдзень шукалі, а потым доўга выходжвалі скалечаную, згвалчаную бандытамі-марадзёрамі альбо салдатамі, маю бабулю. Такое здаралася ў раёнах добраахвотнага адсялення, дзе на той час амаль не засталося маладых жанчын.

У той год, хоць мяне і лаялі за гэта бацькі, я часта бывала на радзіме, любіла яе па-новаму, амаль да самазабыцця, і маліла Бога аб адным, каб мая зямля, без якой не ўяўляла сабе жыцця, не стала «зонай адчужэння».

Пад канец кастрычніка я мела вагу каля сарака кілаграмаў і ўжо ледзь ногі перастаўляла. Дактары загаварылі аб неадкладнай шпіталізацыі.

Перад тым як легчы ў бальніцу, атрымала ліст ад Фёдара, што адрозніваўся ад папярэдніх па настроі і змесце. У ім ён пытаўся, ці збіраюся я разводзіцца з мужам, ці згодна, каб ён, Фёдар, прыехаў і забраў мяне. Прасіў адказаць адразу ж, як толькі прачытаю ліст, неадкладна і шчыра.

Я прывыкла да яго лістоў, кароткіх і спакойных, была ўпэўнена, што ён кахае мяне, і не задумвалася аб хуткаплыннасці і помслівай вераломнасці часу.

Устрывожаная такім пісьмом, я паказала яго маме.

— Спачатку трэба высніць, што з тваім здароўем. І абавязкова падлячыцца, — спагадліва раіла мама. — Павер, Наташачка, ніводнаму мужчыну не будзе патрэбна хворая жонка.

Я разумела, што ў тым стане, у якім я знаходжуся, нікуды не змагу паехаць. І, не адказаўшы на пісьмо, легла ў бальніцу.

На шчасце, усё аказалася не так страшна. І пад Новы год я ўжо больш-менш паздаравела. Як высветлілася, у маім арганізме здарыліся сур'ёзныя збоі, і прычынай таму былі нервы.

Паспяхова здаўшы зімнюю сесію, супакоіўшыся, я ўсё абдумала і вырашыла да Дня Савецкай Арміі зрабіць сюрпрыз Фёдару.

Мой адказ, які затрымаўся аж на тры з паловай месяцы, быў кароткі. Я напісала, што падаю на развод. А дваццаць трэцяга лютага, у яго прафесійнае свята, сама прыеду да яго. І што згодна выйсці за яго замуж.

Цяпер мама паставілася да маёй будучай сустрэчы з Фёдарам са спачуваннем. Я нават усю дарогу адчувала гэты яе спачувальны клопат. Праводзячы мяне на вакзал, яна сказала:

— Ты, Наташачка, што б там і як ні склалася, галоўнае, не перажывай. Трывожна мне за цябе.

І расказала сон, што бачыла напярэдадні.

— Прыснілася, што Фёдар сустрэне цябе. Добра сустрэне. Але прызнаецца, што жанаты. І ты, нягледзячы на тое што сабралася да яго на тры дні, даведаўшыся пра гэта, памяняеш зваротны білет і паедзеш назад.

Я засмяялася:

— Мамачка, ты ж ніколі не верыла сваім снам. А тое, што табе прыснілася, — быць такога не можа!

Ад аўтастанцыі невялікага раённага горада, куды я дабралася аўтобусам з Масквы, удакладніўшы, у якім напрамку вёска, дзе размяшчалася патрэбная мне вайсковая часць, пайшла пешкі.

Застаўся ззаду горад. Па абодвух баках дарогі, па якой я ішла, стаяў захутаны ў беласнежныя карункі зімы лес. Цяжкімі снегавымі лапінамі навісалі над дарогай галіны елак. Весела скакалі па сумёцістых пышных абочынах сонечныя зайчыкі. Здавалася, сама прырода радавалася майму прыезду. Я смела, рашуча і лёгка, не адчуваючы пад сабой ног, спяшалася да свайго шчасця.

Раптам спынілася ваенная машына, што ехала насустрач. З адкрытага кузава саскочыў і накіраваўся да мяне мужчына, які быў у шынялі і армейскай шапцы. Радасцю гарэлі яго вочы.

— Пяшком ходзіш? — прыблізіўшыся, прыглушаным басам спытаў Фёдар і рыўком прыцягнуў мяне да сябе.

Ён пасадзіў мяне ў кабіну побач з вадзіцелем, сам жа ўзабраўся назад у кузаў.

— Пакуль адвязу цябе да сястры, — сказаў ён, калі мы выйшлі з машыны. — Яна цябе пакорміць. Ты ў яе пагуляеш, пачакаеш, пакуль я вызвалюся. Служба, яна і ў святы служба.

Я ішла следам, любуючыся, які ён высокі, плячысты, моцны... Мой мужчына.

Тады, даверліва ідучы следам за ім па ваенным гарадку, я ў поўнай меры адчувала, што значыць быць шчаслівай.

Даўно, яшчэ ў вёсцы, мне расказалі, што Фёдараў сябар, Васіль, з якім яны разам служылі ў арміі, ведаючы, як той непакоіцца пра сястру, стаў з ёю перапісвацца. Мяне здзівіла, што Васіль, ані разу не сустрэўшыся з Ленай, якую ўяўляў знешне толькі па фатаграфіі, узяў яе ў жонкі. Казалі, што ў той дзень, калі ён прыехаў па яе ў вёску, аднавяскоўцы не засталіся ўбаку — хто што мог прынёс у дом Даленюкоў. Ложкі пазасцілалі чыстымі пакрываламі. Але Васіль не стаў начаваць, забраў Лену з сабою і паехаў.

Жылі яны добра, нават лепш, чым добра.

Лена, а яе папярэдзіў ужо Фёдар, сустрэла мяне, трымаючы на руках аднагадовую дачку.

Тады, перагортваючы прапанаваны ёю альбом з фатаграфіямі, я раптам зразумела, якой можа быць мужчынская дружба. І падумала, што калі Васіль,

маючы зносіны з Фёдарам, так зрабіў, то якім жа чалавекам павінен быць сам Фёдар?

Гордасць за яго, за Васіля, за Лену сціскала хваляваннем горла. Ясна і хораша было на душы, бо я, нарэшце, зрабіла свой выбар.

Цёпла, проста, быццам да роднага чалавека, адносілася да мяне Лена. І такая непадобная яна была на Паўлаву сястру Іну.

Вечарам, калі стала цямнець, прыйшлі Фёдар і Васіль. Лена наліла ім у талеркі боршч. Я сядзела на канапе ў іх адзіным пакоі, што служыў адначасова і гасцінай, і спальняй, і сталовай, і глядзела, як еў Фёдар. Твар у яго быў суровы, засяроджаны. Гледзячы ў талерку, ні разу нават не зірнуўшы ў мой бок, як быццам мяне і не было, ён жаваў павольна, ганяючы пад скуламі камкі жаўлакоў.

Павячэраўшы, падзякаваў сястры і, па-ранейшаму не гледзячы на мяне, падхапіў на рукі пляменніцу. Незнаёмай мне раней пяшчотай асвяціўся ў гэты момант яго твар. Дзяўчынка прытупвала ў яго на каленях, ухапіўшыся сваімі маленькімі ручкамі за яго вялікія цёмныя далоні, і радасна смяялася. Потым паторгала яго за вусы. Фёдар, жартам спрабуючы ўхапіць яе губамі за пальчык, усміхаўся. І я ў гэты момант падумала, як жа, мабыць, гэты грубы і суровы на выгляд чалавек любіць дзяцей.

Нагуляўшыся, ён апусціў малую на падлогу і прама, у вочы, паглядзеў на мяне:

— Ну што, засумавала?

Ён падняўся, тут жа, ля дзвярэй, з вешалкі, прыбітай да сцяны, зняў маю шубу і падышоў да мяне:

— Пара, пойдзем.

Я шчыра падзякавала Лене, і, развітаўшыся з ёю і Васілём, мы з Фёдарам выйшлі на двор. Было цёмна. Фёдар прытрымліваў мяне за руку. Пад нагамі асабліва гучна ў марознай цішыні скрыпеў снег. На начным небе, якое моўчкі глядзела на нас далёкімі недаступнымі зоркамі, гарэў тоненькі месяц. Я ішла побач з Фёдарам і з задавальненнем бясшумна глытала марознае сухое паветра — паветра новага і яшчэ не спасцігнутага да канца шчасця.

Фёдар прывёў мяне ў пустую казарму. У вялізным пакоі стаяла многа ложкаў. На адным з іх, з краю, была пасцель. Зверху ляжала акуратна складзеная суровая салдацкая коўдра. Фёдар зняў з мяне шубу, адвёў, пасцярогшы ля дзвярэй, у гэтаксама вялікі па плошчы і не надта ўтульны і зручны мужчынскі туалет.

Вярнуўшыся да нашага салдацкага ложка, ён вылажыў з кішэні на тумбачку запальнічку і цыгарэты, зняў з рукі і паклаў побач гадзіннік. Запаліў свечку, якую ўзяў у Лены, і выключыў электрычнае святло.

Мы сядзелі на ложку, не распранаючыся. Я паўтарыла тое, аб чым раней паведаміла ў пісьме:

— Федзя, я ўсё вырашыла. Я буду тваёй жонкай.

Моўчкі, не гледзячы на мяне, ён курыў.

Я прывыкла, мне гэта нават падабалася ў ім, што ён мог маўчаць. Але каб так?

І тут я ў адчаі раптам успомніла мамін сон...

Фёдар курыў адну цыгарэту за другой. Я глядзела на яго і чакала. Чакала, калі ён гэта скажа.

Нарэшце, ён сказаў... проста, звычайна, не шукаючы асаблівых слоў, не апраўдваючыся і не выкручваючыся:

— Я жанаты.

Нейкі час пасля гэтага мы так і сядзелі, моўчкі, побач, не гледзячы адно на аднаго.

І раптам Фёдар, быццам апамятаўшыся, павярнуўся да мяне, здранцвелай, непаслухмянай, і паспрабаваў абняць:

— Харошая мая, ты адзіная, каго я люблю. Я нават сустракацца ні з кім не мог, таму што кожную з іх, забыўшыся, называў Наташай. А тут звыштэрмінова застаўся. Жыць на кватэру перайшоў да бабкі адной. А ў яе — дачка Наташа. Не ведаю, як атрымалася. Улюбілася яна ў мяне. Ды і жывы ж я!

Фёдар змоўк, выцяг з пачка чарговую цыгарэту, зноў закурыў. Паглядзеў на мяне:

— А ты — замужам... Карацей, зацяжарала яна. Сказала мне. — Фёдар ізноў зацягнуўся цыгарэтай. — Я тады табе пісьмо напісаў, увосень, памятаеш? Думаў, калі ты адкажаш «так», прызнаюся Наталлі, што яе не люблю, скажу, каб зрабіла аборт... Паеду, цябе забяру, куды-небудзь перавядуся. А ты не адказала. — Фёдар курыў і курыў. Такім і запомніўся мне яго твар у тую ноч — падсвечаны гарачым агеньчыкам цыгарэты. — Я ўсё марудзіў... марудзіў... Чакаў ад цябе адказу. А там — ужо шэсць месяцаў амаль... Толькі за тыдзень да твайго пісьма і ажаніўся.

І, быццам адгадаўшы наперад мае думкі, то прытульваючы, то адхіляючы мяне ад сябе, каб зазірнуць у вочы, гаварыў:

— Нікуды я цябе не адпушчу. Адвязу да Лены, папрашу, каб вартавала, пакуль не вярнуся з работы. Не едзь. Чуеш, не едзь, Наташка.

Я паехала. Раніцай. У Маскве, на Беларускім вакзале, здала зваротны білет і купіла на бліжэйшы цягнік, як і сасніла мама.

* * *

Цёплым майскім днём, калі цвілі сады і пяшчотным лісцем зелянелі дрэвы, Фёдар, будучы ў водпуску, прыехаў у Мінск і прыйшоў да мяне на работу, у лесаўпарадкавальнае прадпрыемства. І пакуль я, хвалюючыся і не зусім усведамляючы сутнасць сваіх дзеянняў, афармляла тыдзень за свой кошт, чакаў мяне непадалёку ў скверы.

На другі дзень мы былі на Віцебшчыне, дзе нашы знаёмыя дапамаглі заарандаваць у вёсцы маленькі занядбаны домік, у якім ужо год, пасля таго як памерла гаспадыня, ніхто не жыў. Прыбраўшы ў доме, мы правялі ў ім некалькі дзён...

Ежу варылі ў печы. І я, па нейкай злой іроніі лёсу, наяве магла сузіраць малюнкі са сваёй няздзейсненай мары, з тужлівай зайздрасцю сочачы, як умела ён складваў дровы, падпальваў у печы і спрытна ставіў у яе чыгункі. Я бачыла яго такім, якім калісьці марыла бачыць, і разумела, што ўсё гэта мне не належыць.

У маі, незадоўга да таго, як Фёдар прыехаў у Мінск, у яго нарадзілася дачка Яна. Калі, даведаўшыся аб тым, я спытала, як можна было пакінуць жонку з маленькім дзіцём і вось так адправіцца ў водпуск, ён тут жа, не адказваючы, нерваваўся, насупліваўся і пачынаў курыць.

Перад ад'ездам з Віцебшчыны ён сказаў:

— Хачу наведаць бацьку, схадзіць на магілу да мамы. Паедзем разам.

Наша станцыя Іолча па маршруце «Чарнігаў — Янаў» пасля аварыі ў Чарнобылі ўжо больш як год была апошняй. Далей — мёртвая зона. Толькі

спецыяльныя цягнікі хадзілі ў ранейшым напрамку, дастаўляючы на Чарнобыльскую атамную і назад тых, хто там працаваў.

Я і Фёдар ішлі ад станцыі ў Іолчу. У яго ў адной руцэ — дзве невялікія нашы з ім сумкі, у другой — мая далонь. Мы трохі адсталі, прапусціўшы ўперад прыехаўшых з намі адным цягніком людзей, якія, раздзяліўшыся на групкі, ішлі ў тым жа, што і мы, кірунку. Па полі ад станцыі вілася шырокая, утрамбаваная і раз’езджаная ў дзве каляіны, дарога. Удалечыні быў бачны шэраг знаёмых, усё такіх жа, якімі запомніла з дзяцінства, высокіх ясакараў. Міма, у бок станцыі, праехаў веласіпедыст. Нехта абагнаў нас на матацыкле.

Я нервавалася.

Засталося ззаду поле. Мы выйшлі на шырокі, падбіты з двух бакоў зараснікамі маладога палыну, у белаватым россыпе пяскоў шлях. Я заўважыла, што насустрач нам бег чалавек. Не хутка бег, цяжка, крыху спатыкаючыся. Я адчула ў Фёдаравай руцэ напружанне:

— Бацька...

Запыхаўшыся і перарывіста дыхаючы, бацька Фёдара спыніўся перад намі:

— Мне сказалі, што Федзька мой ад станцыі ідзе... З жонкай прыехаў. От і пабег сустракаць.

Невысокі, худы, разгладжваючы на грудзях змакрэлую ад поту кашулю, расшпілены каўнер якой адкрываў карычняватую, у зморшчынах, шыю, ён глядзеў на нас здзіўленымі, выцвілымі вачыма і ў разгубленасці пераводзіў позірк з сына на мяне.

— Ну, здароў, бацька. От і стрэў. Да цябе ідзём, — спакойна сказаў яму Фёдар.

— Бачу, бачу. І што не жонку за руку вядзеш, таксама бачу.

Два дні мы правялі ў бацькі Фёдара. Як толькі цямнела, хаваючыся ад людзей, хадзілі па ваколіцы, а больш, па маёй просьбе, — па Прудавіцы. Блізка і, здавалася, так недасягальна далёка была родная хата, дзе свяцілася акно, і ніхто за тым акном не ведаў, з якім сумам пазірала на яго і не адважвалася зайсці на агеньчык унучка.

— Пакуль не споўніцца дзіцяці два гады, ваеннаму развод не даюць, — гаварыў Фёдар, калі мы, як і ў мінулы раз, у Чарнігаве на пероне, у чаканні кожны свайго цягніка, развітваліся. — Праз два гады я развядуся і ажанюся з табой. А дагэтуль усё роўна можна жыць разам.

Я слухала Фёдара, а сама была ўпэўнена: не пераступіць нам цераз яго дзіця — яго маленькую Яну. Ніколі не даруе ён сабе гэтага. І мне таксама. Тым больш што дзяцей ён любіць, вельмі любіць. Прыгадаўшы, якая пяшчота разлівалася па яго твары, калі прытупвала ў яго на каленях і радасна ўсміхалася яму маленькая пляменніца, адказала:

— У цябе ёсць Яна, Федзя. Ты не зможаш спакойна жыць, калі кінеш дачку. — І, не ведаючы, ці змагу я сама ў будучым мець дзяцей, дадала: — А мяне — зненавідзіш.

Чалавеку, як бы яму ні было цяжка, калі ён прымае рашэнне — робіцца лягчэй. І як толькі ён вырашае зачыніць адны дзверы, перад ім адчыняюцца другія.

Я вярнулася ў Мінск, акрэсліла для сябе будучыя ўчынкі і раптам адчула, што, нарэшце, разнялі свае кіпцюрыстыя абдымкі і адпусцілі на волю маю душу сумненні і трывогі.

Спакойнымі гарачымі днямі дагарала лета, калі ў лесаўпарадкавальнае прадпрыемства прыйшоў уладкоўвацца на працу малады сімпатычны хлопец. Акінуў мяне позіркам вялікіх і добрых светла-шэрых вачэй, прадставіўся Валодзем і прапанаваў сустракацца.

З Валодзем мець зносіны было на дзіва лёгка, здавалася, што мы ўжо даўно ведалі адно аднаго. І пра што б ні заходзіла размова, ані разу ніхто з нас не паспрабаваў паказаць сябе з лепшага боку, як гэта звычайна здараецца на першым этапе знаёмства. Мы многа, ад душы смяяліся з чаго-небудзь. Ні раней, ні пасля тых жнівеньскіх дзён я болей так не смяялася. Нашы простыя сустрэчы і размовы, якія аніяк не абавязвалі, непрыкметна станавіліся для яго і для мяне штодзённай патрэбай, супакойвалі і расслаблялі. Сустракаючыся з Валодзем, я зусім не адчувала напружанасці.

Ён расказаў, што бацька ў яго — алкаголік. Мама не мае адукацыі, нават чытаць не ўмее. Але яна харошая, добрая, працуе на будоўлі. Сястра ёсць, на год маладзейшая за яго. І прызнаўся, што судзімы, нядаўна вызваліўся — тры гады адседзеў за бойку. Пабіўся з хуліганамі, якія вымагалі грошы. Але быў тады п’яны. «Хуткая дапамога», міліцыя... Хуліганы аказаліся дзецьмі высокапастаўленых бацькоў. А Валодзя...

Гэту гісторыю я апісала ў апавяданні «Падсудны», якое пасля і апублікавала.

Магчыма, менавіта сваёй неўладкаванасцю, адсутнасцю дабрабыту ў яго сям’і Валодзя мне нагадаў Фёдара. І хоць Фёдар быў пахмурны, маўклівы, цыганіста-смуглы, а Валодзя — адкрыты, усмешлівы і добры, а знешне — бялявы і светласкуры, такая горкая падобнасць іхніх лёсаў у маёй душы іх радніла і яднала. І я адчувала да Валодзі сімпатыю і спагаду.

Іншы раз Валодзя прыходзіў пад чаркай. І я зразумела, што з гэтым у яго таксама праблема. Як і ў выпадку з Фёдарам, мы паспрабавалі яе вырашыць. Атрымалася. Доўгі час прытрымліваўся Валодзя сухога закону.

Праз месяц пасля знаёмства Валодзя прапанаваў выйсці за яго замуж.

Я не стала ўтойваць гісторыю свайго, не зусім удалага асабістага жыцця і, адказаўшы на яго прапанову згодай, агаварыла ўмову: перш як падаць заяву ў загс, я з’езджу развітацца з Фёдарам.

Праз два дні Валодзя праводзіў мяне на маскоўскі цягнік і прасіў пасажыраў пасунуцца, сесці цясней, каб выслабаніць для мяне месца ў цвёрдым вагоне.

Мы з Валодзем пажаніліся.

Я паспяхова скончыла інстытут, хоць і не абышлося без непрыемных момантаў. Кіраўнік маёй дыпломнай работы, стары паважаны прафесар, вырашыў як калега маральна падтрымаць Паўла і са словамі: «Што, прыстойныя не падабаюцца? Непрыстойныя будуць морду біць», дэманстратыўна, на вачах у членаў камісіі, у час маёй абароны пакінуў аўдыторыю.

Я не разгубілася і не расхвалявалася, упэўнена трымалася перад членамі камісіі і, не зважаючы на «сыход» майго кіраўніка, абараніла дыплом.

Якраз «непрыстойныя» мне «морду не білі». Я супакоілася, паступова набрала вагу і, дзівячыся, што з кімсьці можа быць настолькі лёгка і спакойна, называла Валодзю сваімі «валяр’янавымі кропелькамі».

Валодзя, па натуры «вядзёны», стаў, можна так сказаць, «маім ценем». Падатлівы, амаль цалкам пазбаўлены эгаізму, здольны захапляцца інтарэсамі і поспехамі блізкіх яму людзей, ён аказаўся для мяне, якая вырасла ў сям’і, дзе мужчыны былі даволі ўладарнымі і жорсткімі, сапраўднай аддушынай.

Бацькі, якіх спачатку шакіраваў мой выбар — трэба ж, ізноў былы крымінальнік і п'яніца! — ціха радаваліся.

Валодзя ўспрымаў мяне ледзьве не як багіню. Даведаўшыся, што я калісьці, у школьным узросце, іграла на акардэоне, ён, аб'ездзіўшы музычныя магазіны, прынёс мне ў падарунак баян:

— Вось, Наташка, я хачу, каб ты іграла. Акардэона нідзе не знайшоў. Ды я ўпэўнены, ты справішся.

Мне нічога не заставалася, як яму на радасць асвоіць і баян.

Валодзя вельмі ганарыўся тым, што я іграла. І калі ў нас бывалі госці, заўжды ўрачыста падношваў і ставіў мне на калені інструмент.

— А зараз Наташа вам што-небудзь выканае.

На дварэ ён падкормліваў птушак, бяздомных катоў і сабак. І я не ведала нікога, чыю душу настолькі моцна і глыбока раздзірала б, не даючы супакою, жаласлівасць.

Адзінай заганай, якую я ў ім бачыла, была лянота. Ён часта мяняў месца працы, дзе кожны раз яго што-небудзь расчароўвала, рабіў даволі працяглыя перапынкі і, застаючыся дома, паглыбляўся ў чытанне кніг.

З гэтым я нічога не магла зрабіць, ды і асабліва не засмучалася, бо матэрыяльных праблем у нас не было.

Я адкрыла свой бізнес, звязаны з фітадызайнам, і афарміла Валодзю майстрам. Як чалавек настрою ён то з захапленнем працаваў, то перыядамі, якія зацягваліся на месяц і болей, гэтак жа захоплена чытаў, без сораму, як быццам у гэтым было штосьці натуральнае, дазваляў сабе жыць за мой кошт.

Але ён быў настолькі добры да мяне, так шчыра радаваўся кожнаму майму поспеху, што я адчувала сябе моцнай побач з ім, усё болей і болей разнявольвалася і ўведвала сябе новую. Якраз дзякуючы Валодзю я пазбавілася ад няўпэўненасці ў сабе і замкнутасці, якія мучылі мяне з дзяцінства. Я стала весці дзелавыя перагаворы, даваць інтэрв'ю на радыё, супрацоўнічаць з прэсай і тэлебачаннем. Нават аднойчы рэжысёр і вядучы Уладзімір Даўжэнка ў сваёй папулярнай спартыўнай праграме «Асілак», якую я ў якасці фітадызайнера афармляла, прадставіў мяне тэлегледачам: «Самая абаяльная жанчына Беларусі». Ці гэта я абаяльная, якая да сустрэчы з Валодзем амаль заўсёды пазбягала людзей?

Дагэтуль не сумняваюся, што менавіта дзякуючы душэўнай спагадлівасці і ледзьве не сляпой, утрапёнай веры ў мяне гэтага чалавека я стала паспяховай і вядомай у рэспубліцы «бізнес-лэдзі».

Ішоў трэці год нашага з Валодзем надзвычай спакойнага, без эмацыянальных выбухаў і ўзрушэнняў, сямейнага жыцця. Ні прыцірак характараў з гарачымі сваркамі, высвятленнямі адносін і пераміранямі, ні рэўнасці...

Гавораць, зручны абутак той, якога падчас нашэння не заўважаеш, не адчуваеш. Валодзевай прысутнасці я нібы і не заўважала, мне было — не знаходжу больш дакладнага слова, каб выказаць свае пачуцці, — камфортна побач з ім. Камфортна настолькі, што лянота душы, якая звычайна ўзнікае пры гэтым, не дазваляла мне тую ягоную прысутнасць хоць неяк ацаніць.

У час паездак у Прудавіцу Валодзя шчыра прымаў душой усё, што мне было дарага, і, не пярэчачы, без стомы хадзіў разам са мной маімі любімымі сцежкамі, слухаў птушак і конікаў і, цярпліва складаючы мне кампанію — па праўдзе сказаць, без асаблівага энтузіязму, бо пабойваўся цемры, — глядзеў на зоркі.

Месцам, куды цягнула пачуццё настальгіі, быў і клуб. Аднойчы мы з Валодзем прыйшлі туды. Стаялі ля сцяны, назіраючы, як танцуе моладзь. Гэта

было ўжо нейкае іншае, зусім непадобнае на наша, а магчыма, так толькі здавалася, пакаленне. Але ў тварах падлеткаў угадвалася тое ж, уласцівае толькі юнацтву, трапяткое хваляванне. Тая ж зала... Такія ж, пазацiраныя ад ног танцораў, масніцы. Тыя ж вокны з шырокімі падаконнікамі, на якіх стракацелі скінутыя разгарачанымі ад танцаў хопцамі і дзяўчатамі пінжакі і кофтачкі.

Толькі ўжо не тыя твары, якія так хацелася пабачыць... Не тая музыка... І мы з Валодзем — чужыя староннія назіральнікі.

— Добры вечар, Наташа, — раптам перада мной узнікла, не хаваючы радасці ні ў вачах, ні ў голасе, высокая, мужчынападобная Аня, тая Аня з Іолчы, якая некалі пільнавала, берагла мяне для Фёдара. — Што ты тут робіш? Калі прыехала?

Я таксама абрадавалася ёй і не чакала напаткаць яе ў клубе.

— Пазнаёмся, Аня, гэта мой муж, — прадставіла я Валодзю. Расказала, што прыехалі на некалькі дзён, ды от, захацелася прайсціся, паглядзець на сённяшнюю моладзь.

— А ты што тут робіш? — задала стрэчнае запытанне Ані.

Яна, ніколькі не сумеўшыся, адказала:

— А я дзеўка-векавуха. Не замужам. От і хаджу дагэтуль на танцы, — Аня засмяялася і прыладзілася побач, ля сцяны.

Нейкі час мы маўчалі, гледзячы на танцораў, пакуль Аня, нахіліўшыся да мяне, ціха не запытала:

— Ты што-небудзь ведаеш пра Фёдара?

— Не. Тры гады амаль, як яго не бачыла.

І тут Аня каменем зваліла на мяне навіну, якая не проста на нейкі час ашаламіла мяне, а на працягу паўгода выпальвала, вымучвала душу.

— У Фёдара гора. Нядаўна пад коламі грузавіка ў яго на вачах загінула дачушка.

— Яна? — спытала я і з жахам адчула, як мяне ахоплівае здранцвенне.

— Так. Ён з жонкай, і дзяўчынка была з імі, праводзілі выхавальніцу. Яначка так захацела. Яна вельмі любіла сваю выхавальніцу. А тая была ў іх у гасцях, з жонкай Фёдара сябруе. Дарослыя загаварыліся і не заўважылі, як Яначка ўпусціла мячык і той выкаціўся на дарогу...

Пасля таго як Аня паведаміла сумную навіну пра Фёдара, я мела патрэбу ў зносінах з ёю, як маюць патрэбу ў зносінах з вельмі блізкім і родным чалавекам. І гэта душэўная прыязнасць, жаданне знаходзіцца побач, асаблівая даверлівасць, што ўзнікае толькі паміж людзьмі, якія даўно і добра ведаюць адно аднаго, былі ўзаемныя.

Цяпер кожны далейшы дзень, праведзены ў вёсцы, мы з Валодзем прыходзілі да Ані дадому. Яе мама частавала нас малаком і румянымі, з печы, аладкамі.

У Мінск мы прыехалі разам з Аняй. Яна з радасцю прыняла запрашэнне пагасцяваць і пазнаёміцца з горадам.

У маім фотаальбоме дасюль знаходзіцца здымак, які мы зрабілі ў тыя дні ў мінскім фотасалоне: стаім я, Валодзя, а паміж намі — сядзіць на крэсле — Аня.

З таго часу мы з Аняй не бачыліся. У яе памерлі бацькі, і яна кудысьці далёка паехала. Казалі — на Поўнач.

Цэлых паўгода пасля таго, як Аня паведаміла пра гібель Яны, маю душу ела туга, якая так нечакана ўзнікла і выцесніла сабой усякую здольнасць спакойна, а ўжо тым болей радасна ўспрымаць жыццё. І тую сваю цяжкую пры-

гнечанасць я не хавала, ды і не магла схаваць ад Валодзі. Хоць і разумела, што так, як я, робяць людзі, якія думаюць толькі пра сябе. А дакладней, эгаісты. Валодзя ж эгаістам не быў.

— Што ты, Наташка, мучаешся, — сказаў ён аднойчы весела, падбадзёрваючы. — Хочаш, з'ездзім да Фёдара?

— Чацвёрты год пайшоў, як мы не падтрымліваем сувязі, — засумнявалася я. — Дзе яго шукаць? Раптам ён ужо ў іншай часці? А хатняга адраса яго не ведаю.

— Знайшла праблему. Адрас я вазьму ў Фёдаравага бацькі, у вёсцы. Прадстаўлюся сябрам дзяцінства. У бацькі ж павінен быць сынаў адрас.

Захаваўся ў мяне і той лісток, складзены ўдвая, на якім Валодзевым почыркам акуратна выведзены спачатку адрас Лены, а ніжэй — Фёдара. Так я і даведалася, што брат і сястра былі суседзямі, жылі на адной вуліцы і ў адным доме невялікага падмаскоўнага горада.

Цяпер, калі пішу гэтыя ўспаміны, я больш думаю пра Валодзю, чым пра Фёдара. І тады, ужо там, у Падмаскоўі, калі бачыла перад сабой Фёдара, размаўляла з ім, я таксама больш думала пра Валодзю, нягледзячы на сваё гарачае, нястрымнае перад тым жаданне сустрэцца.

Я стаяла ў пад'ездзе на паверх вышэй, калі Валодзя пазваніў у патрэбныя дзверы.

Я хвалявалася. Фёдара магло не аказацца дома, ён наогул мог быць у камандзіроўцы. Мы ж з Валодзем ехалі без папярэджання, на сваю рызыку.

— Фёдар вось-вось вернецца з работы, — пачула я жаночы голас. — Праходзьце, пачакайце яго.

— Дзякуй, я пачакаю на двары, — адмовіўся Валодзя і, калі зачыніліся дзверы, падняўся на мой паверх.

— Фёдар хутка будзе, — паведаміў ён паўшэптам тое, што я ўжо чула.

— Хто адчыніў?

— Маладая жанчына.

— Якая яна? — тут жа, не стрымаўшыся ад звычайнай жаночай цікаўнасці, запытала я.

— Высокая, з кароткай стрыжкай. Напэўна, жонка.

Праз нейкі час бразнулі ўваходныя дзверы ў пад'ездзе.

Валодзя хутка спусціўся:

— Вы Фёдар?

— Ён самы.

— Паднімемся на паверх вышэй. Там Вас чакаюць.

Мы стаялі і нейкі час моўчкі глядзелі адно на аднаго. Ён — у ваеннай форме, у шынялі. За яго плячамі — Валодзя.

— Ты?

— Я, Федзя. А гэта, пазнаёмся, мой муж.

Што і як яно было — быццам у тумане. Няясныя, нібыта ўсё адбывалася ў сне, мае ўспаміны аб тым вечары. Можа, прычына такой расплывістасці ўспамінаў — выпітае намі на рабоце ў Фёдара спіртное. Хаця я піла няшмат — Фёдар і Валодзя мяне шкадавалі, не налівалі. Самі ж пілі, як той казаў, ад душы, уporавень. Толькі Фёдар быў мацнейшы і заставаўся знешне цвярозым, а Валодзя вельмі ап'янеў, размяк.

Фёдар і Валодзя трымаліся па-мужчынску цёпла, быццам даўно былі сябрамі.

— А прыехалі б раней, — памятаю з прызнаннеяў Фёдара, — я б не стаў з вамі гаварыць. Не змог бы. Жыць не хацеў пасля гібелі Яны. Сур'ёзна, не стаў бы. А зараз трохі палягчэла. Пасля таго, як нарадзілася Алеська.

Фёдар расказаў, што ў яго зноў дачка. Я ціха, у душы радавалася. І твар у яго быў добры, мяккі.

— А вам раю, — ён паглядзеў на мяне, — калі не будзе свайго, вазьміце ў дзіцячым доме малое. Абавязкова вазьміце. — І зноў паглядзеў на мяне, цёпла, як на родную. — Дзяўчынку бярыце! Толькі дзяўчынку. — І ўжо цішэй, Валодзю: — Так трэба. Тады яна будзе шчаслівай.

І яшчэ запомнілася, урэзалася ў памяць, як яны, два дарагіх мне чалавекі, перш чым нам пайсці ў гасцініцу, сталі адзін насупраць аднаго, і Фёдар, прама гледзячы Валодзю ў вочы, спытаў:

— Ты яе любіш?

— Люблю.

— Я яе таксама люблю. Беражы яе. Будзеш берагчы?

— Буду.

— Я хачу, каб у вас усё было добра, — ужо спакайней сказаў Фёдар і раптам жорстка папярэдзіў: — Але калі пакрыўдзіш — з-пад зямлі дастану.

І Фёдар моцна пацісну Валодзеву руку.

Я моўчкі стаяла, глядзела на іх і не ведала, радасна мне ці горка. Толькі адчувала, як нейкая сіла хваляй ахоплівала мяне знутры і, уздымаючыся, сціскала горла.

Па дарозе ў гасцініцу Валодзю зрабілася дрэнна. Часам ён спыняўся і ванітаваў.

Я вельмі перажывала, а Фёдар мяне супакойваў:

— Так бывае. Усё будзе добра, гэта пройдзе. Ён проста многа выпіў.

Пажылая жанчына-адміністратар невялікай мясцовай гасцініцы ўзяла ў мяне і Валодзі пашпарты і пасяліла нас у двухмесны нумар на першым паверсе.

Фёдару ўвайсці і паглядзець, як мы ўладкуемся, яна не дазволіла:

— Позна ўжо.

Валодзю хістала. Я дапамагла яму разуцца, зняць верхняе адзенне, і ён адразу ўпаў на ложак і заснуў.

Фёдар падышоў да нашага акна, ціха пастукаў. Я выглянула, прыадчыніўшы фортку.

— Ён не памрэ? — спуджана запыталася ў Фёдара.

— Не памрэ, не бойся. Вось убачыш, заўтра будзе жывы і здаровы.

Я раз-пораз падыходзіла да Валодзі, прыслухоўвалася, як ён дыхае, і вярталася да акна.

— Ён, праўда, не памрэ? — зноў у жаху пыталася я ў Фёдара.

— Праўда. Праспіцца, і ўсё будзе нармальна. Я ведаю.

Потым ён мяне ўгаворваў:

— Адчыні акно. Апраніся і вылазь сюды. Я цябе перахаплю, — Фёдар працягнуў да мяне рукі, — тут невысока.

— Не, гэта нядобра. І нельга пакідаць Валодзю.

— Павер мне, з ім нічога не здарыцца, — працягваў угаворваць Фёдар. — Ён будзе спаць. І нават не даведаецца пра гэта. Я ж нічога дрэннага табе не зраблю. Прыставаць не буду, абяцаю. Мы хоць пагаворым сам-насам. Я столькі часу цябе не бачыў.

Я паварочвала галаву да Валодзі, глядзела, як ён спіць, і адчувала, што не магу гэтага зрабіць — вось так, за яго дабрыню і ахвярнасць, узяць і — здрадзіць.

— Калі ты баішся саскочыць да мяне ў рукі, думаеш, што я цябе не ўтрымаю, давай тады я ўзлезу да вас у пакой. Упусці мяне. Ну, калі ласка, адчыні акно.

— Не. Не, Фёдар, — я рашуча пахітала галавой і патушыла святло.

Яшчэ раз падышла да Валодзі і, пераканаўшыся, што ён спіць, легла на другі ложак. Чула, як Фёдар доўга яшчэ стаяў пад акном, а потым пайшоў.

Раніцай у дзверы пастукалі. У нумар увайшоў Фёдар. Ён быў апрануты ў цывільнае — у звычайныя штаны і куртку. Я засаромелася, падцягнула да падбародка коўдру, успомніўшы, што не замкнула знутры дзверы.

— Пад'ём! — бадзёрым, жартаўлівым тонам загадаў нам Фёдар. — Хуценька ўмывайцеся, апранайцеся, і з'ездзім да майго сябра ў Мажайск. Я ўсё арганізаваў. Там ужо чакаюць у госці.

У нас з Валодзем былі куплены білеты на вячэрні цягнік з Масквы ў Мінск. Фёдар гэта ведаў, таму адпрасіўся з працы, каб правесці дзень з намі.

Валодзя пацягнуўся, не ўстаючы з пасцелі, заўсміхаўся.

— Ну што, жывы? — запытаў у яго Фёдар.

— Жывы.

— Я ж казаў, што жыць будзе, — Фёдар паціснуў Валодзеву руку. — Ты чаго палохаеш жонку? Толькі і чуў ад яе: «Памрэ... Памрэ... »

У Мажайску нас гасцінна прынялі. Накармілі абедам. Я заўважыла, з якой павагай і цеплынёй ставіўся да Фёдара ягоны сябар — па тым, як ён трымаўся, гаварыў, — пісьменны, інтэлігентны чалавек. Даведалася, што ён займаецца з Фёдарам, лічыць яго здольным і раіць пасля заканчэння вячэрняй школы вучыцца далей, каб атрымаць юрыдычную адукацыю. Бачыла, што з такой жа кранальнай цеплынёй і павагай адносілася да Фёдара і жонка сябра. У душы парадавалася, падумала: «Не памылілася я ў Фёдары. Калі да яго так ставяцца, неблагі ён чалавек». І ўспомніла, праз якое дробнае сіта крыўдных, несправядлівых плётак і сляпога цкавання прасейвалася калісьці ягонае жыццё ў роднай вёсцы.

Электрычкай «Мажайск — Масква» мы з Валодзем едзем да Масквы. Фёдар сыдзе на сваёй станцыі раней. Вагон паўпусты. Я сяджу побач з Валодзем. Гляджу на Фёдара, які сядзіць насупраць. Ён жа глядзіць у акно. Мы ўсе трое маўчым.

«Няўжо ён нават не зірне ў мой бок? І так нічога не скажа?» — у адчаі думаю я, не зводзячы з Фёдара вачэй.

Твар у яго нібы каменны. Ён сядзіць без аніводнага руху, працягвае глядзець у акно.

«Ну што ён там хоча ўбачыць? Мільгаценне дрэў? Ён жа вось-вось сыдзе з цягніка, і на гэты раз, хутчэй за ўсё, мы расстанемся назаўсёды», — ліхаманкава працягваю думаць я, адчуваючы, як нарастае напружанне.

Нарэшце, калі аб'явілі станцыю Фёдара і цягнік пачаў збаўляць ход, я адвяла ад яго позірк і паглядзела ў акно. І тут мяне апякло. Мы сустрэліся... вачыма... у адлюстраванні акна. Так і замерлі, гледзячы адно на аднаго. Як аказалася, увесь гэты час, не адрываючыся ад акна, ён глядзеў на мяне.

Упершыню я ўбачыла, што ў Фёдара — нечакана, у той самы момант, калі перасякліся, адлюстраваўшыся ў шкле, нашыя позіркі — з'явіліся на вачах слёзы.

Ён рэзка падняўся, кіўнуў на развітанне, хутка паціснуў Валодзеву руку і выйшаў у тамбур.

Цягнік спыніўся. Я глядзела ў акно з надзеяй убачыць Фёдара на пероне, але так і не ўбачыла.

Больш мы не перапісваліся і не сустракаліся. Толькі і застаўся вострай зарубкай на сэрцы той позірк у акне.

* * *

Гэтай паездкай завяршылася, адмежавалася ад далейшага маё неспакойнае, непрыкаянае, поўнае супярэчлівых учынкаў і памылак папярэдняе жыццё, у якім я яшчэ не паспела не толькі раскрыць, але і ўсвядоміць сваю сутнасць. Вельмі хутка, хаця і непрыкметна, незразумела, якім чынам, я змянілася, каб не азірнуўшыся, без шкадавання і сумненняў, нібы той матылёк, што выслабаніўся з кокана, ранейшае сваё жыццё забыць і адкінуць.

Валодзя ў мяне верыў. І дзякуючы ягонай веры я здолела арганізаваць і зрабіць паспяховым свой бізнес. Сфарміравала калектыў супрацоўнікаў, а потым у айчынных і замежных майстроў вучыла іх новай, яшчэ малавядомай у нашай краіне справе — аранжыроўцы кветак.

Сярод шматлікіх аб’ектаў, якія азеляніў гэты невялічкі — дванаццаць чалавек — калектыў, былі і даволі сур’ёзныя: бальніцы, дзіцячыя садкі, розныя прамысловыя прадпрыемствы, міністэрствы, банкі, рэзідэнцыі прэзідэнта, будынак СНД, Палац Рэспублікі... З артыстамі эстрады, чые канцэрты мы афармлялі, аб’ездзілі паўкраіны. Амаль ва ўсіх буйных універмагах Мінска адкрыла кветкавыя аддзелы сваёй фірмы. Лёгка і натуральна, быццам усяго толькі прымерала новы касцюм альбо сукенку, успрыняла ўласную папулярнасць.

Побач знаходзіўся Валодзя. Нібыта быў і ў той жа час не быў. Так я на яго прысутнасць у сваім жыцці рэагавала.

Паўтаруся, які б грубы сэнс гэта ў сабе ні змяшчала, што зручны абутак не заўважаюць. А ён служыць. І ім карыстаюцца. Усякай зручнай, камфортнай рэччу карыстаюцца. А чалавекам? Тым больш калі чалавек не пратэстуе, не абураецца і не крыўдуе, а прымае твае інтарэсы і тваё жыццё як уласныя.

Калі вярнуліся з Падмаскоўя, ні адзіным словам не абгаворваючы гэтага і не высвятляючы, я і Валодзя больш не дазволілі сабе тых адносін, якія звязваюць мужа і жонку ў паўнавартасны саюз — фізічнай блізкасці. Хаця і пражылі ў шлюбе яшчэ каля дзевяці год. Хутчэй ініцыятыва сыходзіла ад мяне, а Валодзя, як заўсёды і ва ўсім, згаджаўся са мной. Але адбылося гэта, як нешта натуральнае, тое, што для нас абаіх аднолькава наспела. Мы адносіліся адно да аднаго так, быццам былі брат і сястра. Нават і сёння, запытай хто-небудзь: «Ці ёсць у цябе брат?», — я спачатку прыгадаю не роднага, а падумаю пра Валодзю.

Паступова я станавілася больш упэўненай у сабе і выстройвала сваю «лесвічку ўгору». Не ўстаяла я і перад спакусай паверыць людскім усхваленням і ўжо не сумнявалася ва ўласнай выключнасці. А Валодзя, калі адкрыта і шчыра захапляўся мною, сам таго не ўсведамляў, што патураў гэтаму.

Я і Валодзя... Два чалавекі побач... Толькі адзін з нас жыў для сябе — ім была я, — а другі — для таго, хто жыў для сябе. Два жыцці — дзеля аднаго. Ці справядліва гэта?

Ішлі гады, перагортваючы, нібы ў дзённіку, старонку за старонкай дні. Рана альбо позна, але ў чалавеку пачынае абуджацца, патрабаваць свайго прырода — няважна, па якіх прычынах яна замоўкла альбо затаілася да часу. Я і не заўважыла, як мяне распесцілі пахвальба і ўвага людзей. І раптам адчу-

ла, што ўва мне не толькі ўсё яшчэ жыве жанчына, але і што гэтая жанчына, усвядоміўшы сябе, больш не жадае супраціўляцца сваёй капрызнай прыродзе і нават гатова пераступіць цераз блізкага.

Лавіна жаданняў і майго эгацэнтрызму, якую я пакуль яшчэ не паспела разгледзець унутраным зрокам, падштурхоўвала мяне да ўчынкаў, аб якіх потым шкадавала.

Я дазволіла ўзяць верх у сабе жанчыне і прапанавала Валодзю расстацца. Ён і на гэты раз уступіў мне.

Павел, Фёдар, Валодзя... Які след я пакінула ў душы кожнага з іх? Ці не разбуральнай машынай прайшлася па іх лёсах?

Кожнаму з іх я здрадзіла. Аднаму — калі пайшла за яго замуж без кахання, паддаўшыся ўласнаму бязволлю. Другому, якога, напэўна, усё ж такі кахала, — падпарадкаваўшыся сваёй слабахарактарнасці і баязлівасці.

І Валодзю... Больш за дзесяць год ягоная прысутнасць у маім жыцці мяне не толькі не абцяжарвала, але і дазволіла адчуць сябе ўпэўнена, не баяцца ні ўдараў, ні пастак, якімі часта пагражаюць людзі і свет. Яго, быццам выратавальны круг, кінуў мне ў складаны момант лёс.

Дзе яны, на самай справе шчаслівыя, гады, калі я яшчэ не ведала душэўных узрушэнняў, сумненняў і пачуцця віны? Тады  я нават не здагадвалася, якім пакутлівым можа зрабіцца жыццё, калі дазволіш жаданням прарваць плаціну звычак, чыстага сумлення і волі, калі не ўстаіш, не ўсцеражэшся ад небяспечнага раздваення на добрае і злое ў табе. А калі з цёмнага віру тваёй душы нечакана, не дазваляючы апамятацца і ўсё абдумаць, уздымуцца, вырвуцца, усплывуць на паверхню невядомыя раней жарсці, і ты, скарыўшыся іх націску, не знойдзеш у сабе сілы, каб вярнуць іх назад, у няхай нават цяпер і прымусовае зняволенне, вось тады толькі і ўсвядоміш, быццам прыгавор сабе, нібыта канчатковае, самае страшнае пакаранне, якое ўжо ніколі не дазволіць адчуць сябе ранейшым і супакоіцца: «Я здраднік».

А пасля таго, як Валодзя на маё прызнанне, што мучаюся пачуццём віны перад ім, міласэрна адказаў: «Я ўдзячны табе за гады, калі мы былі разам. Яны — лепшыя ў маім жыцці», — мой боль зрабіўся яшчэ вастрэйшым.

Восем гадоў пасля разводу ён жыў адзін. А зараз прыходзіць са сваёй грамадзянскай жонкай да мяне і майго цяперашняга мужа ў госці на Новы год і іншыя святы. Мы сябруем. Яго жонка называе мяне сястрой. І я радуюся гэтаму.

У сваім жыцці я зрабіла нямала дрэннага. І мне жахліва думаць, што больш я жыла для сябе, чым для іншых. І сёння, калі за плячамі столькі падзей, учынкаў і памылак, болю і радасцей, зразумела адно: калі здраджваеш блізкаму чалавеку, ты перш за ўсё здраджваеш сабе, бо, здрадзіўшы, ужо ніколі не зможаш адчуваць сябе па-сапраўднаму шчаслівым.

# З ПРАСТОРАЎ БЕЛАРУСІ

## Ганна МІКЛАШЭВІЧ

* * *

Вандроўка па родных мясцінах ...
Як сэрца шукае пяшчоты
На мілых шляхах-пуцявінах!
Далёка зямныя турботы.

Душа мая вольнага ветру
Ўдыхнула на поўныя грудзі...
Балоты, лясы — кіламетры…
Гасцінныя шчырыя людзі.

Бярозак і соснаў шаптанне
Радзімую песню мілуе,
Нібыта ў дзяцінства вяртанне...
Святло Беларусі чаруе.

Усё гэта поўніць адвагай.
Палоніць зямля прыгажосцю.
Мой край, чысціні тваёй прагну,
Дачкой адчуваю, — не госцяй.

* * *

Мяне узрушвае пачуццяў глыбіня,
Вачэй прыветных сонечная казка...
Ты самая раднейшая радня,
Мая пяшчота і святая ласка.

У твой сусвет, далёкі неба край
Я асцярожнай птушкаю ўзлятаю...
О, як вярнуць чаромхавы наш май?
Апошняю надзея памірае...

* * *

Ты побач. Як я баюся воч тваіх...
Агні-магніты ў іх...
Ты побач. Як я жадаю рук тваіх...
Цяпло і моц у іх...
Ты побач. Як я чакаю слоў тваіх...
Натхненне ў іх...
Ты побач. Душа і сэрца на дваіх...
*Каханне ў іх...*

**ДАЧУШЦЫ**

Снежань імжыць, а са мною дзяўчынка,
Родная, блізкая, нібы сляза...
Ты мая радасць і цуд — Ангелінка,
Вера ў жыццё, майго лёсу краса.

Жыць і кахаць, спадзявацца і помніць....
Мора любові у сэрцы бурліць...
Ты майго сэрца шчымлівая споведзь,
Светлай душы пуцяводная ніць.

*Слуцкі раён, вёска Грэск*

## Вера МІХНО

* * *

Паўстаў жывым малюнкам успамін:
Запоўніў грудзі востры водар поўдня,
Над галавою, быццам апельсін,
Красуецца аранжавая поўня.

Бязветранасць, паўцемра, цішыня,
Марская гладзь касмічнага адцення
І лёгкасць, што бязважкасці раўня,
Бы не ў вадзе плыву, а ў летуценнях.

* * *

Ахапіла болем
Ад нязбытнай мары.
У настрою колер
Навальнічнай хмары.

Аддала ёй сэрца,
Недаспала ночкі,
Ды з абдымкаў рвецца
Мая мара ўпрочкі.

* * *

Шмат разоў у зязюлькі пыталіся:
Колькі жыць засталося пад сонцам?
Што казаць, кожны раз спадзяваліся:
Кукаваць яна будзе бясконца.

Раптам птушка пачула нясмелае,
Незвычайнае дужа пытанне:
«Колькі жыць засталося мне, шэрая,
Да жаданай сустрэчы з каханнем?»

І зязюлька зусім разгубілася,
Цяжка ўцяміць птушынай галоўкай,
Чаму гэтак я шчыра малілася,
Каб яна, як мага хутчэй, змоўкла.

* * *

Жыццё маё ўперад крочыць,
Дзе шпарка,
а дзе ціхутка,
Таемнай сваёй сцяжынкай.

Калі празвініць званочак?
Так хочацца,
каб не хутка
Прыйшлося «спраўляць дажынкі»!

*Мінскі раён, вёска Бараўляны*

## Надзея ПАРЧУК

### ГУКАННЕ ВЯСНЫ

Дзе ж ты, раніца-закаханніца
У ясны сонечны весні дзень,
Шчасця й радасці уладальніца,
Дзе ж ты, светлая, дзе ж ты, дзе?

Я даволі ўжо прытамілася
Выглядаць цябе і чакаць.
Дзе ж ты, весняя, заблудзілася?
Анідзе цябе не відаць.

Мне зіма гэта надакучыла
Завірухамі і слатой.
Хай бы ўжо вясну ты агучыла —
Рэхам з выраю, над ракой!

* * *

Расчыні хутчэй акно, расчыні —
Той кранальнай і святой светлыні,
Што сыходзіць ад бяроз і нябёс,
Каб не сталася ў цябе горкіх слёз.

Каб паменела на сэрцы журбы,
Пра самоту і тлум ты забыў —
Павітайся хутчэй з белым днём,
Што расцвіў для цябе за акном...

*г. Брэст*

Людміла АРДЫНСКАЯ

## РОДНЫЯ ПРАСТОРЫ

Родныя прасторы… Найярчэй тут зоры.
Ў небе жураўліны паясочак-след.
Тонкія рабінкі, стужачка-сцяжынка,
Што ад роднай хаты павяла у свет.

Люба ў мілы сэрцу родны кут вяртацца,
Прывітаць на вежы спадароў буслоў,
Размаўляць на мове і не адракацца
Дараваных Богам і матуляй слоў.

Родныя прасторы — возера ўскрай бору
І бярозак шэраг, дзе шаша лягла.
Спадчынай багата, я да роднай хаты,
Да зямлі бацькоўскай на паклон прыйшла.

## ЖЫЦЦЁ

***Памяці дзеда***

Славяне засявалі поле жытам.
«Жыццё» — назвалі так жытнёвую палоску.
Ішоў мой продак па раллі з сявенькай босы
У ільняной кашулі з галавою непакрытай.

Ашчадна жменькаю раскідваў ён зярняткі
І крок за крокам засяваў сваю палоску.
Быў сейбітам, так вызначана лёсам,
І сваю справу перадаў нашчадкам.

А колькі пeражыў мой продак бедаў!
Іх больш, чым светлых у жыцці палосак.
Тырчала чорнае апаленае восце
Гадоў нягод, нястач, якія зведаў.

Апошняя вайна пусціла род на звод —
Загінулі сыны, нявестка, ўнукі.
Астатні гарнец жыта ўзяў у рукі,
Каб ратаваць людзей — галодны год.

Мой дзед Ілля той руні не пабачыў,
Хоць зерне дбайна ніве ён аддаў.
І жыта сеяў, хоць і паміраў,
І не чакаў, што хтось яго аддзячыць.

*Шаркоўшчынскі раён, вёска Радзюкі*



Ніна РЫБІК

# СКРЫЖАВАННІ

*Аповесць*

Таццяна спазнялася на важную сустрэчу. Сёння павінна было вырашыцца, падпішуць яны кантракт, які дазваляў яе фірме мець гарантаваны прыбытак як мінімум год, а калі пашанцуе і гэтыя адносіны працягнуцца, то і даўжэй, ці давядзецца шукаць іншы заказ. А гэта столькі клопату, ды і невядома, ці атрымаецца знайсці іншага такога заказчыка...

Выехала яна зараней, але на ўлічыла пробкі — і, калі даехала да месца, часу заставалася ўпрытык. І, як назло, ніводнага свабоднага месца на паркоўцы! Яна раз і другі праехала міма стаянкі, спадзеючыся, што нехта ад'едзе — машыны стаялі, як прымарожаныя. І ад'ехаць куды далей, а потым пехатой прайсціся да офіса, часу неставала: яна і так парушала ўсе магчымыя правілы прыстойнасці.

Нарэшце, насуперак усім забаронам, яна спынілася насупраць адчыненых варот у нейкую арганізацыю і прамармытаўшы: «Ну не заб'юць жа мяне за гэта! Ва ўсякім выпадку, адразу… А можа, калі пашанцуе, нікому не спатрэбіцца сюды заязджаць ці выязджаць…», і асцярожна паспрабавала ўціснуць сваю серабрыстую, нядаўна купленую «таёту» ў праезд…

І тут аднекуль, як чорт з табакеркі, выскачыў гэты мужчына — не па сезоне лёгка апрануты, у патрапаных джынсах, палінялай футболцы і старамодным пінжаку.

— Мадам, у вас праблемы? Дазвольце дапамагчы. За вельмі сціплае ўзнагароджанне я пастаўлю вашу машыну ў гэты двор — і ніхто не будзе мець да вас ніякіх прэтэнзій, — ён, здаецца, чытаў яе думкі.

— А гэта ваш двор?— спытала з недаверам Таццяна.

— На жаль, не, — развёў рукамі мужчына. — Але я магу гэта зрабіць — паставіць сюды вашу машыну і вырашыць на нейкі час праблему з паркоўкай. Толькі пры ўмове, калі вы не збіраецеся вярнуцца пазней, чым закончыцца рабочы дзень.

---

***Рыбік Ніна Аляксееўна*** *нарадзілася 16 студзеня 1962 года ў вёсцы Уласы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці (пасля аварыі — у зоне адчужэння). Скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум (1980) і факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта (1990). Працавала ў Хойніцкай раённай газеце «Ленінскі сцяг». З 1989 года жыве ў Астраўцы, працуе ў рэдакцыі раённай газеты «Астравецкая праўда», з 1992 года — галоўным рэдактарам газеты.*

*Выйшла дзве кнігі яе апавяданняў — «Права на адсяленне» (2001) і «Свае і чужыя» (2008).*

Гэты інтэлігентны бомж невядома чаму выклікаў давер. Да таго ж выбару ў яе не было. Яна сунула яму дзясятку і заехала ў вароты.

— Я вярнуся гадзіны праз дзве. Спадзяюся, што застану вас тут і што не ўбачу на варотах замок.

— Не сумнявайцеся, мадам, — пакланіўся ён іранічна-пачціва.

«Глядзі ты, які джэнтльмен — у абтрапаных джынсах з зацыраванымі дзіркамі і пінжаку з чужога пляча», — скептычна падумала яна, подбегам пераходзячы вуліцу.

«А вочы ў яго якія, — успомніла чамусьці, падымаючыся ў ліфце. — Як у пабітага сабакі: калючыя, іранічныя, а на самым донцы — добрыя-добрыя…»

«Вось толькі пра вочы — не трэба! — зазлавалася раптам на сябе. — Наглядзелася ўжо ў такія вось, добрыя і адданыя, пабітыя і вінаватыя… Хопіць! Ніякіх вачэй, ніякіх нюняў! Ты — дзелавая жанчына, і адносіны з мужчынамі ў цябе — выключна дзелавыя».

…Яна спазнілася ўсяго на пяць хвілін, але магчымым партнёрам гэта не спадабалася. Таццяна разумела, што яны маюць рацыю: уважлівыя абставіны — не апраўданне для спазнення на дзелавую сустрэчу, і старалася не напаляць і без таго крыху нервозную абстаноўку. Але да канца размовы ўсе, здавалася, забыліся пра яе «пракол» і захоплена абмяркоўвалі дэталі магчымага будучага супрацоўніцтва — чым далей, тым больш абодва бакі прыходзілі да высновы, што яно не проста магчымае, а неабходнае.

Толькі калі выйшла з будынка, яна ўспомніла пра сваю прыгоду з паркоўкай і занепакоілася: сустрэча доўжылася куды больш, чым заяўленыя ёй дзве гадзіны, і рабочы дзень блізіўся да завяршэння.

Вароты і сапраўды былі зачынены, але інтэлігентны бомж чакаў яе. Раскрыў, гэтак жа іранічна пакланіўся:

— Усё ў поўным ажуры, мадам!

Але Таццяна спынілася разгублена: выезд з варот быў вузкі, яшчэ адна машына прыпаркавалася ўпрытык да праезду… З яе трохмесячным вадзіцельскім стажам выбрацца адсюль і развярнуцца затым на невялічкім пятачку — задача вельмі рызыкоўная…

Ён заўважыў яе разгубленасць:

— Дапамагчы вам выехаць?

— За дадатковую плату? — хмыкнула яна.

— Ды не, у якасці бясплатнага бонусу. Ці падарунка — іншы, на жаль, зрабіць не магу. Ну і вы мне ў такім разе падарунак зробіце: даўно не сядзеў за рулём машыны, ды яшчэ такой шыкоўнай.

— Ну добра, хай будзе падарунак, тым больш, што двайны, — яна з задавальненнем села на любімае пасажырскае месца.

Ён лёгка, можна сказаць, элегантна праціснуўся паміж масіўным «джыпам» і вішнёвай «аўдзюхай», ліха развярнуўся, праехаў да скрыжавання.

— Вам куды?

Яна паглядзела на яго здзіўлена: аб гэтым яны не дамаўляліся! Але так не хацелася перасаджвацца за руль, ды яшчэ ў прадвечаровую гадзіну «пік», зноў адчуваць пастаяннае напружанне на скрыжаваннях, трымаць у памяці, калі ў які рад перастроіцца, чуць красамоўныя сігналы суседніх машын на кожную яе прамашку і здагадвацца, якія «кампліменты» пры гэтым ёй «адважваюць»…

І яна назвала адрас, удакладніўшы для парадку:

— Што водзіце віртуозна, я заўважыла. А правы ў вас ёсць?

— Ну, мадам, вы мяне крыўдзіце…

— А з алкаголем як?

— Ну я ж сеў за руль — значыць, ніяк. Рызыкаваць правамі я сабе дазволіць не магу.

…У горадзе, запруджаным аўтамабілямі, ён адчуваў сябе, як рыба ў вадзе: хутка перастройваўся перад патрэбным скрыжаваннем, віртуозна манеўраваў, умудраўся праціскацца ў любую найменшую шчыліну. Яна міжволі залюбавалася яго манерай ваджэння і падумала, што сама, напэўна, ніколі не навучыцца так: за рулём заўсёды нервуецца і, мабыць, з-за гэтага трапляе ў непрадказальныя сітуацыі.

Пакуль даехалі — а офіс яе фірмы быў у другім канцы горада — яна, адкінуўшы спінку сядзення, абдумвала дэталі кантракту, планавала будучы дзень — і адпачывала... І ён, падобна, таксама атрымліваў асалоду ад гэтага падарожжа па горадзе: калі прыехалі на месца, не спяшаўся выходзіць: сядзеў і пяшчотна пагладжваў руль…

— Добрая ў вас машына, — пахваліў.— Паслухмяная, манеўраная… Дзякуй, падарунак вы мне зрабілі цудоўны — даўно не адчуваў такой асалоды. А вы што, жывяце тут?

— Ды не, тут мой офіс. І вытворчы цэх. І гараж. А дом непадалёку, так што можна лічыць, што я ўжо на месцы. Зайду вось толькі на працу…

— Падначаленых праверыць?

— Гляньце на гадзіннік! Падначаленыя даўно дома, мужам катлеты смажаць і ў дзяцей урокі правяраюць.

— А ў вас што, рабочы дзень яшчэ не закончыўся?

— А я — кіраўнік, таму ў мяне рабочы дзень ненарміраваны. Гэта толькі здаецца, што начальнікі існуюць адно для таго, каб «рукамі вадзіць» і падапечным разгон даваць. Да таго ж правяраць урокі ў дзяцей у мяне даўно няма патрэбы…

— А катлеты?

— А катлет яшчэ паспею насмажыць, мы вячэраем позна...

— Дарэчы, а як вы даберацеся назад? — спахапілася яна. — Вы ўвогуле дзе жывяце?

— Не хвалюйцеся, дабяруся, — на гэты раз ужо ён ухіліўся ад прамога адказу.

І раптам у Таццяны, нечакана для яе самой, вырвалася:

— А вы не маглі б заўтра гадзін у дзевяць сюды пад’ехаць? Так бы мовіць, крыху папрацаваць у мяне вадзіцелем. Дзень ці некалькі, як у вас атрымаецца. Я заплачу. Ведаеце, у мяне напружаны графік, шмат трэба ездзіць па горадзе, а правы я атрымала нядаўна і вадзіцель з мяне, як вы, напэўна, заўважылі, не вельмі…

— Заўважыў, — усміхнуўся ён.

Яна ўзлавалася на гэтую яго ўсмешку і таксама ўкалола:

— Калі, вядома, вашы вароты змогуць без вас абысціся…

— Лёгка! І з задавальненнем! — адказаў ён адначасова і на пытанне, і на прапанову, не зважаючы на яе іронію.

Праз хвіліну ён гэтак жа лёгка — а для яе гэта заўсёды было выпрабаваннем — загнаў машыну ў гараж, замкнуў яго, аддаў ёй ключы.

— Ну то што, да заўтра?

— Слухайце, давайце хоць пазнаёмімся. Мяне Таццянай завуць. Прабачце — Таццяна Аляксееўна.

— А мяне — Юрый Аляксандравіч. Для вас — проста Юрый, — адказаў ён ёй у тон і, махнуўшы на развітанне рукой, знік у прахадным двары.

* * *

Таццяна прыйшла дамоў, пачала гатаваць вячэру — а ў галаве ўвесь час круцілася сённяшняя нечаканая сустрэча з гэтым «інтэлігентным бамжом», як яна празвала ў думках новага знаёмага.

«І тузануў цябе чорт за язык з прапановай гэтай работы, — дакарала сама сябе. — Вядома, цяжка ўвесь час быць за рулём, ды яшчэ і пра справы думаць. Але што гаварыў інструктар у аўташколе: не будзеш ездзіць — не навучышся. А ты ўсё сабе палёгку шукаеш. І калі табе ўжо так спатрэбіўся шафёр, няўжо нельга было ўзяць праверанага, надзейнага? Валодзя б параіў некага. А то — нейкага бамжа, што вароты сцеражэ, падабрала! Вось размалоціць заўтра тваю новенькую «ластаўку» і знікне — шукай потым ветру ў полі. Ці ўвогуле ўгоніць ды перапрадасць — будзеш ведаць, як давяраць першаму стрэчнаму. І колькі можна ўсіх шкадаваць, колькі можна наступаць на адны і тыя ж граблі? Нічому цябе, дзеўка, жыццё не вучыць… Вочы, ці бачыце, у яго збалелыя ды разумныя! Мала ты бачыла такіх вачэй? Калі забылася, то вунь, паглядзі — блішчаць за сталом насупраць, шчаслівыя, задаволеныя: залік сёння здаў! Якраз такія, як у яго бацькі — васількова-блакітныя, як валошкі ў жыце…»

…У тым самым даспяваючым жыце, дзе па вузенькай сцежачцы некалі ішлі яны з Сашам — даўным-даўно, у мінулым жыцці. У яго былі якраз такія вочы — нібы россыпы валошак. І ў іх заўсёды дрыжала смяшынка. З ім было так лёгка, так весела і цікава! Яны бясконца гаварылі: ён пачынаў фразу, а яна заканчвала, ці наадварот — і весела смяяліся. Здавалася, яны не проста думаюць аднолькава — іх сэрцы б'юцца, як адно.

У іх былі канікулы. Саша, якога пасля смерці маці выхоўвала яе сястра, адзінокая цётка Аня, гасціў у вёсцы, набіраючыся сіл перад апошнім курсам інстытута. Таню чакаў апошні, выпускны клас школы.

— Пачатак канца, якім заканчваецца пачатак, — так называў ён іх апошняе лета дзяцінства.

— Гэта як? — не зразумела Таня.

— Ну вось, пачнецца верасень — канчатковы этап вучобы, тваёй і маёй. Але гэтая вучоба — толькі пачатак жыцця. Вось і атрымліваецца, што гэта — пачатак канца. Якім заканчваецца пачатак — наша першая прыступка ў самастойнае жыццё…

— Вечна ты закруціш! — засмяялася яна.

А потым змоўкла, стала задуменна церабіць у руках сарваны каласок.

— Гэй, аб чым зажурылася, прынцэса? — паспрабаваў ён вярнуць ранейшы вясёлы настрой.

— Шкада, што ты хутка ад'язджаеш. Я так прывыкла да цябе за гэтае лета…

— А я як прывык! І чаму гэта мы так позна пасябравалі? Як я раней цябе не заўважаў?

— Ага, была табе справа да суседкі-малалеткі. На іншых заглядваўся — я ж бачыла, як са старшынёўскай Тонькай на танцах абдымаўся. І Зойку дахаты праводзіў…

— Ах ты, шпіёнка малалетняя! — ён лёгенька, жартам шлёпнуў яе па мяккім месцы. — Сачыла за мной, значыць?

— Яшчэ чаго, надта трэба — сачыць за табой! — Таня зрабіла выгляд, што пакрыўдзілася. — Што мне, вочы завязваць было, як ты з Зойкай шпацыраваў па вуліцы?

— Ну ладна, што гаварыць пра тое, што было? Дурны быў — вось і заглядваўся на іншых. Затое цяпер разумею, што лепшай за цябе ва ўсім свеце няма.

— Так ужо і ва ўсім? — недаверліва хмыкнула Таня і паказытала каласком яго руку. — У горадзе, пэўна, не такія красуні ходзяць. І разумніцы, з вышэйшай адукацыяй…

— Дурненькая ты мая, — прыгарнуў ён да сябе дзяўчыну. — Думаеш, вышэйшая адукацыя — гэта ўжо розум? І размаляваны твар — гэта ўжо прыгажосць? Я цябе прашу: закончыш школу, паедзеш у горад вучыцца — глядзі, не стань такой, як гэтыя гарадскія. Яны ўсе… Ну як табе сказаць? Нейкія аднолькавыя — як лялькі ў магазіне. Сукенкі, здаецца, розныя, і твары, і прычоскі, а ўсе — пластмасавыя… А ты — сапраўдная, жывая. За гэта я цябе і пакахаў, — будзённым голасам, нібы паведаміў, што новую кашулю купіў, прамовіў Саша словы, якія яна з заміраннем сэрца чакала, марыла пачуць, сніла…

— Што? Што ты сказаў? — Таня адхінулася ад яго дужага пляча і стала ўглядацца ў валошкавыя вочы: ці не смяюцца яны, ці не жартуе хлопец? Але блакіт свяціўся цеплынёй і пяшчотай…

— Тое, што чула: я цябе кахаю, — паўтарыў ён і моцна абняў. — Ты — самая лепшая. І я ніколі не дазволю табе стаць пластмасавай лялькай. Я заўсёды буду побач. І буду сачыць за тваімі паводзінамі — як некалі ты за мной, маленькая шпіёнка!

— Як гэта? — не зразумела Таня.

— Ну, пра гэта іншым разам. І ўвогуле — хопіць на сёння сур’ёзных размоў! — адмахнуўся Саша і стаў цалаваць яе, пяшчотна, як крылцы матылька, дакранаючыся вуснамі да голых рук, адкрытых плячэй, загарэлай шыі, ямачкі на шчацэ… Таня заплюшчыла вочы, прыслухоўваючыся, як недзе з самай глыбіні яе ўлоння падымаецца нязведаная да таго цёплая хваля пяшчоты і жадання, якая разлівалася па целе, паралізоўвала рухі, волю, думкі…

«Другі раз», пра які не захацеў гаварыць Саша падчас спаткання ў жыце, здарыўся напярэдадні яго ад’езду. Таня хадзіла сумная: апошні дзень, апошні вечар… Як яна будзе без яго, калі ўвесь сэнс жыцця, здаецца, звёўся да іх сустрэч, спатканняў, размоў? І вось сёння — апошні вечар…

Ён прыйшоў, як сцямнела — прыбраны, з букетам гладыёлусаў. Не пастукаў, як звычайна, у акно, а зайшоў у хату. Бацькі якраз вячэралі. Таня счырванелася, як півоня: што ён сабе дазваляе, што маці і бацька скажуць? Маці, якая ведала пра іх спатканні — ды і хто пра іх не ведаў, уся вёска гудзела — спалохана ўскочыла: што здарылася?

Саша павітаўся і, не чакаючы адказу — відаць, таксама хваляваўся — пачаў з галоўнага:

— Паважаныя Ганна Мікалаеўна і Пятро Іванавіч! Я хачу папрасіць у вас рукі вашай дачкі.

Бацькі разгублена паглядзелі адно на аднаго, затым на Таню, на Сашу, зноў на яе… Бацька нейкім занадта пільным позіркам стаў аглядваць

постаць дачкі, твар — у Тані, і без таго пунсовай, пачырванелі, здаецца, нават пяткі.

— Але як жа? — першай падала голас маці — Яна ж яшчэ зусім дзіця, ёй школу заканчваць трэба, пра інстытут яна марыць… Ды і табе ж яшчэ вучыцца.

— Ці ўжо не церпіцца? — перасеўшым голасам, які не абяцаў нічога добрага, абазваўся бацька.

— Тата, што ты кажаш, як табе не сорамна! — Таня гатова была расплакацца.

Але Саша зноў узяў ініцыятыву ў свае рукі.

— Не хвалюйцеся, церпіцца. І я не кажу, што мы пажэнімся заўтра ці паслязаўтра. Няхай Таня вучыцца. І я паеду заканчваць свой інстытут. А наступным летам мы пажэнімся і паедзем разам туды, куды мяне размяркуюць. А вучоба… Кажуць, для дзяўчыны лепшая адукацыя — выйсці ўдала замуж. Я сваю сям’ю пракарміць здолею.

— Тады навошта так спяшацца з гэтымі вашымі заручынамі? — Бацька ўсё яшчэ недаверліва паглядваў то на будучага зяця, то на дачку.

— Я хачу, каб вы ведалі, што я кахаю Таню і не дзеля забаўкі праводжу з ёй час, — гэтак жа цвёрда прамовіў Саша. — Што я — па-сур’ёзнаму…

— Танечка, ты што скажаш? — глянула на дзяўчыну маці.

— Я?— сумелася Таня. І выдыхнула сарамліва, счырванеўшыся яшчэ больш — хоць больш, здавалася, ужо немагчыма. — Я згодная…

— Толькі ж ты глядзі, Саша, не крыўдзі нашу Танечку, адна яна ў нас, — голас у маці задрыжэў, і яна пастаралася схаваць павільгатнелыя вочы.

— Хіба ж яе можна пакрыўдзіць? Яна такая харошая…— шырока ўсміхнуўся Саша, а за ім — і ўсе астатнія.

Тую ноч яны гулялі напралёт — гаварылі, строілі планы, цалаваліся… А ранкам ён паехаў.

Лісты ад яго ішлі штодзённа — цёплыя, ласкавыя, кожны радок у іх быў прасякнуты каханнем. І Таня яму адказвала тым жа — апісвала кожны свой дзень, расказвала пра кожную, самую нязначную падзею, дзялілася думкамі, пачуццямі, перажываннямі.

У лютым ён прыехаў на канікулы. Бацькі якраз адправіліся ў Маскву на вяселле да мамінай пляменніцы, Таня ж засталася на гаспадарцы. І гэты тыдзень яны не развітваліся ні на хвілінку: насілі дровы, палілі печ, расчышчалі дарожкі ад снегу, гатавалі снеданне і вячэру, мылі посуд, кармілі парсюкоў — усё разам, поруч, стараючыся кожны момант прытуліцца ці хоць дакрануцца адно да аднаго. Гэта днём, а калі надыходзіла ноч, то пяшчота, асалода, каханне, здаецца, разліваліся ў невялікім Таніным пакойчыку, запаўнялі ўсю прастору. Здаецца, пяшчоту, асалоду, каханне можна было кратаць рукамі, піць нагбом, і Таня з Сашам былі самымі шчаслівымі ў свеце…

…Развітваючыся, дамовіліся, што ў маі ён прыедзе і яны пададуць заяву ў загс — васямнаццаць Тані спаўнялася ў канцы красавіка. А ў чэрвені, як ён абароніць дыплом, а яна здасць выпускныя экзамены, згуляюць вяселле.

Праз нейкі час, як Саша паехаў, Таня зразумела, што цяжарная. Хацела адразу ж напісаць яму, уяўляла, як ён узрадуецца. Ды не змагла: як такое — самае запаветнае, святое, што яднае іх больш усякіх слоў пра каханне і самога кахання — даверыць паперы? Вырашыла пачакаць, калі ён прыедзе, і ўжо затым падзяліцца радасцю — а пакуль насіла яе ў сабе, як каштоўны сасуд з

чароўнай вадой, баючыся расплюскаць хоць кроплю, уяўляючы, як потым яны разам будуць піць з яго, захлынаючыся ад шчасця…

…Ён не павіншаваў яе з днём нараджэння. І на першамайскія святы не прыехаў… Пісем не стала. Яна ўсё старалася прыдумаць апраўданні: заняты, рыхтуецца да дзяржаўных экзаменаў, піша дыпломную, хутка абарона. Але калі ён не прыехаў і на 9-га Мая, устрывожылася не на жарт: можа, што здарылася, а яна нічога не ведае? Можа, яму патрэбна яе дапамога? Пераступіла цераз сябе, пайшла да яго цёткі, якая, ведала, яе недалюблівала. Але тут сустрэла на дзіва лагодна, паглядзела неяк вінавата…

Таня не ведала, з чаго пачаць размову. Нарэшце рашылася:

— Цёця Аня, вы не ведаеце, чаму Саша на майскія святы не прыехаў? Ён павінен быў, мы дамаўляліся… Я хвалююся: можа, здарылася што?

— Не чакай яго, дзіцятка, — апусціла вочы пажылая жанчына.

І, памаўчаўшы, дадала ціха:

— Жэніцца ён… Во, запрашэнне на вяселле прыслаў…

…Яна выскачыла з хаты, як кіпенем абвараная, не магла паверыць, што гэта — праўда. Але ж яна на свае вочы бачыла паштоўку з галубкамі! А там — Сашавым почыркам: «Запрашаем на вяселле… якое адбудзецца… Саша і Віялета…»

Госпадзі, чаму? Што здарылася? Яшчэ ў лютым усё было так цудоўна, і раптам — ён жэніцца… Можа, ужо тады, як яны былі разам, у горадзе яго чакала іншая, пластмасавая — так, як яна тут? Але ж няўжо так можна? За што ён з ёй так? І як цяпер ёй жыць — адной, без яго? Каму цяпер можна верыць, калі ён — самы лепшы, самы шчыры, самы каханы — здрадзіў? І як жыць, калі нікому не верыць?

Чутка, што Саша, які ўсе лета не адыходзіўся ад Тані, жэніцца, маланкай разляцелася па вёсцы. Нехта спачуваў ёй, нехта пасміхаўся. Але пра яе цяжарнасць, здаецца, ніхто не здагадваўся, нават бацькі. Таня ж нібы скамянела. Жыла, як у летаргічным сне. Стаяла на школьнай лінейцы на апошнім званку… Хадзіла на экзамены… Здала іх на дзіва добра, хоць і не вучыла нічога — не магла: ледзь толькі заставалася адна, апаноўвалі адны і тыя ж думкі: «Як ён мог? За што ён са мной так? Чаму сам не сказаў, не растлумачыў, што здарылася? Баязлівец…»

Але нават у такія моманты ёй хацелася верыць, што ён не вінаваты. «Ён харошы, ён не мог так са мной абысціся — гэта ўсё тая пластмасавая Віялета, якой яна не ведае! Пэўна, яго прымусілі — падманулі, зачаравалі, можа, нават запалохалі… Бедненькі… Але чаму, чаму ён нічога не сказаў — удваіх яны абавязкова што-небудзь прыдумалі б, ўратавалі б іх каханне…»

«Ды не, ён такі, як усе… Здраднік… Баязлівец… Прыстасаванец… Не дарую — ніколі! Гэтую ганьбу, гэты боль, пакуту — ні за што! Нават калі папросіць прабачэння!»

А ў душы ёй больш за ўсё хацелася, каб гэта аказалася нечым злым жартам, ці недарэчнай памылкай, ці збегам нейкіх незразумелых абставін, якія раптам вырашацца — і яны зноў будуць разам.

Атэстат Таня, лепшая вучаніца класа, атрымала прыстойны, нават «выцягнула» на медаль, хоць і не на залаты, які ёй хорам прарочыла ўся школа, а на сярэбраны — добрая база ды прыхільнасць настаўнікаў зрабілі сваю справу. Цяпер яна магла штурмаваць дзверы любога інстытута. Атэстат гэта дазваляў, веды — таксама. А вось дзіця, што расло ў ёй, стукалася ножкамі — што з ім

рабіць? Гэта ж — Сашава часцінка, дзіця іх кахання… Але як ёй жыць — без яго і з дзіцем?

Адразу пасля экзаменаў Таня паехала ў горад да хроснай маці, матулінай сяброўкі юнацтва. Усім сказала, што будзе падаваць дакументы ў інстытут. А сама вырашыла: зробіць аборт, годзік папрацуе, а потым паступіць.

Ды цётка Валя, якая амаль з парога зразумела, што з дзяўчынай робіцца нешта няладнае, у першы ж вечар даведалася пра яе бяду — ноч навылёт праплакала Таня ў яе на плячы. А ранкам хросная, якая ўсё маўчала і толькі гладзіла яе, як маленькую, па галаве, сказала, як адрэзала:

— Ну вось што, дзеўка: пра тое, каб дзіцятка знішчыць, і думаць забудзься — грэх гэта, вялікі грэх. Ды і не зробіць табе ніхто аборт на такім тэрміне. А калі які злачынец і рашыцца, то падумай, чым рызыкуеш! Падавай дакументы ў інстытут.

— Ды што вы, цёця Валя? Як жа я жыць буду, за што? І дзе? Мне ж нараджаць увосень…

— Не бойся: даў Бог дзіцятка — дасць і на дзіцятка. Даверся яму. А жыць у мяне будзеш, я дапамагу. Не хвалюйся толькі, табе гэта шкодна.

Таня паступіла лёгка: здала на «пяцёрку» сваю любімую хімію — і была залічана студэнткай тэхналагічнага інстытута. А ў лістападзе нарадзіла пухленькага блакітнавокага хлопчыка, якога назвала Васільком. Першы год узяла акадэмічны, а потым рвалася паміж дзіцем, інстытутам, работай — стала падпрацоўваць, бо жыць на яе стыпендыю і цётчыну пенсію было цяжка. Час ад часу прыязджала маці, прывозіла з вёскі то кавалак мяса, то шмат сала, то кошык яек, то якую капейчыну, прыхаваную ад бацькі — той не дараваў дачцэ-блудніцы грэх і не хацеў яе бачыць. Расказвала вясковыя навіны: хто з кім ажаніўся, хто нарадзіў, хто памёр…

Аднойчы, хаваючы вочы, сказала, што да Ганны прыязджаў у госці Саша з жонкай.

— Вой, дачушка, ты б бачыла, на каго ён цябе прамяняў! Валасы выбеленыя, уся расфарбаваная, пазногці — во! — адставіла маці руку мо на паўметра. — Папяросы адну за адной смаліць, і людзей не саромеецца, брыда такая! Ну, чыста лялька заграначная! А Саша мяне на вуліцы стрэў — галаву апусціў, у вочы, відаць, сорамна глядзець… А ўвечары дахаты прыйшоў. Пра цябе пытаўся. Адрас твой прасіў ці тэлефон… Я не дала, — маці запытальна паглядзела на дачку: ці правільна зрабіла?

— І добра, што не дала! — катэгарычна заявіла Таня. — Спадзяюся, ты нічога яму пра мяне не расказвала?

— Дачушка, хіба ж шыла ў мяшку схаваеш? Не сказала я, дык сказалі іншыя, што ў цябе сын расце. Ён таму, мусіць, і зайшоў. Бо калі адыходзіў, пацікавіўся, колькі тваймў дзіцяці?

— А ты? — са страхам выдыхнула Таня.

— А што я? Што мне лезці ў ваша жыццё? Самі разбірайцеся ў тым, што натварылі… Так яму і сказала. Ён унурыў галаў вінавата і пайшоў.

— Дзякуй, мамачка! — узрадавалася Таня. — І не расказвай пра мяне нікому нічога, добра? Мой грэх, маё дзіця — я і выгадую.

І, памаўчаўшы, дадала — нібы не толькі маці, а і самой сабе прызналася ў выпакутаваным:

— Гэта добра, што ў нас з ім нічога не атрымалася. З ім я таксама б стала пластмасавай лялькай. І нічому ў жыцці не навучылася б…

* * *

Ноччу Таццяна спала дрэнна. Спачатку доўга не магла заснуць: як ні праганяла, у галаву лезлі думкі пра Сашу. Цікава, дзе ён, як, ці жыве са сваёй «лялькай», ці ёсць у іх дзеці? Узгадвалася студэнцкае жыццё — сёння нават цяжка ўявіць, што вытрывала тады… Каб не дапамога маці і сардэчнай цётачкі Валі, ды не злосць — на яго, на саму сябе, на жыццё, не жаданне даказаць усім, што так лёгка яе не зламаць, што яна яшчэ пакажа ўсім, на што вартая, — невядома, ці вытрымала б у тым беспрасветным безграшоўі і вечным цэйтноце, калі паспаць удавалася толькі пару гадзін у суткі. А сёння ўсё часцей у галаву прыходзілі думкі: ці правільна яна зрабіла, што нічога не сказала Сашу пра сына? Усё ж, як бы там ні было, ён — бацька, і мае права ведаць сваіх дзяцей… «Хоць, зрэшты, ён сам сябе пазбавіў гэтага права, — падумала, засынаючы пад раніцу. — Каб хацеў — даведаўся б. Не дзіця малое, ведае, адкуль бяруцца дзеці».

А калі ўрэшце задрамала, прымроілася нешта дурное: брудныя, забітыя бамжамі вакзалы, паязды, якія ўсё імчалі міма, не спыняючыся. Яна некуды спяшалася — і спазнялася, ірвалася да кожнага цягніка, бо там, куды ёй трэба было ехаць, яе чакалі дзеці, яна ведала, што неабходна ім у гэтую хвіліну. Але ў цягніку, да якога яна нарэшце дабегла, дзверы вагона зачынілася проста перад яе носам. І тут з'явілася маці і з дакорам здалёк паглядвала на яе, не падыходзячы і гаворачы ні слова…

«І што тут пры чым? — памешваючы ранкам свежазавараную моцную каву — лепшы допінг перад напружаным працоўным днём — старалася зразумець свой трывожны сон. — Хоць бы з хлопцамі ўсё добра было. У Васілька, здаецца, ўсё ў парадку — ні пра якія праблемы ўчора не казаў, ды і вочы блішчалі радасна, а яны дакладна не падмануць… А вось Андрэйка — як ён там? Абавязкова трэба будзе патэлефанаваць яму сёння. Адразу, як прыйду на работу…»

Яе апярэдзілі. Калі ўжо зачыняла дзверы, зазваніў хатні тэлефон. Яна яшчэ не зняла трубку, а ўжо ведала: гэта з Мінска. Нешта здарылася з Андрэйкам…

Прадчуванні яе не падманулі. Тэлефанаваў яго куратар. Андрэя з прыступам апендыцыту ноччу на «хуткай» забралі ў бальніцу і адразу ж прааперыравалі — была пагроза перытаніту, бо доўга трываў боль, нічога нікому не казаў. Аперацыя прайшла паспяхова, мама можа не турбавацца. Але пажадана, каб яна ўсё ж прыехала, прывезла неабходныя ў бальніцы рэчы — сёння яго павінны перавесці з рэанімацыі ў аддзяленне…

— Ну вядома, я прыеду! — яе нават пакрыўдзіла такая просьба, нібы калі яе трынаццацігадовы сын з'яўляецца курсантам суворАўскага вучылішча, то яна перастала быць яго маці! — Да абеду буду!

Яна ўдакладніла бальніцу і аддзяленне, куды паклалі Андрэйку. І толькі паклаўшы трубку, успомніла, што ехаць няма на чым. Абодва вадзіцелі ў камандзіроўках. Валодзю неабходна пакінуць «на гаспадарцы» — сёння павінны званіць учарашнія партнёры, каб удакладніць некаторыя дэталі кантракту, і калі ім ніхто не дасць патрэбных тлумачэнняў, ды яшчэ з улікам яе ўчарашняга праколу са спазненнем на сустрэчу — амаль што падпісаная дамова можа сарвацца. Сесці за руль самой? Дык яна і ў сваім горадзе, які называюць вялікай вёскай, не вельмі ўпэўнена адчувае сябе за рулём, а ехаць у сталіцу — з яе пробкамі, процьмай машын, скрыжаваннямі, дзе яшчэ трэба знайсці патрэбны адрас, не ведаючы добра горада — тая яшчэ задачка…

І тут яна ўспомніла пра ўчарашняга выпадковага знаёмага. Як там, ён казаў яго завуць? Юрый Аляксандравіч, а для яе — проста Юрый? Пэўна, яго сам Бог пасылае ёй у такім безвыходным становішчы. Толькі б ён нікуды не знік і прыйшоў сёння…

…«Інтэлігентны бомж» ніякавата таптаўся каля гаража, ловячы на сабе цікаўныя позіркі супрацоўнікаў, што спяшаліся на работу: гэта што яшчэ за фрукт такі з'явіўся? На ганку нервова курыў Валодзя, кідаючы недаверлівыя позіркі на невядомага мужчыну сумніўнага выгляду, які ўсім цікаўным на іх роспыты адказваў, што чакае Таццяну Аляксееўну, з якой яны дамовіліся пра сустрэчу.

Таццяна адчувала, што Валодзя зараз засыпле яе недарэчнымі пытаннямі і папрокамі і, каб адцягнуць гэтую размову і адразу абсекчы ўсе канцы, спынілася каля Юрыя. Міжволі ў вочы кінуліся ўсё тыя ж зацыраваныя джынсы і старамодны пінжак. Сарочка, праўда, хоць і была ўчарашняй, але, відаць, памытая і адпрасаваная — гэта прыбавіла «бонусаў» у патэнцыяльнага вадзіцеля. Якіх, трэба сказаць, учора ён і так набраў нямала. Вось толькі яго выгляд… Яна злавіла сябе на думцы, што ў такім уборы ён будзе выглядаць недарэчна за рулём новай шыкоўнай машыны, побач з ёй — заўсёды элегантнай, з густам апранутай «бізнес-вумэн». Так, іміджу іх фірмы яго «дрэс-код» не адпавядае… Але ехаць у Мінск трэба ў любым выпадку! І ў бліжэйшыя паўгадзіны іншага, не кажучы ўжо пра тое, што лепшага вадзіцеля ёй не знайсці. «Нам не выпадае чакаць падарункаў лёсу. Будзем працаваць з тым, што ёсць!» — падумала яна. І шчыра ўсміхнулася ўчарашняму знаёмаму:

— Добрай раніцы, Юрый! Рада вас бачыць.

Ён таксама адказаў усмешкай — хоць да гэтага позірк яго калоўся льдзінкамі недаверу: мо пасмяяцца з яго тут вырашылі, вунь як усе падазрона паглядваюць…

— Я — таксама. Добры дзень.

— Спадзяюся, наша ўчарашняя дамоўленасць застаецца ў сіле? — адразу перайшла да справы Таццяна.

— Ну я ж прыйшоў — значыць, прыняў вашу прапанову, — развёў рукамі Юрый. — Калі, вядома, вы не перадумалі…

— Не прадумала. Больш таго: часу на знаёмства са справамі і «ўліванне ў калектыў» у вас няма. Тым больш, што і вашы калегі-вадзіцелі ўсе ў раз'ездах. А мы з вамі сёння едзем у Мінск — спадзяюся, для вас гэта не складзе цяжкасцей?

— Вы зноў мяне крыўдзіце… — іранічнае «мадам» ён на гэты раз праглынуў.

— Я рада, што такія пытанні вас крыўдзяць, — даволі рэзка адказала Таццяна. І прадоўжыла дзелавіта: — Выязджаем гадзіны праз дзве, я пакуль крыху разбяруся з бягучымі справамі… Паглядзіце, калі ласка, машыну, — яна дастала з сумачкі ключы і падала яму. — Яна нядаўна была на сервісе, але ўсе ж…

— Абавязкова, — усміхнуўся ён ужо зусім па-іншаму, прыязна і весела — здаецца, паверыў, што ўсё, што было ўчора — не розыгрыш і злы жарт і яму сапраўды прапаноўваюць работу.

— Толькі вось… — Таццяна акінула яго з ног да галавы крытычным і красамоўным позіркам.

— Што, не адпавядаю? — у голасе Юрыя нядаўняю радасць змяніў дрэнна прыхаваны выклік.

— Прабачце, але сапраўды — не адпавядаеце, — яна пастаралася сказаць гэтыя крыўдныя для яго словы як мага мякчэй. — Зразумейце, у нашай фірмы ўжо склаўся пэўны імідж, і рызыкаваць рэпутацыяй, якую заваёўвалі так доўга, мы не можам сабе дазволіць нават у дробязях.

Здаецца, ён хацеў адказаць нешта рэзкае, непрыемнае, але яна апярэдзіла:

— Зробім так. Як я разумею, у вас узніклі пэўныя матэрыяльныя цяжкасці. У нас новым супрацоўнікам належаць пад'ёмныя ў памеры аднаго службовага акладу, — новыя ўмовы так званага «сацыяльнага пакета» яна прыдумвала на хаду, здзіўляючыся сама сабе: чаму не зрабіла гэтага раней? — Вы зараз напішаце заяву з просьбай прыняць вас на работу ў якасці вадзіцеля, я распараджуся, каб у аддзеле кадраў хуценька афармілі загад і выдалі вам грошы. Магчыма, у вас ёсць іншыя планы на іх, але я вельмі прашу: калі ласка, пастарайцеся як мага хутчэй купіць сабе абноўкі. Майце на ўвазе, часу ў нас вельмі мала, я да чатырнаццаці гадзін павінна быць у Мінску. У мяне ноччу сына прааперыравалі, — дадала яна зусім неабавязковыя ў гэтым выпадку падрабязнасці.

Можа, з-за гэтага ці яшчэ па якой прычыне, але Юрый не сказаў тых дзёрзкіх слоў, што ўжо гатовы былі зляцець з языка, а моўчкі пайшоў услед за ёй у прыёмную пісаць заяву.

Размова з Валодзем атрымалася і сапраўды непрыемнай. Таццяна не паспела зайсці ў кабінет, як ён уварваўся следам і з парога пачаў:

— Нешта я не зразумеў: што гэта за бомж сёння ранкам каля нашых гаражоў ашываўся? І чаму гэта ты з ім так міла размаўляла? Гэта што, нехта з тваіх знаёмых? Глядзі, ты сябе скампраметуеш такімі сувязямі.

— Валодзя, гэта наш новы вадзіцель. Я ўзяла яго на работу. Аддзел кадраў афармляе дакументы.

Ён ажно прысвіснуў ад здзіўлення і нечаканасці:

— Вось гэта навіны! А чаму я даведваюся пра гэта апошнім? Я што, ужо не з'яўляюся тваім сябрам, намеснікам і партнёрам, мы не прымаем разам падобныя рашэнні? Мне што, цяпер у аддзеле кадраў трэба цікавіцца, каго мы бяром на работу?

— Валодзя, ну што за глупства ты вярзеш? — сказала Таццяна як мага мякчэй. Яна ведала, што Валодзя хутка перагарыць і супакоіцца, але ўсё роўна не хацелася заводзіць яго, высвятляць адносіны і з-за нейкай драбязы псаваць іх з даўнім, яшчэ інстытуцкім сябрам, з якім разам яны з'елі не адзін пуд солі, стварылі гэты бізнес у ліхія дзевяностыя і прайшлі цераз мноства перашкод да сённяшняга адноснага поспеху. Ды і настрой пасля бяссоннай ночы і трывожнага ранку быў аніякі — ні сіл, ні жадання нешта некаму тлумачыць. Тым больш, што яна і сама да канца не разумела, чаму прапанавала выпадковаму знаёмаму гэтую працу. Таму дадала прымірэнча:

— З гэтым вадзіцелем — ну так атрымалася, збег абставін… Ён проста аказаўся ў патрэбны момант у патрэбным месцы… Я пазней табе ўсё растлумачу, зараз няма калі.

— Але на халеру нам увогуле патрэбен вадзіцель, ты можаш мне растлумачыць? — Валодзя ўсё не мог супакоіцца. — Мы што, так разбагацелі? Нам няма куды грошай дзяваць — і таму давай будзем штаты раздуваць? У нас ёсць два вадзіцелі. Я ваджу сам, ты нядаўна здала на правы…

— Ну ты ж не горш за мяне ведаеш, што мець правы і ўмець вадзіць машыну — не зусім адно і тое ж. Зразумей мяне, Валодзя, — я вельмі няўтульна адчуваю сябе за рулём.

— Чым больш ты будзеш ездзіць, тым хутчэй навучышся…

— Магчыма — з цягам часу. Калі не разаб'ю машыну раней… Можа, вадзіцель усё ж будзе каштаваць танней? Але гэта пытанне перспектывы. Сёння ж склаліся форс-мажорныя абставіны, і мне не хочацца рызыкаваць ні машынай, ні сабой. Мне тэрмінова трэба ехаць у Мінск. Пазванілі, што ноччу Андрэю зрабілі аперацыю. Я ў такім стане, што не магу засяродзіцца — якая ўжо тут машына…

— А мне што, ты ўжо руль не давяраеш?! Я адвязу, калі ты так баішся.

— Ты не можаш паехаць. Нехта павінен застацца на месцы. Ты так на мяне «наехаў» з парога з гэтым вадзіцелем, што я не паспела табе расказаць пра вынік учарашніх перамоў з палякамі. На дэталях спыняцца няма часу, падрабязнасці абмяркуем заўтра. А ў цэлым іх, падобна, зацікавіла наша прадукцыя і яны гатовы падпісаць кантракт. Нават на большыя аб'ёмы, чым мы разлічвалі. Але сёння яны павінны званіць, каб удакладніць сякія-такія дэталі, ім трэба грунтоўна і кампетэнтна адказаць на ўсе пытанні. Ты ж разумееш, што ніхто, акрамя цябе, зрабіць гэта не зможа.

— Ну, раз ужо ўзнікла такая сітуацыя, то сказала б мне, я падабраў каго талковага, каб адвёз цябе ў Мінск, — падобна, «запальнічка» ў Валодзевай галаве, якая ўспыхвала пры найменшай нагодзе і нават без яе, дагарала — доўга злавацца ён не ўмеў увогуле, а на Таццяну — тым больш. — А то прыняла нейкага бамжа… Адкуль, дарэчы, ён узяўся?

— Доўга расказваць, — ухілілася яна ад прамога адказу.

— Ты хоць пашпарт яго бачыла? Пэўна ж, не — ведаю я цябе…

— Не хвалюйся, бачыла, — зманіла Таццяна. — Усё там у парадку.

А сама падумала, што праверыць дакументы новага вадзіцеля сапраўды не пашкодзіла б. І ўвогуле, Валодзя мае рацыю — прымаць на работу чалавека з вуліцы, не ведаючы пра яго нічога, акрамя таго, што ён — класны вадзіцель, верх легкадумства. А яна ўсё, як дзяўчынка — вочы, вочы… Але ж позна пра гэта думаць — што зроблена, тое зроблена. І ехаць трэба ў любым выпадку. Хоць пашпарт яго трэба будзе ўсё ж паглядзець — ці мала што?

— І ўвогуле — можа, хопіць аб гэтым? — на гэты раз ужо яна пайшла ў наступленне. — Ну ўзяла на работу вадзіцеля, не параіўшыся з табой — можна падумаць, што галоўнага бухгалтара ці тэхнолага! Водзіць ён добра, прафесійна…

— Цікава, адкуль такія звесткі?— хмыкнуў ён недаверліва.

— Была нагода пераканацца, — Таццяне зусім не хацелася расказваць пра ўчарашнія прыгоды з паркоўкай. — Хай папрацуе колькі часу. Зрэшты, што мы губляем? Узнікнуць праблемы — звольнім, такой бяды. А з вадзіцелямі ў нас, як ты павінен быў заўважыць, заўсёды напруга. Хлопцы працуюць амаль без выхадных, штодня па камандзіроўках матаюцца. А ў іх, між іншым, сем'і, якім не толькі грошы патрэбны, але і мужы ды бацькі. А што выгляд у новенькага не вельмі, то я ўжо дала яму заданне памяняць імідж з тым, каб ён адпавядаў статусу фірмы.

Слухай, давай зменім тэму, — прапанавала яна пасля невялікай паўзы. — Нам і без гэтага вадзіцеля ёсць што абмеркаваць. Я праз дзве… ды не, ужо праз паўтары гадзіны ад'язджаю, а табе трэба любой цаной замаца-

ваць учарашнія вынікі перамоў і ўтрымаць гэтых палякаў. Таму давай яшчэ раз пагартаем кантракт і вызначымся, што для нас прынцыпова, а дзе мы можам дазволіць сабе пэўны люфт і да якой ступені…

* * *

Абмеркаванне кантракту заняло больш часу, чым разлічвала Таццяна. А яшчэ ж трэба было заскочыць дахаты, сабраць Андрэю сёе-тое з рэчаў. І ў магазін ды на рынак — купіць дзіцяці якіх прысмакаў. Пакуль яму, напэўна, не дазволяць ні есці, ні піць, але ж тым больш захочацца чаго смачненькага праз дзень ці два. Дарэчы, трэба будзе папрасіць Наташу, аднакурсніцу, якая жыве ў Мінску, каб праведвала Андрэя калі-нікалі, пакуль ён будзе ляжаць у бальніцы — сама яна пры ўсім жаданні кожны дзень матацца ў бальніцу не зможа. А ён усё ж дзіця, хоць і пагоны надзеў, сумаваць будзе… Што б яму такога завезці, каб было з чым бавіць час? Лепш свой ноўтбук прыхапіць — ото ж будзе радасці. А самой як? Мусіць, давядзецца пакуль абыходзіцца рабочым, не забыцца толькі перакінуць туды неабходную інфармацыю. А Андрэю пабольш цікавых дыскаў купіць…

Усё гэтыя думкі, падганяючы адна адну, раіліся ў галаве, пакуль яна спускалася па лесвіцы.

Юрый стаяў ля выгнанай з гаража машыны. «Пад'ёмныя» былі патрачаны з толкам. Цёмна-сінія джынсы, вядома, не ад «куцюр», але цалкам прыстойныя… У тон ім — сарочка ў буйную сіне-блакітную клетку… І светла-шэры джэмпер зверху… Чаравікі, праўда, старыя — не хапіла, мусіць, «пад'ёмных» на ўсё, — але старанна начышчаныя. Усё гэта яна схапіла позіркам адразу, як адчыніла дзверы офіса — і з цяжкасцю паверыла, што гэта яе ўчарашні выпадковы знаёмы, «інтэлігентны бомж», ад якога засталося толькі азначэнне «інтэлігентны» — ад «бамжа» не было і знаку, зараз ён выглядаў як мінімум не вельмі забяспечаным малодшым навуковым супрацоўнікам ці якім кіраўніком «сярэдняга звяна».

— Ну як, цяпер адпавядаю? — тым жа іранічна тонам пацікавіўся Юрый, адкрываючы перад ёй дзверцы машыны.

— Цалкам! — яна яшчэ раз пільна агледзела яго крытычным поглядам. — Не думала, што вы за такі кароткі час і пры абмежаваных фінансавых магчымасцях так прыстойна справіцеся з пастаўленай задачай. Спадзяюся, што і вырашэнне іншых вам будзе давацца гэтак жа лёгка…

— Ну, гэта ўжо гледзячы, якія задачы, — хмыкнуў новы вадзіцель. — Наперад абяцаць не магу. Ва ўсякім выпадку, зорак з неба даставаць не навучаны. Страляць з «калаша» ўмею, але не люблю…

— Ну, спадзяюся, што ні тое, ні другое не спатрэбіцца. А ўвогуле будзем вырашаць праблемы па меры іх узнікнення. У сучасны момант на парадку асноўная з іх: як мага хутчэй сабраць усё неабходнае для трынаццацігадовага хлапчука, які раптам апынуўся ў бальніцы ў чужым горадзе і прабудзе там у лепшым выпадку тыдзень…

— Прыступаем да выканання?

— Так. Спачатку едзем да мяне дахаты. Рэчы яго не паспела сабраць, даведалася пра аперацыю, калі ўжо выходзіла з кватэры. Потым — у магазін і на рынак. У нас вельмі мала часу. Я планавала, што мы ўжо будзем у дарозе, але справы затрымалі.

— Не хвалюйцеся, мадам… Ой, прабачце, Таццяна Аляксееўна! Паспеем. І не нервуйцеся, а то абавязкова нешта важнае забудзеце.

— Прабачце, Юрый, спадзяюся, я вас не пакрыўджу, калі папрашу паказаць свае дакументы? — сказала Таццяна, калі яны селі ў машыну. — Я разумею, што ў аддзеле кадраў іх паглядзелі, але ўсё ж я — кіраўнік.

— Калі ласка, — ён працягнуў ёй патрапаныя пашпарт і вадзіцельскае пасведчанне. — Я ўвогуле не разумею, чаму вы так легкадумна даяраеце такую дарагую машыну і сваё жыццё зусім незнаёмаму чалавеку.

«Глядзі ты, які клапатлівы і прадбачлівы, — крыху раздражнёна падумала Таццяна, гартаючы пашпарт. — Падобна, пабываў ты ў перадзелках, Юрый Аляксандравіч Кашавараў… Бач ты — гарадскі: нарадзіўся тут, і пашпарт тут жа атрымліваў — значыць, мясцовы, у адрозненне ад мяне, патомнай калгасніцы… Але ж незразумела: увесь час быў прапісаны па адным адрасе, а цяпер — без пэўнага месца жыхарства… Выходзіць, наконт бамжа я не памылілася? Гадоў, я думала, табе больш — сівізны для твайго ўзросту многавата… Быў жанаты, разведзены… Сыну пятнаццаць гадоў… Так, сапраўды, маеш ты рацыю, Юрый Аляксандравіч — легкадумна было з майго боку так адразу табе даверыцца…»

— Што, і дакументы не адпавядаюць? — зноў выпусціў свае калючкі Юрый, назіраючы, як уважліва яна перагортвае старонкі і перачытвае запісы ў дакументах. — Выбачайце, гэта памяняць пакуль не магу.

— Ды не. Форма іх, канешне, магла б быць і больш акуратнай. Але змест мяне радуе. Вадзіцель першага класа з такім стажам і ўсімі катэгорыямі — гэта дадае вам гонару. Ну а аб усім астатнім, я думаю, у нас яшчэ будзе час пагаварыць…

* * *

…Ён вёў машыну лёгка і з задавальненнем, усміхаючыся і ціхенька насвістваючы нейкі матыўчык. Ехалі яны хутка, абганялі амаль увесь спадарожны транспарт. Але дзіўна — Таццяна адчувала сябе вельмі спакойна, нават расслаблена. Такога апошнім часам не здаралася амаль ніколі, нават з самым вопытным вадзіцелем.

Гэтая вечная трывога перад дарогай пасялілася ў душы пасля таго, як тры гады назад, калі ехалі ў выхадны да маці ў вёску, Вася, які перад гэтым толькі атрымаў правы, на крутым павароце не справіўся з кіраваннем і машына зляцела ў кювет. Усё абышлося, ніхто не пакалечыўся, машыну адрамантавалі, але Таццяна з таго часу заўсёды баялася ехаць. Разумела, што так нельга, што ўсе гэтыя страхі — проста глупства, і ўсё ж нічога не магла з сабой зрабіць. На вадзіцельскія курсы пайшла не толькі з-за таго, каб быць незалежнай ад рабочага графіка службовага вадзіцеля і вольнага часу сына, а яшчэ і для таго, каб пераадолець гэты страх, які сядзеў недзе ў глыбіні душы. Але дапамагло мала… І толькі ўчора, калі ехалі па горадзе, ды сёння, побач з гэтым практычна незнаёмым Юрыем, які так віртуозна вёў машыну, яна адчула сябе спакойнай і змагла цалкам аддацца сваім думкам.

…З горада яны выбраліся толькі апоўдні. Як яна ні старалася сабраць усё неабходнае хутка, усё ж часу прайшло больш, чым разлічвала раніцай. «Можа, гэта і да лепшага, — супакойвала Таццяна сама сябе. — Прыедзем якраз у час наведванняў, ні перад кім не трэба будзе шапку ламаць і задобрываць, каб прапусцілі ў палату. Толькі б урач яшчэ быў на месцы, каб можна было

пагутарыць, даведацца, як прайшла аперацыя, што зараз патрэбна сыну. І з Андрэйкам можна будзе пасядзець даўжэй… Вось толькі дадому давядзецца вяртацца позна. Ёй дык нічога, галоўнае, каб у сына ўсё было добра. А як гэты «проста Юрый» да такой перспектывы паставіцца? Прапіскі ў яго няма, але ж недзе ён, напэўна, начуе — не на лавачцы ж у скверы… Можа, яго чакае хто, турбавацца людзі будуць? А калі ён дзе за горадам жыве — як дабярэцца потым, позна ноччу?»

— Юрый, вы мяне прабачце, — парушыла яна маўчанне. — Выехалі мы пазнавата, напэўна, і вернемся ноччу… Гэта вас не напружвае? Як вы дабераецеся дахаты?

— Не хвалюйцеся, — ён усміхнуўся шчыра, без сваёй ранейшай іроніі, за якую, яна зразумела, звычайна хаваўся, як за панцыр. — Чакаць мяне няма каму, хвалявацца — таксама. Калі прыедзем — тады і добра. А пераначаваць я знайду дзе, не перажывайце.

— І ўсё ж — дзе вы жывяце? І ўвогуле, нядрэнна было б даведацца пра вас крыху больш. Калі ўжо я, як вы кажаце, паступіла занадта легкадумна, запрасіўшы на работу незнаёмага чалавека, то, можа, варта выправіць гэтую памылку? Раскажыце пра сябе — хто вы, што, адкуль?

— Ну, вы ўжо ж вывучылі мае дакументы, — зноў кальнуў ён — не балюча, злёгку, хутчэй па звычцы.

— Дакументы расказваюць пра многае, але далёка не пра ўсё. Там, да прыкладу, няма ніякіх тлумачэнняў таго, чаму вы, вадзіцель з такой кваліфікацыяй і вопытам, сталі беспрацоўным ахоўнікам чужых варот…

— Ну, гэта доўгая і не вельмі прыгожая гісторыя, — ён уздыхнуў і доўга маўчаў. — Хоць, зрэшты, калі вы так настойваеце…

Здаецца, ён вагаўся, расказваць пра сябе гэтай пяць хвілін як начальніцы — ці ўсё ж не варта? Пасля працяглай паўзы, за час якой ён абганяў калону грузавікоў, спрытна ўціскваючыся паміж імі, калі на гарызонце з’яўлялася сустрэчная, Юрый зноў загаварыў:

— Хоць, напэўна, вы сапраўды маеце права ведаць маю біяграфію больш падрабязна, чым аддзел кадраў, раз прапанавалі мне работу. Вы рызыкнулі, магчыма, неабдумана — і я, напэўна, павінен даказаць, што не дарэмна, так? Хоць баюся, што мая шчырасць не прыбавіць мне станоўчых якасцей у вашых вачах… Магчыма, пасля гэтага мой першы працоўны дзень стане апошнім. Але вы занадта разумная і прыстойная жанчына, каб спрабаваць вас падманваць. Да таго ж яшчэ і вельмі прыгожая…

Таццяна ніяк не адрэагавала на камплімент. А ён, здаецца, і не чакаў гэтага. Памаўчаў — міма на шалёнай скорасці з віскліваю сірэнай, уводзячы наваколле ў трывожны ступар, пранеслася міліцэйская машына з мігалкай. Калі пранізлівы гук знік удалечыні, прамовіў:

— Аднойчы ранкам за мной прыехала такая ж… І маё жыццё падзялілася на «да» і «пасля». Я, Таццяна Аляксееўна, былы зэк. Вызваліўся з месцаў, не вельмі аддаленых, паўгода назад. У пашпарце пра гэта нічога не запісана, але лічу неабходным гэта вам паведаміць. Так што, напэўна, іміджу вашай добрапрыстойнай фірмы і сапраўды не адпавядаю…

— Пра нешта падобнае я пачала ўжо здагадвацца… А вы больш нічога не хочаце расказаць? Ну, да прыкладу, аб тым, што было, як вы кажаце, «да»? Пра «пасля» і так усё зразумела…

— А яно вам трэба? У вас, як я зразумеў, і сваіх праблем вышэй галавы…

— Давайце без ілюзій — я не збіраюся ўзвальваць на сябе вашы праблемы. І, спадзяюся, яны ніяк не паўплываюць на вырашэнне маіх. А цікаўлюся вашым мінулым выключна з практычнага пункту гледжання: мне трэба вырашыць для сябе, закончыцца ў бліжэйшыя дні ваша праца ў маім падначаленні ці прадоўжыцца больш працяглы тэрмін? Трэба ж мне ведаць, што вы за чалавек…

— І не баіцеся, што падману, нарасказваю казак пра сваё цяжкае і несправядлівае жыццё, каб расчуліць ваша мяккае жаночае сэрца?

— Не цешце сябе, не такое ўжо яно і мяккае, настаўнікі добрыя былі, знайшлося каму загартоўваць. І ведаеце, мне ў жыцці сустракалася столькі казачнікаў, што я навучылася іх распазнаваць. Мне здаецца, што вы не ўваходзіце ў іх лік. Альбо надзвычай таленавіты! Але ж любую «казку» пры сённяшнім ўзроўні інфармацыйных тэхналогій вельмі лёгка праверыць. І ганарар аўтара будзе непараўнальна больш сціплы, чым зарплата майго персанальнага вадзіцеля. Так што, думаю, вам элементарна нявыгадна нешта выдумляць…

— Пераканалі, — засмяяўся ён — але неяк нявесела, нацягнута. — Адмаўляюся ад ганарару казачніка. Буду расказваць, як ёсць. А вы ўжо потым вырашайце, што ды як… Хоць, зрэшты, гэта ўжо не прынцыпова…

— Добра, — паправіла яна рэмень бяспекі, уладкоўваючыся зручней. — Часу да Мінска ў нас добрых дзве гадзіны, а то і больш. Толькі, калі ласка, не забывайцеся, што вы за рулём, сачыце за дарогай. Я сынам патрэбна. Ды і сабе яшчэ не надакучыла — не ведаю, як іншым…

— Не хвалюйцеся, з вашай машынай мы пасябравалі ўжо, яшчэ ўчора. А гэтую дарогу я ведаю, як свае пяць пальцаў, да самага найменшага павароту. Спадзяюся, што за апошнія гады яна моцна не змянілася…

Але хваляваўся, па ўсім відаць, ён сам. Кашлянуў, адкрыў і затым зноў закрыў акно…

— Не ведаю нават, з чаго пачаць…

— Ну, напэўна, з пачатку, — пастаралася яна дапамагчы.

— З пачатку дык з пачатку…

Ён памаўчаў яшчэ хвілінку і, уздыхнуўшы, пачаў:

— Нарадзіўся і вырас я ў нашым горадзе. Маці нас з сястрой — Ірынка малодшая — выхоўвала адна. Бацька знік, калі мама яшчэ ляжала ў раддоме з малой. Цяжка ёй было — на дзвюх работах гарбацілася, каб нас выцягнуць. Бацька вачэй не паказваў, з'ехаў некуды, а мама гордая, не стала шукаць яго, каб аліменты спаганяць. Ды яшчэ кааператыў будавала — напакутаваліся мы ў камуналцы, утраіх у адным пакойчыку, а дзяржаўную кватэру, напэўна, да гэтай пары чакалі б. Калі сваю двухпакаёўку атрымалі, яна нам палацам падалася! Я адразу пасля школы працаваць пайшоў, хоць мама і настойвала, каб паступаў у інстытут. Але вырашыў, што вучыцца і завочна можна, а ёй трэба дапамагчы. Тым больш, што Ірынка падрасла, і ёй розныя там памады-калготкі патрэбны, і самому хацелася, як усім хлопцам, дзяўчыну ў кіно запрасіць ці марожаным пачаставаць — дзе ж мама выцягне ўсё адна?

Таццяне спадабалася, з якой цеплынёй і спагадай ён гаворыць пра маці і сястру.

Юрый між тым працягваў:

— Працаваў на заводзе, вучыўся, паціху рухаўся па кар'ернай лесвіцы. Разам з дыпломам атрымаў прызначэнне на пасаду начальніка ўчастка — даволі прэстыжна для майго тады яшчэ маладога ўзросту. Зарплата была неблагая па тым часе. Дзяўчына з'явілася — закахаўся ў яе без памяці. Хутка

пажаніліся. Жыць сталі з мамай — Ірынка, ледзь скончыла школу, выскачыла замуж. Усё было добра. Праўда, мая Зойка не вельмі ладзіла з мамай, але тая, мудрая жанчына, заўсёды імкнулася не даводзіць да канфлікту, саступала маладой гаспадыні, старалася лішні раз прамаўчаць, перасядзець у сваім пакоі яе дрэнны настрой ці паехаць на дачу — яна і гэта ўмудрылася прыдбаць пры сваім гаротным жыцці. А калі ўнук нарадзіўся, шчаслівейшай, чым яна, здаецца, у свеце не было. Ну хіба што я сам! Я свайго Вадзімку да бяспамяцтва любіў! Кожны вечар ляцеў з работы, як на крылах, нішто мяне не магло затрымаць: малога трэба было купаць. Выхадныя — толькі дома, з сынам: у заапарк, на атракцыёны, на казачнае прадстаўленне ці хоць у скверы пагуляць. Ды і Зойцы трэба было адпачыць, яна казала, што стамлялася за тыдзень. Да таго ж таксама паступіла вучыцца завочна на юрыдычны факультэт — я вітаў гэтую яе прагу навукі, на сястру заўсёды бурчэў, тая змоладу дзецьмі абсыпалася, аднаго за другім дваіх хлопцаў нарадзіла — і больш нічога не хацела. Казала, што ўжо выцягнула свой шчаслівы білет, а работы на яе век хопіць…

Юрый звярнуў на абочыну і прытармазіў:

— Прабачце, Таццяна Аляксееўна, можа пастаім хвілінку? Я потым наганю па дарозе… Закурыць хочацца — спасу няма.

— Курыце лепш у машыне — я з дзяцінства актыўны «пасіўны курыльшчык», усё жыццё побач нехта смаліць. Прывыкла ўжо. Акно толькі адчыніце.

— Ну, як скажаце…

Ён прыкурыў, зацягнуўся, зноў націснуў на газ. Твар, які, калі ён расказваў пра маці, сястру, сына, быў радасны і прасветлены, спахмурнеў — яна зразумела, што зараз размова пойдзе аб тым, пра што яму ўзгадваць не вельмі прыемна.

Юрый, некалькі разоў глыбока зацягнуўшыся, выкінуў цыгарэту, і прадоўжыў:

— Праблемы пачаліся, калі ў дзевяностыя ўсё пачало бурыцца. Наш завод працаваў на абаронную прамысловасць, у той час заказы зніклі. Зарплаты не выдавалі месяцамі, ды і якія гэта былі за грошы — слёзы. Зрэшты, што вам расказваць — самі, пэўна ж, памятаеце тыя часы. Зоя, праўда, да таго часу ўжо закончыла інстытут. Стала працаваць у судзе, зарплату атрымлівала рэгулярна і адносна прыстойную — не тое, што я. Яна мне пастаянна пра гэта нагадвала, папракала — што я за бацька, калі не магу сына на мора адвезці, ці ж гэта муж, калі не ў стане жонцы футра купіць? Вось у Аліны муж… Ну і гэтак далей. Ды я і без яе папрокаў адчуваў сябе непаўнацэнным: сапраўды, што я за мужчына, калі жонка прыносіць дамоў больш грошай, чым я, калі не магу забяспечыць сваёй сям'і годнае існаванне, купіць сыну канькі, запрасіць жонку ў рэстаран, купіць для мамы патрэбнае лякарства? Вырашыў звольніцца са свайго завода — хоць тое, чым займаўся, мне вельмі падабалася, я адчуваў, што там я — профі, ведаю і магу калі не ўсё, то вельмі многае. Але калі гэта нікому не патрэбна… Тут, на маё шчасце ці няшчасце, колішняму аднакласніку, які выбіўся ў «новыя рускія» і адкрыў сваю фірму, спатрэбіўся вадзіцель на вялікагрузную машыну. Ён прапанаваў, я пайшоў — вырашыў, што бог з ім, з тым дыпломам, галоўнае, што сябар зарплату «палажыў» прыстойную і плаціў яе рэгулярна — хоць і ў канверце. Але каму тады была да гэтага справа? Ды толькі Зоі і гэтага не хапала… Стала яна нейкай чужой. Нават у тыя рэдкія дні, калі я адпачываў пасля рэйса, ёй не ставала на мяне часу. Усё яе раздражняла, дня не праходзіла, каб мы не пасварыліся. Маці палічыла, што

гэта яна — прычына нашых пастаянных скандалаў, і, каб не перашкаджаць, пайшла жыць да сястры. Са сваёй адвечнай далікатнасцю растлумачыла, што сама так вырашыла: маўляў, Ірыне трэба дапамагчы дзяцей глядзець. Але ж я разумеў: гэтыя адгаворкі — для таго, каб мяне сумленне не грызла. Нібы я дурны, не бачыў, які боль і смутак у яе вачах стаяў…

Юрый зноў выцягнуў пачак з цыгарэтамі, але глянуўшы, што ён амаль пусты, засунуў назад у кішэню. Твар яго яшчэ больш пачарнеў.

— Але і гэтая ахвяра нашу сям'ю не ўратавала. Аднойчы рэйс у мяне сарваўся: выехаў вечарам, а ранкам давялося назад вярнуцца: матор застукаў. Паставіў машыну, а сам — дахаты. А там… Усё, як у барадатых анекдотах аб тым, як муж раптоўна вярнуўся з камандзіроўкі, адзін у адзін… Вадзік на той час быў у спартыўным лагеры, а мая Зойка ў нашай спальні… Ну я, вядома, не стрымаўся, добра намяў бакі яе хахалю. Руку яму з гарачкі зламаў, пару зубоў выбіў. А потым высветлілася, што гэта — лейтэнант міліцыі, наш участковы. Тое, што ў ложку ён быў без пагонаў, суд да ўвагі не прыняў. Так вось і аказалася, што я нанёс цялесныя пашкоджанні ахоўніку правапарадку пры выкананні службовых абавязкаў. Усё гэта было б вельмі смешным, каб не было такім сумным. Выпісалі мне ў Зойчыным судзе яе сябры-суддзі доўгатэрміновую пуцёўку ў мясціны, куды макар цялят не ганяў. Адсядзеў я ад званка да званка. За гэты час Зойка, зразумела, развялася са мной. Ды гэта мяне не вельмі засмуціла — усё адно і да таго жыцця не было, а пасля — тым больш. Турбавала толькі, што з сынам так і не пагаварыў. Зоя, пэўна ж, расказвала яму пра мяне тое ж, што і на судзе, толькі, можа, яшчэ больш маляўніча. Ды калі б нават і пабачыліся мы, не стаў бы я дзіцяці гаварыць, чым займалася яго маці — як яму тады жыць, у што верыць? Для мяне мая мама — святая, хай і для яго Зоя застаецца такой — калі зможа, вядома. Хай ужо лепш я буду злачынцам, здраднікам і нягоднікам. Можа, потым, калі ён вырасце, пачне больш разумець у жыцці, мы і пагаворым, можа, тады я і раскажу яму пра ўсё — але не цяпер…

Таццяна хацела спытаць, дзе цяпер яго былая жонка і сын, але не стала перабіваць — відаць было, што мужчыну трэба выгаварыцца, ён, здаецца, нават забыўся, хто сядзіць побач.

— Але развод быў не самым горшым сюрпрызам пасля майго вяртання, — прадоўжыў Юрый. — Аказваецца, за гэты час Зоя знайшла магчымасць — добра, відаць, вучылася на сваім юрыдычным — мяне і маму з нашай законнай жылплошчы выпісаць. Больш таго: яны з новым мужам — міліцыянера ў яе ложку змяніў адвакат — умудрыліся прадаць з такой цяжкасцю пабудаваную маці кватэру і выехалі ў іншы горад — напэўна, тут, на вачах людзей, якія ўсё ведалі, цяжкавата ім было будаваць асабістае шчасце і дабрабыт. Аднакласнік за гэты час разарыўся, стаў папіваць, з кіраўніка фірмы «дарос» да вартаўніка — дарэчы, той самай арганізацыі, дзе мы з вамі сустрэліся, я там час ад часу, калі ўжо зусім неўпрадых, «вароты сцерагу» — выручае прыяцель па старой памяці, дзеліцца даходамі. Мама пасля ўсяго, што са мной здарылася, расхварэлася. Дзякуй сястры, што глядзіць яе, усе клопаты на сябе ўзяла. Муж у Ірынкі цудоўны, тут ёй пашанцавала — не тое, што з братам. Сястра нічым мяне не папракае — хоць і мае на тое поўнае права… Ні матчынай кватэрай, якую мая былая прыхватызавала, ні тым, што цяпер сама глядзіць за хворай маці, і з двума дзецьмі. Яшчэ і мяне да сябе кліча жыць… Ды як можна? Яны самі ў двухпакаёўцы ледзь месцяцца… Хопіць, напакутаваліся ўжо з-за мяне… Дзякуй, што дазваляюць на мамінай дачы кантавацца — хоць

і далекавата, але усё ж дах над галавой. З работай таксама праблемы — на маім заводзе пра мяне за гэты час забыліся, там памянялася не толькі вытворчасць, але і людзі. А ў іншых месцах і не ведалі… Да таго ж біяграфія вельмі красамоўная — каму патрэбен работнік з такім багатым мінулым? Так вось і перабіваюся пакуль выпадковымі заробкамі…

Ну вось і ўся мая невясёлая гісторыя. Выбачайце — самі прасілі, — Юрый замоўк і раз-пораз паглядваў на яе з трывогай і хваляваннем.

Таццяна доўга маўчала, нібы разважала, як успрымаць усё сказанае. Праз некалькі хвілін, якія Юрыю падаліся цэлай вечнасцю, прамовіла:

— Работу вы, падобна, ужо знайшлі, ва ўсякім разе, часовую. Ці надоўга, будзе залежаць выключна ад вас. Мяне ваша багатае мінулае асабліва не ўразіла, баялася, што будзе нешта горшае. А вадзіцель нам патрэбен. Так што, калі будзеце працаваць не за страх, а за сумленне, то, думаю, вароты вам вартаваць больш не давядзецца. Ва ўсякім разе, шанс у вас ёсць…

— Выходзіць, я ўсё ж расчуліў ваша жаночае сэрца? — крыва ўсміхнуўся Юрый. — Пашкадавалі?

— Вас нешта не задавальняе? Так, сапраўды — пашкадавала. І не разумею, што вас у гэтым крыўдзіць? Шкадаванне, спачуванне — гэта, па-мойму, не самыя горшыя чалавечыя пачуцці. Тым больш, што я не міласціну вам прапаноўваю, а працу. Між іншым, не самую лёгкую — графік у нас даволі напружаны, у вас яшчэ будзе магчымасць у гэтым пераканацца, і не толькі сёння. І калі вы не станеце спраўляцца са сваімі абавязкамі, я вам абяцаю, што без усялякага шкадавання звольню.

— Дзякуй, Таццяна Аляксееўна, — Юрый паглядзеў на яе зусім інакш, чым хвіліну назад, неяк па-асабліваму цёпла. — Паверце: што б ні здарылася, як бы ні склалася мая працоўная кар’ера ў вашай фірме, я гэтага ніколі не забуду. І ніколі вас не падвяду. Даруйце, што я часам бываю залішне калючым — гэта ўжо звычка такая выпрацавалася за апошнія гады, нешта кшталту інстынкту самазахавання. Часам ён уключаецца міжволі…

— Ды Бог з вамі! Праехалі, — махнула яна рукой. — Тым больш, што, падобна, ужо і прыехалі…

Яны і сапраўды ўязджалі на Партызанскі праспект сталіцы…

* * *

Як аказалася, Юрый цудоўна ведаў не толькі іх горад, але і Мінск. Яны хутка знайшлі патрэбную бальніцу, ён без праблем паставіў машыну ў зручным месцы — Таццяна з усмешкай успомніла свае ўчарашнія прыгоды з паркоўкай і як з-за іх ледзь не сарвала перагаворы. Калі б не гэты інтэлігенты бомж са сваімі варотамі…

…Хірург, які аперыраваў Андрэя, на шчасце, быў яшчэ на месцы. Ён сустрэў феерверк Таццяніных пытанняў мяккай усмешкай:

— Не хвалюйцеся вы так, матуля. Усё з вашым сынам нармальна. Хоць магло быць і горш — каб спазніліся хоць на якіх паўгадзіны. Да перытаніту заставалася ўсяго нічога. Цярплівы ён у вас — мне сказалі, што два дні трываў боль і нічога нікому не сказаў. Толькі калі паднялася тэмпература, прызнаўся, што баліць жывот. Вы яму растлумачце, што так нельга. Гераізм можна праяўляць толькі ў разумных межах, ды і то ў выпадку крайняй неабходнасці. Ну і з афіцэрамі ў вучылішчы пагаварыце. Усё ж там дзеці, хоць і суворАўцы. І будучыя ваенныя хварэюць гэтак жа, як і звычайныя

школьнікі. А раз яны без бацькоў, то догляд старэйшых за імі павінен быць асаблівым.

— Дзякуй вам вялікі, — Таццяна толькі цяпер, здаецца, па-сапраўднаму спалохалася, калі ўбачыла спакойныя вочы гэтага доктара і ўявіла, што на самай справе магло здарыцца з Андрэйкам. — Можа, я магу нешта для вас зрабіць?

— Можаце. Пагаварыце з сынам аб тым, аб чым я вас прасіў.

— Яго можна наведаць?

— Не толькі можна, але і трэба. Гадзіну назад яго перавялі з рэанімацыі ў аддзяленне. Я быў у яго нядаўна. Нічога, ляжыць, усміхаецца. Герой!

Калі яна зайшла ў палату, «герой» ляжаў бледны і аблізваў перасохлыя вусны. Калі ўбачыў Таццяну, заўсміхаўся радасна і памкнуўся насустрач:

— Мамачка! Ты прыехала! Я так цябе чакаў!

Даўкі камяк сціснуў ёй горла: Божа, якое ж ён яшчэ дзіця! І што яна за маці, што адпусціла яго вучыцца ў чужы горад, за сотні кіламетраў… Яна прыгарнула да грудзей светлавалосую віхрастую галаву сына і доўга не магла прамовіць ні слова.

Калі справілася з хваляваннем і змагла гаварыць без дрыжыкаў у голасе, прысела на ложак:

— Як ты, сынок? Баліць?

— Ды не, мамачка. Толькі крышачку…

— Мусіць, зноў падманваеш? Кажы, як ёсць!

— Ну баліць крыху, але ж трываць можна…

— Андрэй, доктар мне загадаў насварыцца на цябе, — пастаралася яна гаварыць як мага больш строга. — Чаму ты так доўга трываў боль і нікому нічога не сказаў? Усё магло закончыцца вельмі дрэнна.

— Мам, ну не трэба, — унурыў галаву Андрэйка. — Усё ж добра скончылася! Мне не вельмі моцна балела, праўда. А потым — я ў той дзень быў у нарадзе. Хлопцы звычайна выдумляюць усё, што можна, каб «адкасіць», а ім мала хто верыць. Ну я і падумаў: скажу, што жывот баліць — назавуць халяўшчыкам. Вось і трываў, пакуль можна было.

— Ага, пакуль можна… Вось ляжаў бы зараз у рэанімацыі з трубкамі ў жываце ды пад кропельніцай — ведаў бы, колькі можна. Гераізм трэба ў іншых выпадках праяўляць. А ў пытаннях са здароўем — звычайны здаровы сэнс. Хворы салдат — дрэнны салдат.

— Мам, ну перастань, я ўжо ўсё зразумеў… Пакажы лепш, што ты мне прывезла?

— Хітрун! — засмяялася маці. — Табе ж яшчэ нельга есці!

— Затое піць ужо можна. Ты зварыла мне майго любімага журавіннага кісялю? А есці, сказалі, дазволяць заўтра… Ты мне яблыкаў прывезла?

— І яблыкаў, і кісялю, і чарэшні, і клубніц, смакаежка ты!

— Ну, не такі ўжо і смакаежка, — Андрэй пакрыўджана надзьмуў вусны. — Проста надакучылі ўжо ў вучылішчы макароны ды грэчка.

— Ну то трэба было сядзець дома і не прасіцца ў сваё суворАўскае. Былі б табе і яблыкі, і кісель, і варэнікі з чарніцамі.

— Мам, ну як ты не разумееш: грэчка — гэта адно, а вучылішча — зусім іншае. Тут жа не толькі грэчку есці прымушаюць, ёсць і нешта іншае, вельмі цікавае. Дзеля гэтага можна і грэчку патрываць… Тым больш, што ты ўсё роўна нешта смачненькае прывязеш, — хітравата паглядзеў на яе Андрэй.

— Ох ты і дыпламат! Ну добра, будзем лічыць, што пераканаў: курсанцкія пагоны і аксельбанты ды захопленыя вочкі дзяўчынак кампенсуюць грэчку і макароны, — засмяялася Таццяна. Ты ж толькі глядзі, сёння нічога не еш, табе яшчэ нельга, — папярэдзіла яна, выкладваючы пад прагным позіркам сына ў халадзільнік прысмакі. — І заўтра не асабліва налягай, а то зноў у аперацыйную трапіш. Патрошку… А яшчэ я табе прывезла ноўтбук, — дастала яна з сумкі галоўны «гасцінец». — І ўсе фільмы пра Гары Потэра.

— Ура!!! — хлапчук ледзь не падскочыў у ложку, ды боль астудзіў яго імпэт: ён скрывіўся і заціх на хвілінку. А потым загаварыў спакайней: — Мам, ты, калі будзеш гаварыць з урачом, папрасі, каб мяне не вельмі хутка выпісалі, каб я паспеў усё пераглядзець.

— Паспееш, паспееш, герой. Я яшчэ кніжкі твае прывезла, каб ты не сумаваў. І пару гульняў, мне сказалі, што цікавыя, я ў гэтым нічога не разбіраюся.

— Дзякуй, мамачка! Я цябе люблю! Ты ў мяне — самая лепшая.

— Ды ўжо ж… Іншай жа няма.

З Андрэем яна прабавілася гадзіны дзве. Заязджаць у вучылішча, каб пагутарыць з куратарам, як планавала, ужо было позна. Вырашыла, што патэлефануе заўтра. А зараз пара і назад выпраўляцца — дарога няблізкая, а на вуліцы вечарэла.

Толькі калі выехалі з горада, яна адчула, што моцна прагаладалася. Успомніла, што, акрамя ранішняй кавы, у роце макавага зерне не было. Ды і вадзіцель яе, напэўна, не больш пад'еў, у таго, мусіць, і кавы не было.

— Юрый, давайце дзе-небудзь прыпынімся па дарозе, перакусім. Я толькі цяпер успомніла, што ўвесь дзень нічога не ела. Галодная як сабака! Ды і вы, думаю, таксама.

— Добра, спынімся. Толькі вы пра мяне не хвалюйцеся, я не хачу…

— Не, дазвольце ўсё ж пахвалявацца. Раз ужо так сталася, што вы сёння з'яўляецеся маім персанальным вадзіцелем, то я павінна паклапаціцца, каб вы былі ў поўным парадку. Пра грошы не турбуйцеся, — яна здагадалася, з-за чаго ён адмаўляецца ад абеду. — Вы ў камандзіроўцы, так што харчаванне — за кошт фірмы

— Слухаюся, шэф, — ён іранічна казырнуў і звярнуў да прыдарожнага кафэ, адкуль па наваколлі разносіўся водар смажаных шашлыкоў.

За лёгкім будынкам кафэ пад засенню дрэў стаялі летнія столікі, і яны, заказаўшы дзве порцыі шашлыкоў і ладную місу салаты, уладкаваліся там пад рассеяным святлом ліхтара, які ў пары з поўняй, якая ўзышла над гарызонтам спрабаваў рассеяць вечаровы паўзмрок.

Да аб'ектаў так званага прыдарожнага сервісу яна адносілася з пэўным недаверам і звычайна мінала іх. Але тут шашлыкі падаліся на дзіва смачнымі — ці можа, таму, што яны моцна прагаладаліся? Елі моўчкі. І толькі калі падалі каву, з асалодай удыхаючы любімы водар, Таццяна адкінулася на спінку плеценага крэсла і, забыўшыся ўрэшце пра прыстойнасць, скінула туфлі на высокіх абцасах і выцягнула ногі. Вызваленыя з цеснага палону пальцы прыемна паколвала. Яна ў знямозе і ад асалоды ад гэтага мімалётнага адпачынку заплюшчыла вочы…

Юрый таксама з задавальненнем памешваў каву — амаль забыўся, як яна пахне, сапраўдная — і глядзеў на сваю новую начальніцу са спачуваннем і разуменнем: пэўна ж, дастаецца ёй, гэтай з першага погляду такой дзелавой, бескампраміснай, непрыступнай, а на самай справе, відаць, вельмі безабароннай, добрай і шчырай жанчыне…

Юрый асцярожна кашлянуў — Таццяна здрыганулася і расплюшчыла вочы.

— Прабачце, Таццяна Аляксееўна, што лезу не ў сваю справу… — ён так і не вырашыў, ці можа задаваць такія пытанні, ці дазваляе яму гэта тая хвіліна шчырасці, што здарылася паміж імі ў дарозе. — Калі вы палічыце, што замнога сабе дазваляю, то я здымаю сваё пытанне і яшчэ раз прашу прабачэння… Але… Калі не сакрэт, чаму ваш трынаццацігадовы сын жыве адзін у чужым горадзе? Што ён тут робіць?

— Вучыцца ў сувораўскім вучылішчы.

Юрый прысвіснуў ад здзіўлення:

— Ого! Ды вы, напэўна, сапраўды жалезная лэдзі, калі рашыліся адпусціць дзіця ў такім узросце ў такія ўмовы. І як да гэтага паставіўся ваш муж?

— Муж ніяк не паставіўся — няма яго ў мяне. Раіцца мне няма з кім — хіба што з сынамі. Але затое і адказнасць няма на каго перакладваць. Усё маё — і добрае, і дрэннае, і поспехі, і няўдачы. А ўмовы ў гэтым вучылішчы, дарэчы, не самыя горшыя, усё неабходнае там ёсць, і ўсё на ўзроўні. І адукацыя, і нагляд, і выхаванне, і дысцыпліна. Школа для выхавання сапраўдных мужчын. Думаю, што я адна, ды яшчэ са сваёй адвечнай занятасцю, не змагала б сыну ўсё гэта забяспечыць. З гэтым вось апендыцытам недагледзелі, ледзь да перытаніту справа не дайшла. Хоць і тут, трэба сказаць дзеля справядлівасці, асаблівай віны выхавацеляў няма — Андрэйка на дзіва цярплівы, з маленства такі, усё баіцца, каб нікому лішняга клопату не прычыніць. Вось і трываў боль, не гаварыў нікому, пакуль не прыціснула ўсур'ёз.

Яна адпіла кавы, памаўчала і працягвала:

— А я ніякая не жалезная, тут вы памыляецеся. І далося мне гэтае рашэнне зусім не проста. Але Андрэй вельмі прасіўся, яму так хацелася насіць форму. Дзіцячы перыяд гульні ў салдацікаў у яго зацягнуўся і перарос у жаданне стаць ваенным… Ён сам знайшоў правілы паступлення ў сувораўскае вучылішча, сур'ёзна рыхтаваўся да экзаменаў... Але я, напэўна, усё роўна пачакала б, пакуль ён падрасце, пасталее, закончыць школу і зможа зрабіць свой выбар больш асэнсавана. Але… Спадчыннасць у яго… Не тое, каб вельмі дрэнная, але ж своеасаблівая. Мяккі ён, добры. Адмовіць нікому не можа. Бацькавы гены… Таго яны да дабра не давялі, я пабаялася, што і з сынам злы жарт сыграюць. А тут падлеткавы ўзрост набліжаецца — з усімі яго спакусамі і прагай самасцвярджэння. А я — жанчына, і ў мяне бізнес, справа, якую я пры ўсім жаданні не магу пакінуць ці хоць бы аслабіць увагу. І не толькі таму, што трэба за нешта жыць, сыноў выводзіць у людзі. За мной яшчэ людзі стаяць, больш чым паўсотні супрацоўнікаў, а ў іх — таксама сем'і, дабрабыт якіх залежыць ад поспеху нашай агульнай справы. Таму і кручуся. Разумею, што гэта дрэнна, што справа крадзе мяне ў сям'і, у дзяцей, урэшце, у самой сябе, але інакш не атрымліваецца.

Таццяна замоўкла, дапіваючы каву. Паставіла філіжанку на столік і ўсміхнулася:

— У бізнес-вумэн, каб вы ведалі, я не ад добрага жыцця падалася. Не таму, што камандаваць моцна захацелася ці грошай шмат мець. Мяне задавальняла мая праца. Але так сталася, што ў тыя самыя дзевяностыя, пра якія вы ўзгадвалі, я засталася адна з двума дзецьмі. І дапамогі чакаць не было адкуль. Сітуацыя з зарплатай — амаль такая ж, як і ў вас. Ды і ў каго яна ў той час была іншай? Яблыкі і сасіскі дзецям я купляла паштучна — якое ўжо там мора ці канькі, пра гэта мы і марыць не маглі. А потым аднакурснік прапана-

ваў адкрыць разам справу па маім профілі — я па адукацыі тэхнолаг швейнай вытворчасці. Ну і, акрамя тэхналогіі працэсу, добра асвоіла і практыку: сям'ю ў тыя часы сама абшывала, ды яшчэ і сяброўкам-суседкам дапамагала абноўкі спраўляць са старых сукенак ды паліто — і ім радасць, і мне нейкая дадатковая капейчына. Пазычылі грошы, купілі мы дзве швейныя машынкі, раскроечны стол, прас, два рулоны тканіны, фурнітуру… Знялі пакойчык у падвале. На першым часе я распрацоўвала мадэлі, Валодзя кроіў, а потым мы з яго жонкай шылі дзень і ноч. Аддавалі оптам на рынак — былі ў нас дзве кропкі. Неяк мы ўгадалі — ці то з мадэлямі, ці яшчэ з чым. За якасцю сачылі, за звышпрыбыткам не гналіся… Так паціху і раскруціліся. Зараз у нас сярэдніх памераў прадпрыемства са сваім імем і кліентурай. Калі ўсё будзе добра, на днях падпішам пагадненне з адной польскай кампаніяй, выйдзем на еўрапейскі рынак. Але справа вымагае часу — усяго, без астатку. І дахаты я вяртаюся, як выціснуты лімон. Займацца дзецьмі, як належыць, проста фізічна не магу. Старэйшы сын, дзякуй богу, ужо самастойны хлопец, у наступным годзе заканчвае вучобу. А Андрэйку, вядома ж, мама яшчэ вельмі патрэбна…

Голас яе па-здрадніцку задрыжэў, і яна зноў замоўкла. Юрый вырашыў, што размова ўжо скончана, але Таццяна прамовіла:

— Я разумею, што я дрэнная маці. Але не ведаю, проста не ўяўляю, што можна змяніць у маім рабочым графіку, ды што там — у ладзе жыцця, каб мець больш вольнага часу. Атрымліваецца парадокс: спыніць справу немагчыма, каб быць у каляіне, трэба ўвесь час рухацца наперад, развівацца. А гэта вымагае ўсё больш часу і сіл… Я — як вавёрка ў коле, якая не можа ні спыніцца, ні нават запаволіць тэмп…

Здаецца, ён яшчэ хацеў нешта спытаць ці сказаць. Але яна раптам злавіла сябе на думцы, што неяк зусім неабдумана, залішне адкрылася перад гэтым зусім незнаёмым чалавекам — зашмат шчырасці для першага дня знаёмства. І нават для другога… І перапыніла яго спробу прадоўжыць вечар шчырасці:

— Добра, Юрый, адпачылі крыху — і паедзем. Яшчэ немалы кавалак шляху пілаваць… Я, з вашага дазволу, сяду ззаду і паспрабую крышку падрамаць — спала сёння ноччу вельмі дрэнна, усё нейкія кашмары мроіліся. Вось і не вер пасля гэтага снам!

Таццяна хоць і разумела, што паспаць у яе не атрымаецца — ніколі не магла заснуць у машыне, але і гаварыць ёй больш ні аб чым не хацелася. Яна адкінулася на сядзенне, заплюшчыла вочы і стала думаць пра сына. Як там ён? Ці не ўзмацніліся болі? Ці не паднялася тэмпература? Калі яна ад'язджала, усё было ў парадку, а зараз? Усё ж гэта вельмі дрэнна, што ён так далёка ад дому, ад маці. Так, усё тое, аб чым яна гаварыла толькі што, — праўда, і яна неаднойчы пераконвала сама сябе тымі ж словамі, што ўсё зрабіла правільна. І ўсё ж… Ну і што, што характар у Андрэйкі бацькаў? Не ўсе ж добрыя і мяккія співаюцца і заканчваюць жыццё так, як Павел. Да таго ж ён не толькі бацькаў, але яшчэ і яе сын, і ў яго не толькі Паўлавы гены… Можа, яна ўсё ж дарэмна адпусціла сына ў гэтае суворαўскае? Хаця хто можа сказаць, што правільна, а што не? А калі б сын потым усё жыццё трымаў на яе крыўду за тое, што не дазволіла ажыццявіць мару? Ён жа па-сапраўднаму, не дзеля гульні, рваўся ў гэтае вучылішча. І ўвогуле, ці мае права нават яна, маці, распараджацца лёсам сына? Так, ёй, напэўна, было б лепш, каб ён быў побач, яна б нават прыдумала нешта, каб крыху разгрузіцца на рабоце і больш часу праводзіць з ім. Але Андрэй — ці было б ад гэтага лепш яму? Вунь як блішчаць яго вочы, калі расказвае пра сваё вучылішча — нават макароны і грэчку згодзен трываць… Яна

ўсміхнулася, узгадаўшы, як па-дзіцячы напасрэдна сын радаваўся гасцінцам і як пры тым абараняў сваё вучылішча. Ці мае яна права дзеля сваіх жаданняў, душэўнага камфорту ламаць яму жыццё? Напэўна, не… І, нягледзячы на свае яшчэ дзіцячыя гады, Андрэй даволі сур'ёзны хлопчык. Ён мае права на мару і яе ажыццяўленне. А яе, маці, справа, — дапамагчы яму ўпэўнена ісці сваёй дарогай, рэалізоўвацца ў жыцці, а не прымушаць жыць так, як яна палічыць правільным.

Паступова думкі з Андрэйкі перакінуліся на яго бацьку.

…З Паўлам яе пазнаёміла цётка Валя. Дзень пры дні дурыла галаву, што ў яе даўняй сяброўкі ёсць нежанаты сын — такі добры, такі спакойны, такі гаспадарлівы… Таня адмоўчвалася, каб не крыўдзіць хросную, але ўсур'ёз гэтыя размовы не ўспрымала. Ну які там «добры і спакойны», калі ў яе сын падрастае? Хопіць з яе ўжо, бачыла яна і харошага, і гаспадарлівага…

Але аднойчы настойлівая цётка Валя, якая ўсё не пакідала надзеі ўладкаваць жаночае шчасце хрэсніцы, запрасіла Паўла да іх у госці — знайшла нейкую нагоду, імяніны свае прыдумала, ці што? Таня страшэнна саромелася, адчувала сябе, нібы на агледзінах. Але Паўлу ўдалося хутка разрадзіць абстаноўку — ён стаў гуляць з Васільком, той літаральна з першых хвілін знаёмства павіс на ім і не злазіў з рук увесь вечар. Яны забаўляліся, дурэлі, Павел катаў Васю на коніку, паказваў малому фокусы, той залівіста смяяўся — і Таня таксама не магла стрымаць усмешкі. У той вечар яна, мусіць, упершыню пасля нараджэння сына зразумела, як не хапае Васільку мужчыны побач. І, як бы яна ні хацела даць яму ўсё магчымае, стаць для яго і бацькам, і маці, ёй гэта не ўдасца. Вось прыйшоў у дом чужы чалавек, крышку прылашчыў дзіця — і ўсё, больш яму нічога не трэба.

Павел пасля першага вечара не знік, як яна думала. Наадварот — стаў амаль штодзень прыходзіць да іх. На Таццяну асаблівай увагі не звяртаў: прыносіў Васільку гасцінцы і падарункі, гуляў з малым, чытаў яму казкі, вадзіў у парк, у кінатэатр на мульцікі, расказваў цікавыя гісторыі. Да яе быў уважлівым, прыветлівым — але не больш таго. Здавалася, што патэнцыяльнага кавалера куды больш цікавіць хлопчык, чым яго маці. Таню гэта спачатку здзіўляла і нават радавала — аказваецца, ёсць і такія мужчыны, а кажуць жа, што ім усім адно і тое ж патрэбна... Потым сітуацыя яе забаўляла. А з цягам часу пачала раздражняць: што яна, пустое месца, што ён толькі «Добры вечар» ды «Спакойнай ночы»? Хоць бы дзеля прыліку пра справы спытаў. А то ўсё з малым бавіцца, той вечара дачакацца не можа, каб дзядзя Паша прыйшоў.

Яна і сабе не хацела прызнацца, што раўнуе сына да гэтага чужога чалавека, які немаведама адкуль з'явіўся ў іх жыцці і вельмі хутка стаў для малога найлепшым сябрам. А яна, маці, паступова адыходзіць на іншы план — нібыта і ні пры чым яна тут, нібы і не было ў іх з Васільком сваіх гульняў, заняткаў да таго, як з'явіўся гэты дзядзя Паша.

Таня стала абдумваць, як больш тактоўна і менш балюча для дзіцяці адвадзіць гэтага госця ад дому, даць яму зразумець, што няма патрэбы ў яго штодзённых візітах, што ім і ўдваіх жывецца вельмі добра.

Аднойчы — такога раней не здаралася — Павел сустрэў яе з работы. Перахапіў сумкі з прадуктамі і прапанаваў правесці дахаты — з заходам у дзіцячы садок за Васільком, зразумела. «Ну вось і добра, — падумала, ахвотна пагаджаючыся з гэтай прапановай, Таццяна. — Па дарозе і скажу яму ўсё, што

думаю пра гэтыя яго наведванні. А ў садок за Васькам пайду сама — ён хай ідзе сваёй дарогай»

Але не паспела яна сабрацца з думкамі, як Павел сам завёў гаворку.

— Таня, я за апошні час вельмі прывязаўся да Васілька. І да вас, — прамовіў ён і паспрабаваў узяць яе за руку.

— Я заўважыла, — сухавата адказала Таццяна і стала корпацца ў сумачцы, нібыта шукаючы пальчаткі — а на самай справе, каб заняць рукі: такія «пяшчотнасці» не ўваходзілі ў яе планы. І дадала сухавата: — І не магу сказаць, каб мяне гэта радавала.

— Чаму? — здзіўлена паглядзеў на яе Павел. — Вы што, лічыце, што я дрэнна ўплываю на хлопчыка? Мне здаецца, наадварот — Васю падабаецца, калі я прыходжу, ён так радуецца. Мы з ім столькі навучыліся за гэты час. Чаму вас гэта раздражняе?

— Я не гэта мела на ўвазе, — Таня старалася прыдумаць, як растлумачыць усё гэтаму неблагому хлопцу, не пакрыўдзіўшы яго.

А Павел працягваў:

— Таня, вы мяне, прабачце, калі ласка… Я не хачу ўмешвацца ў ваша жыццё…

— А вас аб гэтым ніхто і не просіць. І не дазваляе! — рэзка перабіла яго Таццяна — спалохалася, каб размова не павярнула ў недазволенае рэчышча.

Але Павел працягваў, не зважаючы на яе тон:

— Вы зразумейце: Вася — хлопчык, і проста неабходна, каб у яго выхаванні прымаў удзел мужчына…

— Можа, і так, — Таня памаўчала, падступаючыся да галоўнага. — Але… Вось вы прыходзіце, гуляеце, займаецеся з дзіцем — я вельмі ўдзячна вам за гэта. Я ж не вораг свайму сыну, разумею не горш, чым вы, што яму і сапраўды патрэбен мужчына, жыве ж мой хлопчык у атачэнні жанчын — мама, бабуля, выхавацельніцы ў садку… Аднак, Павел, вы прабачце, але мяне вельмі насцярожвае тое, што Вася так моцна прывязаўся да вас. Так, сёння ўсё цудоўна, усе задаволены, усе смяюцца… А што будзе, калі вы аднойчы знікнеце? Вы разумееце, якая гэта будзе душэўная траўма для дзіцяці? Я лічу, што лепш не даваць — і не забіраць. Не так балюча… Пагэтаму я хачу папрасіць вас пакрысе адвучаць Васю ад сябе… Каб гэта расставанне адбылося не адразу, не раптам, каб яму не вельмі балела.

— Але, Таня, чаму вы вырашылі, што я некуды знікну? — недаўменна паціснуў плячыма Павел. — Не збіраюся я нікуды знікаць! Наадварот. Я… Я хачу вам прапанаваць выйсці за мяне замуж. І тады мы будзем усе разам, назаўсёды. І не будзе ніякіх траўм! — выпаліў ён рашуча.

Таццяна ажно спынілася ад нечаканасці — нішто сабе прапанова! Ніколі ні слова, ні знаку, што яна яму падабаецца — не тое, што нейкіх там прызнанняў ці слоў пра каханне. І так вось, з бухты-барахты, пасярод вуліцы — выходзь за яго замуж!

— Павел, а вам не здаецца, што ваша прапанова… Гм-м… Прабачце, але крыху нечаканая…

— Для мяне — не.

— Але ж вы мяне зусім не ведаеце…

— Ну чаму ж зусім? Крыху ведаю. Лепш даведаюся пазней… Як і вы мяне. Спадзяюся, што не расчарую.

— Але…— яна памкнулася прызнацца, што не любіць яго. Але нешта спыніла — і Таня сказала крыху інакш: — Павел, вы ж не любіце мяне…

Старыя і дзеці ў сусветнай культуры параўноўваліся. І сёння па адносінах да старых і дзяцей складваецца меркаванне аб меры гуманістычнай сталасці грамадства.

Стары чалавек — гэта своеасаблівы сацыякультурны тып, што характарызуецца ўнутранай канфліктнасцю.

Не выключэнне і героі А. Жука, якія дасягнулі сталага ўзросту. Яны вытрымалі жыццёвыя іспыты, вызначылі ўласныя арыенціры, сфарміравалі сацыякультурную мадэль сэнсу і прызначэння чалавека. Менавіта такімі драматычнаскладанымі і нават супярэчлівымі з'яўляюцца Ігнат з аповесці «Чыгун» і Анэта з «Халоднай птушкі» Для таго, каб акрэсліць прычыны пэўных паводзін герояў, варта звярнуцца да іх мінулага.

Пры знаёмстве з Ігнатам, аўтар робіць экскурс у мінулае яго роду, расказвае пра сілу і моц Чыгуноў, асабліва дзеда Данілы. Дзякуючы прыёмам псіхалагізму (унутраны маналог, успаміны, сон, пейзаж і інш.), паўстае дакладная карціна жыцця галоўнага героя. Напрыклад, пры дапамозе рэтраспекцыі, праз успаміны героя раскрываецца не толькі знешні вектар падзей, але і ўнутраная сутнасць персанажа: *«І тады Ігнат з глухім болем успомніў, што каб гэта некалі, калі былі яны, Чыгуны, у самай сіле, ніхто не адважыўся падняць руку. А цяпер ад былое славы засталася ў Ігната толькі мянушка Чыгун і так сабе гаспадарка, каб жыць пацііху»* [2, с. 13]. Трапны аўтарскі каментарый дазваляе чытачу задумацца, як жылі Чыгуны раней, што з імі сталася зараз і якія думкі і мары ў свядомасці героя. Эпітэты выконваюць апісальную функцыю заглыбленага ўдакладнення. Напрыклад, *«з глухім болем успомніў»* — указвае на глыбокі ўзровень перажыванняў, хваляванняў Ігната, праз якія аўтар дакладна ўзнаўляе душэўны стан героя, яго пакуты, непакой і трывогі.

Чалавек — гэта носьбіт асаблівасцей грамадства. Узаемаадносіны паміж героямі ў мастацкім творы таксама шмат могуць расказваць пра характар і тэмперамент таго ці іншага персанажа. Пра пазіцыю і месца Ігната ў грамадзе, сярод аднавяскоўцаў аўтар піша: *«Грэцца на сонцы да каменя Ігнат выходзіць, калі людзі на рабоце, у полі і пуста на вуліцы»* [2, с. 10].

У сваім арсенале сродкаў псіхалагічнага ўвасаблення мастацкага характару А. Жук шырока выкарыстоўвае апісанне знешняга выгляду, праз які адлюстроўваецца псіхалогія героя. Напрыклад, пра старасць і рэальныя абставіны жыцця Ігната можна меркаваць па такой, амаль дакладнай замалёўцы: *«Ігнат неахвотна і скоса пазірае на сабаку, на свае **старыя** з **укасцянелымі** перадамі кірзавыя боты. На ім **старыя** картовыя штаны і **зашмальцаваная** да бляску на грудзях і ля кішэняў куфайка. Ходзіць Ігнат без шапкі да самых халадоў. На дзіва **густыя, сівыя**, каратка астрыжаныя валасы паблісківаюць на сонцы. Таксама **сівую густую** бараду ён зрэдку падроўнівае вялікімі **ржавымі** нажанкамі, якімі некалі стрыглі авечак. У руках Ігната выцерты рукамі да бляску ядлоўцавы кіёчак, лёгкі і моцны, які цьмяна паблісківаў на сонцы, як і **выцвілыя блакітныя** вочкі над гарбатым вялікаватым носам»* [2, с. 9]. Выдзеленыя азначэнні (старыя, укасцянелыя, зашмальцаваная, сівыя, ржавыя, выцвілыя) характарызуюць героя як чалавека, які нямала пражыў і прайшоў выпрабаванне часам, шматлікімі драматычнымі, часам жахлівымі падзеямі. Дадатая азначальная частка складаназалежнага сказа «*Таксама сівую густую бараду ён зрэдку падроўнівае вялікімі ржавымі нажанкамі,* ***якімі некалі стрыглі авечак****»*[2, с. 14]. Падштурхоўвае рэцыпіентаў да роздуму пра мінулае быццё персанажа. Мастацкая дэталь *«ржавыя нажанкі»* сведчыць пра цяперашнія матэрыяльныя нястачы Чыгуна, які ў мінулым меў заможную гаспадарку, вялікую колькасць авечак. Гэта засталося ў дакалгасным мінулым, шмат што незваротна страчана, і гэта ў пэўнай ступені паўплывала на светапогляд Ігната.

Псіхалогія старасці галоўнага героя вызначаецца пэўнымі фактарамі: страчанымі матэрыяльнымі каштоўнасцямі, перажытымі гістарычнымі падзеямі і

сацыяльным статусам яго, нікому не патрэбнага. Ігнат увесь час жыве ўспамінамі, шкадаваннямі аб мінулай славе і марнымі спадзяваннямі пра светлую, забяспечаную будучыню. Ім часцей за ўсё валодае зайздрасць да тых, у каго становішча лепшае. Зайздрасць з’яўляецца дамінуючай рысай характару яго. Напрыклад, Ігната пастаянна непакоіць дастатак суседа Стахвана. Нават у мроях, малюючы кіёчкам на пяску домік, *«…скрозь **прыплюшчаныя павекі бачыць** Ігнат цынкавы дах, ашаляваныя і пафарбаваныя сцены, белыя шырокія вокны і залаціста-жоўтага пеўніка на каньку; двор прасторны, парослы травою, з нізенькім плоцікам уздоўж сцяны, за якім пасеяны кветкі <…>**Расплюшчаныя вочы бачаць** цераз вуліцу і шчыльна пафарбаваны плот на цэментавых шулках, і светлую веранду, і цынкавы дах, і залатога пеўніка, — на тым месцы, дзе некалі стаяла Стахванава хата, збудаваўся ягоны сын, калгасны трактарыст Павел. Там і хлеў з мураванымі шуламі, і сытая карова…»*[2, с. 11]. Аўтар ужывае аднатыпныя па сваёй будове сінтаксічныя канструкцыі, якія адрозніваюцца антанімічнай парай прыметнікаў: прыплюшчаныя павекі (жаданае, тое, аб чым яму яшчэ марыцца) і расплюшчаныя павекі (рэальнасць, тое, што ён мае цяпер).

Алесь Жук паказвае вельмі цесную сувязь бацькоў і дзяцей: пачынанні старэйшага пакалення знаходзяць працяг у дзеяннях маладзейшага, што характарызуе ўнутраны стан асобы. Напрыклад, Ігнат увесь час прыгадваў планы свайго бацькі пабудаваць млын і стаць уладаром усёй ваколіцы, аднак яго спадзяванні не здзейсніліся. Сам імкнуўся ажыццявіць тое, што не ўдалося яго продкам. Гэтыя думкі валодалі ягонай свядомасцю: *«Думкі пра гумно кружылі ў галаве, як некалі ў бацькі пра млын»* [2, с. 26]. Значнае сэнсавае і па-філасофску паглыбленае напаўненне мае трапнае аўтарскае параўнанне бацькі і сына, што дазваляе меркаваць пра аднатыпную траекторыю падзей, лёс персанажаў.

Унутраны свет галоўнага героя аповесці «Чыгун» раскрываецца ў большасці выпадкаў праз яго дзеянні, учынкі, паводзіны і думкі. Аднак відавочна і ўменне празаіка стварыць выразныя, падаць нераканаўчыя сітуацыі, партрэтныя характарыстыкі, выкарыстаць аўтарскія каментарыі, што дазваляе рэцыпіентам меркаваць пра псіхафізіялагічныя якасці персанажа. Напрыклад, А. Жук мадэлюе крытычныя сітуацыі, у якіх абавязкова прымае ўдзел Ігнат. Так эпізод з партызанамі, калі давялося аддаць бычка, характарызуе героя як скупога, сквапнага, злаславага і хітраватага чалавека: *«Глухая, зацятая злосць на партызан не прайшла. Ён узненавідзеў іх, але маўчаў, баяўся, што зноў прыйдуць, калі хочаш, пазабіраюць коней»* [2, с. 28]. Працавітым, напорыстым і вельмі ўважлівым паўстае Ігнат у лесе: *«[…] не разагнуўся, пакуль дрэва цяжка не трэснула, незаўважна пахілілася ў падсечаны бок. Толькі тады некалькі хвілін пастаяў, аддыхаўся, слухаў, як па целе расцякаецца гарачая стомленасць»* [2, с. 29]. Калі ж пачалася страляніна, *«Ігнат адрозніваў і аўтаматныя чэргі, і вінтовачныя стрэлы»* [2, с. 29].

Сярод сродкаў адлюстравання псіхалагічнай сутнасці мастацкага характару важную выяўленчую функцыю выконвае апісанне мімікі  і жэстаў героя. Найбольш крытычным, кульмінацыйным момантам у жыцці Ігната з’явіўся пажар, які знішчальнай сілай загубіў яго сям’ю і хату. Вось як выглядаў герой у той трагічны момант: *«Ігнат **усміхнуўся**, быццам **ашчэрыўся**, **закруціўся** на месцы, **кінуўся** да каня…»* [2, с. 30].  Дзеяслоўны рад падкрэслівае крызіснасць унутранага стану персанажа, неўсвядомленасць і міжвольнасць яго паводзін, якія выкліканы вялікім псіхічным стрэсам для героя.

Важнай мастацкай характарыстыкай Ігната з’яўляецца апісанне ягоных бадзянняў па свеце, узаемаадносін з іншымі людзьмі. Напрыклад, пасля блукання па лесе і сустрэчы з партызанамі, Ігнат паўстае адзінокім, духоўна спустошаным і нікому не патрэбным, лішнім. Празаік тонка заўважае: *«Зёлкінд Ігната пабойваўся, стараўся быць далей ад яго і загады перадаваў праз Кацю»* [2, с. 30]; *«Ігнату здавалася, што Каця неўзлюбіла яго за тое, што прыручыў сабаку, шчанюка, якога Зёлкінд аднойчы падабраў на спаленым хутары»* [2, с. 35].

Алесь Жук падае каментар, міні-характарыстыку Ігната спачатку з пункту гледжання Зёлкінда, а потым ідзе самахарактарыстыка ўласна Ігната.

Алеся Жука можна з упэўненасцю лічыць сапраўдным майстрам пейзажных замалёвак, якія выконваюць не толькі эстэтычную ролю, але і змястоўна-сэнсавую, скіраваную да спасціжэння асаблівасцей мастацкага характару, асэнсавання эмацыйнага ладу асобы. Многія псіхатыпы яго герояў раскрываюцца пры дапамозе дакладных пейзажаў. Напрыклад, у аповесці «Чыгун» эвалюцыя, змены ва ўнутраным стане персанажа суправаджаюцца апісаннем перамены ў прыродзе. Ранняе прадвесне абуджае ў падсвядомасці героя жаданне жыць, ажыць з прыродай: *«Лежачы ў шпіталі Ігнат не мог бачыць, што многае незаўважна перамянілася ў прыродзе. Вышэйшае, маладое стала неба, вільготна, чыста запахла паветра. Снег пацямнеў, надвячоркам, у марозік, быў шорсткі, зярністы, як соль. У лесе ўладарыў тонкі жывы водар бярозавага і асінавага голля.* ***I з гэтымі непрыкметнымі, нязначнымі пераменамі ў прыродзе, у душы чалавека ачынаецца вострая, шчымлівая прага да жыцця, простага, прымітыўнага, як жыццё дрэў і травы, уся асалода яго ў тым, каб толькі адчуваць, бачыць і быць»*** [2, с. 39]. Герою накаванава лёсам прайсці фізічныя выпрабаванні: Ігнат быў паранены і некаторы час праляжаў у шпіталі. Ён меў мажлівасць паразважаць над сваімі ўчынкамі, прааналізаваць уласнае мінулае жыццё. З мэтай эмацыйнага ўздзеяння на чытача А. Жук уводзіць у тэкст пейзажны малюнак, праз які перадаецца настрой галоўнага героя. Ігнат зразумеў, што нічога асаблівага яму не патрэбна, ён хацеў звычайнага, спакойнага і размеранага жыцця, якое павінна праходзіць, каб ён мог: *«...адчуваць, бачыць, быць»* [2, с. 39].

Удалым і змястоўным прыёмам стварэння мастацкага характару з’яўляюцца ўспаміны персанажа. Напрыклад, пра негатыўны аспект, пра зайздрасць як дамінуючую рысу характару Ігната сведчаць згадкі пра тое, як з вялікім жаданнем крыўды і помсты ён падпальваў чужыя хаціны. Пісьменнік па-майстэрску апісвае ягоны стан у момант ліхадзейства, псіхалагічна дакладна падае пачуццё злоснай асалоды Ігната за тыя ўчынкі: *«І ад успаміну пра тое на імгненне ў душы ўспыхнула* ***вострае адчуванне радасці****, быццам наяву перажыў тую* ***ўцеху,*** *калі паволі даставаў з кішэні патроны з запальнымі кулямі і страляў, акуратна цэлячыся ў насохлую салому падстрэшка, у гумны ці хлявы, закладзеныя на зіму сенам і саломаю. А потым, калі ўдавалася падпаліць, стаяў, цешыўся на агонь, быццам тое* ***полымя людское бяды грэла яго****. А аднаго разу яму пашанцавала так, што вецер перакінуў агонь на суседнія хаты...»* [2, с. 40]. Успаміны Ігната аўтар пакідае адкрытымі: невядома колькі яны маглі б працягвацца, як невядома і колькі хат знішчыў Ігнат агнём. Так герой твора імкнуўся затушыць сваё гора, якое скасавала ўсё жыццё, зрабіла яго нікчэмным, слабым і бездапаможным. Празаік пераканаўча паказвае, што фарміраванне такога тыпу характару адбывалася пад уплывам унутраных і знешніх абставін, у якіх жыў і ў якія трапляў Ігнат.

У невялікім па сваіх памерах творы А. Жуку ўдалося прасачыць лёс героя ад пачатку да канца. Ігнат вяртаецца ў сваю родную вёску, дзе страціў сям’ю, і пачынае адбудоўвацца. Аднак пачуццё зайздрасці і імкненне быць лепшым за ўсіх не дае яму спакою. *«Цяпер тут ён зможа сам сабе здабыць ежы, каб хапала, і жыць* ***на злосць усім*** *спакойна і сыта,* ***хай пазайздросцяць яму****... Пакуль перажыць гэту разруху, пакуль зноў нарабіць усяго патрэбнага чалавеку для жыцця, трэба не адзін год, трэба многа траціць сілы. А Ігнат тым часам будзе жыць, уставаць і бачыць сонца, чуць пах хлеба і травы і берагчы сілу, каб жыць, існаваць бясконца, а калі не бясконца, то даўжэй за сваіх аднагодкаў»* [2, с. 41]. Жыццёвая пазіцыя Ігната засталася нязменнай: свае ўласныя мэты ён ставіў заўсёды на першае месца, імкнуўся пранесці сілу і моц роду Чыгуноў праз пакаленні, не мог унутрана згадзіцца з тым, што прайшоў іх час, неабходна саступіць месца іншым.

Псіхалогія Ігната — гэта псіхалогія ўпартага эгаіста-змагара, які не скараецца абставінам, хоць яны неадольныя. Усімі праўдамі і няпраўдамі ён хоча

дасягнуць сваёй мэты, пераступаючы цераз тых, каго сустрэў і каго яшчэ спаткае на сваім шляху. Напрыклад, сусед Стахван для яго заўсёды быў ворагам, праціўнікам, бо меў матэрыяльна забяспечаную гаспадарку. Пачуццё вялікай радасці і ўцехі ён адчувае тады, калі стала вядома, што Стахван недзе знік, не вярнуўся пасля вайны: *«Ды і настрой палепшаў, думаў пра Тэклю — з хлапчуком не доўга пацягне такую гаспадарку, пойдзе па свеце Стахванава дабро»* [2, с. 43]; *«Аднекуль з'явілася яна, гэтая ўпэўненасць, калі пачуў, што няма Стахвана, быццам ён, Ігнат, абмануў суседа, перахітрыў і яшчэ многіх перахітрує»* [2, с. 44]. Унутраны маналог у А. Жука — найбольш часта ўжывальны прыём адлюстравання маральнай сутнасці герояў. Такія маналогі-споведзі адкрываюць перад чытачамі думкі, мары, планы на будучыню, маюць ёмістае сэнсаўтваральнае значэнне, бо не ўскосна, а непасрэдна ўказваюць на духоўнае аблічча персанажаў.

Псіхалагізаваныя пейзажныя замалёўкі ў творах рэалістычныя, шматзначныя і змястоўныя. Яны — своеасаблівы акампанемент, фон для ўнутранай сутнасці героя. Напрыклад, у фінале апавядальнік параўноўвае стан прыроды і фізічны стан персанажа: *«Адыходзіла разам з цяплом восеньская прыгажосць лесу і поля. Халаднавата цягнула ўначы паўночным ветрам. На лужках у полі вялікім чарадамі начавалі шэрыя пералётныя качкі. Яны спяшаліся. За імі ішлі халодныя дажджы, якія вымачаць парыжэлыя бакі аселіц і лугоў, абарвуць апошняе лісце і кінуць яго ў халодную рэдзенькую гразь.*

*Ігнат не выходзіў сядзець на каменьчыку. Выпаўзаў з хаты, каб толькі пакарміць парсюка. Адзяваў ватнія штаны, калашыны, якія выпускаў паверх ботаў, на галаву — старую, пашытую з аўчыны шапку.*

***За некалькі асенніх тыдняў ён асунуўся, ніжэй прыгнуўся да зямлі, і вочы ўсё нешта неспакойна шукалі. Не стала сілы, і цяжкія невясёлыя думкі прыйшлі*** *ад таго, што не хацелася яму есці, не пайшлі на душу ні капуста, ні сала, ні буракі, быццам нешта перасохла ўсярэдзіне»* [2, с. 45—46]. Такое папераджальнае апісанне прыроды дазваляе аўтару ўвесці чытача ў духоўны свет героя, нібы настройвае рэцыпіентаў да ўспрымання сутнасці Ігната. Можна правесці паралель паміж Ігнатам і лістом, які аджыў свой час, бо прыйшла восень з вятрамі і дажджамі, што «*абарвуць апошняе лісце і кінуць яго ў халодную рэдзенькую гразь»* [2, с. 46].

Драматызмам і трывожным адчуваннем напоўнены момант нянавісці персанажа да сабакі, якому ён таксама зайздросціў (думаў, што той перажыве свайго гаспадара), адчуваючы пры гэтым спустошанасць, саслабеласць душы. Успаміны скіроўваюць Ігната да асэнсавання пражытага: *«Думкі вярталіся да пражытага, а яно аказалася кароткае, памятнае страшнымі выпадкамі:* ***смерць бацькі, пажар****, вось і ўсё памятнае, адметнае, а потым доўга-доўга* ***два маленькія акенцы і гнілаваты сыры пах варывенькі****, гэтакі ж, як і пах выкапанае на могілках ямы»* [2, с. 46]. Такім багатым на трагічныя моманты, і скупым на эмоцыі, звыклыя чалавечыя радасці было існаванне героя аповесці «Чыгун».

Філасофска-маральным сэнсам напоўнены эпізоды смерці і пахавання Ігната. У іх заключаецца мізэрная сутнасць яго шляху і існавання на Зямлі: *«Работу рабілі скора, і ні ў кога не было нават таго шкадавання, якім шкадуюць мёртвую звярыную душу, толькі жаданне скарэй скончыць непрыемную работу, нібыта пераносілі мёртвае цела з аднаго месца на другое.*

*Напрадвесні загадалі Паўлу раскідаць на дровы хатку і хляўчук, а потым бульдозерам, які ішоў падсыпаць дарогу, зраўнялі ўсё так, што не засталося і следу, толькі чатыры цяжкія камяні ссунутыя ў адно месца»* [2, с. 49].

Аўтар прапануе чытачу паразважаць аб прызначэнні чалавека, ягоным шляху і следзе, які пакідае пасля сябе кожны. Стаўленне людзей да Ігната і яго характарыстыка з боку аднавяскоўцаў відавочныя: не прынёс ён карысці грамадзе, не адчулі людзі страты, жалю і гора, пахаваўшы Ігната, ягонае жыццё прайшло бясследна, бессэнсоўна.

Вельмі багатая на разнастайныя праблемныя пытанні рэальнасці, на глыбокае спасціжэнне душы старога чалавека аповесць А. Жука, якая мае сімвалічную назву — «Халодная птушка. Дамінуючым і эмацыйным фонам твора з'яўляецца холад у шырокім сэнсе гэтага слова. Галоўная гераіня аповесці — сталая жанчына Анэта. Яна сама выгадавала і сына, і дачку, імкнулася, каб дзеці выйшлі ў людзі, каб ім не давялося гараваць так, як ёй. Анэта была ўжо даволі нямоглай і вырашыла на зіму паехаць да сына: *«Старая ведала, што ніякія коўдры яе не нагрэюць, бо не засталося цяпла ў целе, выстудзілася яно за доўгае жыццё»* [2, с. 50]. Анэта растраціла сваё цяпло, каханне, сілу і моц, таму што ў яе доўгае і складанае жыццё: шмат працавала, выжыльвалася, перажыла ўсіх сваіх сясцёр, аб чым вельмі шкадавала.

Аповесць насычана эпізодамі рэтраспекцыі, каб дэталізаваць прычыннавыніковую сувязь падзей, паказаць характар галоўнай гераіні. «Халодная птушка» дае выразнае ўяўленне аб жыцці беларускай вёскі. Многія ўспаміны Анэты сведчаць пра яе маральныя каштоўнасці, прыярытэты, жыццёвую пазіцыю. Унутраныя маналогі гераіні раскрываюць не толькі яе асабіста духоўнае аблічча, а з'яўляюцца абагульненым, патрыятычным лейтматывам твора: *«...І нішто не можа абудзіць у чалавеку самых высокіх і самых вечных пачуццяў, як бацькаўшчына! І не быў, і не будзе, і нельга быць чалавеку шчаслівым, калі ідзе ён па жыцці без бацькаўшчыны ў сэрцы. Няшчасны гэта чалавек, і, мабыць, цяжка і страшна паміраць яму, бо калі памірае чалавек, улюбёны ў зямлю і ў людзей, якія побач з ім жылі, то ён ведае, што пакідае на зямлі і радасць жыццю гэтых людзей, і след сваіх рук на зямлі, і памяць пра сябе ў душах хоць на адно пакаленне»* [2, с. 55—56].

Прыведзеная цытата дазваляе меркаваць, што Анэта па сваіх душэўных якасцях — супрацьлегласць герою аповесці «Чыгун». Анэта і Ігнат, магчыма, і мелі блізкія мэты (пакінуць след), аднак шляхі і сродкі дасягнення пастаўленых задач у іх значна адрозніваліся.

Аповед у аповесці «Халодная птушка» вядзецца ад імя трэцяй асобы, што дазваляе аўтару дакладней выявіць псіхалагічнае напаўненне мастацкіх характараў. Напрыклад, прыём рэтраспекцыі падкрэслівае асаблівую важнасць адступлення ад асноўнага зместу твора, чаго няма яшчэ ў аповесці «Чыгун», але будзе мець месца ў дзвюх наступных: «Паляванне на Апошняга Жураўля» і «Праклятая любоў».

Для таго, каб падкрэсліць сталы ўзрост Анэты, яе адзіноту і душэўны дыскамфорт, А. Жук выкарыстоўвае два віды псіхалагічнага адлюстравання: знешні і ўнутраны. Вось, напрыклад, карціна побыту гераіні: *«Шпалеры на сценах* ***старыя****, крыху закураныя* ***ад старасці****, але акуратныя, нідзе не парваныя і не вымурзаныя. Столь хоць і нефарбаваная, з дошак, пацямнелых ад часу, але вымытая* ***старою****, нават і ў прыцемках адсвечвала роўнаю жаўцізною...»*[2, с. 65—66]. Трапныя мастацкія дэталі (старыя шпалеры, старыя дошкі, старая гаспадыня) — пераканаўчае сведчанне не толькі старасці, але і вопытнасці, стараннасці, гаспадарлівасці Анэты, якая ўсё жыццё клапацілася пра сямейны дабрабыт, імкнулася захаваць утульнасць і акуратнасць, наколькі ў яе хапала сілы.

Характар гераіні раскрываецца пры дапамозе выкарыстаных шматлікіх сюжэтных ліній. А. Жук расказвае, што Анэта — маці дваіх дзяцей, а якім чынам складваюццца яе адносіны з дачкой і сынам — пакідае высветліць чытачам самастойна пры дапамозе аналітычнага асэнсавання і інтэрпрэтацыі ўспамінаў, размоў, паводзін сваіх персанажаў.

З цёплых і шчырых успамінаў Федзі пра маці даведваемся: *«Ён памятаў запалыя мацерыны вочы і непрывычную падпухласць ад голаду на твары. І адчуванне, быццам гэта ён вінаваты, што яна ўсё жыццё толькі рабіла работу, каб пракарміць іх, дзяцей, на старасць год мерзнуць адной у хаце, якую будавала не*

*толькі сабе…»* [2, с. 72]. Федзя любіць і паважае сваю маці, клапоціцца пра яе, яго балюча непокоіць адзінота роднага чалавека.

Анэта — жанчына сумленная, працавітая, гордая і сціплая. Ніколі не выносіла сваё пачуццё на людскі суд, хавала ўсё ўнутры сябе, не дазваляла эмоцыям узяць верх над розумам. Сарамяжлівая, яна нават пры сустрэчы з роднай дачкой не ведае з чаго пачаць гаворку, адчувае сябе ніякавата, баіцца прызнацца, чаму прыйшла да яе: *«…Мо Федзя прыедзе сёння, а я з дому сышла… — нарэшце сказала Анэта пра тое, што найбольш хвалявала яе, з-за чаго прыйшла да дачкі»* [2, с. 109]. Успаміны Анэты пра маленства дачкі ўносяць удакладненне для разумення прычыны не вельмі блізкіх узаемаадносін: жанчына часам праяўляла грубасць, злавала на дачку, калі тая не хацела дапамагаць па гаспадарцы. Яна прыклала ўсе намаганні, каб дзеці выйшлі ў людзі, аднак не змагла ў поўнай меры выхаваць у іх пачуццё павагі і гонару за сваю бацькаўшчыну.

У фінале аповесці аўтар выкарыстоўвае ўдалы і ёмісты прыём псіхалагічнага адлюстравання мастацкага характару: Анэта перыядычна бачыла сон, у якім былі і бацька, і маці, і гераіня ў дзяцінстве. Гэты сон мае сімвалічнае падтэкставае значэнне. Ён увасабляе непазбежную наканаванасць развітання Анэты з роднай хатай, зямлёй і сустрэчу з бацькамі і тымі, хто адышоў ужо на той свет.

Важную сэнсавыяўленчую функцыю выконвае мастацкая дэталь — снег. Гэты элемент пейзажу ўпамінаецца ў пачатку твора як нешта жаданае, недасягальнае, чаго вельмі хацелася Анэце, каб не змерзла азімае жыта. Гераіня адчула душэўны баланс, гармонію толькі тады, калі ўбачыла снег *«на абочынах і на галінах»* [2, с. 123]. Унутраны маналог раскрывае псіхалагічны аспект яе характару: *«З палёгкаю Анэта падумала, што дачакалася — лёг снег, не вымерзне рунь. І гэта шчодрая, вечная радасць жывою цёплаю хваляю мо ў апошні раз ускалыхнула яе душу»* [2, с. 124].

У «Халоднай птушцы» ў поўнай меры выявіліся важныя рысы творчасці А. Жука — псіхалагізацыя мастацкіх характараў, філасафічная заглыбленасць у асэнсаванні праблемы прызначэння чалавека на Зямлі, вострая пастаноўка маральна-этычных праблем, сцвярджэнне высокай духоўнасці чалавека.

## Вывады

Як можна пераканацца, псіхалогія старасці знаходзіцца ў цэнтры ўвагі аповесцей «Чыгун» і «Халодная птушка». А. Жук дакладна і глыбока даследуе этапы псіхічнага развіцця чалавека. Псіхалагічнае аблічча герояў яскрава сведчыць аб тым, што пісьменнік валодае майстэрствам псіхалагізму, стварае пераканаўчыя характары ў рэчышчы традыцый як нацыянальнай, так і сусветна-культурнай.

Вобразы сталых герояў з’яўляюцца тыповымі, традыцыйнымі для айчыннай класічнай прозы. У беларускай нацыянальнай традыцыі вобраз-тып старога чалавека — увасабленне сапраўднай народнасці з уласцівымі ёй маральна-этычнымі і светапогляднымі складнікамі.

Беларуская проза ХХ ст. працягвала на новым філасофска-эстэтычным узроўні асэнсоўваць біблейскае паходжанне вобраза-архетыпа старога чалавека.

## Спіс літаратуры

1. Есин, А. Б. Психологизм русой классической литературы / А. Б. Есин. — 2-е изд., перераб. — М.: Флинта: Моск. психолог.-соц. ин-т, 2003. — 173 с.

2. Жук, А. Вечаровае сонца: выбранае / А. Жук; прадм. У. Гніламёдава. — Мн. : Маст. літ., 2006. — 431 с.

3. О психологической прозе. Л. Я. Гинзбург. — М.: Intrada, 1999. — С. 334.

4. Психологический анализ в литературном творчестве. / И. В. Страхов. — Саратов: Полиграфист, 1973. — Ч. 1. — 57 с.

5. Страхов, И. В. Психологический анализ в литературном творчестве Ч. 3/ И. В. Страхов. — Саратов: Саратовский гос. пед. институт, 1975. — 157 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 4 студзеня 2013 г.

**Валянціна Ткачук**

## Псіхалагічнае аблічча старасці ў аповесцях Алеся Жука «Чыгун» і «Халодная птушка»

### Рэзюмэ

Вобраз-архетып старасці, старца з'яўляецца важным сэнсаваўтваральным элементам сусветнай культурнай традыцыі. Ён мае даўняе біблейскае паходжанне. Гэты вобраз-архетып арыгінальна выяўляецца ў беларускай прозе XX ст.

У артыкуле на матэрыяле аповесцей А. Жука «Чыгун» і «Халодная птушка» разглядаецца псіхалагічнае аблічча старасці на вобразах літаратурных герояў Ігната і Анэты. Аналітычна асэнсоўваюцца творчыя прыёмы і мастацкія сродкі стварэння характараў і абліччаў герояў сталага ўзросту.

**Valyantsina Tkachuk**

## The Psychological Image of Senescence in the Short Novels «Chyhun» and «A Cold Bird» by Ales Zhuk

### Summary

The image-archetype of the old age, the old man is an important semantic element of the world cultural tradition. It has an ancient biblical origin. This image-archetype has been originally expressed in the Belarusian prose of the 20th century. The article is based on the materials of the short novels «Chyhun», «A cold bird» and is devoted to the analysis of the psychological image of senescence in terms of such literary characters as Ihnat and Aneta. Creative techniques and artistic means of building elderly heroes' characters and appearances are analytically comprehended in the article.

**Артур ЗЕЛЬСКІ,**
**Аляксей ЛІТВІН**

# ТРАГЕДЫЯ ХАТЫНІ: АРХІЎНЫЯ ДАКУМЕНТЫ І СВЕДЧАННІ

70 гадоў таму знікла з твару зямлі на першы погляд звычайная, шараговая беларуская вёска. Гісторыяй, жудаснымі падзеямі Вялікай Айчыннай вайны ёй наканавана было спачатку знікнуць, а потым праз 26 гадоў зноў адрадзіцца ў зусім іншым абліччы, у абліччы вёскі-сімвала, што стала сусветна вядомым мемарыялам усім спаленым, вынішчаным разам з жыхарамі, беларускім вёскам. Мемарыяльны комплекс «Хатынь» з першых дзён стварэння з'яўляецца адным з найбольш вядомых месцаў для наведвання як айчыннымі, так і замежнымі турыстамі. Хатынскі мемарыял — гэта своеасаблівае, унікальнае, насычанае крывёю і попелам спаленых людзей, поўнае трагізму месца. Яго нельга ні з чым параўнаць. Нават з мемарыяламі нацысцкіх канцлагераў смерці. Там захаваліся хоць якія-небудзь баракі, што дае адчуванне наведвальніку: у вязняў заставалася надзея выжыць. Тут гэтага не было…

Хатынскі мемарыял — гэта помнік чалавечым пакутам, чалавечага болю і смутку, вечны напамін аб жудасных наступствах ваенных злачынстваў нацызму, аб тым, каб кожны, хто прыходзіць сюды, разумеў, што і ад яго таксама залежыць і што ён павінен зрабіць усё, каб такое больш ніколі не паўтарылася. Назва Хатынь магла назаўсёды адысці ў нябыт, каб не ініцыятыва першага сакратара ЦК КПБ П. Машэрава, былога партызана, які асабіста быў сведкам жудасных злачынстваў акупантаў. Пётр Міронавіч, 95-годдзе якога споўнілася ў лютым, сціплы настаўнік сярэдняй школы ў райцэнтры Расоны Віцебскай вобласці, з першых дзён вайны змагаўся з акупантамі. Быў адным з арганізатараў Расонскага падполля, з красавіка 1942 г. — камандзір партызанскага атрада, затым — камісар партызанскай брыгады. З верасня 1943 г. — першы сакратар Вілейскага падпольнага абкама камсамола. Ён — адзіны з першых сакратароў падпольных абкамаў ЛКСМБ, хто да вайны не працаваў на камсамольскай рабоце, і ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза.

У Беларусі гітлераўцы спалілі сотні вёсак. Шмат ужо напісана пра тое, чаму выбар выпаў менавіта на Хатынь. Не будзем паўтараць растыражыраваныя пасля распаду СССР розныя плёткі наконт сугучнасці Хатыні-Катыні, што быццам бы гэтым Масква хацела адцягнуць увагу ад Катынскай справы.

У сапраўднасці ўсё выглядае больш празаічна. У першыя пасляваенныя гады краіна была занята адбудовай разбуранай вайной народнай гаспадаркі. Першыя маштабныя мерапрыемствы па мемарыялізацыі падзей Вялікай Айчыннай вайны ў СССР пачаліся ў перыяд падрыхтоўкі і святкавання 20-годдзя Перамогі, што супала з прыходам да ўлады Л. Брэжнева. Асабліва значная актывізацыя гэтай работы ў Беларусі пачала адбывацца пасля прыняцця 17 студзеня 1966 года пастановы Прэзідыума ЦК КПБ «О дальнейшей работе по увековечиванию героических подвигов советских людей в период Великой Отечественной войны», у якой намячалася шырокая праграма мемарыялізацыі. У прыватнасці, ставілася задача да 30 красавіка 1966 г. «сабраць поўныя звесткі аб населеных пунктах, жыхары якіх былі пагалоўна знішчаны нямецка-фашысцкімі варварамі, і на працягу бягучага і першай паловы 1967 г. увекавечыць месцы пахаванняў, спаленыя

вёскі мемарыяльнымі знакамі, закладкай адпаведных паркаў-помнікаў. Разгледзець і вырашыць пытанне аб стварэнні філіялаў абласных музеяў у раёнах, дзе базіраваліся асноўныя сілы партызан…

Прыняць прапанову Мінскага абкама КПБ і Міністэрства культуры БССР: аб стварэнні ў Лагойскім раёне філіяла Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і ўстанаўлення мемарыяльных знакаў на месцы былой вёскі Хатынь, усе жыхары якой былі зверскі знішчаны фашысцкімі захопнікамі».

Існавалі і іншыя прапановы. У тым ліку і ў вёсцы Велья ў Расонскім раёне, дзе было знішчана 450 жыхароў. Аднак, мемарыял такога ўзроўню трэба было пабудаваць бліжэй да сталіцы, што несумненна падвышала яго міжнародную значнасць.

Гісторыя стварэння Хатынскага мемарыяла добра вядома. Комплекс ствараўся ў некалькіх этапаў. Асноўная праца зроблена ў 1968—1969 гг. Спачатку пабудавалі тую частку, што тычылася непасрэдна Хатыні. На месцы кожнай з 26 спаленай хаты ўстанавілі помнік — бетонны вянец зруба попельнага колеру, стэлы-абеліскі ў выглядзе пячных комінаў. На вяршыні кожнага — звон, які падае гук кожныя 30 хвілін. На мемарыяльных дошках указаны прозвішчы жыхароў. Адчыненыя брамкі быццам чакаюць гасцей… Чатыры стылізаваныя студні, на тых месцах, дзе раней стаялі сапраўдныя. Масіўная страха сімвалізуе калгасны свіран (гумно), у якім злачынцы спалілі сагнаных вяскоўцаў. Яна выканана з чорнага лабрадарыта. Насупраць — брацкая магіла хатынцаў з Вянком Памяці і словамі звароту да будучых пакаленняў. Галоўная дамінанта мемарыяла — шасціметровы помнік: бацька, які трымае на руках забітага сына. 13 лютага 1969 г. было прынята рашэнне аб будаўніцтве другой чаргі мемарыяла, каб падкрэсліць думку, што Хатынь — гэта абагульняльны сімвал генацыду беларускага народа. Таму побач узніклі сімвалічныя «Могілкі неадбудаваных вёсак», дзе былі захаваны урны з зямлёй са 185 знішчаных вёсак.

Больш падрабязна пра гісторыю знішчэння вёскі і аб стварэнні Хатынскага мемарыяла можна даведацца з літаратуры, якая выйшла апошнім часам, у тым ліку і ў сувязі з 40-годдзем яго стварэння.

Мы раім чытачу пазнаёміцца са зборнікамі «Хатынь. Трагедия и память: документы и материалы / сост. В. И. Адамушко и др.» — Минск: НАРБ, 2009. — 272 с. і зборнікам «Трагедия белорусских деревень, 1941—1944: документы и материалы» / Сост Н. В. Кириллова, В. Д. Селеменев и др. — М., 2011. — 536 с.

## Вёска Хатынь у архіўных дакументах

Хацелася б звярнуць увагу чытача на пытанні, якія раней не краналіся. Перш за ўсё пазнаёміць з гісторыяй самой вёскі, якую мы пастараемся ў нейкай ступені рэканструяваць з дапамогай раней невядомых архіўных дакументаў. Адзначым, што на сённяшні дзень архіўныя матэрыялы, што тычацца гісторыі Хатыні, можна ўмоўна падзяліць на дзве групы. Першая — дакументы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, якія захоўваюць пэўныя звесткі па гісторыі вёскі да пачатку XX ст. У сваю чаргу яны дзеляцца па храналогіі на дакументы часоў: 1. Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, 2. Расійскай імперыі.

Дакументы першай групы складаюцца пераважна з каралеўскіх і вялікакняскіх прывілеяў і іх пацвярджэнняў, каралеўскіх пацвярджэнняў тастаментаў (запаветаў), актаў рэвізій каралеўскіх рэвізораў, зацвярджэнняў камісарскіх судоў па размежаванні маёнтка, пастановы па скаргах Менскага гародскага суда, рашэнні Галоўнага трыбунала ВКЛ адносна падзелу Лагойскага графства, візітацыі цэркваў Лагойскага дэканата.

З гэтага пераліку найбольш цікавыя дакументы пра першае прыгадванне Хатыні (15 ліпеня 1551 г.). Тады кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст дараваў прывілей мінскаму старасту, ваўкавыскаму дзяржаўцу

і смаленскаму ваяводу пану Васілю Тышкевічу набываць у татар Фурса Юхновіча, Шэйха Амбекавіча «земли и дворцы» ў Пiлiпавiчах, Славагошчы, Хатынi.

Паводле рэвізіі 1559 г. у сяле Хатынь налічвалася 13 службаў людзей. У тыя часы «служба» складалася звычайна з 2—3 і больш «дымоў» (сялянскіх гаспадарак). У Хатыні было прыблізна 30—40 «дымоў», жыло ў вёсцы не менш як 200 чалавек. Заможнасць хатынцаў усталёўвалася не на вырошчванні збожжа, але на «ловах» (паляўнічых угоддзях), на бортніцтве, здабывалі яны і воск. Агулам давалі ўладальнікам зямлі Тышкевічам даніны 20 пудоў мёду і серабшчызны (грашовай павіннасці) па 12 грошай ад «сахі» (зямельнага надзелу) штогод.

«Крывавы патоп» сярэдзіны XVII ст. (вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гг. ) прывёў да жудасных спусташэнняў і знішчыў палову насельніцтва Беларусі. Не мінула яна і Хатынь. Згодна старадаўнім дакументам Менскага ваяводства, ад маёнтка Хатынь застаўся толькі 1 (адзін!) «дым». Пакуль невядома, што сталася з астатнімі жыхарамі. Вядома, што звычайнай справай падчас той вайны было рабаванне і паленне вёсак і іншых населеных пунктаў.

Як відаць з дакументаў, у розныя часы ў Хатыні і яе ваколіцах жылі людзі розных нацыянальнасцей і веравызнанняў. Паводле дакументаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі да сярэдзіны XVI стагоддзя Хатынь і шэраг іншых вёсак (Губа, Слагавішча) належалі татарам, якія знаходзіліся на службе ў ВКЛ. У 1551 г. гэтыя землі былі выкуплены ў татар мінскім старастам і смаленскім ваяводам В. Тышкевічам. У 1566 г. пры размежаванні Лагойск, Слагавішча, Хатынь і інш. аднесены да Віленскага каталіцкага капітула. У тых паперах Хатынь названа вёскай (селом), г. зн. месцам, які мае храм, ці капліцу.

Паводле генеральнай візітацыі (праверкі) 1763 г. Хатынь уваходзіла ў парафію грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы св. Мікалая Лагойскага дэканата.

Пры праверках (рэвізскіх сказках) 1806 и 1819 гг. у Хатыні зарэгістраваны могілкі і грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква Раства панны Марыі. Царква была пабудавана з дрэва, яе асвячэнне адбылося 6 лістапада 1794 г.

У Хатынскай акрузе жылі і яўрэі: пад 1835 г. упамінаецца Рафал Шмуйловіч Шарлат і пад 1842 г. Мірла Рафалаўна Шарлатаўна.

Пасля зліквідавання ў 1839 г. уніі і пераводу грэка-каталікоў у праваслаўе, у кліравай ведамасці Лагойскай Праабражэнскай царквы зафіксавана драўляная праваслаўная царква Раства Божай Маці ў Хатыні. Прыхаджане — 25 мужчын і 25 жанчын. Гэтая царква ўпамінаецца ў 1894 г. Іншых звестак мы пакуль не знайшлі. Час і прычына разбурэння, ці знішчэння царквы ў дакументах не адшуканы. Магчыма яна была знішчана ў гады Першай сусветнай вайны, ці ў багаборчыя 20—30-я.

Паводле генеральнага візітацыя ў 1806 г. (верагодна і раней) у вёсцы была грэка-каталіцкая царква Нараджэння панны Марыі.

Сярод дакументаў расійскага перыяду пераважаюць «рэвізскія сказкі», кантракты на распрацоўку лесу ў маёнтках Тышкевічаў, выкупныя плацяжы сялян.

Дакументы сведчаць аб паступовым (аднак марудным) адраджэнні Хатыні ў XIX ст. У 1816 г. колькасць сялян складала 63 чалавекі (з іх 32 мужчыны і 31 жанчына). Да сярэдзіны стагоддзя зменшылася да 50 чалавек. У канцы XIX ст. у вёсцы жыло больш як 120 чалавек, з іх 19 дзяцей ад 7 да 14 гадоў. Узгадваюцца прозвішчы: Бараноўскія, Жалабковічы, Юрцэвічы, Мірановічы, якія, гледзячы па ўсім, жылі тут спрадвеку.

Другая частка крыніц складаецца з рассакрэчаных дакументаў Цэнтральнага архіва КДБ Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. Гэтыя дакументы з аднаго боку даюць больш выразную карціну трагедыі 1943 г., з другога — нараджаюць новыя пытанні.

Цэнтральны архіў КДБ захоўвае крымінальныя справы, у якіх ёсць пратаколы допытаў сведкаў хатынскай трагедыі і паказанні абвінавачаных — былых паліцэйскіх, удзельнікаў злачынства.

Масіў дакументаў Нацыянальнага архіва больш разнастайны. Гэта ваенныя дакументы: штабныя паперы партызанскага атрада «Мсціўца» і брыгады «Дзядзькі Васі», загады і данясенні нямецкіх акупацыйных ваенных улад і інш. Дакументы 1960-х гг. аб стварэнні мемарыяльнага комплексу «Хатынь»: пастановы Прэзідыума ЦК КПБ, распараджэнні Савета Міністраў БССР, Мінскага аблвыканкама і інш.

Звычайна складваецца ўражанне, што трагедыя вёскі Хатынь адбылася ў адзін момант. Але з дакументаў ваенных часоў вымалёўваецца іншая карціна.

Дыверсія партызан на шашы і арганізацыя засады адбылася ўранку 22 сакавіка. У 9.30 раніцы для аховы каманды сувязістаў былі накіраваны 2 узводы 1-й роты 118-га паліцэйскага ахоўнага батальёна. Потым адбыўся бой з партызанамі. Колькі працягваўся ён — невядома. Аднак відавочна, што быў хутказменлівы.

Паводле сведчанняў жыхароў вёскі Казыры, якія прыблізна ў 10 гадзін раніцы выйшлі вычышчаць ад лесу прыдарожную паласу, бой адбыўся недзе каля 11 гадзін. Зусім незразумела, чаму такі працяглы час (амаль 1,5 гадзіны!) ехалі паліцэйскія машыны з Плешчаніц. Сёння, каб адолець гэтую адлегласць, трэба максімум 15—20 хвілін. Пры хуткасці машын таго часу і з улікам стану дарогі — хвілін 30—35. Найбольш — гадзіна. Але ніяк не паўтары. Хіба што машыны ледзь паўзлі ў тую раніцу.

Пасля бою партызаны адышлі. Паліцэйскія іх не праследавалі. Частка (пэўна адзін узвод) засталася на месцы бою, а каля 30 чалавек (другі узвод) павялі пад канвоем жыхароў в. Казыры, арыштаваных па загадзе Мялешкі. Сам Мялешка выехаў у Плешчаніцы ў штаб батальёна. Верагодна, з улікам абставін, дабрацца туды ён здолеў не пазней 12 гадзін. У гарнізоне была аб'яўлена трывога, і частка батальёна выехала на месца бою. Потым адбылася раптоўная расправа карнікаў з г. зв. «лесарубамі» — жыхарамі в. Казыры. Па сведчаннях паліцэйскіх, да месца, дзе быў забіты Вельке, яны дабраліся толькі ў 13—14 гадзін апоўдні. Там яны дачакаліся аддзела СС з Лагойска. Але гэты час досыць нявызначаны.

Паглядзім на падзеі з другога боку. Раніцай 22 сакавіка партызаны ў колькасці дзвюх рот пасля начлегу ў вёсцы Мокрадзь выехалі лесам да шашы Лагойск — Плешчаніцы. На думку сведкі тых падзей У. Яскевіча, партызаны вярнуліся недзе ў 12—13 гадзін у в. Хатынь і спыніліся для абеду. Як сведчыў І. Камінскі, партызаны начавалі ў Хатыні і выехалі з яе раніцай, калі яшчэ было цёмна. Вярнуліся пасля бою прыблізна ў 15 гадзін. Разыходжанні адносна месца начлегу неістотныя. Напэўна, кожная рота магла знаходзіцца паасобку ў розных вёсках.

Усе сведкі сцвярджаюць, што карнікі пачалі акружаць вёску праз гадзіну— паўтары пасля з'яўлення партызан. Аднак па часе гэта не вельмі атрымліваецца.

Пасля засады і бою партызаны вярнуліся ў Хатынь. Каб адолець адлегласць у 5 км, ім спатрэбілася максімум гадзіна. Таму ў Хатынь яны прыбылі самае позняе а палове першай. У гэты час нямецкія часці толькі рухаліся да месца бою. У 15 гадзін партызаны таксама не маглі з'явіцца — што ім было рабіць такі працяглы час у пустым заснежаным лесе?

У раёне дзвюх гадзін карнікі знаходзіліся яшчэ на шашы, вызначалі дыспазіцыю аперацыі. Пасля яны рушылі прачэсваць лес, пры гэтым цягнулі на сабе цяжкае ўзбраенне (гармата, мінамёты, станковыя кулямёты). Таму ды яшчэ па незнаёмай мясцовасці хутка рухацца не зможаш.

Прачэсванне заняло не менш як гадзіну — паўтары. Каля Хатыні карнікі з'явіліся ніяк не раней 15 гадзін. З усяго гэтага можна зрабіць выснову, што партызанскі абед занадта зацягнуўся. Верагодна, што, калі б партызаны пакінулі вёску раней альбо ўвогуле не размясціліся ў ёй, то лёс жыхароў Хатыні мог быць інакшым. Менавіта гэта канстатуе загад камандзіра партызанскай брыгады В. Т. Варанянскага, якім забараняюцца начлегі і дзённыя прыпынкі ў вёсках для груп і асобных партызан, паколькі вынікам гэтага ёсць знішчэнне мірнага насельніцтва.

Данясенне камандзіра 118-га паліцэйскага ахоўнага батальёна маёра Кернера даводзіць, што паліцэйскія сілы сутыкнуліся ў вёсцы з упартым супраціўленнем,

агонь па карніках вёўся з кожнага дома і давялося ўжыць цяжкае ўзбраенне (супрацьтанкавыя гарматы і цяжкія мінамёты). Паводле данясення ў час бою было забіта 34 «бандыты» і нявызначаная колькасць жыхароў вёскі, частка якіх загінула ў полымі пажару.

Аднак карнікі батальёна Дырлевангера, якія занялі вёску першыя, у сваіх паказаннях, дадзеных следчым у 1961 г., у адзін голас сцвярджаюць, што партызан у вёсцы было мала, альбо не было ўвогуле, бо яны іх асабіста не бачылі. Пры гэтым і карнікі Дырлевангера, і паліцэйскага батальёна прыгадваюць ці кароткі бой, ці абстрэл вёскі з 45-мм гармат, мінамётаў, станковых і ручных кулямётаў. Гэта не супярэчыць сведчанням жыхароў навакольных вёсак, што некаторая колькасць хатынцаў не згарэлі ў пуні, а загінулі ад куль на вуліцах вёскі.

Таксама, паводле звестак аб партызанах атрада «Мсціўца», 22 сакавіка ў в. Хатынь было паранена 5 і забіта 3 байцы (М. І. Кажан, А. М. Чалых, В. Гіль). Апошняе пацвярджаецца сведчаннямі І. Камінскага, які бачыў на сваім агародзе цела забітай жанчыны-партызанкі і У. Яскевіча, што бачыў на полі з боку в. Мокрадзь трупы мужчын-партызан.

З усяго гэтага вынікае, што данясенне маёра Кернера хлусліваe. Ніякага бою ў Хатыні не было. Як толькі партызаны заўважылі карнікаў, што абыходзілі вёску, яны адразу паспешліва пакінулі яе. Некалькі адзінкавых стрэлаў у разлік можна не браць, паколькі яны маглі быць папераджальнымі. Калі і была перастрэлка, то непрацяглая. Карнікі альбо не паспелі замкнуць кальцо акружэння, альбо пакінулі партызанам праход, каб не ўцягвацца ў бой непасрэдна ў вёсцы. Партызан карнікі таксама не праследавалі. Верагодна, палічылі, што ў лесе можна нарвацца на яшчэ адну засаду. Тым больш, што можна было заняцца больш бяспечнай справай — рабаваннем вёскі і знішчэннем безабаронных жыхароў.

Навошта спатрэбілася маёру Кернеру гэтая хлусня? Наўрад ці толькі для таго, каб давесці вышэйшым камандзірам поспехі падначаленай яму вайсковай часці. 18 лістапада 1942 года быў выдадзены загад начальніка аператыўнага штаба паліцыі бяспекі і СД рэйхскамісарыята Остланд аб арганізацыі барацьбы з партызанамі ў Генеральным камісарыяце Беларусі. У прыватнасці, звярталася ўвага на тое, што жыхароў не варта прыцягваць да адказнасці, паколькі цэлыя вёскі знаходзяцца пад прыгнётам «бандаў партызан». Вырашальнымі павінны быць тыя абставіны, як паводзілі сабе жыхары падчас аперацыі супраць партызан. Нават з пункту гледжання нямецкіх акупацыйных улад, жыхары Хатыні не падлягалі пакаранню. Дзейснай дапамогі партызанам яны не рабілі. У час абстрэлу вёскі хаваліся хто дзе — у склепах, хатах. Таму не пакінулі вёску (хоць мелі такую магчымасць): не адчувалі за сабою ніякіх правін. Тым больш цяжкім выглядае тое злачынства, якое здзейснілі карнікі. Хлусня спатрэбілася Кернеру, каб апраўдаць відавочнае парушэнне загада.

Сярод неўдакладнёных пытанняў ёсць яшчэ адно — хто аддаў злачынны загад так жудасна пакараць мірных жыхароў?

У апошні час гэтае пытанне набыло палітычны характар, і асноўным вінаватым быў зроблены Г. Васюра. Ніхто ніколі не здымае віны з гэтага ката, але аддаць такі загад ён не мог, бо займаў пасаду начальніка штаба 118-га паліцэйскага ахоўнага батальёна. Разам з ім у знішчэнні людзей удзельнічалі і камандзір батальёна маёр К. Смоўскі, і шэф-камандзір батальёна маёр ахоўнай паліцыі Э. Кернер.

Быў яшчэ адзін нямецкі афіцэр СС, якога ніхто з прысутных на аперацыі не ведаў. Хто гэта мог быць? Зусім незадоўга да гэтых жахлівых падзей, 2 сакавіка 1943 г., загадам начальніка ахоўнай паліцыі і СД Беларусі ў Лагойск былі накіраваны батальён Дырлевангера і каманда СД пад кіраўніцтвам гаўптштурмфюрэра СС А. Вількe.

Паводле ўжо прыгаданага загада аб арганізацыі барацьбы з партызанамі ў Генеральным камісарыяце Беларусі ад 18 лістапада 1942 г. толькі кіраўнік каманды СД меў выключнае права вырашаць — спальваць вёскі ці не, знішчаць альбо эвакуіраваць іх жыхароў. Такім чынам, пры знішчэнні Хатыні і забойстве жанчын і дзяцей прысутнічаў і аддаваў загады гаўптштурмфюрэр СС А. Вількe.

## Васіль МАКАРЭВІЧ

# ХАТЫНЬ

*Паэма*[*]

### БАЛАДА СТАТЫСТЫКІ

Святыня з усіх святынь,
Спаленая Хатынь,
Каўтаючы горкі дым,
Па кім ты звоніш?
Па кім?..
— У засені яблынь і груш
Тут, як арган, гуло
Ад рання да рання сяло:
Сто сорак дзевяць душ!
Кожны быў свецел і дуж.
Сто сорак дзевяць пар ног
Таптаалі столькі ж дарог.
Сотня натруджаных рук —
Рабочая дужая косць! —
Трымалі гэтулькі штук
Наклепленых вострых кос.
Усе дваццаць шэсць двароў,
Гэтулькі ж гаспадароў
І дваццаць шэсць гаспадынь
Спраўлялі па дваццаць радзін,
Па дзесяць вяселляў на год,
Каб галініўся род!

Брагу піла і мёд
І ў бубен біла Хатынь.
А тым, хто нясмела шаптаў
Адзін аднаму «люблю»,
Гай маладых прыпасаў
Для кожнага па салаўю!

На пасецы трыста калод.
У кожнай калодзе — мёд!
Пчолы па трыста разоў
Ляталі па ўзятак на дні,
Раілі па трыста раёў,
Каб большала ў іх радні!

Сто сорак і больш саракоў
Сарок-сакатух і шпакоў
Ляцела, сядала на тын, —
Гула, гаманіла Хатынь!..

Сто сорак дзевяць груш,
Сто сорак дзевяць душ,
Усе дваццаць шэсць двароў,
Гэтулькі ж гаспадароў
І дваццаць шэсць гаспадынь,
Родных братоў і сясцёр, —
Усю дазвання Хатынь
Кінулі у касцёр…

Сто сорак дзевяць хвілін
Шугала да неба Хатынь!
Жывы астаўся адзін!..

Тырчаў абгарэлы тын.
Жывы астаўся адзін!..

Расла лебяда, палын.
Жывы астаўся адзін!

Не будзе вяселляў, радзін?..
Жывы астаўся адзін!..

Тысяча дзён і начэй
Мінула, а прысак яшчэ
Памяць балюча пячэ,
Чым далей, тым гарачэй!

У вырай ляцяць жураўлі,
Курлыкаюць: — Тут жылі! —
Мы помнім! — Сто сорак дзевяць!
З кім яны лёс свой дзеляць?
Скінуць, замгліўшы прастор,
Сто сорак дзевяць пёр.
Неба застогне глуха:
Хай будзе зямля ім пухам!..

---

[*] Друкуецца ў скарочаным варыянце.

Ад болю заные нутро.
Часу застыне плынь.
Хатынь для нас, як таўро,
Як страшны той напамін:
Край наш вайна прапалола,
Два мільёны з паловай
Выразала, як пілою,
Дочак і лепшых сыноў.
Хто з фронту, а хто з палону
Да жонкі, дзяцей не прыйшоў.
Не вернецца болей дамоў!..

У вёсках праз двор, дзе праз два
І сёння жыве удава!

Устануць з зарой барвовай,
Услухаюцца яны зноў:
Не дваццаць шэсць суровых —
Б'юць два мільёны з паловай
На Беларусі званоў!..

Звоняць, гамоняць званы,
Бесперастанку б'юць, —
Ахвяры апошняй вайны
Голас жывым падаюць,
Каб мільярды званоў
На шары зямным наноў
Не ўдарылі з камінoў…

Боль наш і смутак адзін —
Спаленая Хатынь!..

## БАЛАДА ІМЁН

У шэры нямы бетон,
У камяні мармуровыя
Колькі светлых імён,
Колькі дат умурована!

Каменны шэры палон!
Колькі начэй і дзён
Не адпускае іх ён! —
Па кожным бухае звон.

У маці была малая,
У бацькі раслі сыны…
Па літары вымаўляюць
Кожнае імя званы.

У тых, хто імя насіў,
Спраўляў штогод імяніны,
З чорнага дня назусім —
Ні крыжыка, ні дамавіны!..

Ні могілак на зямлі,
Ні знаку і ні прыкметы,
Быццам і не жылі
Людзі на свеце гэтым…

Памяць, былое вярні!
І ўбачыцца пуня замглёная,
Дзе курчыліся ў агні
Бяростаю тонкай імёны!..

Смальное трашчала бярно,
І кроквы ўгары — таксама…
З імёнамі заадно
Шугала адчайнае:
— Ма-ма!..

Пад крыкі здзічэлай савы,
Што рагатала над поплавам,
Імёны на дол сівы
Шэрым апалі попелам…

Каб мётлы асенніх вятроў
Не размялі, як бывала,
Дол расступіўся і ў схоў
Імёны зямля забрала.

Каб толькі іх не забыць,
Над полем і над лясамі
Летам падчас навальніц
Маланкі іх выкрасалі.

Над палявым сіўцом
І веснавым малачаем
Кнігаўкі раніцой
Іх паўтаралі з адчаем.

Ад ранняй зары да зары —
Дні і гады міналі! —
Зязюлі ў смалістым бары
Трывожна іх паміналі.

Вясною ручай-немаўля,
Калі яму ранкам не спалася,
Картавячы, вымаўляў
Імёны забітых і спаленых.

Клён, што ў вайну ацалеў
Прывідным чорным асмалкам,
Імёны дзяцей рыпеў,
Якіх памятаў ён змалку…

…Дзе тлелі калісь вугалі, —
З мармуру і граніту,
Як плашкі, шарэнгай ляглі
Цяжкія счарнелыя пліты.

Няўклюдныя перуны —
Каменячосы бывалыя —
Імёны адно за адным
Кувалдамі выбівалі.

І ў ясныя ціхія дні
Імёны, якіх неставала,
З каменнае глыбіні
Выразна наверх праступалі.

Нібы ажылі ля бяроз
Імёны, на свет зірнуўшы,
Працяўшы болем наскрозь
Не толькі людскія душы.

Імёны цяпер не маўчаць —
Мерзнуць яны ці мокнуць —
Імёны балюча крычаць,
Ніколі яны не змоўкнуць.

І літары рад у рад
Пад шолахі блізкага голля
На шэрым граніце гарацць
Зыркім пякельным вуголлем.

Не з печаў, дзе хлеб пякуць,
А страшным тым, з крэматорыя, —
Каму яны не апякуць
Душу, а з ёй і — гісторыю?

З-за высечаных імён,
Нібыта ў вірлівым пажары,
Калі пахіснецца агонь,
Мільгаюць пакутныя твары…

## БАЛАДА АГНЮ

***(Гаворыць Камінскі)***

Колькі ўжо? Безліч год
(Былое куды адрынеш?)
Выношу сынка свайго
З палаючае адрыны.

У чорнай сцяне жарало —
Ратунак з нялюдскага пекла!
А полымя, як раўло,
Раве па-ранейшаму з енкам…

З падэшваў да галавы
Пякельным агнём спавіты,
Грабуся, ледзьве жывы,
Разораю, кулямі ўзрытай.

Узнімецца ўгору рука:
Далонь мая, маці-матуля! —
Сабой заслані сынка
Ад шаляніцы-кулі!

Зірну: ў шарачку рудым
Ля абгарэлай бярозы
На чацвярэньках дым,
Як невідушчы, поўзае.

Як прысак, пясок кіпіць,
Скварацца жаўтапёсы…
Здаецца, ў агні гарыць
Усё: і зямля, і нябёсы!..

Бярэцца агонь да губ,
Апаленых і бяскроўных.
З плячэй сцягнуць не магу
Кашулю, з полымя скроеную…

Хоць бы кроплю вады,
Макавую расінку!..
Глынаю прасмолены дым,
Шапчу я адзінае:
— Сынку!..

Увесь у пякельным агні
З мёртвым маленькім дзіцем
Без памяці ў гэтыя дні
Дапаў я, дапоўз, глядзіце!

Дзе поўз, дзе рукой грабянуў —
Гліна была ці гравій —
На пядзю зямля ўглыбіню
Дымілася і выгарала.

Хіснуўся ў куродыме лес,
Прыпалі долу бярозкі,
Калі я, абвуглены ўвесь,
На ногі устаў сярод вёскі.

Вакол па вясновых гаях
Асколкі
ўжо дрэў не секлі.
Думаў: выбраўся я
Навек з агнявога пекла.

Зірнуў і жахнуўся: не!
Рыжым і хісткім полагам
Ўсяго акрывае мяне
Іржавае зыркае полымя.

Каторы мінуў ужо год,
Дні у стагоддзі горнучы,

А мне ад агню таго
І сёння спякотна і горача!

Трашчыць маразамі зіма,
Ці лета на пожні туркае, —
А мне усё роўна няма
Ад полымя паратунку!

Каб жа агонь пагас!..
Каб жа такому збыцца!..
Людзі, прашу я вас,
Пасцілкаю полымя збіце!

Людзі, прашу, сынка
Вазьміце ў мяне асцярожна!
Колькі год на руках
Трымаць нежывога можна?!

Дарогай пясчанай наўпрост,
Дзе аніводнай травінкі,
Нясіце яго на пагост,
Маю пахавайце крывінку!

Хаця і не стане лягчэй —
Не дакарайце, родныя! —
Што не ўраню з вачэй
Слязіны больш аніводнае.

Полымя страшным тым днём —
Такое ў жыцці мне выпала! —
Слёзы з вачэй, да адной,
Прагнымі вуснамі выпіла…

Як толькі восень міне
І холадам снежань захукае,
Завеяй калматай мяне
Няхай абаўе, захутае!

Да вугальнай цемры ўваччу
З пакутнай нязноснай горыччу
Усёю істотай крычу:
— Мне горача,
горача,
горача!..

## БАЛАДА ПАБРАЦІМСТВА

Сёлам бы трэсці дол!
А сталі яны пагостам.
Паўтысячы з гакам сёл
Прыйшлі у Хатынь у госці.

…Дзе колісь былі двары, —
Ляды чарнелі голыя,
І вецер на пустыры
Сцюдзёнае соўгаў вуголле.

І праз марозную стынь,
Што белымі вісла клакамі,
Званамі здалёку Хатынь
Іх да сябе склікала.

Хоць да вайны раней
Ні бачыліся ні разу,
А думала: мажа, лягчэй
Стане усім ім разам?

Паўтысячы й болей
з тугой
У шлях іх бяда сабрала.
Не бразгалі коні дугой,
Не адчыняліся брамы.

Дзе Кобрын,
а дзе Магілёў!
У тузанні дзённага рэдзіва
Пад летнім самлелым галлём
Спяшалі, як у адведзіны.

Ці стане хтось ушчуваць,
Што ехалі ціха, не гонка.
І не было чуваць
Ні жартаў і ні гамонкі.

Ля выбітых каляін,
Паблізу бяроз стракатых,
Хатынь ні дзяўчат, ні жанчын
Наводшыбе не сустракала.

Нямы затаіўшы боль,
Жалобная і меднагалосая,
Гасцінныя хлеб ды соль
Нікому яна не падносіла.

Пад жаласнае ку-ку,
Дзе травы пасаліся покатам,
Не брала яна пад руку
І не вяла да покута.

Адтуль, дзе шугаў агонь,
Шастаў па завуголлі,
Прывезлі, па жмені ўсяго,
Попелу ды вуголля.

Навошта ім столь ці дах,
Сцены з бярвення гулкага?
З мармуру саркафаг
Стаў ім апошнім прытулкам…

З самотнай нязнанай тугой,
З адзіным няўцешным лёсам,
Знаёміліся паміж сабой:
— Дальва,
Дуброва,
Плёсы!..

Расказвалі ноччу і днём
Усе па чарзе, як з гулам
Хаты пякельным агнём
Пад воблакі шуганулі;

Як заступіцца ў агні
Прасілі Бога прачула…
Ды Бог не памог ім ані,
Апосталы іх не пачулі…

Ці трэба ім ласка багоў?
Зямлі прынясіце у маі ім
З Волжскіх крутых берагоў
Ды з кургана Мамаева!

Адтуль, дзе буяў агрэст,
З крэпасці пагранічнай
Хай жа прышле ім Брэст
Жменю зямлі гераічнай!

Няхай бы прывезлі ўзялі
Прыгоршчы зямлі
не зблізку, —
З былое Малой зямлі,
З-пад самага Наварасійска!

Не для таго, каб дзяліць
Геройства ці ўзяць хоць каліва,
Што ў німбе светла зіхціць
Парахавое акаліны.

Знаць бы ахвярам вайны —
Пра іншае і не варожаць, —
Што лёс франтавы і яны
У тыле дзялілі варожым.

Пераканацца б ім тут:
Як свет ні дрыжэў у дыме,
Апошняе слова-прысуд
Усё ж засталося за імі.

Хай бачаць нівы, палі,
Дзе колісь кружылі вораны:
Іх вораг паліў — не спаліў! —
Спапелены самі ворагі.

## БАЛАДА ЗВАНОЎ

Летам, сярод збажыны,
Зімою, сярод сумётаў,
Звоняць і б’юць званы,
Б’юць і звоняць самотна.

Хаця і высока яны,
Дзе дражняцца бліскавіцы,
Баяцца у іх перуны
Ударыць падчас навальніцы.

Здалёк ідучы ярыной,
Коўзаючыся па гліне,
Абходзяць іх стараной
Дажджы і плячыстыя ліўні.

Званы ні часцей, ні радзей
Б’юць і хвіліны лічаць,
Быццам жывых людзей
Клічуць у сведкі і клічуць.

Чэзне трава і зелле
Воддаль на ўзмежках пустых,
Калі з глыбіні, з падзямелля
Вырвецца цяжкі уздых:

— Спаленых і забітых,
Не забывайце нас!..

— Ніхто і нішто не забыты! —
Бухнуць званы у адказ.

Ніхто і нішто не забыты! —
Званы у Хатыні гудуць…
Чырвоныя следапыты
Узлескам і лесам ідуць.

Калі па далонях плітаў
Прыйдуць яны пад званы, —
Не трэба пытаць,
адліты
З якога металу яны.

Хай ведаюць: з гэткага сплаву,
Які называецца — гнеў!

Ён і ў агні не палае,
Яго аніштo не сагне!

Часу ён непадуладны:
Не стане ржавець, ні бурэць.
Не плешча яго кувалда,
З маланкай і гром не бярэ.

Калі толькі пойдзе на тое
І ўсё пра яго да канца, —
Ў бяздоннай вадзе ён не тоне,
Не страшыцца куль і свінца…

Няхай аніхто не гадае,
Якія тут званары
Званы, як планеты, гайдаюць
Пад зыркім асмалкам зары.

У тлуме і дзённай цішы,
Стаіўся ці дзьме вецярок,
Іх наша дыханне калыша,
Пагойдвае з боку на бок…

Дакопвацца не варта,
Хто і з якое пары
Слыў шчыруном і хватам
І жыў на якім двары;
І ледзьве ранак займаўся
Над чырванню арабін,
Якім рамяством займаўся,
Што пад паветкай рабіў…

Па ціхіх журботных ударах
Пачуюць — дзяцюк малады
У гэтым двары бандарыў,
Палоззе гнуў, абады.
Дзежачкі з клёпак тонкіх
Знаў майстраваў адно, —
Ад ветру, як ад калатоўкі,
Гуло і грымела дно…

А ў гэтым, што бухне
з адцяжкай
Спакойна і спакваля,
Чуецца гупанне важкае
Молата каваля.

А тут і глухі пачуе —
Быццам даўно няўсцерп,
На гулкім таку
такуе,
Ідзе упрысядкі цэп.

У перазвонах-усплёсках
Праб'ецца тут, ля бароў,
То колаў раскацісты лёскат,
То перастук тапароў.

Далей, пад асмяглым голлем,
Якое спяклі маразы,
Роспачна заскуголяць,
Заенчаць нажы-палазы…

Паслухаўшы нават і ў сцюжу,
Упэўнішся зноў і зноў, —
Не тое што голас, і душы
Ёсць у бумкатых званоў.

Не толькі, калі пачынае
Зіма іх марозам паліць,
Душа у званоў, як жывая,
Ные, нясцерпна баліць.

Парою, сябры, здаецца,
(Ідуць жа і йдуць гады!)
Не вытрымае, разарвецца
Душа ад нязмернай жуды.

Ці трэба дзівіцца, што тую
Жуду цераз шар зямны
Па той бок планеты чуюць, —
Гэтак стогнуць званы!..

У звон бы вялізны ім зліцца,
Зямлю праламаць да ядра,
Каб грымнуць ва ўсіх сталіцах —
Свет ратаваць пара!

Бо і планета няўцешная
У самы час акурат
Да Млечнага Шляху падвешана,
Гудзе, як сусветны набат.

Каб людзі ведалі й зналі, —
Спяць ці ідуць па грыбы, —
Ад ядзерных арсеналаў
Трашчаць даўно паграбы!

Глядзяць хай, каб з гулам ракеты
За пяць а ці болей хвілін
З усёй чалавечай планеты
Адну не зрабілі Хатынь.

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**

# АНАЛІТЫЗМ ДАСЛЕДЧЫКА, ПРАНІКЛІВАСЦЬ КРЫТЫКА

*(працы Серафіма Андраюка ў кантэксце сучаснага літаратуразнаўства)*

У тым, што Серафім Андраюк, выбітны беларускі крытык і літаратуразнаўца, заўсёды сканцэнтраваны на галоўным, сутнасным у літаратурным працэсе, сведчаць, апрача ўсяго іншага, назвы яго кніг. У яго няма выпадковых, або занадта велягурыстых назваў. Найменні, як кажуць, б'юць у самае яблычка.

«Жыццё. Літаратура. Героі», «Вывяраючы жыццём», «Жыць чалавекам», «Чалавек на зямлі», «А жыццё — вышэй за ўсё»... С. Андраюк не баіцца падацца аднастайным у назвах сваіх прац, таму што для яго галоўнае — выявіць, паказаць, як літаратура вырастае з самога жыцця, і як яна адказвае на запыты часу, якім чынам увасабляюцца ў мастацкай, вобразнай форме сапраўдныя повязі аўтара з рэальнасцю.

Для Андраюка-крытыка, даследчыка аналітычнага складу мыслення, схільнага да тэарэтычных абагульненняў, з'яўляецца несумненнай аксіёмай самая непасрэдная, трывалая і плённая сувязь слоўнага мастацтва з жыццём, якім жыве грамадства, жыве асобны чалавек. Гэтым неабвержным пастулатам вызначаюцца яго падыходы да разгляду здабыткаў беларускай прозы, да вызначэння ідэйна-мастацкай, стылявой адметнасці творчасці кожнага аўтара.

Беларускай прозе, якая (зусім не будзе перабольшаннем сказаць пра гэта) дасягнула ў XX стагоддзі сусветнага ўзроўню, несумненна, пашанцавала і ў тым, што яе лепшыя творы пастаянна знаходзяцца ў полі зроку такога сур'ёзнага, уважлівага, абазнанага і грунтоўнага даследчыка, крытыка, як С. Андраюк. Так, яго галоўная ўвага сканцэнтравана на прозе, пры тым пераважна на яе сучасным стане. У гэтым, у адданасці аднаму напрамку даследчыцка-аналітычнай, літаратурна-крытычнай дзейнасці, пэўнай сферы літаратурнай творчасці, выяўляецца характар вучонага, пастаянства яго навуковых інтарэсаў. Проза для яго з'яўляецца найбольш жыццеўмяшчальным, сэнсаваёмістым, універсальным відам літаратурнай творчасці, здольным сказаць вялікую праўду пра чалавека.

У гісторыі беларускай крытыкі, думаецца, класічным узорам назаўсёды застануцца андраюкоўскія агляды прозы сямідзясятых гадоў. Яны сапраўды класічныя па ступені пранікнення аўтара ў абставіны літаратурнага працэсу, раскрыццю мастацкай адметнасці кожнай больш або менш прыкметнай з'явы, скіраванасці на выяўленне заканамернасцей развіцця прозы на пэўным этапе, яе найбольш характэрных адзнак.

Гэтыя агляды, падрабязныя і грунтоўныя як і ўсё, што робіць С. Андраюк, з'яўляюцца яскравым прыкладам практычнага ўвасаблення аўтарскіх канцэпцый і падыходаў, якімі кіруецца крытык. Для іх характэрна плённая спалучанасць аналітычнага разгляду значнага літаратурнага матэрыялу з тэарэтычнымі развагамі, з роздумам над прыродай слоўнага мастацтва.

У працах С. Андраюка ўвогуле заўсёды вельмі натуральна паядноўваюцца прыкметы ўсіх асноўных галін літаратуразнаўства: гісторыі літаратуры, тэорыі літаратуры і літаратурнай крытыкі. У такім сінтэтызме — своеасаблівасць творчай манеры даследчыка, стылю яго выкладу, характару яго мыслення.

У яго, здаецца, зусім няма прац, у якіх бы толькі *апісваліся* тыя або іншыя факты літаратурнага жыцця. Заўсёды поруч ідзе абагульненне, разгортваецца аўтарская думка, пазначаюцца зыходныя крытэрыі асэнсавання літаратурнага працэсу і ацэнкі твораў.

Таму можна з упэўненасцю сказаць, што С. Андраюк адносіцца і да нешматлікага шэрагу айчынных тэарэтыкаў літаратуры, тых даследчыкаў, для якіх галоўнае — вызначэнне агульных заканамернасцей развіцця літаратуры, асноватворных уласцівасцей гэтага віду мастацтва. У згаданым напрамку ім зроблена нямала.

Важкім укладам у беларускае тэарэтычнае літаратуразнаўства з'яўляюцца яго працы, змешчаныя ў калектыўнай манаграфіі «Стыль пісьменніка» (1974): раздзел «Іван Мележ» і асабліва ўступны артыкул да ўсяго выдання — «Да пытання аб індывідуальным стылі пісьменніка», у якім выкладаюцца канцэптуальныя палажэнні тэорыі літаратурнага стылю. У беларускай літаратуразнаўчай навуцы другой паловы XX ст. — гэта адна з першых і самых грунтоўных распрацовак праблемы стылю.

Сцвярджаючы непарыўную сувязь літаратуры з жыццём як першасную ўмову творчасці, С. Андраюк падкрэслівае, што сувязь гэта не можа мець фармальны характар, яна павінна грунтавацца на выяўленні асабістых адносін аўтара да выяўляемага ім у творы, на раскрыцці ў творы чалавечай і мастакоўскай сутнасці аўтара.

У артыкуле «Роздум у дарозе» С. Андраюк вельмі дакладна і выразна ахарактарызаваў гэтае першаснае патрабаванне самараскрыцця пісьменніка як чалавека і мастака: «Мы часта і небеспадстаўна гаворым, — піша ён, — пра вернасць мастака рэчаіснасці, забываючы, што вернасць гэтая — перш за ўсё **вернасць мастака самому сабе**. Бо навакольны свет наогул, жыццё наогул **без яго асабістага непаўторнага бачання і асэнсавання** — для літаратуры толькі сыры матэрыял» (тут і далей вылучана мной. — **Я. Г.**).

На гэтую думку выдатнага навукоўца і крытыка варта звярнуць асаблівую ўвагу, паколькі за ёю прадуманая і цэласная канцэпцыя літаратуразнаўчага даследавання. У адпаведнасці з ёю С. Андраюк вылучае ў якасці аднаго з найважнейшых аспектаў літаратурнай творчасці праблему аўтарскага бачання, аўтарскіх адносін да рэчаіснасці і мастацтва.

Без выразна выяўленай мастакоўскай і грамадзянскай пазіцыі аўтара, яго ўласнага бачання жыццёвых праблем, непасрэднага суперажывання ўсяму таму, што становіцца прадметам яго ўвагі і вобразнага ўвасаблення сапраўды наўрад ці магчыма дасягнуць хоць колькі-небудзь значных поспехаў у мастацтве. С. Андраюк заўсёды памятае аб тым, што літаратура — гэта найперш адзін з відаў мастацтва, што гэта творчасць, у якой істотнейшае значэнне мае раскрыццё ўнутранага свету творцы, яго мастацкіх здольнасцей, таленту.

У сучасным літаратуразнаўстве эстэтычнай катэгорыі ***бачання*** наогул надаецца павышаная ўвага. Гэтым паняццем вызначаецца многае ў творчым працэсе. Адметнасцю мастацкага бачання, яго індывідуальнымі прыкметамі характарызуецца свет, што стварае пісьменнік, які адрозніваецца ад таго, што існуе па-за тэкстам літаратурнага твора, якраз прысутнасцю аўтарскай асабовасці, выяўленнем мэтанакіраванай аўтарскай волі як арганізуючага фактару.

Узрастанне цікавасці да праблемы мастацкага бачання асабліва заўважна ў наш час, калі актывізуюцца міждысцыплінарныя даследаванні, збліжаюцца даследчыцкія метадалогіі і падыходы розных мастацтвазнаўчых дысцыплін. Вялікую ролю гэта катэгорыя адыгрывае пры аналізе твораў выяўленчага мастацтва, іх стылёвай адметнасці, жывапіснай каларыстычнасці.

Менавіта аналіз творчай манеры мастака-жывапісца дае багаты матэрыял для раскрыцця адметнасці яго індывідуальнага бачання, суаднясення пэўных мастацкіх прыёмаў з ідэйным бокам яго творчасці. У літаратуры адбываюцца ў

прынцыпе аналагічныя працэсы, з папраўкай на тое, што матэрыялам гэтага віду мастацтва з'яўляецца мова (дакладней, маўленне), і таму мастацкі свет літаратурнага твора ўяўляе сабой вербалізавана-ўмоўны, віртуальны свет.

Серафім Андраюк адным з першых у беларускім літаратуразнаўстве звярнуўся да разгляду ўласцівасцей літаратурнай творчасці, заснаваных на адметнасці мастацкага бачання пісьменніка, да раскрыцця асаблівасцей пабудовы мастацкага свету аўтара.

Менавіта С. Андраюк найбольш настойліва і паслядоўна праводзіць у сваіх працах тэарэтычнае абгрунтаванне паняцця ***мастацкі свет*** як аднаго з самых асноватворных у мастацкай сістэме літаратуры. У згаданай ужо працы «Да пытання аб індывідуальным стылі пісьменніка» аўтарам выказана нямала цікавых думак пра спосабы ўзаемадзеяння змястоўных і фармальных аспектаў творчага працэсу, у выніку чаго і паўстае мастацкі свет літаратурнага твора як пэўная ідэйна-мастацкая цэласнасць.

Серафім Андраюк адзначае, што беларускае літаратуразнаўства ў другой палове XX ст. займела ўжо «даволі сур'ёзныя здабыткі ў аналізе зместу твораў, у раскрыцці іх ідэйнай сутнасці, таксама як і ў даследаванні мастацкай формы». Аднак гэтыя дзве сферы — змястоўная і фармальная — яшчэ пакуль што мала між сабой судакранаюцца. Галоўную задачу часу С. Андраюк бачыць у тым, каб прывесці іх у больш цеснае ўзаемадзеянне. «Каб рухацца наперад, зрабіць новы крок у вывучэнні літаратуры, неабходна аналізаваць, разглядаць творчасць таго або іншага пісьменніка як мастацкае адзінства зместу і формы ў іх узаемапранікненні, **як сістэму, своеасаблівы мастацкі свет**».

Напісанае на пачатку 1970-х гадоў, застаецца актуальным для нашага літаратуразнаўства і ў цяперашнім часе. Гэта зусім не сведчыць пра запаволенае развіццё літаратуразнаўчай навукі, а хутчэй з'яўляецца паказчыкам доўгатэрміновага прадбачання аўтара, яго здольнасці глядзець далёка наперад, добра ўяўляць перспектыву навуковых пошукаў.

Літаратуразнаўства і сёння, на пачатку новага стагоддзя, знаходзіцца на подступах да вырашэння гэтай найскладанейшай задачы — збліжэння двух асноўных падыходаў да вывучэння феномена літаратуры: выяўлення ідэйна-канцэптуальнай, сутнаснай асновы літаратурнай творчасці і раскрыцця эстэтычнай значнасці мастацкай формы.

Зыходзячы з тэорыі адзінства, складанай узаемапранікальнасці і ўзамадапаўняльнасці зместу і формы як анталагічных бакоў быцця, С. Андраюк стварае ўласную канцэпцыю творчага працэсу, у якой значнае месца адводзіцца такому спосабу асваення рэчаіснасці, як ***мастацкае мадэліраванне.***

У той час, калі С. Андраюк пачаў карыстацца гэтым тэарэтычным тэрмінам, апошні толькі ўваходзіў у навуковы ўжытак. Сёння праблема мастацкага мадэліравання адна з ключавых у выяўленні сучаснага разумення прыроды літаратурнай творчасці. У распрацоўку гэтай праблемы ўнёс свой уклад Серафім Антонавіч, які разглядае яе з пункту гледжання цэласнасці і арганічнасці творчага працэсу. Мастацкая мадэль, паводле яго вызначэння, «гэта не проста адбітак, гэта глыбокае адзінства зместу і формы, ідэі і яе мастацкага ўвасаблення, глыбокае ўнутранае адзінства, арганічнае зліццё ўсіх кампанентаў мастацкай структуры, такое ўзаемапранікненне элементаў і частак, калі твор ці творчасць успрымаецца як адзіны арганізм».

Трэба заўважыць, што С. Андраюк заўсёды надае вялікае значэнне фармулёўцы асноўных паняццяў літаратуразнаўчай навукі, выпрацоўцы тэрміналагічнага інструментарыю. Пры гэтым ён імкнецца да гранічнай дакладнасці азначэнняў, у якіх бы сутнасць той або іншай з'явы была ахарактарызавана шматбакова, поўна і выразна. У гэтым якраз выяўляецца адна з уласцівасцей яго характару як даследчыка, які высока цэніць дакладнасць і ўзважанасць думак і меркаванняў. Гэта якасць асабліва каштоўнай выглядае ў супастаўленні з даволі распаўсюджанай у

наш час тэндэнцыяй да прыблізнасці і суб'ектыўнай адвольнасці тэрміналагічных дэфініцый.

Ва ўступным артыкуле да кнігі «Стыль пісьменніка» адна з галоўных задач аўтара заключалася якраз у тэрміналагічным вызначэнні паняцця стылю, што, як вядома, з'яўляецца вельмі няпростай справай. С. Андраюк паспяхова справіўся з гэтай задачай. Прымаючы пад увагу існуючыя характарыстыкі стылю (напрыклад, шырока распаўсюджанае выказванне «стыль — гэта чалавек», або меркаванне Я. Эльсберга аб тым, што «стыль — гэта дамінанта мастацкай формы, яе арганізуючая сіла»), С. Андраюк выказвае свае ўласныя погляды адносна стылю і функцый, якія ён выконвае ў літаратуры.

З уласцівай яму грунтоўнасцю, шырынёй ахопу ўсіх аспектаў праблемы С. Андраюк вызначае самыя істотныя і характэрныя ўласцівасці стылю, падкрэсліваючы ў першую чаргу яго сістэмны характар. Сістэмнасць гэта, на думку даследчыка, валодае якасцямі, якія можна супаставіць з аналагічнымі ў арганічным свеце. Жыццёвая праўдзівасць і адпаведнасць, «праўда часу, гісторыі, характараў» суадносіцца з праўдай мастацтва, уключна да «праўды моўнай і кампазіцыйнай структуры, тону і інтанацыі». Гэта надзвычай важны момант, які хочацца асабліва вылучыць — тое, што С. Андраюк звязвае праўдзівасць літаратурнага твора не толькі з яго адпаведнасцю прадмету ўвасаблення, але і з тым, наколькі адпавядае сам твор высокім меркам мастацтва.

Побач з вернасцю жыццёвай праўдзе даследчык ставіць вернасць творцы самому сабе. Таму стыль для С. Андраюка «не столькі тэхніка, колькі бачанне свету, выяўленне асобы, індывідуальнасці». Менавіта творчая індывідуальнасць вызначае перш за ўсё адметнасць стылю, яго характэрнасць. Светапогляд аўтара з'яўляецца, такім чынам, «адным з асноўных стылеўтваральных фактараў». Апошняя выснова ўяўляецца вельмі важнай для стварэння цэласнай канцэпцыі змястоўна-фармальнага адзінства літаратурнай творчасці.

Суадносячы аўтарскі светапогляд і жыццёвы вопыт з катэгорыямі паэтыкі і стылю, С. Андраюк пазначаў тым самым адзін з перспектыўных напрамкаў літаратуразнаўчых даследаванняў. Сапраўды, як пацвярджаюць гэта сучасная мастацкая практыка і яе літаратурна-крытычны аналіз, светапогляд аўтара ў большасці выпадкаў выяўляецца ў літаратурных творах не наўпрост, у выглядзе выказваемых непасрэдна сентэнцый, а апасродкавана, праз формы і спосабы арганізацыі мастацкага цэлага.

Такі даследчы метад у літаратуразнаўстве, які ўлічвае самую цесную, сінтэтычную паяднанасць змястоўных і фармальных бакоў творчага працэсу, можа прынесці ў сучасных умовах, несумненна, значна больш карысці, чым тыя падыходы, якія ігнаруюць гэта адзінства. У прыватнасці, ён супрацьстаіць тэндэнцыі разглядаць свет літаратурнага твора ў адрыве ад асобы аўтара, яго жыццёвага вопыту і кругагляду. «Убачыць за літаратурай пісьменніка» — гэта абвешчаная С. Андраюком мэта хоць і пераклікаецца з пастулатамі біяграфічнага метаду, аднак жа скіравана не да мінулага літаратуразнаўчай навукі, а ў дзень сённяшні і заўтрашні.

На думку С. Андраюка, свет літаратурнага твора паўстае ў сваёй стылявой шматфарбнасці, мастацкай непаўторнасці тады, калі адбываецца плённае ўзаемадзеянне, «узаемапранікненне аб'ектыўнай рэальнасці і суб'екта». Менавіта тады, калі «прабіваецца на паверхню» непаўторная «пячаць індывідуальнасці» аўтара, выяўляецца яго канцэпцыя жыцця, тады твор набывае шматзначнасць і глыбіню.

Індывідуальны стыль залежыць ад «выражэння аўтарскага «я», ад наяўнасці «цэласнага, адзінага ў сабе рэальнага мастацкага свету». Усе гэтыя паняцці цесна пераплецены між сабой, іх сувязь не проста канстатуецца, а доказна пацвярджаецца, выяўляецца С. Андраюком на прыкладзе грунтоўнага разгляду творчасці І. Мележа. У раздзеле, прысвечаным Мележу і змешчаным у той жа кнізе «Стыль

пісьменніка», аўтар бліскуча прымяніў на практыцы распрацаваныя самім тэарэтыка-метадалагічныя прынцыпы і падыходы.

Даследчык наглядна паказаў, як паступова фарміраваўся мележаўскі мастацкі стыль, як пісьменнік настойліва ўздымаўся да вяршынь майстэрства. Дарога гэта была складанай і доўгай. «Перачытваючы ў храналагічнай паслядоўнасці творы пісьменніка і суадносячы іх з вяршынным яго дасягненнем — раманамі «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», — заўважае С. Андраюк, — можна ўбачыць, як мастак ішоў да сваёй (гэта, безумоўна, так!) «галоўнай кнігі», як ішло мастацкае ўзаемадзеянне часу і творчай асобы, урэшце, можна выявіць тыя элементы, часта інтыітыўныя імкненні да **завершанасці мастацкай формы, якую мы называем стылем»**.

Тут даследчык, характарызуючы мэту пісьменніка, дае яшчэ адно трапнае азначэнне стылю, звязваючы яго з паняццем завершанасці мастацкай формы. Гэта завершанасць, структурная ўраўнаважанасць, гарманічная суладнасць усіх кампанентаў твора, узнікаюць, вядома, не самі па сабе. Яны — вынік творчых намаганняў аўтара як арганізуючага цэнтра ўсяго мастацкага цэлага.

Серафім Андраюк падмячае, акрэслівае, мабыць, самую істотнейшую рысу мележаўскага таленту — здольнасць пісьменніка адчуць сваіх герояў знутры, увайсці ў іх свет, убачыць яго іх вачыма. «Палеская хроніка» І. Мележа — гэта якраз той выпадак, калі «аб'ектыўны матэрыял рэчаіснасці і аўтар, яго думкі і пачуцці натуральна зліліся ў адно». Гэтаму ў вялікай ступені садзейнічала тое, што жыццёвы матэрыял, увасоблены ў гэтых раманах, быў блізкім аўтару, здаўна знаёмым, глыбока спазнаным ім з пары маленства. «Мележ піша пра тое, — як адзначае даследчык, — што стала ўспамінам душы, памяццю сэрца».

Менавіта душэўнай, экзістэнцыйнай набліжанасцю аўтара да ўвасобленай у «Палескай хроніцы» рэальнасці, а разам з тым і новым узроўнем мастацкай праўдзівасці, псіхалагічнай пераканаўчасці, гэтыя мележаўскія раманы вылучаюцца з усёй папярэдняй творчасці пісьменніка. С. Андраюк добра паказвае гэта, прасочваючы станаўленне індывідуальнага стылю Мележа, пачынаючы ад першых яго апавяданняў.

Разглядаючы ўсю папярэднюю творчасць І. Мележа, у тым ліку раман «Мінскі напрамак», як «пошукі арыгінальнага стылю», спробы знайсці сябе, падступы да чагосьці значна большага, С. Андраюк сцвярджае, што якраз «у раманах «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» стыль пісьменніка канчаткова акрэсліўся, праявіўся як мастацкая рэальнасць». «У ранейшых творах, — на думку С. Андраюка, — пры ўсіх іх больш ці менш значных вартасцях не заўсёды можна было ўбачыць закончанасць і ўзаемаабумоўленасць розных элементаў мастацкага цэлага».

У «Мінскім напрамку», як лічыць даследчык, яшчэ нестае ўнутранай цэласнасці, гарманічнай зладжанасці ўсіх састаўных частак. «Раздзелы можна пераставуляць, мяняць месцамі — напэўна, мала што зменіцца». А гэта азначае, што яшчэ не ў дастатковай ступені сфарміраваны стыль у тым разуменні, якое ўкладвае ў яго С. Андраюк — як падпарадкаванасць літаратурнага матэрыялу, усіх кампанентаў твора «мастацкай індывідуальнай канцэпцыі свету».

У раманах «Палескай хронікі» стыль у вышэй адзначаным сэнсе праявіўся якраз у поўнай меры. Ён настолькі магутны, прасякнуты жыццёвымі токамі, напоўнены энергіяй тварэння, што С. Андраюк, схільны звычайна да аналітычна-ўзважанага, строгага выкладу сваіх думак, не ўтрымліваецца ад таго, каб не прыбегнуць у дадзеным выпадку да метафары. Жыццёвая плынь, выяўленая ў стылі мележаўскіх раманаў, уяўляецца даследчыку паўнаводнай ракой. «Жыццё, як шырокая павольная плынь, уліваецца ў раман, цячэ спакойна і павольна, захопліваючы ўсё большы прасцяг, не губляючы сваёй глыбіні і мнагаводнасці».

Гэтай плыні падпарадкоўваецца ўсё ў мележаўскіх творах — ад ідэйных падагульненняў да сюжэтна-кампазіцыйных і рытміка-інтанацыйных суадносін.

Таксама ўсебакова і шматзначна, як і паняцце стылю, разглядаецца С. Андраюком паняцце ***рытму***. У працах сучасных літаратуразнаўцаў-тэарэтыкаў гэта, дарэчы, адна з самых важнейшых катэгорый, якой вызначаецца спецыфіка мастацкай творчасці.

Тэорыя стылю як выражэння цэласнасці мастацкага свету літаратурнага твора, якой прытрымліваецца С. Андраюк, уключае ў сябе разуменне рытму ў самым шырокім сэнсе, як арганізуючага моманту творчага працэсу, спосабу гарманічнага спалучэння ўсіх мастацка значымых кампанентаў тэксту.

Такі падыход адпавядае поглядам на гэтыя важнейшыя катэгорыі літаратурнай творчасці іншых сучасных даследчыкаў, у прыватнасці прадстаўнікоў «данецкай школы». М. Гіршман, лідар гэтай школы, аўтар вядомых прац пра рытм прозы і цэласнасць літаратурнага твора, напрыклад, падкрэслівае: «У творчым працэсе рытм выступае ў ролі аднаго з найбольш непасрэдных і першасных матэрыяльных выражэнняў адзінства і арганічнай цэласнасці літаратурнага твора».

Характарам рытмічнай арганізацыі тэксту, усіх яго састаўных элементаў, абумоўліваецца, на думку С. Андраюка, мастацкая своеасаблівасць «Палескай хронікі». «Рытм, інтанацыя, тон адыгрываюць вялікую ролю ў стварэнні пластычнага эмацыянальнага малюнка жыцця, знешняга і ўнутранага, у раскрыцці псіхалогіі. Яны пранізваюць усю моўную тканіну, асабліва выразна, калі аўтар глядзіць на падзеі вачыма таго або іншага героя. Тады рытм — гэта не столькі рытм падзеі, колькі рытм унутранага жыцця герояў».

Пашыраючы ўплыў рытму і інтанацыі на сферу псіхалогіі, С. Андраюк у яшчэ большай ступені збліжае аб'ектыўнае і суб'ектыўнае, агульнае і індывідуальнае, знешняе і ўнутранае ў творчым працэсе. «Жыццёвы рытм галоўных персанажаў», рытм «псіхалагічны» прадстае ўвасабленнем самых глыбінных і запаветных памкненняў і адчуванняў чалавека. Разам з тым «рытм вобразаў» нязменна звязаны ў яго з моўнай плынню, са спляценнем і ўзаемапранікненнем «галасоў» персанажаў, спалучэннем аўтарскага бачання з кругаглядам герояў.

Каб паказаць індывідуальную адметнасць «жыццёвага рытму» герояў «Палескай хронікі», С. Андраюк зноў звяртаецца да аналогіі — параўнання руху характару з плынню ракі (метафара гэта паяўляецца ў даследаванні нездарма, вельмі ж яна дапасоўваецца да мележаўскага творчага метаду). Даследчык супастаўляе аўтарскія характарыстыкі-апісанні — Васіля і Ганны, іх характараў, паводзін і адчуванняў — як выявы дзвюх не падобных адна на адну сваім норавам рачных плыней.

Вось якім паўстае ва ўяўленні даследчыка, выяўляючыся ў руху, характар Васіля: гэта «рух глыбокай багністай ракі, якая ў сваёй бездані нясе многа нечаканага, невядомага нават ёй самой». Па-іншаму бачыцца плынь жыцця Ганны, рух яе характару — «гэта плынь ракі на больш высокім месцы. Гэта рака бяжыць сярод алешын, робіць шмат паваротаў, дзе шуміць, падмывае карэнне, дзе глыбока, спакойна цячэ па забалочаных мясцінах. Яна больш светлая, больш паэтычная, жывая».

Гэта сапраўды той рэдкі выпадак, калі С. Андраюк дзеля аналітычнага пранікнення ў сутнасць характараў герояў пісьменніка карыстаецца метафарычнай мовай. І тут, мабыць, па сіле выяўленчасці ён не саступае самому аўтару.

Кранаючыся праблем моўнага афармлення мележаўскага стылю, С. Андраюк, па сутнасці, адным з першых звярнуўся да распрацоўкі ***нараталагічнага*** напрамку даследаванняў у беларускім літаратуразнаўстве. Пры характарыстыцы апавядальнай манеры І. Мележа, на думку даследчыка, важна ўлічваць усю шматстайнасць узамадачыненняў паміж аўтарам і героямі, якія ў моўным увасабленні прымаюць формы «ўнутранага маналога, няўласна-простай мовы, аўтарскай характарыстыкі».

Серафім Андраюк звярнуў увагу на такую асаблівасць моўнай структуры мележаўскай «Палескай хронікі», як ***«шматгалоссе»*** аповеду. Гэта ўласцівасць

эпічнай, раманнай паэтыкі перш за ўсё і найбольш выразна выявілася якраз у І. Мележа. Беларускі празаік, як адзначае С. Андраюк, працягваў талстоўскую традыцыю шматгалосага апавядання. Услед за вялікім рускім пісьменнікам І. Мележ паказаў выяўленчыя магчымасці глыбокага пранікнення аўтарскага аналітычнага позірку ў свядомасць і падсвядомыя адчуванні героя.

Праз моўнае «двухгалоссе», якое становіцца аб'ектам уважлівага аналізу даследчыка, перадаецца ў творах І. Мележа складаная гама пачуццяў, выяўляецца ўнутраны свет чалавека ў яго суверэннасці, асабовай пэўнасці. С. Андраюк падрабязна прасочвае, якім чынам адбываецца ўзаемадзеянне «галасоў» у мастацкай структуры рамана, як суадносяцца, накладваючыся часткова адна на адну, моўныя плыні аўтара і героя.

Унутраны маналог героя і няўласна-простая мова, у якой увасабляецца «двухгалосае» адзінства свету аўтара і героя, з'яўляюцца важнейшымі спосабамі мастацкага выражэння ў позняй прозе І. Мележа. Пісьменнік дасягае ў сваіх «палескіх» раманах высокай ступені майстэрства ў выяўленні праўды жыцця, раскрываючы сацыяльную і псіхалагічную прыроду характараў праз моўную адметнасць іх светаўспрымання. «Часта дыстанцыя (у мове) паміж аўтарам і героем знікае, — піша С. Андраюк, — гучыць нібы адзін голас героя: галоўнае — даць непасрэдна голас жыццю». Голас героя, голас аўтара, голас самога жыцця — усё гэта зліваецца ў «Палескай хроніцы» ў мастацкім сугалоссі.

Робячы ў працах пра І. Мележа і іншых беларускіх празаікаў важкія тэарэтычныя абагульненні, прымяняючы інавацыйныя падыходы ў даследаванні, С. Андраюк разам з тым заўсёды скіраваны і на падрабязны, нават скрупулёзны, аналіз мастацкай тканіны літаратурнага твора. Назіранні С. Андраюка над праявамі паэтыкі і стылю пісьменнікаў вызначаюцца трапнасцю, імкненнем звязаць у канцэптуальнае адзінства фармальныя і змястоўныя бакі творчага працэсу.

Так, напрыклад, выдатна падмечана даследчыкам роля эпітэта ў мастацкім свеце мележаўскіх раманаў, якая не зводзіцца толькі да дэкаратыўна-аздабляльнай, а з'яўляецца адным з істотных выяўленняў мастацкага светабачання аўтара. Да ліку важнейшых назіранняў над структурнымі асаблівасцямі раманаў трэба аднесці такую адзначаную С. Андраюком заканамернасць, як паступовае пашырэнне мастацкай прасторы разам з ускладненнем праблематыкі.

Да найбольш грунтоўных прац С. Андраюка як гісторыка літаратуры варта аднесці яго кнігу пра творчасць Івана Пташнікава — «Чалавек на зямлі» (1987). Аўтар манаграфіі імкнецца заглыбіцца ў мастацкі свет гэтага самабытнага празаіка, выявіць яго істотнейшыя рысы, сутнасць яго творчай манеры. І зноў жа на першым плане знаходзіцца тое важнейшае, што ляжыць у аснове рэалістычна арыентаванага тыпу літаратурнай творчасці — сувязь пісьменніка з непасрэднай рэальнасцю, з жыццём.

«Піша ён, — гаворыць аўтар пра І. Пташнікава, — выключна пра тое, што знаходзілася і знаходзіцца ў часовым і прасторавым абсягу яго асабістага вопыту». Гэту схільнасць перадаваць непасрэдныя адчуванні ад судакранання з рэчаіснасцю С. Андраюк лічыць вызначальнай рысай пісьменніцкага таленту І. Пташнікава. Гэтым перш за ўсё, мабыць, і прыцягвае да сябе даследчыка творчасць аднаго з самых выдатных сучасных празаікаў.

Падрабязна, разгорнута выяўляецца ў манаграфіі мастацкі свет майстра беларускай прозы, паказваюцца этапы станаўлення яго таленту. Не адразу, як заўважае С. Андраюк, пісьменнік знайшоў сваю ўласную манеру аповеду, хоць прыкметы яскравага мастацкага дару былі вызразна адчувальнымі ад самага пачатку. Патрэбен быў даволі кардынальны зрух у вызначэнні аўтарскай пазіцыі ў адносінах да жыцця і мастацтва. Раздзел, у якім разглядаюцца гэтыя вызначальныя змены ў мастацкім светапоглядзе пісьменніка, названы паказальна — «На пераломе».

Вельмі выразна і дакладна фармулюе С. Андраюк сутнасць творчага метаду І. Пташнікава, які на поўную моц выявіўся ў яго творах новага перыяду. «У творах гэтага празаіка, — падкрэслівае ён, — нішто не ляжыць на паверхні». І працягвае далей: «Аўтарава пазіцыя, яго стаўленне да жыцця і чалавека, ідэя твора не дэкларуецца ні самім аўтарам, ні яго героямі...» Але гэта ніякім чынам не сведчыць пра іх адсутнасць наогул, «яны нібы ўвайшлі, растварыўшыся, ва ўсю эмацыянальную атмасферу твораў, іх маральна-этычнае напаўненне, абумовілі манеру апавядання, гучанне, рытм і тон фразы; яны ва ўсім тым, што неад’емна ўваходзіць у тое арганічнае багатае адзінства, назва якому — мастацкі свет пісьменніка».

З глыбокім пранікненнем у змястоўныя глыбіні мастацкай формы, у асаблівасці паэтыкі І. Пташнікава разглядае аўтар манаграфіі гэты адметны індывідуальны мастацкі свет, у якім, на яго думку, «у самай малой клетачцы <...> адчуваецца, прысутнічае гістарычны час, ёсць натуральны выхад у вялікае жыццё».

Серафім Андраюк умее вельмі чуйна ўлоўліваць, фіксаваць у сваіх працах гэту прысутнасць гістарычнага часу, дыханне «вялікага жыцця». Гэтаму, відаць, садзейнічае тое, што і сам ён заўсёды настроены на ўспрыманне літаратурных з’яў у кантэксце гістарычнага часу, у іх цеснай сувязі з жыццём чалавека і грамадства.

Пільная ўвага да творчасці І. Пташнікава і іншых пісьменнікаў таго ж пакалення, якіх назвалі калісьці «філалагічным пакаленнем», абумоўлена яшчэ і тым, што і сам С. Андраюк належыць да яго. Гэтае пакаленне яшчэ называецца пакаленнем «дзяцей вайны». Апошнюю акалічнасць С. Андраюк нязменна пакрэслівае, пішучы пра сваіх равеснікаў. У адной з апошніх па часе публікацыі прац («Полымя», 2011, № 6), ствараючы творчы партрэт Б. Сачанкі, ён якраз дае напачатку агульную характарыстыку гэтаму пакаленню, якому столькі прыйшлося спазнаць у жыцці, аднак жа суджана было і ўвасобіць усё перажытае ў высокамастацкіх творах.

Серафім Андраюк — адзін з яскравых прадстаўнікоў свайго пакалення — унёс вялікі ўклад у развіццё сучаснай літаратуразнаўчай навукі і літаратурнай крытыкі, сказаў сваё адметнае слова пра многіх беларускіх пісьменнікаў. І яшчэ скажа, напіша, таму што працягвае актыўна, плённа працаваць. Такое гэта сапраўды духоўна моцнае, жыццетрывалае, творчае пакаленне!

Іван САВЕРЧАНКА

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ ЯК ПІСЬМЕННІК-ІНТЭЛЕКТУАЛ І ПУБЛІЦЫСТ

Кастусь Каліноўскі (1838—1864), як вядома, — ідэолаг нацыянальнага адраджэння, аўтар першай нацыянальнай газеты — «Мужыцкая праўда» (1862), асобніка «Знамя свабоды» (1863), сацыяльна-філасофскага «Пісьма з-пад шыбеніцы» і верша «Марыська чарнаброва, галубка мая». Галоўная заслуга К. Каліноўскага перад беларускім народам у тым, што ён першым у нацыянальнай гісторыі распрацаваў асноўныя палажэнні канцэпцыі палітычнай незалежнасці Беларусі і сфармуляваў фундаментальныя прынцыпы пабудовы дэмакратычнага грамадства. У сямі нумарах «Мужыцкай праўды» ён абгрунтаваў крытэрыі ісціны і акрэсліў духоўныя арыенціры для нацыі.

Пісьменнік-інтэлектуал перадусім шчыра выказаў уласную светапоглядную пазіцыю. У другім нумары «Мужыцкай праўды» ён адзначаў, што заўжды будзе пісаць і гаварыць так, як яму падказвае Бог і ўласнае сумленне: «Каб расталкаваць людзям, у чом праўда, я пішу пісьмо, а пісаці буду, як Бог і сумленне кажа». Заўважаў, што менавіта яго філасофія і сацыяльныя прыярытэты найбольш адпавядаюць інтарэсам простых людзей. Звяртаючыся наўпрост да сялян, заклікаў, каб яны верылі яму і ішлі за ім.

Кастусь Каліноўскі пераканаўча даводзіў, што сацыяльная няроўнасць супярэчыць Божай волі і прыродзе чалавека. Публіцыст лічыў несправядлівым такі парадак, калі багатыя жывуць у раскошы, а сяляне цяжка працуюць і галадаюць. На яго думку, запэўніванні цара і паноў пра іх клопат пра сялян — суцэльны падман, бо народ цягам усяго жыцця гібее ў нястачы: «Калі Бог стварыў усіх людзей вольнымі і ўсім даў адзінакую душу, так скуль жа гэта ўзялося, што адзін марнуе да і над людзьмі збыткуе, а другі, бедны, паншчыну служыць альбо аброкі ў казну плаціць? Кожны па-свойму талкуе, на сваю старану цягне. Цар кажа, што ён добра нам думае, а паны кажуць, што яны добра думаюць нам зрабіці, а мужык бедны ад іх дабросці як прападаў, так і прападае».

Распрацаваўшы адметную канцэпцыю нацыянальнай гісторыі, К. Каліноўскі, у прыватнасці, слушна сцвярджаў, што ў старадаўнія часы на Беларусі не існавала прыгоннага права. Вольныя людзі спрадвеку вялі ўласную гаспадарку, без перашкодаў і абмежаванняў карысталіся дарункамі прыроды — лясамі і лугамі, рэкамі і азёрамі. «Быў то калісьці народ наш вольны і багаты, — пісаў К. Каліноўскі. — Не помняць гэтага нашыя бацькі і дзяды, но я вычытаў у старых ксёнжках, што так калісьці бывала. Паншчыны тагды ніякай не было. І няма чаго таму дзівавацbackground, бо было лесу шмат, поля колька хочаш, а людзей то мала, так нашто ж служыць паншчыну за зямлю, калі кожны мог лесу выцерабіць, хату сабе паставіць і меці сваё поле».

Паводле канцэпцыі К. Каліноўскага, паншчына і прыгон на Беларусі з’явіліся ў выніку складаных гісторыка-палітычных працэсаў і падзелу сацыяльных функцый паміж грамадзянамі краіны. Паколькі не ўсе хацелі ўдзельнічаць у войнах і абараняць айчыну, то быў прыняты закон, паводле якога тыя, хто адмаўляўся браць удзел у вайсковых паходах, мусілі адпрацаваць на зямлі гаспадароў, якія ішлі на вайну.

Найбольш цяжкім у гісторыі беларускага народа, на думку К. Каліноўскага, стаўся перыяд, калі край апынуўся пад уладай маскоўскіх цароў. Менавіта пасля анексіі Беларусі, сцвярджаў ён, пачалася нечуваная эканамічная эксплуатацыя сялян, паўсюль запанаваў прымус і гвалт. К. Каліноўскі станоўча ацэньваў дзейнасць генерала Тадэвуша Касцюшкі, які выступіў з ідэямі сацыяльнай роўнасці. Менавіта таму, меркаваў ён, расійскі імператар з дапамогай вайсковай сілы падавіў выступленне Касцюшкі.

К. Каліноўскі — выдатны сацыяльны філосаф. Паводле яго палітычнай стратэгіі сяляне не павінны плаціць падаткаў за зямлю, бо яна адвеку належыць ім. Ён адкрыта заклікаў людзей рыхтавацца да змагання са зброяй у руках за ўласныя эканамічныя і палітычныя правы: «Так з гэтага пісьма і відна: што мужыкі панскія і казённыя не павінні плаціць ані чыншу паном, ані аброку ў казну за зямлю, бо гэта зямля да нас належыць; но калі будзе вайна з маскалём за нашу вольнасць, то той час трэба ўсім ісці на вайну проціў маскаля. А то для таго, каб хутчэй прагнаць маскаля з яго сабачым рондам, і каб ніколі, ніякай нікому мужыкі паншчыны не служылі і ніякага ў казну аброку не плацілі, і каб на век вякоў народ наш быў вольны і шчаслівы».

Беларускі мужыцкі народ, даводзіў К. Каліноўскі, здатны не толькі пракарміць сябе, але і адстаяць уласныя правы, уласную праўду. Яшчэ ў першым нумары «Мужыцкай праўды» ён выказаў веру ў тое, што надзеі і канкрэтныя патрабаванні беларусаў неўзабаве стануць шырока вядомыя ва ўсім свеце. Іншыя народы не толькі даведаюцца пра іхнія памкненні, але гэтаксама пойдуць следам за імі: «Мінула ўжэ тое, калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука здасца толькі да сахі, — цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці, і то пісаці такую праўду справядліву, як Бог на небе. О, загрыміць наша праўда і, як маланка, пераляціць па свеце! Няхай пазнаюць, што мы можам не толькі карміць сваім хлебам, но яшчэ і вучыць сваёй мужыцкай праўды».

Ён засяроджваў увагу на галоўных пытаннях: хто з'яўляецца ворагам сялян, хто дапаможа ім здабываць вольнасць, на каго яны могуць разлічваць пры змаганні за свае правы? Паводле меркавання К. Каліноўскага, ворагамі сялян з'яўляюцца шматлікія чыноўнікі і паны, а таксама імперскія ўладныя колы. На яго думку, сяляне змогуць знайсці саюзнікаў толькі сярод асобных мясцовых паноў і гараджан, якія будуць спрыяць ім здабываць свабоду.

Царскі маніфест аб скасаванні прыгоннага права, адзначаў ён, на справе зусім не палепшыў становішча сялян, нічога не змяніў у лепшы бок. У ім толькі падман і хлусня: «А гэты маніфэст, што цар з сэнатам і з панамі для нас напісаў, то такі дурны, што чорт ведае да чаго ён падобны, — ніякай у нём няма праўды, няма з яго для нас ніякой карысці».

Справядліва зазначаў, што шматлікія абяцанні з вуснаў цара і яго атачэння — даць сялянам вольнасць, — на справе не выконваюцца і ніколі не будуць выконвацца, нягледзячы на гучныя заявы і адмысловыя цыркуляры. Наадварот, улады робяць усё магчымае, каб узмацніць эксплуатацыю працоўнага чалавека: «Праўда, абяшчалі то калісь даць нам вольнасць, но як нам здаецца на наш мужыцкі розум, што хочуць ашукаці, бо калі праз шэсць лет нічога не зрабілі, то чэраз рок пэўне не зробяць. Могуць яшчэ напісаці і другі маніфэст, яшчэ большы ад гэтага, но і з гэтага другога маніфэсту нічога добрага, як і з першага, не будзе».

Кастусь Каліноўскі заклікаў сялян развітацца з сацыяльнымі ілюзіямі, марнымі спадзяваннямі на царскую ласку і клопат з яго боку. Працоўныя людзі павінны як найхутчэй аб'яднацца і кансалідавацца дзеля абароны ўласных інтарэсаў, дзеля змагання за свабоду. Абгрунтаваў ключавое філасофскае палажэнне аб адпрыроднай здольнасці і праве чалавека мяняць існуючы лад жыцця, уплываць на абставіны, пераадольваць бар'еры на шляху да свабоды. У трэцім нумары

«Мужыцкай праўды» ён адзначаў: «Чалавек то такую мае натуру, што альбо нічога не ведае і нічога мецi не хоча, альбо калі даведаецца, то хоча зразумецi добра і дастацi ўсенька, што яму належыць. Гэта вялікая праўда». Галоўная перашкода на шляху да справядлівага вырашэння сацыяльных праблем і грамадскага прагрэсу, на яго думку, — антынародны імперскі ўрад, які не толькі не дбае пра чалавека працы, а наадварот — няспынна ўсіх «абдзірае і глуміць».

Ідэолаг нацыянальнага руху шчыра вітаў рост сацыяльнай актыўнасці працоўных сялян і гараджан, усведамленне імі ўласных палітычных і эканамічных правоў. Адукаванасць і абазнанасць непазбежна прывядуць да карэнных грамадскіх пераўтварэнняў: «От яшчэ нядаўна гаварылі нашыя, што яны створаны для таго, каб служылі паншчыну і былі нявольнікамі, а гаварылі для таго, што нічога не ведалі і нічога мецi не хацелі, — а чы сягодня гэтак скажуць, калі ўжэ ведаюць многа і многа хочуць? Сягодня ўсе ўжэ паразумнелі, усе ўжэ мужыкі талкуюць, што Бог стварыў чалавека, каб ён карыстаў з вольнасці справядлівай, і смяюцца, як гэта маглі інакш думаці. Гэта права, што народ робіцца разумнейшым, выходзіць ад самога Бога, а хто яму схоча спраціўляціся, таго альбо сам Бог, альбо народ па прыказу Боскаму з зямлёю змяшае!»

Да несумненных заслуг К. Каліноўскага належыць тое, што ён упершыню ў нацыянальнай філасофскай думцы ўсебакова акрэсліў зместавыя складнікі канцэпта «воля». На яго думку, воля ўключае эканамічныя, палітычныя і грамадзянскія свабоды людзей, права асабістага выбару, свабоду сумлення, магчымасць удзелу ў вырашэнні агульнанацыянальных задач: «Мы сягодня ўсе ўжэ ведаем, што чалавек вольны, гэта калі мае кусок сваей зямлі, за катору ані чыншу і аброку не плаціць, ані паншчыны не служыць, — калі плаціць малыя падаткі, і то не на царскія стайні, псярні і курвы, а на патрэбу цэлага народу, — калі не ідзе ў рэкруты чорт ведае гдзе, а ідзе бараніці свайго краю тагды толька, калі які непрыяцель надыдзе, — калі робіць усенька, што спадабае і што не крыўдзіць бліжняга і хвалы боскай, — і калі вызнае тую веру, якую вызнавалі яго бацькі, дзяды, прадзеды. От што вольнасць значыць. Сягодня то ронд маскоўскі нас не атуманіць, бо мы цяпер не такія дурныя, як былі ўперад, і пазналі, што нам не маніхвэстаў царскіх, а вольнасці патрэба».

На старонках «Мужыцкай праўды» ён аргументавана тлумачыў, што цар і сенат падманам і пустымі абяцаннямі спрабуюць спыніць народныя пратэсты. Яны не толькі не задавальняюць справядлівых патрабаванняў людзей аб наданні ім вольнасцей, а наадварот, узмацняюць ціск на працоўных, уводзяць новыя падаткі і павіннасці.

Працоўныя людзі, на думку К. Каліноўскага, павінны дамагацца сапраўднай волі, а не папяровых запэўненняў. Яны павінны дамовіцца міжсобку і ставіць перад уладамі ўзгодненыя патрабаванні: «Як я казаў, мы ўжэ пазналі, што нам не маніхвэстаў, а вольнасці патрэба — і то вольнасці не такой, якую нам цар схоча даці, но якую мы самі, мужыкі, паміж сабою зробімо. А для таго, дзецюкі, каб ніхто вас не мог ашукаці, цяпер ужэ талкуйце паміж сабою, якой вам вольнасці патрэба і якім адно спосабам мужык яе дастаць можа. Толька, дзецюкі, смела, бо з намі Бог і праўда, а калі мы з Богам, то з намі ваяваці трудна, бо боска моц вяліка, а народу многа».

К. Каліноўскі заклікаў дзейнічаць рашуча і смела, спадзеючыся пераважна на ўласныя сілы і розум: «Так з гэтага пісьма і відна: што няма чаго ждаці ад нікога, бо той толька жне, хто пасее. Так сейце ж, дзецюкі, як прыйдзе пара, поўнаю рукою — не шкадуйце працы, — каб і мужык быў чалавекам вольным, як е на цалюськам свеце. Бог нам дапаможа!»

Упершыню ў нацыянальнай грамадска-палітычнай думцы К. Каліноўскі вызначыў місію і функцыі народнага ўрада. Паводле яго канцэпцыі, урад ствараецца для таго, каб гарантаваць бяспеку грамадзян, адукоўваць людзей, падтрым-

ліваць законнасць і парадак у краіне, абараняць Айчыну ад знешніх ворагаў. У чацвёртым нумары «Мужыцкай праўды» пісаў: «Няма і куска зямлі на свеце, каб людзі былі адзін у другога ўсё добрыя, не хацелі жыці з крыўдаю свайго бліжняга. Для таго, каб была справядлівасць і праўда на свеце, а злыя людзі не збыткавалі і крыўды другім не рабілі, е ронд, што бярэ падаткі, робіць школы, наўчае кажнага, каб жыў па праўдзе, становіць суд; а калі гэта не памагае і робіцца несправядлівасць, то наймае войска і так сцеражэ кажнага ад ліха і здзерства. От на што ронд патрэбны».

Задача ўрада і дзяржавы прыслухоўвацца да патрэбаў народа, выконваць яго волю, рабіць гэтак, каб кожнаму станавілася лепей і каб кожны пачуваўся шчаслівым: «І як добры слуга глядзіць худобы гаспадарскай і слухае свайго гаспадара, так добры ронд глядзець павінен шчасця людзей, слухаць народу і рабіці так, як народаві лепей. І не дзіва, бо *не народ зроблены для ронду, а ронд для народу*».

На думку К. Каліноўскага, урад і дзяржаўныя чыноўнікі на Беларусі, у адрозненне ад заходніх краін, чыняць сапраўдны гвалт супраць людзей, не падтрымліваюць парадку, не адукоўваюць належным чынам, не забяспечваюць справядлівасць у судах. Усё робяць выключна дзеля ўласнай карысці: «Гэтак, дзецюкі, робіцца на цалюськам свеце. А калі за граніцаю, чы то ў Француза, чы ў Англічаніна, народ спагадае рондаві, то для таго, што ронд слухае народу і робіць так, каб народ быў багаты і шчаслівы. А ў нас, дзецюкі, чы гэтак? Чы ў нас е справядлівая наука ў школах, што учыць жыці без крыўды другога? Чы е праўда і справядлівасць у судзе? Чы можа чалавек быць пэўны, што яго ніхто не скрыўдзіць? Чы ронд маскоўскі думае аб людзях, каб яны маглі жыці шчасліве? Самі скажэце».

Паводле слоў К. Каліноўскага, на Беларусі дастаткова таленавітых і сумленных людзей, якія б маглі быць добрымі ўрадоўцамі і аддана служыць свайму народу. Але менавіта паводле распараджэнняў цара метадычна вынішчаецца эліта краіны, а лепшыя людзі высылаюцца ў Сібір і на катаргу: «Ронд — гэта заўсім так сама, як чалавек. І як чалавек мае галаву на тое, каб думаў, а рукі і ногі, каб зрабіў так, як задумаў, так ронд мае цара, каб рондзіў, а чыноўнікаў па ўсіх местах і мястэчках, каб рабілі, як цар захоча. Для таго як галава ў чалавека калі задумае кепскае, то ногі і рукі кепскае зробяць, так у рондзе, калі цар глуму захоча, то чыноўнікі глуму наробяць. А з гэтага то і відаць, што здзерства, якое ў нас вычаўпляюць, то не для таго робіцца, што ў нашым краю няма людзей, здатных на чыноўнікаў, гатовых і жыццё сваё аддаці для народу, а для таго, што цар гэтакіх людзей у Сыбір высылае, а за нашыя грошы назначае чыноўнікамі гэтых, што адно самі людзей глумяць, другім глуміці пазваляюць і Бога не баяцца. Гэтакі чыноўнік не давядзе ўжэ да розуму — ён, калі і няма прыказу цара, то сам выдумае спосаб, як абадраці бедны народ. І гдзе ж тут шукаці праўды?»

На думку К. Каліноўскага, галоўнае грамадскае зло і асноўная перашкода на шляху народа да волі — цар і яго антынародная палітыка. Менавіта цар загадвае абіраць працоўных, устанаўлівае невыносныя падаткі, набірае войска, з дапамогай якога трымае ўсіх у няволі, гвалціць і нішчыць: «Глум, здзерства і несправядлівасць выходзяць ад самаго цара — ён-то з нас выбірае войска, ён-то з нас выдзірае грошы нібы на патрэбу народа, а узяўшыся за ўсімі гыцлямі за рукі, адно нас цяменжыць, трымае ў няволі».

Выказваў шчырую радасць з тае нагоды, што сяляне ўсё шырэй усведамляюць неабходнасць волі, гатоўнасць змагацца за яе, каб нарэшце спыніць бясконцыя здзекі і глумленні. Цар баіцца справядлівых патрабаванняў сялян, бо выдатна ўсведамляе, што ў выпадку, калі яны атрымаюць вольнасць, то непазбежна скончыцца яго неабмежаванае самаўладдзе: «Но прыходзіць яму ўжэ канец, бо мужык

пачуў вольнасць, а мужыцкая вольнасць — гэта ўсё роўна, што шубеніца для ўсіх здзерцаў і глуміцеляў народу! Для таго-то цар спыняе вольнасць мужыцкую і спыняці будзе, для таго-то калі ў паноў сто раз пытаў, якую яны хочуць даці вольнасць мужыкам, у мужыкоў і разу не спытаў, якой яны хочуць вольнасці. Ён знае, якая-то вольнасць мужыцкая, ён ведае, што наш мужык хоча, каб ніхто не смеў драці з нікога — і для таго як мы яго ронду, так ён нашай вольнасці баіцца».

Кастусь Каліноўскі рэзка асуджаў рэкруцтва і выкрываў сутнасць прымусовых прызываў у войска. Адарваныя ад радзімы і ад родных каранёў вясковыя хлопцы вымушаны праліваць кроў за чужыя інтарэсы, гінуць у далёкіх краях, а маткі льюць горкія слёзы па страчаных дзецях. У пятым нумары «Мужыцкай праўды» ён пісаў: «Мала таго, што з мужыка дзяруць на ўсякія падаткі астатню кашулю, мала таго, што ніколі не можаш дабіціся да куска хлеба, а ўсё, што заробіш, аддаці мусіш чорт ведае каму і чорт ведае на што, мала таго, кажу, што жыццё нашае горша сабачага, — но скажэце, мае міленькія, чы есць паміж намі хто-лень, каб не аплаківаў яшчэ альбо свайго сына, альбо свайго брата, альбо свайго мужа, што цар забраў яго ў рэкруты да і загнаў чорт ведае гдзе? Працуе бацька цяжка на дзецеткі свае, гадуе маці сына, ночанькі не спіць, а цар, сабача яго вера, як гэты воўк, закраўшыся, вяліць лавіці, у дыбы скуці і гнаці ад радні далёка. А маскоўскае жыццё — горка ўжэ доля. Забыці там трэба, што есць у нас наша бацькаўшчына, што есць у нас наша радня, а аддаці жыццё не за дабро і шчасце ўсіх, а за ліха і вечну няволю нашых братоў. Гэтакага ліха, дзецючкі, і скаціна не знае, а вы, мае міленькія, пэўне, і не падумалі, скуль яно на нас навязалася, чы гатак было за нашых дзядоў і прадзедаў і чы гэтак мусіць быці?»

Тлумачыў людзям адрозненні паміж рэкруцтвам і справядлівым удзелам у абароне Айчыны. Паводле яго слоў, у ранейшыя часы сяляне таксама бралі ўдзел у вайсковых паходах. Але яны за гэта атрымлівалі ад урада шэраг прывілеяў: ім змяншалі падаткі або наогул вызваляли ад іх, узнагароджвалі новымі землямі, надавалі шляхецкія правы ўсёй вёсцы. К. Каліноўскі даводзіў, што за 25 год службы ў войску просты беларус не атрымліваў нічога, аніякай палёгкі, каб неяк дажыць да скону веку. Ён мусіць пад старасць ісці жабраваць, або зноўку цяжка працаваць, не маючы аніякіх прывілеяў ад цара.

Рэкруцтва трэба адмяняць і абараняць уласныя інтарэсы, хаўрусавацца з тымі, хто спрыяе здабыць вольнасці, адзначаў К. Каліноўскі. Ён справядліва ўшчуваў сялян, якія пакорліва і ціхмяна выконвалі царскія загады. Раіў ім усім гуртам выступіць супраць чарговага пабору ў рэкруты. Ён тлумачыў, калі цар здолее ўзяць пяць тысяч рэкрутаў, дык на гэтым не спыніцца і ў наступны раз запатрабуе ў два разы болей. Таму трэба аказваць супраціў усім тым, хто прыедзе ў вёскі выконваць царскі загад.

Заклікаў сялян прыслухацца да яго шчырых парад, калі яны хочуць здабыць волю і жыць шчасліва. Раіў ім усё рабіць паводле сумлення і дзейнічаць у адпаведнасці з уласным розумам. У шостым нумары «Мужыцкай праўды» падкрэсліваў: «Вы адно слухайце мяне, талкуйце добра і рабеце так, як сумленне вам скажа, а Бог яшчэ злітуецца над намі і дасць нам шчасце, і дабро ў нас будзе».

Распрацаваў К. Каліноўскі іерархію духоўных і маральных каштоўнасцей для чалавека. Галоўнае месца сярод іх займалі — «зямля» і «справядлівая воля». Менавіта зямлі і волі, сцвярджаў ён, чакалі працоўныя беларусы ад цара і яго чыноўнікаў, але не дачакаліся. Бо тыя толькі на словах абяцалі зямлю і волю, а на справе — ўводзілі новыя падаткі, прымушалі ваяваць і гінуць у далёкіх краях. Паны ўсяляк здзекаваліся з сялян, абіралі іх да ніткі, пазбаўлялі надзеі на лепшае жыццё. У сёмым нумары «Мужыцкай праўды» К. Каліноўскі сведчыў: «Абяцаў нам цар зямлю. […] І слухалі мы цара. Казаў ён нам яшчэ два гады служыць паншчыну, і паншчыну мы адбывалі. Наказаў цар некрута, далі мы яму і некрута,

а самі моўчкі глядзелі, як нашых сынкоў да братоў на край света пагналі. Накінуў нам падушнага — плацілі мы падушнэ за жывых і ўмёрлых, за дзяцей да за старцаў нядужых, — плацілі мы земску павіннасць да ўсялякія зборы, плацілі на пасярэдніка, на праўленне, старшынам, пісарам, акружным, асэсарам — да Бог ведае каму ні плацілі, — да ўсё не пыталісь, куды йдуць нашы грошы. Усі нас крыўдзілі да ўсі абдзіралі; біў нас сільнейшы, крыўдзіў багатшы — а на тое нідзе не было справядлівасці. Мы ўсё маўчалі да слухалі, усім кланялісь, за ўсё плацілі, усё цярпелі, ждучы канца, бо спадзяялісь справядлівай вольнасці, спадзяялісь, што дадуць вольную зямельку да ў падушнам справядлівы пабор будзе. Заміст таго, штоб аддаць нашу зямельку да якую ж зямлю?! Гэту, што з дзядоў-прадзедаў кроўнаю працай дзесяць раз ужэ на яе зарабілі да заплацілі. За гэту зямлю цар наказуе нам чыншы плаціць у казначэйства. Да якія ж чыншы? Якія ўздумаецца пастанавіць чыноўнікам да судовым кравапійцам, да яшчэ з кожным годам усё большыя да большыя. Так волі нам ужэ і не будзе: век цэлы плаці да на век нясі астаткі, штоб адплаціцца палатам да праўленням. Падмануў жа нас цар, а яго служкі — папы, чыноўнікі да маскалі — падвялі нас, як чорт добрую душу».

Калі К. Каліноўскі зразумеў, што яго словы і патрабаванні аб вызваленні сялян не будуць пачуты ўладамі, ён адкрыта заклікаў працоўны люд да ўзброенага паўстання за свае правы, за зямлю і волю: «Падумайце добра, да, памаліўшыся Богу, станьма дружна разам за нашую вольнасць! Нас цар ужэ не падмане — не падвядуць маскалі! Няма для ніх у нашых сёлах ні вады, ні хлеба — для ніх мы глухі і немы і нічога не бачылі і не чулі. А пакуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі да з косамі там, гдзе дабіваюцца волі да праўды — а мы, іх бацькі да жонкі нашы, сцерагці будзем да ўведамляць, адкуль на ніх цягне нячыста маскоўска сіла, да ад душы памагаць усялякімі спосабамі дзецюкам нашым, што за нас пойдуць біцца. — А будзе ў нас вольнасць, якой не было нашым дзядам да бацькам».

Асаблівае месца ў творчай спадчыне К. Каліноўскага займае «Пісьмо з-пад шыбеніцы». У ім падсумаванне інтэлектуальных пошукаў лідара паўстанцаў, у інтэграваным выглядзе выкладзены яго разважанні пра грамадства і шляхі вызвалення беларускага народа з-пад царскага прыгнёту.

Кастусь Каліноўскі вельмі слушна вызначыў магістральны шлях пераадолення агульнанацыянальных праблем. Галоўны сродак вызвалення ад палітычнай і эканамічнай залежнасці, — на яго думку, — развіццё навукі і ведаў. Ён падкрэсліваў: «Нямаш, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае *розум і науку*. Тагды ён толька магчыме жыці ў багацтве, папраўдзе, тагды ён толька, памаліўшысь Богу, заслужыць неба, калі збагаціць наукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу сэрцам палюбіць».

Ускладаць залішнія спадзяванні на дапамогу іншых народаў, паводле аўтара «Пісьма з-пад шыбеніцы», — марная справа. Трэба разлічваць на сябе і спадзявацца на ўласныя сілы і здольнасці. Кожны беларус павінен сумленна і самааддана выконваць свае абавязкі, працаваць дзеля ўласнага дабрабыту і на карысць роднай Бацькаўшчыны. К. Каліноўскі агучыў універсальны грамадскі лозунг: «Няхай кожан робіць, як яму ляпей здаецца».

Мара яго пра народны ўрад, які б шчыра дбаў пра інтарэсы працоўных беларусаў, мацаваў духоўны і эканамічны патэнцыял краіны, з верай у перамогу і адраджэнне народа пісаў: «Нам адно сільна з шчырай верай за сваё стаяці трэба, а ронд наш павінен быць на ўсё чуткі, каб мог для дабра народнага за ўсяго карыставаць; сілы нашы яшчэ вялікі, ваяваць з німі можам Бог ведае як доўга, но для таго трэба, з аднэй стараны, іх аберагаць, а з другой, выrабляць што раз то новыя. І так калі паўстанне зроблена пад добрую пару, узрастае і ажыўляе народ, — не ў час, марнуе сілы кожнага, аслабляе ў прастоце духа дай разводзіць страх і няверу ў дзела наша, у моц Божу».

Лідар беларускага нацыянальнага адраджэння слушна засцерагаў ад паспешлівасці і надзеі на хуткія грамадскія пераўтварэнні. Ён указваў на неабходнасць выканання велізарнай працы ва ўсіх сферах жыцця: «Работа тут не хутка дай непаказна, но за то пэўна, і яна нас давядзе да канца добрага. Работа тут сярмяжна, для таго каб была скутэчна, павінна быць так шчыра і проста, як тое сэрца, што б’е пад сярмягай, як той розум мужыцкі, што не перабірае, калі рабіць трэба».

Пры гэтым К. Каліноўскі лічыў, што народ, каб адстаяць уласныя правы і захаваць гістарычную перспектыву, мае права на радыкальныя дзеянні, на ўзброены выступ супраць прыгнятальнікаў. Паводле яго пераканання, зусім не варта звяртаць увагі на выбар сродкаў змагання, асабліва калі размова ідзе пра выжыванне і захаванне ўласнай будучыні: «Ты, аднак, Народзе, не дажыдайся, да з чым можаш ідзі ваяваці за свайго Бога, за сваё права, за сваю хвалу, за сваю бацькаўшчызну. Для цябе ўсё можна: нож, сякера, атрута; гэта твае спосабы, бо табе, як таму мужыку нявольнаму, бяспраўнаму, не прызнаюць права самаабароны, бо табе нічога не можна. А калі народы загранічныя, з дзіва разінуўшы рот, скажуць: «шалёныя», Ты, народзе вялікі і чэсны, праўдай ім адкажы, што яны таму прычынай, што гэта на іх сумленне цяжкім грэхам ляжа».

У вершы «Марыська чарнаброва, галубка мая» К. Каліноўскі выказаў гатоўнасць памерці за праўду, пажадаў народу як найхутчэй здабыць шчасце і свабоду:

Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе.
І часам спамяні пра Яську твайго,
Што згінуў за праўду для дабра твайго.

А калі слова пяройдзе у дзела,
Тагды за праўду станавіся смела,
Бо адно з праўдай у грамадзе згодна
Дажджэш, Народзе, старасці свабодна.

Як бачна, Кастусь Каліноўскі з’яўляўся лідарам радыкальнага накірунку ў беларускім нацыянальна-вызвольным руху XIX стагоддзя. Ён выступаў за ліквідаванне царскага самаўладдзя, абараняў грамадзянскія і эканамічныя правы беларускіх сялян і гараджан, дамагаўся палітычнай незалежнасці Беларусі. Творам К. Каліноўскага ўласцівы інтэлектуальнасць, аргументаванасць, даступнасць выкладу, патрыятызм і высокі грамадзянскі пафас.

**Аляксей РАГУЛЯ**

# ПЛЫНЬ*

*(карціна нацыянальнага быцця ў раманах Леаніда Левановіча)*

## Новыя задумныя

Л. Левановіч не лічыць патрэбным перакрэсліваць усю традыцыйную сістэму эстэтычных каштоўнасцей і вынаходзіць нейкую абсалютна новую, нібыта прыдатную выключна для палітычнага рамана. Наадварот: такі раман адлюстроўвае кіраўнічую дзейнасць вялікімі масамі людзей, і таму крытэрыі эпічнага мыслення для яго больш арганічныя ў параўнанні з крытэрыямі, характэрнымі для натуралістычнага ізаляцыянізму і герметызму. На сучасным этапе станаўлення беларускага палітычнага рамана акцэнт пераносіцца на крытэрыі маральна-этычныя: ідэалы дабра з'яўляюцца падмуркам для храма красы. Менавіта такая традыцыя заўсёды была ўласціва фальклору і выразна праявілася ў творчасці Кірылы Тураўскага, Міколы Гусоўскага, Францішка Скарыны. Лёс асобы абумоўлены лёсам соцыуму, узроўнем яго самаарганізацыі. Крытэрый адказнасці кіраўніцтва за маральна-этычны ўзровень супольнасці ў цэлым і свой уласны дамінуе і ў другой палове напісанага Л. Левановічам шасцікніжжа. Выходзячы на праблему маральнага фактару ў кіраўнічай дзейнасці актуальнага часу, пісьменнік знаходзіць жывыя крыніцы дзяржаўнай і палітычнай мудрасці нацыі, якія на працягу стагоддзяў намагаюцца «з глебы на прастор прабіцца» і заўсёды супрацьстаяць крупадзёраўшчыне на ўсіх узроўнях уладнай структуры. На Антона Пракапенку на пачатку яго кіраўнічай дзейнасці ў раёне моцнае ўражанне зрабіла асоба сакратара райкама партыі Змітровіча. Выступленні яго вылучаліся веданнем і глыбокім разуменнем сітуацыі ў краіне і раёне: «*І ўсё гэта было сказана на жывой, не казённай, роднай мове. Імпанавала манера гаварыць, выступаць: простая, адкрытая, быццам гутарка з таварышамі па партыі, ні гучных заклікаў, ні пышных фраз*» («Дзікая ружа»).

За такія праявы людскасці яму быў навешаны ярлык нацдэма, што было на той час раўнасільна абвінавачванню ў варожай дзейнасці. Змітровіч загінуў у ГУЛАГу, але народны стыль яго кіраўнічай дзейнасці застаўся ў памяці Пракапенкі на ўсё жыццё. Гэта быў стыль палітычнай культуры, якая не вывучалася на курсах партактыву, але сама арганічна вырастала на глебе агульначалавечых каштоўнасцей культуры народнай. У савецкія структуры пазнейшага часу яна пранікала ў форме стыхійнага валенрадызму. Лугаўцоў, Пракапенка, Якубеня, Чэпікаў, Казакевіч, Раковіч дзейнічаюць нібыта самі па сабе, фармальна арганізаваная сістэма больш прыцiскае, чым яднае, і таму кожны з іх рэалізуе сябе як сацыяльная асоба па-за нарматывам «давай-давай, шуруй-шуруй».

Вобразы Змітровіча і Пракапенкі прадоўжылі галерэю тых народных інтэлігентаў, якія ў бюракратычнай сістэме абесчалавечвання кіраваліся пачуццём роднасці са сваімі людзьмі. У шасцікніжжы Л. Левановіча эстафета беларускага нацыянал-камунізму заканчваецца трагічным фіналам Пятра Машэрава.

* Заканчэнне. Пачатак у № 2, 2013 г.

Ліберальнае ядро ў беларускім кіраўніцтве ў 70-х гадах групавалася вакол К. Мазурава, П. Машэрава, А. Кузьміна. Патрыятычная арыентацыя беларускіх дзеячаў і іх адказнае стаўленне да кіраўнічай дзейнасці не засталіся не заўважанымі ў Крамлі.

Раман Л. Левановіча «Бесядзь цячэ ў акіян» пачынаецца тэлефоннай размовай А. Касыгіна з П. Машэравым. Старшыня саюзнага ўрада шукаў надзейнага пераемніка і ў Беларусі бачыў немалыя рэсурсы чалавечага «*па-ставу*» на агульнасаюзную карысць. Гаворка ішла пра магчымы перавод Машэрава на пасаду старшыні саюзнага ўрада пасля Касыгіна. Іншыя планы, аднак, выспявалі ў коле «крамлёўскіх дзядоў», што групаваліся вакол генсека Л. Брэжнева. Ніякіх рэформаў яны праводзіць не збіраліся. Тэлефонны званок Брэжнева Машэраву ўспрымаецца ў рамане як папярэджанне харызматычнаму беларускаму кіраўніку. Складваецца ўражанне, што Машэраў у рамане Л. Левановіча як бы прадчувае свой немінучы трагічны фінал.

У рамане «Бесядзь цячэ ў акіян» падкрэсліваецца актуальная неабходнасць паглыбленага асэнсавання дзяржаўнага і грамадскага жыцця ў Беларусі пасля гібелі Машэрава. У рамане раскрываецца карціна дэградацыі высокапастаўленых партыйных функцыянераў, няздатных мысліць у нацыянальна-дзяржаўных маштабах. Кар'ерныя інтарэсы, грызня за пасаду сталі мэтай і сэнсам дзейнасці чыноўнікаў на ўсіх узроўнях наменклатурнай вертыкалі.

Абвострана адчувае пераломны момант гісторыі новае пакаленне лабанаўскіх «раёншчыкаў», якіх яднае на дзіва жывучая традыцыя гуртовай і гаспадарскай парадыгмы Прыбяседдзя. Яны паспрабавалі адразу ж пасля паніхіды асэнсаваць сацыяльна-палітычную сітуацыю ў рэспубліцы. Падвядзенне вынікаў адбываецца не ў афіцыйнай абстаноўцы, а на кватэры ў тэлежурналіста Пятра Махавікова. Машэраву паставілі ў віну тое, што ён «любіў падхопліваць маскоўскія ідэі раней за іншых» і «загубіў усе малыя паселішчы»: «*Хіба можа быць неперспектыўным хоць адно чалавечае жыццё*». Машэраў таксама злёту падхапіў «*дурацкую ідэю слияния языков*». «*Нахамутаў*» Машэраў многа і ў меліярацыі. А ўзяць гіганцкія жывёлагадоўчыя комплексы: «*Колькі шкоды прыродзе!*».

У гэтых закідах, аднак, не перакрэслівалася роля Машэрава ў пасляваеннай гісторыі Беларусі. Л. Левановіч пагаджаецца з крытычнай думкай сваіх персанажаў, але ўласныя погляды пісьменніка на стан рэчаў значна шырэйшыя: «*Машэраў — дзіця гэтай сістэмы*» — гэта, безумоўна, так. Ну, а тое, што «*яна яго нарадзіла і ўзнесла на вышыню*» — то тут патрэбны ўдакладненні. Сістэма намагалася «*перарадзіць*» Машэрава, але змагла толькі ўціснуць яго аблічча ў сваю маску. Гэтага ёй было мала. А на вышыню ўзнесла для таго, каб у патрэбны ёй момант кінуць з гары. Гэта ён, па ўсім відаць, адчуваў, будучы трынаццаць гадоў кандыдатам у члены Палітбюро. Уладныя магчымасці кандыдата заўсёды абмежаваныя. На схіле свайго часу Машэраў паспрабаваў вызваліцца ад маскі артадаксальнага («камсамольскага») аптыміста, пераадолець уладу афіцыйнага стылю з яго прымітыўным акцёрствам, хадульнасцю, казённым пафасам і рыторыкай. Незадоўга да трагічнага фіналу было праведзена пасяджэнне бюро ЦК, на якім абмяркоўвалася пытанне «Аб дадатковых мерах па паляпшэнні работы калгасных рынкаў». Так з глыбокага валенродаўскага падполля на паверхню сацыяльнага жыцця выходзіў сапраўдны Машэраў — беларускі інтэлігент, настаўнік па адукацыі, сын беларускага селяніна Мірона з Полаччыны, рэпрэсіраванага сталіністамі, і сялянкі Дар'і, закатаванай фашыстамі. Машэраў быў першым кіраўніком, які ў пасляваенны час у калгаснай Беларусі зрабіў крок да пераадолення рабскай залежнасці селяніна ад прыхамацяў вышэйшага чынавенства і абсалютнай улады *па-ставу*. На гэта вельмі дарэчы звяртае ўвагу Л. Левановіч, групуючы эпізоды ў фрэскавы вобраз эпохі: «*Трэба зрабіць, каб селянін мог свабодна прадаць лішкі сваёй прадукцыі, каб мець свежую капейчыну*», бо «*хто добра працуе, павінен і жыць па-людску*».

У рамане «Палыновы вецер» не закранаецца пытанне пра стаўленне кіраўніцтва да творчай інтэлігенцыі ў часы Машэрава: праблема мае месца па-за межамі кампетэнцыі яго персанажаў. Тут усё ж не лішне зазначыць, што Машэраў спыніў «неистовых ревнителей» новай фармацыі, якія намагаліся распачаць кампанію супраць тых дзеячаў культуры, якія ажыццявілі «беларускі прарыў» у блакадзе казённай хлусні і дагматызму. Творчасць І. Мележа, М. Савіцкага, В. Быкава, Л. Шчамялёва, В. Грамыкі, С. Селіханава, У. Караткевіча паказала праўду веку з беларускага пункту гледжання, увасобленую ў вобразе спаленай разам з жыхарамі вёскі. Вобраз Хатыні, стварэнню якога П. Машэраў аддаў шмат увагі, стаў найбольш абагульненым і наглядным вобразам навейшага беларускага часу. Узровень трагічнага перажывання і асэнсавання эпохі ў беларускім мастацтве другой паловы XX ст. фарміруе сілу пераадолення не толькі духоўных, але і сацыяльных тупікоў, у якія заганяюць сучасны культурны працэс даведзеныя да крайнасці прагматысцкія і нігілісцкія «канцэпцыі». Менавіта ў 60—80 гг. беларуская культура стварыла нанова атмасферу адказнага стаўлення да жыцця, да сваёй гісторыі і будучыні. Ідучы ў гэтым напрамку, Л. Левановіч адначасова ўлоўлівае і па-мастацку ўзнаўляе новыя настроі і павароты думкі ў нетрах нацыянальнай свядомасці.

Найбольш выразна гэтыя тэндэнцыі праяўляюцца ў час асэнсавання сучаснай чалавечай трагедыі, калі свядомасць ахоплівае сэнс комплексу, які М. Гарэцкі абазначыў канцэптам «*усё яно*». У прозе Л. Левановіча гэтае «*яно*» ўжо вызвалена з-пад містычнага вэлюму і мае выразныя сацыялагічныя абрысы. Рух свядомасці ў гэтым напрамку выразна праяўляецца ў асэнсаванні трагедыі двух старшыняў — Свідэрскага і Сырадоева. Новы кіраўнік Лабанаўскага райвыканкама Анатоль Раковіч — сын таго Раковіча, які меў вялікую ўцеху з калгаснага клуба з бібліятэкай, той самы некалі юны Толік, трактарыст, які выцягнуў з вялікай гразі машыну камсамольскага сакратара Сахуты разам з яго агітбрыгадай, той Раковіч — маладзейшы праз трыццаць год над магілай Івана Сырадоева «*скрушна ўздыхнуў*» і падвёў вынікі нялюдскага сацыяльнага эксперымента:

«— *Усё жыццё служыў савецкай уладзе. І загінуў амаль адначасова з ёй. І думаецца мне, што Косця Варонін помсціў не толькі за лася. А й за бацьку, за раскулачанага дзеда. За ўсе грахі савецкай улады. Рэкі крыві. Мільёны жыццяў, і скончылася крахам...*»

Надмагільнае слова новага старшыні раённай улады Раковіча-малодшага ўспрымаецца як важнейшы здабытак сучаснай народнай сацыялогіі некрафільства. Працягам думкі з’яўляецца тост Марыны — слова надзеі на адраджэнне братавай паўразваленай сям’і:

«— *Давай, браток, за тваю сямейку. Чокацца не будзем. Дзень сянні невясёлы. Ды што ж тут зробіш? Жысць ідзе сваім ходам, — яна змахнула хусцінкай слязу, прыгубіла чарку*».

Апынуўшыся па-за сацыяльным працэсам, Андрэй не знайшоў паразумення і спачування ў жонкі. Вытанчаны густ Ады Браніславаўны не можа дараваць мужу страты выгаднай пасады ў сталіцы. І толькі Марына ў невясёлы дзень адчула, што братава душа балансуе над чорным бяздоннем небыцця.

Раман «Палыновы вецер» — своеасаблівы разгорнуты сімвал падсумавання вынікаў сацыялістычнага будаўніцтва, сэнс якога А. Платонаў азначыў канцэптам «*катлаван*» у сваім аднайменным рамане. Л. Левановіч часта звяртаецца да рэтраспектыўнага паказу сацыяльнай і духоўнай рэальнасці на пачатку вялікага сацыяльнага эксперымента, калі толькі рыхтаваўся катлаван пад фундамент сталінскага сацыялізму. Даўно перажытае вяртаецца аўтарам у кантэкст актуальнага часу, становіцца аб’ектам рэфлексіі. Гэтым самым у творы рэабілітуецца сучаснасць, занядбаная дзеля «светлай» будучыні, аднаўляецца плынь гісторыі. Ідэалогія сучаснага «пераходнага» перыяду стараецца трымаць грамадскую свядомасць на ўзроўні патрэбы выжывання, знарок забываючы пра якасны ўзровень чалавечага існавання. Л.Левановіч скіроўвае інтэлектуальную актыўнасць чытача на вырашэнне праблемы дзеяздольнасці нацыі ў пошуках выйсця з тупіковай сітуацыі трагічнага абсурду.

Грамадзянская свядомасць Андрэя Сахуты трымаецца на дазіраваным пайку афіцыйнай інфармацыі. Самастойна вызваліцца з петляў імперскай ідэалогіі яму не па сіле. Нават калі б Сахута і ведаў дакладна важнейшыя факты нацыянальнай гісторыі, то наўрад ці змог бы ён усвядоміць значэнне, напрыклад, такога помніка беларускай прававой культуры, як Устава на валокі 1557 г. Гэта была эпоха рэнесанснага індывідуалістычнага гуманізму. Устава на валокі пераводзіла сялян на асаду: дым (двор) фактычна атрымліваў валоку зямлі (каля 22 га) у прыватнае карыстанне. У суверэннай сярэдневяковай беларускай дзяржаве «сталыпінская» рэформа была праведзена за тры з паловай стагоддзі да з'яўлення Сталыпіна на палітычным гарызонце Расійскай імперыі. Сахуту-маладзейшаму некалі бацька перадаў узор народнага асэнсавання сутнасці будаўніцтва соцыуму «па-новаму» без «па-добраму», але толькі праз дзесяцігоддзі, на парозе старасці сын змог зрабіць яшчэ адзін крок наперад да ісціны. Вызваленая з-пад уціску афіцыйнай догмы, свядомасць Андрэя спрабуе спасцігнуць цану страчаных еўрапейскай цывілізацыяй магчымасцей і заадно прычыны заняпаду дому (роду) Сахутаў. Разбураная за доўгія гады ідэалагічнага абслугоўвання наменклатуры, свядомасць Андрэя ўсё ж паціху вяртаецца да жыцця, а што да патрэбы і волі самасцвярджэння ў будаўніцтве суверэннай Беларусі, то тут смертаносны вірус некрафільства трымаецца яшчэ вельмі моцна. Адчуванне радасці жыцця ў часы галоднага хатыніцкага дзяцінства непрыкметна выцяснялася з душы падчас прасоўвання па ўхабістых дарогах кар'ернага поспеху. На змену прыйшло звыклае пачуццё рабскай залежнасці ад наменклатурнага камфорту. Поўнасцю вырвацца з павуціння наменклатурнага раю ў Андрэя яшчэ нестае сілы духу. Ён і не думае нават пра абавязак інтэлігента быць лідарам у культурным працэсе. Патэнцыял нацыянал-камунізму ў межах існуючай сістэмы быў вычарпаны пры Машэраве, калі было адноўлена ўзаемаразуменне на патрыятычнай аснове паміж ліберальнай меншасцю ў ЦК КПБ і лепшымі сіламі ў асяроддзі творчай інтэлігенцыі.

Пра пастарскую місію новага пакалення інтэлігенцыі Андрэю яшчэ ў юнацтве напамінала вёска вуснамі свайго «нефарматнага» філосафа, старога Гылігора. Ненавязліва, але абдумана Гылігор мог вечарам абвясціць грамадзе, што каровы з пашы «*ідуць сянні*» не так, як штодзень — «*пазадзіралі галовы і чэшуць па вуліцы: «Яны ж гордыя ідуць. Сам штудзент іх пасвіў. Прахвесар Андрэйка...*». І была ў той вечар у душы стомленага «штудзента» «*яснасць і дабрыня*». І высвечваўся далягляд: «*А мо і праўда буду прафесарам...*». Такога ўзлёту душа юнака ні разу не зведала за ўсе гады навучання ў школе, тэхнікуме, інстытуце. І яшчэ ў той вечар у яго варухнулася думка, што цяпер будзе рэдка бачыць сваіх землякоў, няскора пачуе Міколаву гармонь, варухнулася і пачуццё асветніцкага абавязку перад сваімі людзьмі. З гэтым пачуццём жылі, не адчуваючы яго цяжару, Андрэйкаў бацька, Казакевіч, Гылігор, Раковіч. Гэтага пачуцця не ведалі заўсёды непрыхільны да людзей Свідэрскі і перагружаныя «грамадскімі нагрузкамі» і бытавымі клопатамі настаўнікі, бясконцымі інтрыгамі — функцыянеры.

Леанід Левановіч непрыкметна падводзіць чытача да спасціжэння дзеяздольнасці сучаснай інтэлігенцыі ў фарміраванні культурнага працэсу. Аўтар плённа выкарыстоўвае патэнцыял мінімалізму. Ланцуг семіятычнай логікі ў яго шасцікніжжы ствараецца паэтыкай эпізодаў, сярод якіх пераважаюць *сустрэчы*. Персанажы звычайна сустракаюцца двойчы. Першая сустрэча прыадкрывае выбуховы патэнцыял рэчаіснаснасці, а другая — часцей з ўсё пярэдадзень трагедыі.

Паэтыка сустрэчы заўсёды была сэнсава насычанай у сюжэтах класічнага фальклору. У мінімалізме М. Лынькова сустрэчы сталі працягам *этапавай* паэтыкі Ф. Багушэвіча і М. Танка. Л. Левановіч прапануе чытачу ўстанавіць супольнымі намаганнямі логіку сэнсаў у сустрэчах, якія сталі стылем сучаснага жыцця на розных яго сацыяльных узроўнях. Больш за ўсё аўтара хвалюе праблема сустрэчы і ўзаемапаразуменне *сваёй* палітычнай (ідэалагічнай) інтэлігенцыі са *сваім* народам: пагроза трансфармацыі культурнай прасторы ў *зону* сёння стала сацыяльнай рэальнасцю.

Культурныя сэнсы дзвюх сустрэч Андрэя Сахуты і Косці Вароніна, гадаванцаў напалову спаленай фашыстамі і галоднай, але адноўленай, а потым атручанай радыенуклідамі вёскі Хатынічы, выходзяць далёка за межы лакальнай праблематыкі. Семіятычная логіка гэтага матыву ў рамане «Палыновы вецер» выводзіць аналітычную думку на праблему пераадолення хваравітага стану, уласцівага інтэлігенцыі, ізаляванай ад сацыяльных рэалій веку. Гегель у «Фенаменалогіі духу» гэты стан назваў «няшчаснай свядомасцю». Семіётык Р. Барт адзначыў, што з другой паловы XIX ст. «*пісьменнік перастаў быць выразнікам універсальнай ісціны і ператварыўся ў носьбіта няшчаснай свядомасці*», у выніку чаго «*ўшчэнт разляцелася класічнае пісьмо*».

Выказванне Р. Барта безумоўна заслугоўвае ўвагі, але абсалютызаваць яго няма падставы. У культурах нацыянальнага адраджэння «праблематыка слова» была і застаецца праблематыкай экзістэнцыяльнай, сацыяльнай і эстэтычнай. Л. Левановіч непахісна ідзе ў рэчышчы вялікіх сэнсаў на шляху да ўніверсальных ісцін у іх тэмпаральным, часавым выяўленні. Адна з такіх універсалій — шляхі няшчаснай свядомасці ў сучасным свеце. Крызіс барыкаднага рамантызму ў Заходняй Еўропе ў другой палове XIX ст. меў сваім вынікам страту ў грамадстве цікавасці да ідэалу. А. Шапэнгаўэр у рабоце «Афарызмы пабытавай мудрасці» зафіксаваў вынікі дэструкцыўнасці ў псіхіцы носьбітаў пратэсных настрояў — з'яўленне новага героя часу, *філісцера*, абыякавага да ідэалаў, свабоды, якія для гётаўскага Фаўста былі крыніцай духоўнай сілы ў яго супрацьстаянні д'ябальскім спакусам Мефістофеля. Ідэалы філісцера застаюцца ў межах спажывецкага інтарэсу: «*Вустрыцы, шампанскае — вось апафеоз яго быцця. Мэта яго жыцця — здабыць усё, што спрыяе цялеснаму задаволенню. Ён шчаслівы, калі гэтая мэта прыносіць шмат клопатаў*».

Філістэрскае грамадства (у рускай літаратуры XIX ст. — мяшчанства) у хуткім часе становіцца ахвярай самоты і нудоты. Спачатку яно ратуецца банкетамі, картамі, віном, жанчынамі, лібералізмам. У XX стагоддзі філісцер ва ўладзе шукае больш вострых уражанняў для сябе і філісцерскага (па-сучаснаму — масавага) грамадства. Дзеля гэтага ствараецца тэатр вялікага і перманентнага крывацёку — сусветныя, грамадзянскія і ўсялякія іншыя войны.

Леанід Левановіч ў сваім шасцікніжжы настойліва шукае ўласнае месца ў агульнай карціне сучаснага мастацка-кагнітыўнага і філасофскага пошуку. Пісьменніка хвалюе лёс інтэлектуальнага і духоўнага скарбу, назапашанага на працягу тысячагоддзяў у беларускай культуры каляндарна-земляробчага тыпу. Пра пагрозу яго страты гаварыў Я. Колас у паэтычнай прадмове да паэмы «Сымон-музыка», якую аўтар прысвяціў беларускай моладзі.

Топас «*на зломе*» (Я. Нёманскі) у дваццатых гадах быў па сэнсе блізкі да чорнай магіі *залому* ў фальклоры, які ў паэзіі Я. Купалы стаў сацыяльнай характарыстыкай актуальнага беларускага часу і цывілізацыйнага крызісу наогул. К. Чорны ўжо ў 20-х гадах адчуў пагрозу ціхага сканання. Карціна сцякання і сплывання, характэрная для філасофскіх медытацый пасляваеннага часу, у прозе Л. Левановіча ўспрымаецца як *спаўзанне* і павольнае падзенне ў яму. Апошнім Косцевым прытулкам быў стажок духмянага сена са смяротнымі нуклідамі. Пасля двух стрэлаў Косці Вароніна, якімі ён спыніў жыццё-спаўзанне Сырадоева і ўласнае жыццё-падзенне, Андрэй Сахута «*ў глыбіні душы адчуваў сябе вінаватым, хоць растлумачыць сабе гэтую віну не мог*». Былы абкамаўскі сакратар па ідэалогіі не мае акрэсленай думкі не толькі пра сваю віну перад Косцем, але і пра ўласныя прыступы суіцыдальных і ўсялякіх іншых, выпадковых настрояў і памкненняў, бо няма ў яго выразнай думкі пра галоўнае. Няма нават цікавасці да таго «ўніверсальнага» (заломнага) пытання, да якога ён так блізка падышоў, калі вучыўся ў першым, народным універсітэце яшчэ да наведвання пачатковай школы. Дзед Гылігор нават яго папярэджваў, каб не стараўся падняць усё адразу, каб не надарваўся. А выйшла якраз наадварот: душа і інтэлект Андрэя Сахуты на працягу дзесяцігоддзяў чэзлі ў бяздзейнасці на камсамольскай і партыйнай рабоце.

Косця і Андрэй у час і пасля апошняй сустрэчы робяць крок да пераадолення шызоіднага стану сваёй псіхікі. Кожны з іх падыходзіць да таго рубяжа, на якім душа фарміруе свой уласны маналог, споведзь і інвектыву адначасова, каб у вялікіх «агнях і бурах» (К. Чорны) адрадзіцца да жыцця на новы лад. У такой сітуацыі асоба мае патрэбу ў падтрымцы чулых і ўмелых рук *свайго* чалавека. Пасля таго, як сышоў у вечнасць Макар Казакевіч, Косця шукае падтрымкі і паразумення ў Андрэя Сахуты: «*Вы — чалавек адукаваны, бывалы. Парайце, Мацвеевіч, куды кінуцца?*». Мацвеевіч шчыра спачувае і памагае Косцю практычнай парадай, але адчуць усю глыбіню адчаю зацкаванага трактарыста, некалі шчырага юнака з валошкавымі вачыма, а цяпер алкаголіка з фіялетавымі плямамі на твары, Андрэй Сахута не змог. Не бачыць ён у гэтым факце і пагрозу катастрафічнай дэградацыі сацыяльных нізоў нацыі. Душа былога ідэолага Сахуты яшчэ не вызвалілася для катарсісу і супольнага дзеяння. Унутраны маналог-споведзь Сахуты прасякнуты яшчэ пачуццём залежнасці ад алкаголю наменклатурнага філісцерства:

«*Андрэю ўвесь час думалася пра сувязь паміж лёсам Савецкага Саюза і лёсам Косці Вароніна ды й яго ўласным лёсам. Каб не выбухнуў у Маскве ГКЧП, ён бы сядзеў і зараз у сваім крэсле, ідэалагічна мацаваў бы абноўлены Саюз. А так яму даводзіцца вырашаць зусім іншыя праблемы, жыць у радыяцыйнай зоне без жонкі, без персанальнай машыны, без шыкоўнага кабінета з сакратаркай у прыёмнай. Такі паварот яму не мог прысніцца і ў страшным сне. А на яве гэты жахлівы зігзаг адбыўся. І яму, як і Косцю Вароніну, трэба выбірацца з ямы, у якую спіхнула жыццё*».

«Цёмныя» вяскоўцы некалі бачылі Андрэйку ў будучыні не чыноўнікам, а «прахвесарам» — сваім культурным лідарам. Такім яго і цяпер бачыць Косця Варонін. Пасля трагічнай развязкі Андрэй падсвядома адчуў, што ён не спраўдзіў спадзяванняў аднавяскоўцаў. Успамін пра апошнюю сустрэчу з Косцем абудзіў у яго пачуццё віны. У гэтым бачыцца крок беларускага інтэлігента да пакаяння перад сваім народам за «нясплачаны доўг векавы» (Я. Колас). Рэтраспектыва ў прозе Л. Левановіча адлюстроўвае рэальны ўзровень патрыятычнай свядомасці і суверэннасці асобы сучаснага інтэлігента, які ў лепшыя свае гады меў кармленне з наменклатурнай рукі. Пераналадка на суверэннае жыццё пакалення, якое латэнтна ўспрыняло яшчэ дзейныя базавыя каштоўнасці роду і вясковай грамады, але не мела магчымасці ацаніць іх значэнне ў сучасным свеце і рэалізаваць у сацыяльнай практыцы, — ідзе запаволена. У збедненай культурнай памяці функцыянераў няма вопыту гістарычнай самарэалізацыі продкаў. Людзі, якія на парозе свайго грамадзянскага сталення сышлі з цвёрдага грунту *мужыцкай праўды* і апынуліся на дрыгвяністым балоце прыдуманай хворым розумам хіліясцкай ідэалогіі, самі маюць патрэбу ў дапамозе і падтрымцы. Канцэпт «людзі на балоце» адлюстроўвае сутнасць савецка-партыйнай нірваны, у якой чыноўнае філісцерства занята бязлітаснай вайной за вышэйшыя паверхі ва ўладзе. У савецкім *трывожным шчасці* над усім пануе трывога, а *спакой нам толькі сніцца*.

Шлях кар'ернага ўзвышэння і чалавечага падзення *прабоістага* Андрэя Сахуты пачынаўся з прывычкі да казённай хлусні ў сямігодцы. Смерць Сталіна адкрывала шырокія магчымасці перад выхавальнікамі для дэманстрацыі афіцыйнага смутку і адчаю. На сямікласнікаў моцнае ўражанне зрабіў грунтоўна прадуманы монаспектакль настаўніцы беларускай мовы Марыі Дзямідаўны. На ўрок яна мэтанакіравана прыпазнілася. На парозе «*неяк згорбілася, шэрая цёплая хустка няроўнымі канцамі звісала з плячэй, вочы блішчэлі ад слёз*». Увайшоўшы ў клас, настаўніца «*ўсё роўна як не бачыла сваіх вучняў*». Яны ўсё яшчэ стаялі, а Марыя Дзямідаўна пачала гаварыць ціхім голасам: *«Дзеці, вялікае гора абрынулася на ўсіх нас... На ўсю нашу краіну... Памёр наш вялікі правадыр і вялікі настаўнік Іосіф Вісарыёнавіч Сталін... Што цяпер будзе?..*». Монаспектакль Марыі Дзямідаўны поўнасцю адпавядаў нарматыўным патрабаванням сацыялістычнага рэалізму да жанру аптымістычнай трагедыі: дэманстрацыя жалобы заканчвалася мітынговым заклікам рыхтаваць сябе да вялікай работы: «*Каб вялікая справа Леніна-Сталіна жыла і перамагала...*».

Педагагічная сугестыя і заклік Марыі Дзямідаўны сёння ж падаць заявы ў камсамол мелі свае вынікі. З ранняга маленства задумны Сахута-малодшы раптоўна стаў «*прабоістым хлопцам*» і лёгка збавіўся ад першапачатковага вопыту самастойнай рэфлексіі: «*А тое, што плявузгае дзядзька Парфір пра нейкую жорсткасць бацькі, друга і настаўніка ўсіх народаў, — гэта плёткі варожыя*». З гэтага часу Андрэй пачаў жыць у асяроддзі двайных стандартаў. Яго з Адай безалкагольнае камсамольскае вяселле праходзіла з падфарбаванай самагонкай. На парозе старасці апынуўся ў сітуацыі без пэўнага рашэння *паміж* дзвюма жанчынамі — жонкай Адай і ўдавой Палінай. Гуманітарны набытак Андрэя Сахуты за час навучання — байка «Дыпламаваны баран» і «Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну». Афіцыйная партыйна-савецкая дактрына, якую ён па абавязку службы мусіў штудзіраваць, завяла далёка ў бок ад рэальнага стану свету. Выкінуты з абкамаўскага крэсла Андрэй Сахута вобмацкам шукае дарогу праўды і ўжо на схіле веку пачынае разумець духоўныя сэнсы беларускай культуры XX стагоддзя, якая на пасадзе была яму не патрэбна, як і родная мова. У раманах Л. Левановіча фарміруецца сацыяльна-філасофскі візаж — карціна руху пакаленняў, сэнс якой нагадвае трагічную сітуацыю ў вядомай філасофскай карціне П. Брэйгеля: сляпыя правадыры вядуць сляпых жабракоў і першыя валяцца ў яму.

У беларускай постсавецкай грамадзе, новае аблічча якой на сучасным этапе толькі вырысоўваецца, Л. Левановіч бачыць тэндэнцыю, хай сабе яшчэ вельмі кволую, да згуртавання на сваёй спрадвечна імманентнай канцэпту людскасці аснове. Пісьменніка цікавіць воля і здольнасць звычайнага чалавека да ўзвышэння і пераадолення паласы чалавечага быцця, якую на беларускай духоўнай і сацыяльнай ніве доўгі час апрацоўвалі носьбіты сусветнага зла, увасобленага ў канцэптуальных персанажах Цмока, Вялікага злодзея, Свінтуса-Грандыёзуса, Жалезнага звера. У раманах станоўчая дынаміка не фарміруецца, а толькі выспявае. У канцы «Палыновага ветру» мы бачым першыя спробы маналагічнага выказвання. На подступах да ўзвышэння ўжо знаходзяцца былы настаўнік Пётр Мамута і былы ідэолаг абласнога рангу Андрэй Сахута. Свядома шукае шлях да актыўнай грамадскай дзейнасці Пётр Махавікоў. Узвышаныя пачуцці персанажы перажываюць тады, калі застаюцца сам-насам з родным з маленства краявідам. Вызвалены ад прывілей партыйнага функцыянера, Андрэй Сахута вяртае сабе здольнасць бачыць уласнымі вачыма аблічча роднай зямлі, а заадно — і плён свайго ідэалагічнага кіраўніцтва:

«*Матацыкл калываўся на няроўнай калдобістай дарожцы, праваруч цямнелі маўклівыя хаты, шарэлі сядзібы, парослыя бур'яном, стаялі голыя крывыя яблыні. І нідзе не было відаць аніводнай жывой душы. Сахуту зрабілася аж вусцішна, нібы ехаў па мёртвай зямлі. Яшчэ мацней смылела душа, бо гэта была родная зямля, якую палівалі потам яго прашчуры*».

Унутраны зрок Сахуты стварае візаж гістарычнага быцця народа на працягу апошніх ста гадоў, а гэта ўжо не абы-якая вышыня сузірання для ўчарашняга ідэалагічнага чыноўніка. Ад хутароў, што ўзніклі пасля сталыпінскай рэформы, «*не засталося нічога — ну, там-сям два-тры вялікія камяні*». Так успамінаў Мацвей Сахута, даючы заадно сыну ўрок фальклорнай кампаратывістыкі. Ад вялікага калгаснага гумна, еўні і току таксама не засталося знаку — як і наогул ад ленінскага квазікааператыўнага плана. Андрэй, аднак жа, яшчэ не здольны зрабіць шырокія сацыяльна-філасофскія абагульненні. Ён толькі «*з сумам і скрухаю пазіраў на маўклівыя пустыя хаты, пахілыя стрэхі хлеўчукоў, нібы развітваўся з імі, бо праміне пяць-дзесяць гадкоў, і яны згніюць, урастуць у зямлю, крапіва і чорны палын будуць раскашаваць на былых котлішчах, дзе некалі бруіла жыццё*». Выкінуты з абкамаўскага крэсла Сахута ўпершыню ўзняўся на вышыню сузірання ўнутраным зрокам лёсу Бацькаўшчыны, панарамы яе гістарычнага быцця ў XX стагоддзі, але па-ранейшаму ён аддае перавагу чужому вопыту перад сваім, нацыянальным. Сталыпінская рэформа была для беларускіх сялян не навіной, а спробай вярнуцца да парцэльнага землекарыстання, замацаванага ў Беларусі Уставай на валокі ў 1557 г.

У раманах «Сіняе лета», «Бесядзь плыве ў акіян» і «Палыновы вецер» упершыню ў беларускай літаратуры паказана залева «сексуальнай магіі», свабоднай ад палавой любові, ад думак і клопатаў пра лёс «трэцяга пакалення». Л. Левановіч, такім чынам, паказвае сітуацыю, у якой інтэлігенцыя пастаўлена перад экзаменам на годнасць сучаснага культурнага лідара ў бурапенных плынях эпохі. Сталая топіка: «на ўзлессі дом, ад казак недалёка», калоссе нівы, вечары з камарамі і песнямі, кірмашы і фэсты, касьба і жніво, «раскіданае гняздо», вогненны небасхіл і абеліск — гэта ў беларускай культуры сімволіка ідэалу ўстойлівага жыццядзеяння і гісторыі народнага лёсу, шляхоў пераадолення тупіка, створанага злой воляй чужынцаў і калабарацыяністаў.

Плынь сексуальнай рэвалюцыі Л. Левановіч паказвае на шырокім фоне традыцыйных каштоўнасцей народнай культуры, актуальнае значэнне якіх у эпоху гіпертрафіраванага геданізму аналітыкамі яшчэ як след не раскрыта. У сувязі з гэтым варта звярнуцца да існуючых здаўна трактовак геданізму. Напярэдадні элінісцкага крызісу Антычнасці Арыстоцель пісаў у «Нікамахавай этыцы»: «*Аднак не можа быць, каб насалода была вышэйшым дабром. <...> Звыш таго, разумны чураецца насалоды, а разважлівы імкнецца да адсутнасці пакутаў, а не да насалоды*». А. Шапэнгаўэр на пачатку татальнага крызісу гандлёвага грамадства ў XIX ст. таксама папярэджваў: «*Цялесная насалода хутка канчаецца*». Пагоня за насалодай заканчваецца расчараваннем. Філісцер, «*не маючы духоўных, а маючы толькі фізічныя патрэбы*», застаецца з «*цяжкім пачуццём сваёй нікчэмнасці і глухой, тайнай зайздрасцю*»: «*Ён старанна пачне хаваць яе, нават ад самога сябе, дзякуючы чаму, аднак, яна можа перарасці ў глухую злоснасць. Ён і не подумае суаднесці сваю павагу ці пашану з духоўнымі якасцямі чалавека*».

Віталісцкія рэгулятывы народнай этыкі, рэалізаваныя ў дзейных імператывах, у час крызісаў падвяргаюцца нападкам з боку прыхільнікаў нігілісцкіх «канцэпцый». Пры гэтым часта фальсіфікуецца сакральны і жыццесцвярджальны змест галоўных сэнсаў народнай культуры — здольнасць да перажывання радасці існавання. Так было і ў Паўднёвай Азіі на пачатку новай эры, калі вучэнне індывідуальнага самаўдасканалення было выцеснена афіцыйнай установкай на атрыманне насалоды. «Кама-сутра» з II ст. стала практычным кіраўніцтвам для трох вышэйшых варнаў у этыкеце інтымных адносін. Вучэнне пра вызваленне ад пакуты ператварэнняў стала вызваленым і ад чалавечых пачуццяў у інтымных адносінах. Гэтым тлумачыцца збліжэнне сучасных канцэпцый разняволенага і заадно вельмі пасрэднага па сваім творчым патэнцыяле звышчалавека з растабуіраванымі пластамі індуізму. Расійскі адэпт іммаральнага тэлемізму М. Вярбіцкі мае смеласць публічна заявіць: «У меня есть всего один инструмент познания — пенис».

Былы ўчастковы інспектар Бравусаў у рамане «Палыновы вецер» яшчэ не ўзняўся ці, больш дакладна, не апусціўся да ўзроўню «філасофіі», якая апраўдвае заафілію і іншыя віды перверсіі, але затое змог арганізаваць у засыпаных радыяцыяй Хатынічах свінгерства — свінства, паводле разумення Пятра Мамуты.

Альтэрнатывай «Кама-сутры» сталі творы індыйскага Рэнесансу ў IV—V стст. Культура чалавечых пачуццяў стала галоўным аб’ектам увагі драматурга Калідасы (380—414) у яго п’есе «Шакунтала». Нястомная барацьба маладой маці за вяртанне свайму сыну бацькоўства, пра якое зусім забыў прынц, які стаў царом, за прызнанне за сваім дзіцем высокага сацыяльнага статусу, стала лейтматывам у драматычнай калізіі, характэрнай для гуманістычнага напрамку ў індыйскай літаратуры. І шкада, што ў Хатынічы не трапілі п’есы Калідасы. Асветніцкую дзейнасць тут разгортвае на базе «Кама-сутры» гарадская жонка Пятра Мамуты Юзя, якая пасля смерці Таццяны перабралася ў Хатынічы. Запаветнае кіраўніцтва перадала Юзі сяброўка з Масквы: «*Пачытай, Марынка. Тут усё пра любоў. «Кама-сутра» называецца <...> Хай і Усцінавіч прачытае. А ў ложку добра чытаць удваіх, — падміргнула Юзя. — Натхняе мужыкоў на подзвігі. Мой Еўдакімавіч граматны чалавек, дырэктар школы. А пагартаў кніжку, дык сказаў, што ў яго вочы адкрыліся. І мы смялейшыя сталі*».

Марына і сапраўды «*дзіву давалася*». Былы ўчастковы інспектар Бравусаў таксама дзівіўся. Але дзівіліся яны кожны па-свойму. Марына была шакіравана смеласцю ці, калі больш дакладна гаварыць, адкрытай бессаромнасцю надрукаванага пра *гэта* і ілюстрацыямі-здымкамі *мужчыны з жанчынаю ў самых розных позах*. Усцінавіча больш уразілі старадаўнія скульптуры: «*Ета ж тысячы гадоў таму людзі ўмелі любіцца. А мы жывём напрыканцы дваццатага стагоддзя і нічога, хвакцічаскі, не ведаем*». Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што Бравусаў свой узровень дасведчанасці ў «*справах пасцельных*», як сказана ў «Дэкамероне» Бакачча, ацэньвае занадта сціпла. У раёне свайго інспектарскага абсягу Бравусаў заўсёды меў поспех у адзінокіх пасля вайны жанчын. Веданне яго было, зразумела, адмысловае, што ён і сам прызнаваў, сустрэўшыся на беразе ракі з Марынай ужо будучы ўдаўцом: «*З другімі быў нахабнікам, а на цябе дыхнуць баяўся*». Наконт нахабства — то гэта справядліва, а пра боязь дыхнуць — яўны перабор. Перагарны «дых» быў вельмі істотнай перашкодай да паразумення паміж Марынай і бравым участковым у іх маладым веку. Бравусаў — гэта не той Цімох, што ў песні «*па дзяўчыне сем гадоў сох*». Ягоная каштоўнасная арыентацыя прадугледжвае неадкладнае задавальненне перш за ўсё рэчыўнымі складнікамі ідэалу, але нахрапістасць у адносінах з Марынай забяспечыла яму толькі ганебнае фіяска. Тамара ж у свой час выкарыстала сітуацыю на сваю карысць і прымусіла Валодзьку ісці да шлюбу. У Бравусава адпала неабходнасць мяняць сёе-тое ў сваім характары, і ён хутка знайшоў, чым сябе суцешыць: «*Усё пры ёй. Як гаворыцца і ззаду, і спераду. І хвакцічаскі, поўна пазуха цыцок*».

Геданізм «Кама-сутры» засяроджаны на дэманстрацыі пластыкі, а для Усцінавіча ўсё ж такі першапачатковым носьбітам каштоўнасці застаюцца не выкрунтасы, а рэчавасць, рэальная важкасць масы: у рукі возьмеш — маеш рэч. Так што практыка «Кама-сутры», з якога боку ні падступіся, не супадае з нормамі метафізікі палавой любві ў беларускай культуры.

Атэстацыя, дадзеная Юзяй яе Еўдакімавічу, таксама праз меру суб'ектыўная. Мамута яшчэ да таго, як у яго нібыта толькі праз «Кама-сутру» «вочы адкрыліся», паспеў стаць бацькам пяцярых дзяцей. Усе яны ў сталасці годна дастасаваліся да нормаў тагачаснага грамадства. Пазашлюбны Мамуты з Юзяй сын стаў кадравым афіцэрам. Варта адзначыць, што ўсе хатыніцкія «байструкі» таксама «выйшлі ў людзі». Данік стаў брыгадзірам, а потым — старшынёй калгаса. Рэгулятывы вясковага агулу спрадвеку працуюць на захаванне родавага чалавечага пачатку, на выпраўленне хібаў і сёння, калі вёска «сыходзіць з яснай явы».

Бадай, з усіх сацыяльных слаёў у Беларусі з традыцыямі народнай культуры менш за ўсё звязана дэнацыяналізаваная частка апаратнага чынавенства. У раманах Л. Левановіча апаратчыкі раённага звяна — усе тутэйшыя, выхадцы з вёсак Лабанаўскага раёна. Сістэма ўлады патрабуе ад сваіх рэкрутаў адрачэння ад традыцыйных каштоўнасцей — ад культурных здабыткаў роду, ад культурнай памяці нацыі. Л. Левановіч паказвае, да якога ўзроўню маральнай дэградацыі даведзены артадаксальныя службоўцы чырвонага сатанізму. Самыя ў мінулым сціплыя дзеці вёскі ў апаратных гульнях ператвараюцца ў ілжывыя і слізкія істоты, для якіх дваістасць стала спосабам існавання. Сістэма жорстка рэгламентуе насалоду сваім слугам і гэтым стымулюе скрытыя і патаемныя формы задаволення. Службовыя раманы і адзюльтэр — найбольш пашыраныя спосабы пазаафіцыйнага самасцвярджэння асобы ў чыноўніцкім асяроддзі. Адступленне ад нормаў афіцыйнай этыкі асуджаецца толькі тады, калі скандалы выходзяць на паверхню, калі крытыка прыносіць дэвідэнды вышэйшым начальнікам: «*Каб дзе і падгуляў, Бог з табой... Але рабі так, каб ніякіх кляўз не было, — праз слёзы сказала Ніна. — Мне падалося, што канверт ускрывалі... Магчыма, знялі копіі... Можа, копія ўжо ляжыць у некага на стале. І ў тваім дасье ў пэўных органах*». Так выглядае пасля падрыхтоўкі па комплекснай праграме вышэйшай палітычнай адукацыі шкала этычных каштоўнасцей работніцы ЦК Ніны Гаўрылюк, некалі да наіўнасці празрыстай вясковай камсамолкі, «інструктара з банцікам». Непасрэднасць і

шчырасць раней выпраменьвала аблічча і яе мужа Яўгена Васілёнка — суддзі, які напачатку моцна пакутаваў, калі цяжка было спалучыць літару і дух закону з праўдай жыцця. Навука прасоўвання па вертыкалі пераканала і Ніну, і Яўгена, што ў публічных паводзінах замест уласнага ўспрымання выгадней карыстацца клішэ, а перажыванні лепш абмяняць на фірмовыя маркі дзяржаўна-партыйнай ідэалогіі — больш-менш пэўныя гарантыі на падкормку каля элітнага карыта: «*Мудрая ў мяне жоначка. Святлане да яе далёка. Той абы крутануць налева*». Дзяржаўная «мудрасць» узгадаваных рэжымам функцыянераў мужчынскага і жаночага полу не выходзіць за межы поля, адведзенага для «падкавёрных гульняў». Рэшткі беларускага нацыянал-камунізму ў структуры КПБ пасля сталінскіх зачыстак пераела іржа вялікадзяржаўніцтва і карупцыі яшчэ да распаду вялікай краіны. У барацьбу за нішу ў кіраўнічай наменклатуры рынуліся ананімшчыкі такога ўзору, як камсамольскі сакратар Валерый Рудак, па мянушцы Ржавы тазік.

Пісьменнік не збіраецца агулам выносіць маральны прысуд усім былым партыйным функцыянерам. Нязменная цікавасць аўтара да канкрэтыкі адкрывае характэрную асаблівасць беларускай цяпершчыны — складаны шлях духоўнага вызвалення асобы ад дагматычных канонаў афіцыёзнай ідэалогіі, рух да ўсведамлення неабходнасці паяднання індывідыуумаў на грунце родавага чалавечага адзінства. Вяртанне з кабінетаў на пройдзеныя ў маленстве і ў маладосці сцежкі, сустрэчы ў дзень традыцыйнага восеньскага кірмашу над Бесяддзю ў жыцці ўсіх персанажаў з'яўляюцца актам духоўнага ачышчэння і адначасова пачаткам новага мыслення, вернага запавету продкаў. Поспех у змаганні Пятру забяспечыла яго здольнасць дзейнічаць безаглядна і рашуча там, дзе маюць сілу «здрадныя напасці». Яго не зламала здрада жонкі, ён не апусціўся і тады, калі падвяло здароўе. Нацыянальная рыса Пятра — яго «мурашкавая» ўстаноўка, патрэба няспынна будаваць свой дом, які час ад часу разбураюць лычом прыблудныя дзікі. У канцы раманнага цыкла ў абліччы Пятра Махавікова мы бачым дзейнага гаспадара, які на ніве беларускай культуры плённа працуе над аднаўленнем гістарычнай памяці нацыі.

У грамадзянскім і чалавечым станаўленні Андрэя Сахуты не было стадыі ачышчэння, загартоўкі і ўзвышэння духу, якая адлюстравана ў паэтыцы плыні ў творах Я. Коласа, М. Гарэцкага, К. Чорнага, М. Багдановіча, У. Жылкі, А. Моркаўкі, А. Куляшова. Ідэя чалавечага ўзвышэння вызначае таксама характар успрымання і пераасэнсавання класічнай традыцыі ў сучасным жывапісе. Прага духоўнасці, якую бачыў у літаратуры сямідзясятых гадоў В. Каваленка, была неўсвядомленай прагай чалавечага ўзвышэння. Персанажы Л. Левановіча таксама патрэбу ўзвышэння больш адчуваюць інстынктам, чым усведамляюць яе. Патрэба ў духоўным узвышэнні асобы і нацыі наогул застаецца найменш асэнсаванай у сучаснай грамадскай свядомасці, хоць ад узроўню яе спасціжэння залежыць характар не толькі кагнітыўнага, але і сацыяльнага дзеяння. У нашай сітуацыі мэтазгодна звярнуцца яшчэ раз да вопыту «чыстага светасузірання» ў філасофіі А. Шапэнгаўэра. Ён бачыў атрыбутыўную ўласцівасць чалавека ў яго здольнасці стаць сузіральнікам быцця на вышыні, дзе застаецца толькі свет як уяўленне, а свет як воля знікае. Калі суб'ект зможа сябе прымусіць успрыняць толькі ідэю прадметаў, нават пагрозлівых ягонай волі, то гэтым самым «*узвышаецца над самім сабою, над сваёй асабістасцю, над сваім жаданнем і вялікім жаданнем наогул — тады яго напаўняе пачуццё ўзвышанага, ён жыве ў стане ўздыму, а таму і прадмет, які выклікае такі стан, таксама называецца* ***ўзвышаным***». Узвышанае — гэта не нейкае прыватнае жаданне, а «*чалавечае хаценне наогул*». А. Шапэнгаўэр абвострана адчуваў пагрозу трансфармацыі чалавечага агулу ў натоўп адзіночак.

Праз усю сваю маладосць і сталасць старэйшая сястра Андрэя Марына пранесла ў душы стан адпрэчанасці ад волі да імітацыі шчасця, да недарэчнага і агіднага задавалення нікчэмнымі насалодамі. Сапраўднае ўзвышэнне ўпершыню за страчаныя ў наменклатурным коле дзесяцігоддзі жыцця адчуў Андрэй Сахута тады, калі з вышыні абкамаўскага крэсла «*грымнуўся на зямлю*» «*ды ў радыяцыйную зону*». Сузіранне з высокага берага Бесядзі карціны заняпаду роднай старон-

кі абудзіла ў ім здольнасць перажывання трагічнага лёсу Айчыны. Л. Лeвановіч паказвае магчымасці зняможанага чалавека ў аднаўленні ўласнага ўзвышанага характару. Марыну і Андрэя Сахутаў па-новаму яднае пачуццё кроўнай блізкасці і ўзаемаразумення ў зоне татальнага радыяцыйнага спустошання. У аснове агульнага чалавечага ўзвышэння, на думку А. Шапэнгаўэра, ляжыць пачуццё адзінства *з ідэяй прыроды*, далучанасці да яе стваральнай сілы. Вяртанне Сахуты ў радыяцыю стала вяртаннем да ідэі роднасці і адзінства з лёсам Айчыны і свайго народа. Тут аднак, высветлілася, што ў выраслага ў пасляваенны час пакалення ўжо няма таго стога-хмарачоса, з якога так люба было сузіраць па ўсёй акрузе паэтычны ландшафт быцця, створаны вясковай грамадой у супрацоўніцтве з жыццедайнымі стыхіямі прыроды. Абязвечанае вайной пакаленне Пятра Махавікова і Андрэя Сахуты, захопленае канвеерам «давай-давай, шуруй-шуруй», не змагло застагаваць скарбы сваёй духоўнай нівы і сенажаці, каб з вышыняў плёну сваёй працы ўбачыць дакладныя абрысы новай светабудовы. Кола філасофскіх інтарэсаў Сахуты абмяжоўвалася пераважна колам службовых абавязкаў ці квазіфілосафаўкан'юнктуршчыкаў. Падобная практыка толькі адрывала думку і волю ад свайго родавага, чалавечага інтарэсу. Толькі напрыканцы свайго акмэ Сахута змог, самастойна ўзняўшыся на вышыню духоўнага сузірання, па-новаму ўбачыць вышыні і далягляды ў творах М. Гарэцкага, М. Багдановіча, У. Караткевіча. Па ўсім відаць, што сілы і сэнсы трагічнага перажывання ў творах В. Быкава яшчэ не суразмерныя з духоўнымі запатрабаваннямі Сахуты. Л. Левановіч не перабольшвае патэнцыял і волю да сацыяльнай творчасці сваіх персанажаў. Застаючыся рэалістам, пісьменнік адлюстроўвае першыя самастойныя крокі ў самарэалізацыі пакалення, якое было асуджана на фізічную, а потым і духоўную смерць у сітуацыі жудасных эксперыментаў эпохі. Лабанаўскае зямляцтва, сабраўшыся ў навагоднюю ноч у мінскай кватэры Сахутаў, спрабуе вызначыць перспектыву суверэннай Беларусі. У атмасферы навагодніх імправізацый была абвешчана і праграма на будучыню: ССДД — самастойнасць, самабытнасць, духоўнасць, дабрабыт — альтэрнатыва канвееру «давай-давай, шуруй-шуруй»: «*Чатыры словы як чатыры бакі свету. Як чатыры поры года. Чатыры вуглы хаты*». Зямляцтва выйшла з-пад апекі бюракратычнага монстра.

Заканчваецца шасцікніжжа Л. Левановіча гімнам-зваротам да Палыновага ачышчальнага ветру — топасам, характэрным для беларускай вербальнай культуры на працягу ўсёй яе гісторыі з часоў язычніцтва:

«*А калі ты, Палыновы вецер, залятаеш у хату, то заклікаеш да абнаўлення. Ты рушыш усё, што састарэла, згніло і аджыло свой век. А ты, Вецер, нідзе не нараджаешся і нідзе ніколі не паміраеш, бо Ты вечны.*

*Як вечная наша Зямля-Матухна. І на ёй Чалавек*».

Як і ў іншых лірычных адступленнях аўтара, тут зноў ажываюць сэнсы семантычнага ланцуга, створанага ў свой час аўтарам «Слова пра паход Ігараў», Я. Коласам, М. Багдановічам. І вельмі выразна адчуваецца «палыновая» семантыка А. Куляшова з характэрнай для яго сінэстазіяй фальклорнай мудрасці і класічна выштукаванай формы:

Палын — і клопат матчын, і дарога,
І слёзы, і ўспамін сіроцкіх меж,
І горыч малака таго, якога
Ніякай смагай з вуснаў не сатрэш.

У шасцікніжжы Л. Левановіча выразна бачацца рысы станаўлення новага беларускага рамана, арыентаванага на сацыяльна дзейны сінтэз нацыянальнага і агульнаеўрапейскага духоўнага вопыту.

Пятро БЕРАСНЕВІЧ

# ПЕРСАНАЖЫ, З ЯКІМІ ХОЧАЦЦА БЫЦЬ

Юлія Зарэцкая... Празаік. Як творца, яна звярнула на сябе ўвагу чытачоў, а таксама старэйшых калег па пяры некалькі гадоў таму, надрукаваўшы ў часопісах «Полымя», «Маладосць» і газеце «Літаратура і мастацтва» свае першыя апавяданні. Яны мелі падзагаловак «Дунілавіцкія былі». У зносках тлумачылася, што Дунілавічы — вёска ў Пастаўскім раёне, у якой нарадзілася аўтарка.

Але, было цікава, маўляў, што ж там ужо за такія адметныя вясковыя былі, каб пра іх расказваць у друку, ды яшчэ і ў такім мастацкім творы, як апавяданне?.. Паўнавартаснае ж апавяданне стварыць не проста, у гэтым жанры звычайна паспяхова працавалі ўжо прызнаныя майстры, хаця амаль усе сёння вядомыя нам пісьменнікі пачыналі з яго. Зрэшты, у апошнія часы яно, здаецца, не «каціруецца», і часта друкаваны тэкст, пазначаны як апавяданне, не адпавядае гэтаму жанру.

А тут — былі як апавяданні... Так, яны маюць дакладныя назвы: «Лётчык», «Суседзі», «Мужыцкая хітрасць», «А грэх жыве...», «Міхаліна», «Бацькаў яблык» і іншыя. Увогуле, у літаратуры называць апавяданне адным словам — своеасаблівая традыцыя: дакладна, як у нарысе... З назвы адразу бачна спроба аўтара азначыць нейкую жыццёвую з’яву, чалавека, людзей. Маўляў, перад вамі, шаноўныя чытачы, «выявы» рэчаіснасці, яе «праяўленні», «знакі», «адзнакі», «імпульсы» і г. д. У даным выпадку і яшчэ такая канкрэтыка: у творах Ю. Зарэцкай яе землякі-дунілаўцы, так бы мовіць, на фоне вялікага жыцця людзей, народа. А вялікае жыццё, як вядома, складаецца з жыцця асабіста кожнага з нас, з жыцця нашых родных, знаёмых, ды і незнаёмых людзей. Словам, ёсць жыццё людзей, народа, Айчыны, а ў ім — індывідуума.

У пачатку я сказаў, што творы Ю. Зарэцкай ужо заўважылі чытачы. Адкуль такія звесткі?.. Даводзілася чуць меркаванні пра яе апавяданні падчас сустрэч з настаўнікамі і вучнямі ў розных рэгіёнах краіны. Як толькі гаворка заходзіла пра літаратурную змену, адразу пыталіся, хто такая Юлія Зарэцкая і адкуль у яе такое глыбокае веданне рэальнага вясковага жыцця? Сёння ж яно нібыта напаўзабыта ў літаратуры. А яшчэ адзначалася, напрыклад, што ў маладой пісьменніцы за яе лёгкім гумарам расказу пра жыццё вяскоўцаў, часам нават своеасаблівай іроніяй адчуваецца аўтарская павага да сваіх герояў і нават еднасць з імі. Пры гэтым часам называліся вядомыя беларускія пісьменнікі той старой літаратурнай школы, з якой у свой час выйшлі Чорны, Мележ, Шамякін, Чыгрынаў, Пташнікаў, Сачанка, Стральцоў і многія іншыя мастакі слова, кім і чыімі творамі мы і сёння па праве ганарымся.

Называліся і рускія пісьменнікі, што пакінулі адметны след у развіцці літаратуры наогул. Прычым не з папрокам аўтарцы, маўляў, часта да іх звяртаецца, а наадварот, з мэтай падтрымкі: калі малады таленавіты творца вучыцца ў папярэднікаў, калі пры гэтым ёсць сваё разуменне і бачанне свету, цікавае іншым, такое трэба толькі вітаць.

Былі нібыта і сумненні: чакайце, пісьменніца ў сваіх апавяданнях часта акцэнтуе ўвагу на якім-небудзь «недавярку», робіць яго галоўным героем, як гэта рабіў,

скажам, Васіль Шукшын. Перайманне?.. І разам з тым разважанні: але ж, аказваецца, у гэтага нібыта «недавярка» свая трагедыя душы, свой боль, свая філасофія існавання, і існаванне гэтае, на першы погляд, цяжка назваць паўнакроўным жыццём. Але калі задумацца, дык героі Ю. Зарэцкай на падыходзе да жыцця...

Тады па-сапраўднаму цябе хвалюе не толькі лёс гэтага чалавека-няўдаліцы, а і іншых людзей, сярод якіх ён жыве: як жа ўсім ім няпроста, як жа ім горасна і балюча ад таго, што ён так зрабіў («Лётчык», «Бацькаў яблык», «А грэх жыве», «Міхаліна»).

А тое, што некаторыя дунілаўцы з апавяданняў нечым нагадваюць шукшынскіх «чудиков», дык гэтаму ёсць тлумачэнне. І вельмі істотнае...

У свой час, калі з апавяданняў пачынаў сваю творчасць знакаміты наш драматург і празаік Аляксей Дудараў, некаторыя крытыкі і калегі пагаворвалі, што ён шмат у чым пераймае В. Шукшына. Пры тым чамусьці ніхто не звяртаў увагі на тое, што іх персанажы па ўнутраным свеце розняцца. У Васіля Макаравіча, напрыклад, так званыя «чудики», — людзі простыя і асаблівыя. Для тых, хто лічыць сябе нібыта вышэй па сацыяльным і адукацыйным цэнзе, яны, адстойваючы свой унутраны, дадзены ім ад нараджэння свет, дзівакі. І часам «чудики» сцвярджаюць сябе жорстка ці зусім жорстка. І калі ўжо так, «чудиками» іх назвалі знарок тыя, хто не вельмі разумеў герояў Шукшына ці не хацеў іх разумець, і хто, зрэшты, хацеў бы іх вывесці з кантэксту літаратуры...

Што ж датычыць А. Дударава, раннія творы якога ў нечым былі падобныя на шукшынскія, дык пра гэта вельмі трапна сказаў Уладзімір Дамашэвіч: «Блізкасць талентаў». Маўляў, ёсць галоўнае — таленты, блізкія, а ўсё астатняе — за чытачом… Дудараўскія героі, так бы мовіць, больш мяккія.

Думаю, што і адносна Ю. Зарэцкай У. Дамашэвіч сказаў бы тое ж. Настаўнік не аднаго пакалення беларускіх празаікаў, сам адметны творца, Уладзімір Максімавіч вельмі чуйна ставіцца да маладых. Між іншым, уважлівымі адносінамі да юных талентаў наш пісьменніцкі асяродак заўсёды вызначаўся. Традыцыя захавалася і сёння.

Так, напрыклад, Ю. Зарэцкую, яе першыя публікацыі заўважылі такія майстры слова, як Мікола Мятліцкі, Алесь Марціновіч, Віктар Гардзей, Павел Саковіч і іншыя. І вельмі важна, што ва ўсіх ужо названых рэдакцыях, рыхтуючы да друку творы Ю. Зарэцкай, у якіх пісьменніца шчодра выкарыстоўвае мясцовую лексіку ў дыялогах, ствараюць своеасаблівы дунілавіцкі слоўнік. Думаецца, што гэта апраўдана: вось вам жывая гаворка, вось вам каларытная мова адной канкрэтнай вёскі, і яны арганічна ўпісваюцца ў моўную тканіну апавяданняў празаіка, у нашу літаратурную мову.

Адзначу, што Дунілавічы — даволі вялікая вёска ў Пастаўскім раёне. Да ўсяго яна адметная тым, што ў ёй на працягу некалькіх стагоддзяў (заснавана ў 1473 годзе) у згодзе жылі людзі розных нацыянальнасцей: беларусы, палякі, рускія, яўрэі і іншыя. Канечне, за гэты час тут моцна перапляліся людскія лёсы, разам пяражыта шмат навал, гора. Былі і ёсць агульныя радасці. І, вядома ж, так або інакш у беларускую мову ўпляталіся мовы іншых народаў, як, між іншым, і наадварот.

Што датычыць гумару ў творах Ю. Зарэцкай, дык яна — гумарыстка ад прыроды. Свае першыя гумарэскі пачала пісаць яшчэ ў школе. Што па тым часе наогул была рэдкая з’ява: школьніцай друкавалася ў сатырычна-гумарыстычным часопісе «Вожык», пачатковец у рэспубліканскім друку!.. Сюды, у «Вожык», на працу была запрошана пасля заканчэння БДПУ імя Максіма Танка, які скончыла з адзнакай, набыўшы прафесію філолага і журналіста. І праз час стала галоўным рэдактарам гэтага часопіса, прайшоўшы, як кажуць, усе рэдакцыйныя пасадныя прыступкі.

У 2011 годзе Ю. Зарэцкая выдала кнігу сатыры і гумару «Шчаслівыя людзі», якая была ўдастоена прэстыжнай літаратурнай прэміі «Залаты Купідон». А чытачы гумарэскі і гумарыстычныя апавяданні Ю. Зарэцкай ацанілі ўжо тым, што ўвесь тыраж кнігі разышоўся на дзіва хутка.

Для тых, хто не знаёмы з пакуль яшчэ не вельмі вялікай па колькасці надрукаванага, але даволі адметнай творчасцю Ю. Зарэцкай, скажу, што, акрамя твораў з гумарыстычным ухілам, у яе творчым багажы шэраг даволі сур'ёзных апавяданняў. У творчасці, як і ў жыцці: і радасці, і горасці, і гумар, і сур'ёзнасць...

Усё гэта бачыла Юля з дзяцінства. Пра ўсё гэта ёй расказвалі бацькі, родныя, аднавяскоўцы. Несумненна, найперш бацькі адкрылі ёй вялікі свет жыцця роднай вёскі і свет наогул. Навучылі павазе да чалавека. Перадалі сваю багатую гаворку.

Бацькі Ю. Зарэцкай Галіна Ігнатаўна і Франц Ігнатавіч амаль усё жыццё жывуць у Дунілавічах. Бацька працаваў настаўнікам у мясцовай школе, маці — выхавацелькай у дзіцячым садку. Зараз яны на пенсіі. Між іншым, Франц Ігнатавіч без перабольшання, як ніхто, ведае гісторыю сваёй вёскі. Ведае ўсе перыпетыі, якія тут адбываліся на працягу ўсяго часу яе існавання. Ён ахвотна праводзіць экскурсіі для тых, хто прыяджае сюды, каб пазнаёміцца з гісторыяй Дунілавіч. І для аднавяскоўцаў і іх родных і знаёмых — таксама.

Адна з жахлівых старонак гэтай гісторыі — Вялікая Айчынная вайна. І хаця на фоне агульнанародных трагедый нельга выдзяляць трагедыю якога-небудзь аднаго народа, нельга і замоўчваць, што, напрыклад, яўрэі падлягалі поўнаму вынішчэнню. І паўсюль на Беларусі ў гарадах і вёсках карэнныя жыхары, рызыкуючы сваімі жыццямі, жыццямі сваіх родных і блізкіх, як маглі ратавалі яўрэяў, прадстаўнікоў іншых, не тутэйшых нацыянальнасцей.

І вось на аснове аднаго з такіх фактаў з дунілавіцкага ці калядунілавіцкага жыцця Юлія Зарэцкая стварыла адно з лепшых сваіх апавяданняў «Свет не без добрых людзей...» Выслоўе, якое, несумненна, вельмі добра ведаюць людзі старэйшых пакаленняў і якое сёння ў такім няпростым жыцці таксама павінна гучаць. Гучаць як надзея для тых, каму горасна, кепска, каго прыніжаюць: даверся іншым людзям, павер чалавеку — і ты не згубішся, не згінеш у вялікім свеце людзей...

Сітуацыя твора такая: зімой у халады да аднаго селяніна-хутараніна ноччу прыходзіць яўрэйская сям'я — бацька, маці, двое маленькіх дзяцей. Прыходзіць з надзеяй знайсці паратунак: фашысты лютуюць, знішчаюць людзей, у даным выпадку яўрэяў, не шкадуюць ні старых ні малых.

Але, прыйшла... Селяніну, які паспрабуе ўратаваць іх, вядома ж, самому і ўсёй сям'і пагражае смерць: вораг нікога не пашкадуе. І тым не менш, хутаранін, яго жонка і дзеці, самі знаходзячыся на мяжы жыцця і смерці, ратуюць людзей іншай крыві, іншай веры, прадстаўнікоў іншага народа. І выратоўваюць, а калі адчулі, што тут Давіду Гардону, яго жонцы і дзецям нельга заставацца, выпраўляюць іх далей, у свет, які «не без добрых людзей». Перакананне ў гэтым, што свет менавіта такі — і ў тых, хто ратаваў, і ў тых, каго ратавалі...

Гэта, калі казаць агульна. Калі ж крыху ўглыбіцца ў кампазіцыю твора, то там будуць успаміны, як гэтыя людзі, беларусы і яўрэі, жылі да вайны: добра, пачалавечы, без хцівасці, хаця, можа, нават як і бывае ў жыцці, часам пакепліваючы адны над другімі, маўляў, ці трэба табе так рабіць... І, тым не менш, дапамагаючы адны другім, як было спрадвечна на нашай зямлі. Так было, як кажуць, і ў бытавым плане, у тых паўсядзённых сітуацыях, якія не датычылі асноў жыцця, не неслі ніякіх пагроз чалавечаму існаванню, і ў ліхія часы.

Юлія Зарэцкая ў гэтым апавяданні паказвае гатоўнасць звычайнага чалавека да самаахвярнасці ў імя выратавання іншых. Як пісьменніца яна ў сваім творы ўзнімаецца да абагульненняў. А менавіта: праз сваіх землякоў, дарагіх ёй дунілаўцаў, праз іх бясхітрасныя дзеянні яна паказвае, якія неўміручыя агульнародныя асновы жыцця беларусаў (праваслаўныя яны ці каталікі), тыя асновы, якімі, як вядома, захапляецца ўвесь добры свет. (Мы самі гэтага не выпінаем, здаецца, усё і так само сабой зразумелае.) Асновы тыя — самаахвярнасць, спагада да іншых, гатоўнасць прыйсці на дапамогу таму, хто мае ў гэтым патрэбу...

Вядома, што падобных выпадкаў, пра якія расказвае пісьменніца ў гэтым апавяданні, у гады вайны было нямала па ўсёй нашай зямлі, у вёсках і гарадах. Рызыкую-

чы сваімі жыццямі, мясцовыя жыхары ратавалі і яўрэяў, і цыганоў, і людзей іншых нацыянальнасцей. (Ці былі здрады? Вядома ж, здаралася і такое, наша літаратура пра гэта не маўчала. Інакш чаму ж тады «Свет не без добрых людзей»?)

У гэтым апавяданні даволі прыкметна адкрываецца чалавечая і грамадзянская пазіцыя Ю. Зарэцкай як пісьменніцы. І што б хто сёння ні казаў грэблівага наконт таго, што, маўляў, літаратуры гэта не патрэбна, жыццё сведчыць наступнае: чалавечая і грамадзянская пазіцыя важна для кожнага, хто жыве сярод людзей. І — памяць.

Юлія Зарэцкая — з таго пакалення проста грамадзян і творцаў, якія пра вайну чулі толькі па расказах родных, знаёмых, не толькі тых, хто сам перажыў яе жахі, а хто і толькі чуў пра яе ад іншых... Вось такі непарыўны ланцужок памяці: прадзеды, дзяды, бацькі, мы, яны (што нарадзіліся праз 20, 30, 40 гадоў пасля ліхалецця).

Але, адбываюцца змены пакаленняў, а вайна, памяць аб ёй, аб тых, хто перамог, ужо становяцца нашай агульнай генетычнай памяццю. Мабыць, тое, што стагоддзямі перадавалася ў генетычную памяць ад бацькоў нашчадкам і дазваляла людзям, народу выжыць, выстаяць ва ўсіх бедах, у апошнюю вайну — таксама. І заставацца чалавеку ЧАЛАВЕКАМ.

Гэта вельмі дакладна прачытваецца і ў апавяданні «Пакуль б’ецца яго сэрца...» Надзвычай уражлівы і балючы, пранікнёны твор. Слова самой пісьменніцы. «У аповедзе гэтым, — піша Ю. Зарэцкая, — жыццё і слёзы маіх бабуль, іх мацярок, свякровак, сясцёр, суседак, сяброўак...» І далей шчыра прызнаецца, што яна «...мала распытвала ў бабуль пра вайну, пра тое жыццё, тым больш — пра каханне. У памяці — толькі нейкія абрывістыя ўспаміны, словы ды задумлівыя, засяроджаныя твары... Цяпер адной з бабуль няма на гэтым свеце, і мне, нават калі б я асмелілася, спытаць няма як. Але мне чамусьці здаецца, што тая бабуля ўсё адчувала менавіта так. Бо з ёю ў мяне — непарыўная сувязь, яна ніколі не перапыніцца, не можа перапыніцца...»

Тут я спыняю цытату: сувязь гэтую кожны адчувае, вызначыць або вызначыў сам, калі будзе чытаць твор. А ён — маналог адной са святых пакутніц нашай зямлі, напісаны ад імя бабулі яе ўнучкай. Мабыць, калі кожны з нас задумаецца пра тое, што было з яго прадзедамі, дзядамі, бацькамі (у каго да якога пакалення сягае памяць), несумненна, адчуе і сваю сувязь з імі, і адчуе, зразумее, дзе і калі яна пачалася...

Што датычыць гэтага апавядання-маналога, дык у ім Ю. Зарэцкая як пісьменніца, як дачка сваёй зямлі, як адна з мільёнаў тых, хто складае паняцце народ, сапраўды змагла ўзняцца да асэнсавання перажытага нашымі бабулямі і прабабулямі ў час ліхалецця ў імя таго, каб вечным было жыццё.

Пра лёсы, жыццё ў вайну родных і блізкіх у нас даўно пішуць дзеці, унукі і нават праўнукі тых, хто перажыў ліхалецце. Напрыклад, у кнізе «Наша Перамог», што ў свой час выйшла ў РВУ «Літаратура і Мастацтва», або ў кнізе апавяданняў беларускіх і рускіх пісьменнікаў «Памяць сэрца», выдадзенай у 2010 годзе ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Дарэчы, апавяданне Ю. Зарэцкай «Пакуль б’ецца яго сэрца…» надрукавана ў гэтай кнізе. І кожны аўтар па-свойму апісвае гэтую сувязь. Але ёсць адно, што яднае ўсіх аўтараў: усе без выключэння так або інакш гавораць яшчэ аб адной сувязі, магутнай і непарыўнай, на якой трымаецца жыццё — сувязі між людзьмі, заснаванай на спагадзе, узаемадапамозе, дабрыні.

Ну, што ж, усё, як і мае быць. У літаратуры, як і ў жыцці, усё няпроста. Пісьменнікі, маецца на ўвазе тыя, каму дадзены талент, заўсёды ў пошуку. І сталыя, і маладыя.

Калі свой шлях сярод людзей шукаюць літаратурныя персанажы, шукаюць яго і тыя, хто персанажы гэтыя стварае. Вядома ж — і Юлія Зарэцкая. Персанажы яе твораў, як асобы, вельмі розныя і па ўзросце, і па жыццёвым вопыце, і, часам, па паводзінах у тых або іншых жыццёвых абставінах. Але калі да іх уважліва прыгледзецца, пранікнуцца іх думкамі і памкненнямі, яны становяцца дарагімі табе і блізкімі настолькі, што сярод іх хочацца быць. І ў смутку, і ў радасці.

Васіль ЖУРАЎЛЁЎ

# ЛІДАРСКАЯ ДУМКА І ЯЕ СУРАЗМОЎЦА Ў ЖЫЦЦІ ЛІТАРАТУРЫ

На кніжных паліцах з'явілася кніга вядомага амерыканскага журналіста Джона Максвела «21 якасць лідара». Яна выдавалася ў многіх краінах, атрымала досыць шырокі рэзананс у чытацкім асяроддзі, багата станоўчых водгукаў з боку аўтарытэтных людзей. Мы не збіраемся яе рэцэнзаваць, але мусім заўважыць, што праблема, якая ставіцца і асэнсоўваецца, працягвала і сёння цікавіць грамадскую думку, у тым ліку і літаратурную. На гэта ёсць важкія прычыны. Лідар — гэта дэтэрмінант, у многім галоўная дамінуючая сіла, якая (вядома, у лепшым выпадку) здольна вызначаць найбольш дакладны курс і перспектыву развіцця той або іншай галіны грамадства, прапаноўваючы і выпрацоўваючы найбольш эфектыўныя спосабы і прыёмы рашэння складаных пытанняў.

Зразумела, тонкая і ў многім загадкавая матэрыя і прырода чалавечай псіхікі ў нейкія жорсткія і непарушныя формы матэматычных вымярэнняў не ўкладваецца. Не выключэнне тут і чалавек, якога імянуюць лідарам. І тая лічба «21», што ў кнізе Д. Максвела «21 якасць лідара» з'яўляецца колькасным паказчыкам асаблівасцей лідарскага характару, нясе ў сабе, безумоўна, выразную адзнаку ўмоўнасці. Разам з тым аўтару шмат у чым хочацца давяраць і прызнаць слушнымі яго меркаванні, дзе буйным планам вылучаны і падмацаваны канкрэтнымі фактамі і аналітычнымі развагамі вузлавыя асновы духоўна-інтэлектуальнага, маральна-этычнага і прафесійнага складу чалавека, прэтэндуючага на вядучую ролю ў адпаведнай жыццёвай сферы.

На думку Д. Максвела, ад лідара заўсёды чакаюць, што менавіта ён у многім лепей за іншых падрыхтаваны ўплываць на складванне, фармаванне ды ў немалой ступені і на саму рэалізацыю нейкіх важных, запатрабаваных бягучай рэальнасцю ці далёкай перспектывай ідэй, планаў, праектаў. «Калі вы, — гаворыць ён, — не будзеце весці мяч да варот, вы не здолееце ўзначальваць каманду». Д. Максвел прызнае, што лідарская харызма і лідарскі характар чалавека пэўным чынам закладваецца самой прыродай, даецца яму ад нараджэння. Але гэта толькі стартавая перадумова, хоць і досыць істотная ў далейшых праявах чалавечых магчымасцей. Выключна важнае значэнне ў імкненнях і жаданнях чалавека быць «на чале» і выконваць ролю «першай скрыпкі» аўтар кнігі надае таму, наколькі гэтыя імкненні і жаданні (хай сабе ў чымсьці і запраграмаваныя прыроднымі дадзенымі) суадносяцца з яго нязменнай і паслядоўнай скіраванасцю духоўна і прафесійна самаўдасканальвацца, вучыцца ў іншых, прыслухоўвацца да іхняга голасу, спасцігаць тонкія законы рознагалосся, палемічна-вострага і кампрамісанага, узаемаўзгодненага дыялогу. Вось толькі асобныя такія аўтарскія думкі і меркаванні, найчасцей выказаныя ў кароткай, лапідарна-афарыстычнай форме: «Каб заставацца лідарам, заставайцеся вучнем»; «Каб рухацца наперад, не забывайце прапускаць іншых»; «Калі вы будзеце ладзіць з людзьмі, яны таксама будуць імкнуцца жыць з вамі ў згодзе».

Канечне, нехта ў дадзеным выпадку знойдзе магчымым і мэтазгодным пашырыць тую ацэначна-вызначальную шкалу лідарскай характарыстыкі, якую прапаноўвае Д. Максвел. А некаму асобныя яго ацэнкі і вызначэнні могуць

здацца спрэчнымі, палемічнымі. Усё гэта трэба прызнаць натуральным працэсам чалавечага пазнання, дзе ў большай ці меншай ступені амаль заўжды (а ў гуманітарнай галіне навук асабліва) суб’ектыўны фактар займае прыкметнае месца ў асэнсаванні, адлюстраванні жыццёвай рэальнасці і раскрыцці духоўнай існасці чалавека. Але важкімі, сур’ёзна абгрунтаванымі ўяўляюцца доказы і меркаванні пра выключна важную ролю лідара на ўсіх этапах чалавечай гісторыі і літаральна ва ўсіх сферах жыцця і дзейнасці чалавека.

У гэтай сувязі кніга Д. Максвела заслугоўвае пільнай увагі яшчэ і таму, што развейвае сумненні (а падчас і даволі катэгарычныя сцвярджэнні), паводле якіх грамадскі статус лідара неправамерна зніжаецца ці нават зусім выключаецца з актыву генералізуючай духоўна-інтэлектуальнай і прафесіянальнай ролі ў грамадстве. На першы погляд, такія сцвярджэнні і меркаванні могуць здацца некалькі дзіўнымі, бо іх аспрэчвае і абвяргае шматвяковая гісторыя чалавецтва, важныя і ў нярэдкіх выпадках найважнейшыя кірункі якой былі прадвызначаны і абумоўлены інтэлектам, маральным патэнцыялам, воляй і прафесіяналізмам менавіта лідараў. Дастаткова назваць хоць бы такія выдатныя постаці лідарскага складу, як Альберт Эйнштэйн, Дэн Сяопін, акадэмік С. Каралёў і інш. А хіба не з’яўляюцца лідарамі і ў многім першапраходцамі ў сваёй літаратурна-мастацкай галіне А. Пушкін, Янка Купала, Якуб Колас, М. Багдановіч?..

Такія і падобныя прыклады, трэба меркаваць, добра вядомы і сучаснаму рускаму літаратуразнаўцу, доктару філалагічных навук А. Звераву. На яго думку, аднак, людзі лідарскага складу характару і лідарскіх магчымасцей з’яўляліся і жылі пераважна ў мінулым, а сёння, на цяперашнім этапе іх няма і не можа быць. «Усімі прызнаных аўтарытэтаў, — гаворыць ён, — цяпер няма — у культуры і, думаю, у грамадстве таксама. Іх і не можа быць: не таму, што ўсё змянілася, а таму, што вельмі многае змянілася вакол нас, і гэта змяніла нас саміх».

Ну што тут можна сказаць, слухаючы такога суразмоўцу? Сапраўды, кардынальныя зрухі ў сацыяльна-псіхалагічных, эканамічных, палітычных структурах рэальнасці пакідалі і пакідаюць глыбокі след і ў псіхалагічнай сферы характару чалавека, накладваючы прыкметны адбітак на яго светапогляд, светаўспрыманне і агульную сістэму рэцэпцыі і ацэначных прынцыпаў. Наш чалавек і пераважна маладое пакаленне, што нарадзілася і выхоўвалася ў новых, арыентаваных на плюралістычную і дэмакратычную аснову, умовах, у многім і на самай справе не схільны ці не вельмі настроены на тое, каб у грамадстве ўсталявалася і запанавала нейкая жорсткая дэмаркацыйная лінія падзелу паміж «вядучымі» і «вядомымі». Магчыма, што ў такіх унутраных памкненнях нашага сучасніка мае месца і рудымент непрымання таго, не вельмі аддаленага ад нашага часу савецкага мінулага, калі само слова «лідар» было не дужа ходкім у пісьменніцкім ці журналісцкім лексіконе, а калі і ўжывалася, то ў асноўным пры характарыстыцы чалавека, які знаходзіўся на самай высокай прыступцы дзяржаўнай улады.

Ніхто, напэўна, не будзе аспрэчваць думку, выказаную ў кнізе «Вялікія людзі. Энцыклапедычны слоўнік» (М., 2003): «Наш свет проста не стаў бы такім, якім ён ёсць, без гэтых людзей (Напалеона, Альберта Эйнштэйна, Дэн Сяопіна і інш. — **В. Ж.**)». У названай кнізе пераважна ўзгадваюцца людзі лідарскіх духоўна-інтэлектуальных здольнасцей другога тысячагоддзя. Трэба спадзявацца, што прырода не закрые наглуха дзверы для з’яўлення сапраўдных лідараў, людзей высокага ўзлёту думкі, тонкага пачуцця і наватарскага складу мыслення і ў бягучым тысячагоддзі. Не варта толькі забываць пра тое, што ўсё вялікае і велічнае ў лепшым сэнсе гэтага слова звычайна нараджаецца ў жыцці не толькі пад уплывам вонкавых абставін, але і шляхам вялікіх і найвялікшых духоўна-інтэлектуальных, маральных і часта фізічных намаганняў самога чалавека нават пры той умове, калі гэтаму чалавеку нешта істотна важнае ў яго псіхалагічнай і разумовай арганізацыі дадзена ад нараджэння.

Сапраўдны настаўнік (і, вядома, не толькі ў навукова-педагагічнай галіне) пры ўсіх самых выдатных задатках яго духоўна-псіхалагічнага складу — гэта, як правіла, нястомны, удумлівы і зацікаўлены працаўнік-вучань, няўхільна скіраваны на паляпшэнне, абнаўленне і сістэматызацыю раней набытых ведаў. Не можа быць выключэннем з гэтага правіла і той, каго пэўны калектыў людзей вылучае са свайго асяродку як постаць лідарскага таленту, ці нават сам такі чалавек нейкім чынам нагадвае пра сябе, каб дапамагчы людзям у асвятленні і асэнсаванні няпростых і цяжкавырашальных задач.

Сваю лідарскую дапамогу прапануе людзям, напрыклад, герой аднайменнага купалаўскага верша «Прарок» (1912), прыкладаючы вялікія старанні і намаганні запэўніць іх, што ідзе да іх «з навукай новаю» і пасланы «добрай доляй». Але людзі, як мы ведаем, на яго настойлівы і глыбока зацікаўлены голас адклікнуцца не пажадалі: да разумення і ўспрымання новай навукі і новай праўды яны яшчэ духоўна не дараслі. Аўтар шкадуе, што так сталася, бо сваю навуку яго прарок выпакутаваў, прайшоў суровую школу змагання з нягодамі і сур'ёзнага практычнага апрабавання сваёй тэорыі. Кажучы іншымі словамі, яму давялося многае паспытаць, перажыць і прайсці складаны, цярністы шлях вучня перад тым, як рашыцца выступіць у настаўніцка-лідарскай ролі. На гэты важны момант Я. Купала звяртае чытацкую ўвагу ў самым пачатку верша:

Сярод маны, сярод насмешкаў,
Знак нейкі тулячы к грудзям,
Ішоў прарок пясчанай сцежкай
З навукай новаю к людзям.

Праціўны вецер лез у вочы
І плачам пеў, як дзіцянё,
Звяр'ё зубамі йграла ўночы,
Днём выла ў небе груганнё.

А ён, не знаючы граніцаў,
Ішоў, хістаючысь наўслонь:
Агонь біў толькі з-пад зарніцаў,
Вялікіх праўд святы агонь.

Душа палала дзіўным жарам,
Бы з зораў выснутая ніць,
Што свет магла б сваім пажарам
Абвіць і к сонцу ўваскрасіць.

На жаль, як мы ведаем, людзі, якім прарок хацеў дапамагчы, яго не зразумелі. Яны нават не супраць, каб ім заплацілі, калі раптам іх наведаюць ахвота і жаданне пайсці за ім:

Па колькі ж нам дасі чырвонцаў?
Калі мы пойдзем за табой?

У гэтых радках цесна паяднаны і змітаваны сувязямі танальнасць аўтарскага смутку і досыць адкрытага іранічнага падтэксту. Такая асаблівасць кампазіцыйна-сэнсавага выяўлення мастацкай думкі цалкам апраўдана. Паэт настройвае чытача на спачувальна-эмацыйны лад адносін да свайго прарока, бо той хацеў дабра людзям, а яны ад яго адвярнуліся. Апраўданы і мэтазгодны ў вершы і тонкі мастацкі голас іроніі. Трэба ж часам неяк ускалыхаць, разварушыць чалавека і вывесці яго са звыклага стану самазаспакоенасці, калі вырашаюцца лёсаносныя праблемы многіх і нярэдка яго асабісты жыццёвы лёс.

Нягледзячы, аднак, на пэўную затрымку здзяйснення пастаўленай мэты, галоўны герой верша «Прарок», як можна зразумець, ад сваёй высокай і высака-

роднай місіі не адмаўляецца і дарэмнымі, марнымі, бескарыснымі свае ранейшыя намаганні і дзеянні не лічыць. На гэта ў творы няма нават намёку. Ды калі і дзе новае і нязвычнае ў сваіх высокіх і найвышэйшых праявах уваходзіла ў традыцыйны жыццёвы кантэкст, то лёгка, свабодна, бесперашкодна. Такое здараецца рэдка. А таму, відаць, гэты аспект мастацкай задумы твора шырока не разгортваецца. А вось майстэрству аргументацыйнай сістэмы, якая дапамагала б у падобных выпадках і аддаленым ад устаялых традыцыйных уяўленняў новым і наватарскім ідэям знайсці сцяжыну да розуму і сэрца простага чалавека, аўтар надае выключна важнае значэнне. І менавіта толькі ў святле такіх доказаў і аргументацый адпаведную вагу набывае тут і характарыстыка галоўнага героя як лідара і прарока-настаўніка. Дапушчальным і правамерным момантам аўтар лічыць у дадзеным выпадку і тую высокую пазітыўную самахарактарыстыку героя, што ў нейкіх іншых сітуацыях магла б расцэньвацца і ўспрымацца як самапахвальба і самаўзвелічэнне. Заклікаючы людзей паверыць яму і ісці за ім, ён, напрыклад, заўважае, што знае «што было, што будзе». На першы погляд, тут чалавек быццам сапраўды выходзіць за межы сціпласці. Але не будзем спяшацца з такім заключэннем і, выхопліваючы з мастацкага кантэксту твора асобную часцінку, рабіць шырока-абагулены вывад. Настройваючы даследчыцкую думку на аб'ектыўны аналіз, мы ўбачым, што свае словы пра глыбокае веданне жыцця купалаўскі прарок прамаўляе пасля таго, як пераконваецца, што названая «навукай новаю» яго тэорыя ў многім пацвярджалася канкрэтнымі і сур'ёзнымі пазітыўнымі вынікамі:

Ужо сваім аклічным словам
Прарок далёка быў вядом,
Народу шмат збудзіў к дням новым,
Даў славу братнюю братом.

Ды, напэўна, кожны чалавек, які глыбока асэнсаваў блізкую яго душы і розуму ідэю і зрабіў нешта істотнае ў яе рэалізацыі, мае падставу прыкласці і адпаведныя намаганні, каб пашырыць прастору функцыянавання гэтай ідэі ў рэальным жыцці. Натуральна, што выяўляючы вядучую, лідарскую ролю, такі чалавек звычайна разлічвае на паразуменне іншых, на маральную, духоўную, а часам і матэрыяльную іх падтрымку. Менавіта ў падобных сітуацыях і адкрыта-публіцыстычнае слова (іншы раз нават з падкрэслена-ўхвальным акцэнтам характарыстыкі ці самахарактарыстыкі персанажа настаўніцка-лідарскай арыентацыі) не з'яўляецца парушэннем законаў логікі і не ўспрымаецца як самаўсхваленне і самаўзвялічванне чалавека. Важна толькі не памыліцца ў сваіх ацэнках і дакладна зразумець моц падмурка, на якім чалавек засноўвае сваё права ці свае памкненні на лідарскую ролю.

Таленавітае мастацкае слова ў сваім дыялогу з чытачом пра гэта ніколі не забывала. На параўнальна-тыпалагічны аналіз з купалаўскім «Прарокам» напрошваецца, як нам уяўляецца, шырокавядомы верш А. Пушкіна «Я памятник себе воздвиг нерукотворный…» (1836). Пушкін, як і галоўны безыменны герой верша Купалы «Прарок», таксама досыць акцэнтавана вылучае і падкрэслівае сваю ролю першай асобы, што ў семантычным і сінанімічным значэнні суадносіцца са словам лідар.

Іншы раз можа нават здавацца, калі браць пад увагу тры першыя страфы гэтага твора, што аўтар ці не занадта адкрыта-публіцыстычны і не зусім сціплы ў самаатэстацыі ўласнай асобы. Працытуем хоць бы першую страфу пушкінскага верша:

Я памятник воздвиг себе нерукотворный,
К нему не зарастет народная тропа,
Вознесся выше он главою непокорной
Александрийского столпа.

Не скупіцца А. Пушкін, калі можна так сказаць, на высокую атэстацыйную форму такой самахарактарыстыкі і ў дзвюх наступных вершаваных строфах. І, напэўна, чытач, нягледзячы на высокі аўтарытэт і шырокія паўнамоцтвы слова і дзеяння геніяльнага паэта, у нейкай меры ўсё ж мусіў бы настроіцца на думку аб

наяўнасці ў вершы Пушкіна адзнак аўтарскага самаўзвелічэння пры той, аднак, умове, калі б трэцяя страфа з'яўлялася і завяршальным сюжэтна-кампазіцыйным складальнікам твора:

Слух обо мне пройдет по всей Руси великой,
И назовет меня всяк сущий в ней язык,
И гордый внук славян, и финн, и ныне дикой
Тунгуз, и друг степей калмык.

Пушкін, канешне, дапускаў такі варыянт чытацкага ўспрымання і чытацкай інтэрпрэтацыі свайго твора. Прытым нямала было ў геніяльнага паэта і чытачоў-крытыкаў, чытачоў-інтэрпрэтатараў, якія гатовы былі ў любы момант падаць яго творы ў тэндэнцыйна-зніжанай трактоўцы, а заадно кінуць цень і на самога аўтара як чалавека і грамадзяніна. Зразумела, тэндэнцыйна-праўдзівую думку не заўсёды спыняюць і не дужа пераконваюць і важкія грунтоўныя довады, але на яе шляху ўсё ж тут знаходзіцца сур'ёзная перашкода — глыбока-прачулае, публіцыстычна-палкае і мастацка-вобразнае паэтычнае слова, у асноўным сканцэнтраванае ў чацвёртай страфе:

И долго буду тем любезен я народу,
Что чувства добрые я лирой пробуждал,
Что в мой жестокий век восславил я свободу
И милость к падшим призывал.

Не выключана, што ў гэтым чатырохрадкоўі мае месца і зашыфраваны, падтэкставы голас аўтарскай палемікі, скіраванай менавіта ў адрас тых, хто хацеў бы на свой, прадузята-тэндэнцыйны лад трансфармаваць словы паэта пра яго вядучую, лідарскую ролю ў літаратурна-грамадскім жыцці краіны і ўбачыць тут нясціплую праяву самаўзвялічвання і самапахвальбы. Пушкін, як нам уяўляецца, мае намер сказаць кожнаму, тэндэнцыйна запраграмаванаму ці паспешліва настроенаму ў вывадах і заключэннях чалавеку: сапраўды, я адкрыта і нават падкрэслена акцэнтавана гавару пра сваю вялікую і ў многім вядучую ролю ў рускай літаратуры, але ў мяне ж ёсць і немалое права так сказаць, бо ў драматычна-трагедыйны, «жестокий век» я адважыўся «восславить свободу» і высока ўзняў ідэю і мастацкую планку гуманізму — паэтычнай лірай абуджаў «чувства добрые» «и милость к падшим призывал».

Апроч таго, Пушкін мог бы, абараняючы свой чыста чалавечы і літаратурны лідарскі імідж, прывесці і шэраг іншых сур'ёзных прычын і матываў-стымулаў, з дапамогаю якіх яму давялося, пераадольваючы шматлікія перашкоды, пракладваць наватарскі шлях у рускай літаратуры і скіраваць гэты індывідуальны мастацкі пошук у рэчышча агульначалавечага маральна-этычнага і эстэтычнага інтарэсу. І, відаць, ён не абышоў бы таксама і таго вялікага матывацыйнага ўплыву і дэтэрмінантнага значэння нацыянальных і сусветных літаратурных традыцый у яго паэтычным развіцці і станаўленні. Пра гэта ў вершы «Я памятник себе воздвиг нерукотворный» не згадваецца, затое ў шэрагу літаратурна-публіцыстычных артыкулаў паважлівае, а падчас і падкрэслена-піетэтнае стаўленне Пушкіна да мастацкай традыцыі, як аўтарытэтнай, мудрай і дапаможнай настаўніцкай сілы ў яго асабістай творчай працы раскрываецца досыць выразна. І нідзе, ніколі ён не сказаў, што літаратурная традыцыя, а тым болей мастацкае слова папярэднікаў калі-небудзь перашкаджалі яму стаць лідарам, наватарам-першапраходцам у літаратуры.

Мы зноў закранаем тут пытанне літаратурных традыцый і наватарства невыпадкова, бо яно і сёння з'яўляецца актуальным і ў многім вострапалемічным. У залежнасці ад таго, як гэта пытанне стане вырашацца на каардынатах тэорыі і літаратурнай практыкі, у многім будзе выяўляць і сваю ключавую эстэтычную сутнасць пісьменніцкая думка і складвацца агульны малюнак літаратурнага працэсу. Хацелася б, вядома, каб у гэтай дыялагічнай бінарнай сістэме «традыцыі-наватарства» паболей наглядалася ўзаемападтрымкі, узаемаразумення, уза-

емапавагі, узаемазалежных сувязей і меней адгукалася рэзкае і непрымірымае разыходжанне творчых поглядаў, канцэпцый, метадалагічных падыходаў, хоць гэта зусім не азначае, што тут павінны назусім знікнуць усякія праявы нязгоды, палемікі, супярэчнасцей і г. д. Літаратурная традыцыя «не ўпаўнаважана» нейкім вярхоўным законам жорстка і няўмольна дыктаваць сваю волю даследчыцкаму і эксперыментальна-пошукаваму інтарэсу наватарскай думкі. Але ж і сама такая думка таксама не мае падстаў агулам адхіляць традыцыю і яе вякамі выверання маральна-этычныя і эстэтычныя каштоўнасці. А такая з'ява ў літаратуры нярэдка назіралася ды і сёння яе яшчэ не назавеш мастацкім рудыментам. І, як вядома, больш дэтэрмінуе і фарміруе такую з'яву ў цяперашні час постмадэрнісцкая літаратурная плынь. Менавіта з гэтага боку ў апошнія 20 гадоў сыходзіла пераважная большасць памкненняў, скіраваных заняць пануючае лідарскае месца на літаратурным полі і адсунуць на задні план функцыянальнае значэнне традыцыйнага літаратурнага вопыту. Зыходзячы з такіх тэарэтыка-метадалагічных установак, некаторыя прадстаўнікі постмадэрнісцкага кірунку (яны добра вядомы тым, хто цікавіцца станам сучаснага літаратурнага жыцця), знаходзілі нават паэтыку нашай класікі ўстарэлай і далёкай ад сучасных запатрабаванняў эстэтыкі і актуальных наватарскіх задач прыгожага пісьменства. Падчас тут называліся і канкрэтныя персаналіі нашых класікаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Закранаючы гэта пытанне, хацелася б абаперціся на тыя высновы, да якіх прыходзіць крытык і літаратуразнаўца А. Зенкін, даследуючы мастацкія плыні мадэрнізму і постмадэрнізму ў рускай літаратуры на сучасным этапе яе развіцця. Так, у артыкуле «Постмадэрнізм: 20 год пасля» (Лит. газета. 2012. 25 апр. — 1 мая.) ён заўважае, што пры разглядзе твораў мадэрнізму і постмадэрнізму адэпты гэтага напрамку ў галіне літаратурнай тэорыі і мастацкай практыкі найчасцей звяртаюць увагу на размежаванні і разрывы яго сувязей з традыцыямі і ў тым ліку з класічнымі асновамі літаратуры. А гэта, на погляд літаратуразнаўцы, не зусім дакладны і прадуктыўны ацэначны падыход, бо нярэдка абмінаюцца найбольш яркія і выразныя аспекты развіцця наватарскіх тэндэнцый у сферы літаратурных традыцый, а за галоўны факт абагульненняў бярэцца тое, што звязваецца з паняццем шырыні, напорыстых і нярэдка катэгарычна-амбіцыйных аўтарскіх заяў, маніфестацый са з'явамі ўчарашняга дня і незваротна пройдзенымі этапамі мастацкай думкі. Паводле А. Зенкіна, па-сапраўднаму таленавітыя мадэрнісцкія і постмадэрнісцкія тэксты, «дзе мадэрнізм і постмадэрнізм, знаходзяцца на пэўных лініях ва ўнутраным супрацьдзеянні і супрацьстаянні з класікай, на самай справе і сёння акумуліруюць у сабе спробу развіваць яе задачы. І тут няма ніякага абсурду».

Гэта меркаванне, на наш погляд, заслугоўвае ўвагі і падтрымкі. Толькі вось само слова «абсурд» у працытаваным кантэксце ўжыта не зусім дакладна. Больш правільным, відаць, сказаць, што і высокія формы літаратурнага наватарства звычайна ніколі спрэс не адхілялі і не закрэслівалі грунтоўную логіку законаў плённай мастацкай традыцыі і класічнага мастацтва, хоць гэта, пра што мы ўжо нагадвалі, не азначае, што таленавітая і нават геніяльная мастацкая традыцыя ўвасабляе нейкую цалкам закончаную ідэю пазнання, асэнсавання і адлюстравання жыцця і чалавека. Такога ніколі не было і не можа быць. Той жа даследчык мадэрнізму і постмадэрнізму А. Зенкін справядліва заўважае, што «нават тытаны думкі не валодаюць абсалютнай ісцінай і яе даводзіцца няспынна шліфаваць, развіваць і ўдакладняць». Але з ім нельга не пагадзіцца, калі ён гаворыць, што самая смелая і рашучая ў сваіх наватарскіх рухах мастацкая думка, нярэдка вельмі сур'ёзна палемізуючы з літаратурнай традыцыяй, не абмінаючы ў тым ліку і класіку, часта і даволі шчодра карысталася (вядома, у трансфармаваным і перапрацаваным выглядзе) яе энергетычным рэсурсам ідэй і паэтыкі, павялічваючы і ўзмацняючы такім чынам, уласную эстэтычную адметнасць наватарства формы і зместу мастацкага твора.

Цікавыя і, як нам уяўляецца, метадалагічна карысныя меркаванні ў паглыбленым асэнсаванні праблемы традыцый і наватарства мы можам знайсці ў кнізе выдатнага іспанскага мастака-сюррэаліста Сальвадора Далі «Тайнае жыццё Сальвадора Далі, напісанае ім самім» (у перакладзе на рускую мову яна ўпершыню

з'явілася ў 1991 г.). На асобных старонках аўтар вельмі настойлівы, адкрыта-публіцыстычны і завострана-палемічны ў выяўленні сваіх правоў на лідарства ў абранай ім галіне сюррэалістычнага мастацтва, якое прапаноўвала і сцвярджала ў многім нязвыклую для традыцыйнай рэалістычнай сістэмы метадалогію і своеасаблівы, адметны для гэтага творчага кірунку наватарскі характар паэтыкі. Натуральна, што Сальвадору Далі, як і кожнаму першапраходцу і першаадкрывальніку, хацелася б хутчэй пашырыць пляцоўку сваіх эстэтычных наватарскіх пачынанняў і займець як мага болей прыхільнікаў. Адсюль у яго разважаннях на гэту тэму даволі часта можна сустрэць эпітэты і вызначэнні, у якіх гучыць заклікальна-ўзвышаная інтанацыя і падкрэсліваецца выключна важная функцыя сюррэалізму ў кантэксце іншых мастацкіх плыней, напрамкаў, тэндэнцый. Тыя, аднак, хто не прымаў гэты наватарскі пошук і рэальнае выяўленне яго ў мастацкай сюррэалістычнай сістэме, імкнуліся даць такой з'яве зусім іншую інтэрпрэтацыю. На іх погляд, Сальвадор Далі — упарты, зацяты праціўнік духоўнай спадчыны народа, мастацкага набытку мінулых часоў, а ў дадатак да ўсяго ён нібыта яшчэ не вельмі паслядоўны і падрыхтаваны чалавек у палітыка-ідэалагічным і эстэтычным плане, бо мастацкая рэальнасць паводле яго метадалагічнай канцэпцыі — гэта не толькі ўвасабленне і трансфармацыя жыццёвай канкрэтыкі ў набліжаных да самога жыцця формах, але і ў многіх іншых выявах, структурах, з адчувальнай перавагай у іх малюнкаў, фарбаў і ліній сімволікі і падтэксту.

Такая размаітасць метадалагічных падыходаў, як вядома, ішла насуперак у пэўным сэнсе галоўнаму патрабаванню метадалогіі сацыялістычнага рэалізму, дзе доўгі час панавала тэарэтычная ўстаноўка на паказ жыцця ў адэкватных ці набліжаных да самой рэальнасці формах. Зразумела, што ў межах крытэрыяў такой тэорыі і метадалогіі мастацкая творчасць Сальвадора Далі выглядала нейкай іншароднай, мудрагелістай і нават ідэалагічна шкоднай з'явай, якая быццам бы заключала ў сабе «актыўнае процідзеянне сітуацыям і ўзаемасувязям прадметаў рэальнага свету» і «прапагандысцкае рэакцыйнае ўяўленне аўтара аб бессэнсоўнасці быцця». Як гэта не можа здацца дзіўным і парадаксальным, словы, узятыя ў двукоссе ў папярэднім сказе, чытач знойдзе ў артыкуле, надрукаваным у салідным энцыклапедычным выданні.

Сёння мы жывём у іншым часе. Па-іншаму прачытваецца і ацэньваецца цяпер і творчая спадчына вядучага сюррэаліста, выдатнага мастака-наватара Сальвадора Далі, для якога самыя сур'ёзныя формы палемікі з мастацкай традыцыяй ніколі не пераасталі ў адмаўленне, ігнараванне ці закрэсліванне яе фундаментальных асноў і пастаянных, на працягу многіх стагоддзяў, эстэтычных прыкмет, законаў і прынцыпаў. Звернем увагу хоць бы на такія, як нам здаецца, важныя і актуальныя і для нашага літаратурна-грамадскага часу меркаванні Далі ў разуменні праблемы ўзаемасувязей традыцый і наватарства, класічнага літаратурнага вопыту і індывідуальнай творчай ініцыятывы:

«Я наогул маю звычай дзейнічаць самым парадаксальным чынам, і ў той жа час я адзіны ў Мадрыдзе мастак-кубіст, які прагне дасканала вывучыць малюнак, колер, перспектыву і чакае ад прафесараў акадэмічнай вывучкі».

«*Класіка* — гэта значыць, што ў творы мастацтва ўжо ёсць усё — тое ўсё, што адусюль, але гэтаму ўсяму абсалютна дакладна вызначана месца ў найстражэйшай іерархіі, якая так арганізуе шэдэўр, што ніякая дэталька (а імя ім легіён) не лезе ў вочы. Класіка — гэта цэласнасць, космас, вера, а не раздробленасць, не хаос і не цынізм… *Мой жа зварот да Традыцыі быў натуральным вынікам атрыманай мной перамогі над ірацыянальным»*.

«Слава першага сюррэаліста нічога не варта. Я прышчаплю сюррэалізм да дрэва Традыцыі. Я павяду сваю фантазію дарогай класікі… Я адваюю самае галоўнае».

«Высокая Традыцыя — вось адзіная рэальнасць, вось мая вера».

Гэтыя вытрымкі з кнігі Сальвадора Далі — толькі маленькая часцінка мастацкага тэксту гэтага твора, дзе на высокую ступень значнасці ўзводзіцца роля мастацкай традыцыі як найважнейшай дэтэрмінантнай сілы ў працэсе новых наватарскіх пошукаў, шляхоў і падыходаў у літаратуры і мастацтве. Прытым само слова «Традыцыя» прасякнута высокім аўтарскім піетэтам і часта пішацца

з вялікай літары. Нам нават здаецца, што і сваю аб'ёмную літаратурна-мастацкую працу, якая ў чымсьці нагадвае дакументальна-мемуарную жанравую форму рамана, найбольш настроіла і натхніла аўтара напісаць не столькі жаданне тэарэтычна абгрунтаваць, умацаваць метадалагічныя асновы паэтыкі сюррэалізму, колькі лішні раз нагадаць, што ігнараванне мастацкіх традыцый і асабліва іх вяршынных, класічных дасягненняў можа нанесці *непапраўную шкоду і некласічным формам і метадам творчай думкі.*

Гэта меркаванне Сальвадора Далі не страціла сваёй актуальнасці і ў наш час. Цяпер, як мы ўжо гаварылі, спасылаючыся на досыць аўтарытэтныя крыніцы, найболей прадуктыўныя пошукі і рэальныя здабыткі ў галіне такога творчага кірунку ў літаратуры, як постмадэрнізм, наглядаюцца там, дзе пісьменніцкая думка гэтай літаратурнай плыні, знаходзячыся і ў палемічным, а нярэдка даволі рэзкім і вострым стаўленні нават да самой класікі, усё ж улічвае яе мудрыя галасы, трансфармуе і развівае некаторыя важныя аспекты яе паэтыкі і эстэтыкі, хоць адзнакі і праявы такой з'явы найчасцей завуаляваны ў разнастайных формах і варыянтах асацыяцый, апасродкаваных сувязей, сімволіка-алегарычнай вобразнасці і падтэксту. Без усякіх агаворак можна сказаць, што гэта праблема для нашай айчыннай навукі аб літаратуры ў многім застаецца яшчэ terra incognita. А таму так проста і часта залішне лёгка рухаецца на гэтым прамежку літаратурнага працэсу шкала ацэначных крытэрыяў і ацэнак літаратурных з'яў, калі ў шэрагу выпадкаў празмерна шырокія паўнамоцтвы бярэ на сябе суб'ектыўная ці адкрыта суб'ектывісцкая тэндэнцыя, адсоўваючы на задні план аб'ектыўны і непрадузяты ацэначны погляд як нешта малазначнае і малаістотнае ў адлюстравальна-пазнавальным працэсе рэальнасці.

Методыка і метадалогія выяўлення новых і найноўшых ці, як цяпер кажуць, постмадэрнісцкіх літаратурных кірункаў у іх дачыненні да мастацкай традыцыі могуць быць вядома, самымі разнастайнымі. Але найбольш перспектыўныя вынікі даследчыцкай думкі бачацца на шляхах уключэння ў арбіту творчага пошуку тых, як мы сказалі, па-свойму ўстойлівых і непарушных эстэтычных асноў, што не даюць плённай мастацкай традыцыі і сапраўднаму наватарству, у тым ліку і таленавітаму постмадэрнісцкаму пісьменніцкаму слову, назусім разысціся ў розныя бакі і назаўжды размежавацца нават у перыяды абвостранай палемікі і нязгоды паміж імі. У рэшце рэшт толькі з улікам гэтых, больш ці менш устойлівых і не падуладных хуткаплынным зменам дамінантных элементаў мастацкай традыцыі адкрываецца магчымасць шырэй і глыбей паглядзець на сам працэс наватарскага пошуку, яго канкрэтныя вынікі і быць больш дакладнымі ў ацэнках рэальных эстэтычных асаблівасцей наватарства. Бо аб'ектыўнасць нашых ацэнак самым сур'ёзным чынам можа быць пацверджана і вызначана тут з дапамогай параўнальна-тыпалагічнай метадалогіі асэнсавання і вывучэння літаратурных з'яў.

Гэта, відаць, найперш і меў на ўвазе доктар філасофскіх навук Я. Краткоў, які, асэнсоўваючы мнагавектарны рух і поліфанію гуманітарнай думкі на сучасным этапе ў артыкуле «Мноства светапоглядаў — тэрыторыя канфліктаў» асабліва вылучае думку пра важнасць і неабходнасць у вывучэнні і даследаванні праблемы наватарства быць вельмі ўважлівым і непаспешлівым у выяўленні ўстойлівага і не падатлівага да хуткіх змен і трансфармацый патэнцыялу традыцыі. «Я нічога не бачу кепскага ў тым, — гаворыць ён, — што на розных этапах свайго жыцця чалавек знаходзіць апору ў розных ісцінах. Але агульназначныя каштоўнасці застаюцца непарушнымі, нязменнымі. Яны маюць патрэбу ў абароне і падтрымцы, у тым ліку і тваёй».

Сапраўды, жыццё ніколі не скупілася на сустрэчы чалавека з сітуацыямі, дзе ад яго патрабаваўся прамы, непасрэдны ўдзел у абароне агульназначных, выверaных вякамі каштоўнасцей, як найважнейшай передумовы спасціжэння ісціны ў яе глыбіннай сутнасці. Гэта роля застаецца за чалавекам і тады, калі нехта, нават асоба з аўтарытэтнай грамадскай рэпутацыяй і грунтоўным духоўна-інтэлектуальным лідарскім патэнцыялам, здавалася б, усё прадумала, прадвызначыла, прадвырашыла наўперад, і чалавеку трэба нібыта толькі паслухмяна ісці за ёю. Але ж *пра ўсё*, як некалі слушна заўважыў А. Адамовіч, *ведаюць усе*. І з ім нельга не пагадзіцца.

Віктар СІДАРЭНКА

# ПРА ЯКУБА КОЛАСА — ДЗЕЦЯМ

**Браніслаў ЗУБКОЎСКІ. Сцяжынкамі Якуба Коласа.** *Апавяданні. Мн.: Літаратура і Мастацтва, 2012.*

Мінулы год багаты на выданні, прысвечаныя народнаму песняру Якубу Коласу. 130-годдзе з дня ягонага нараджэння стала знамянальнай датай не толькі ў літаратурным, а і грамадскім жыцці краіны. Таму выдавецтвы і парупіліся, каб падрыхтаваць да юбілею чытачам свае падарункі. Не засталася ў баку і Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва». Прынамсі, пабачыла свет кніга апавяданняў Браніслава Зубкоўскага «Сцяжынкамі Якуба Коласа», адрасаваная дзецям сярэдняга школьнага ўзросту. Але, несумненна, аўдыторыя ў яе будзе куды шырэйшая.

З задавальненнем прачытаюць кнігу і старшакласнікі, найперш тыя з іх, хто любіць беларускую літаратуру, марыць атрымаць філалагічную адукацыю. У такім разе ім не лішне даведацца пра тое, чаго ў падручніках не знойдзеш. Асобныя гісторыі выклічуць цікавасць і ў малодшых школьнікаў. Асабліва тады, калі з тым ці іншым апавяданнем пазнаёмяць дзяцей бацькі ці настаўнікі, не ў апошнюю чаргу ў час пазашкольных заняткаў.

Выкладчыкі ж Пухавіччыны змогуць з карысцю для сябе (гэтаксама, як і з карысцю для сваіх выхаванцаў) зрабіць кнігу Б. Зубкоўскага настольнай пры правядзенні краязнаўчых заняткаў. Калі звесці тэматыку твораў да нейкага аднаго знамянальніка, то гэта будзе выглядаць так: Якуб Колас і Пухавіччына. Што за гэтую тэму ўзяўся менавіта Б. Зубкоўскі — невыпадкова. На гэта паўплывалі дзве ўзаемазвязаныя прычыны.

Як вядома, Пухавіччына — адна са значных старонак у біяграфіі народнага песняра. Парадніўся з гэтым кутком Беларусі Канстанцін Міхайлавіч яшчэ ў першай палове 30-х гадоў мінулага стагоддзя. Адбылося гэта дзякуючы таму, што ён упадабаў тамашнія мясціны як месца для адпачынку.

Кожнае лета з сям'ёй наведваўся сюды. Аднак, у якой бы вёсцы ні быў — у Загібельцы ці Вусці, Беразянцы альбо Балачанцы, не проста бавіў вольны час, а і любіў пакупацца ці парыбачыць, схадзіць у грыбы, якіх у мясцовых лясах расло шмат. Сустракаўся з тутэйшымі жыхарамі, шмат гутарыў з імі. Дзядзьку Коласа палюбілі і дзеці. Гэтаксама, і ён любіў іх. Пазней некаторыя з тых, з кім народны пясняр кантактаваў, сталі прататыпамі асобных персанажаў ягоных твораў.

Апроч таго, Б. Зубкоўскі родам з Пухавіччыны. Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, узначальваў адну са школ. Цяпер жыве ў горадзе Мар'іна Горка. Абышоў Коласавы мясціны, як кажуць, уздоўж і ўпоперак. Меў магчымасць сустракацца з тымі, хто памятаў Канстанціна Міхайлавіча. Ад іх і даведаўся пра Коласа нямала такога, што дазваляе глыбей пранікнуць у свет народнага песняра, лепш зразумець, якім чалавекам ён быў, як паводзіў сябе ў паўсёдзённасці.

Спакваля згадкі ад гэтых сустрэч былі асэнсаваны, арганічна ўвайшлі ў сюжэтную структуру апавяданняў Б. Зубкоўскага. Змешчаныя ў перыёдыцы, яны мелі нямала станоўчых

водгукаў. Гэта падштурхнула пісьменніка да далейшай распрацоўкі Коласавай тэмы. Так з-пад ягонага пяра з'явіліся новыя творы.

Усяго ў кнізе «Сцяжынкамі Якуба Коласа» змешчана дваццаць апавяданняў. Невялікіх памерам, лаканічных, як таго і вымагаюць творы для дзяцей. Разам з тым гэтыя апавяданні багатыя зместам, такія, што абавязкова прыносяць штосьці новае ў лепшае спасціжэнне жыцця Коласа, асобных момантаў ягонай творчасці. У той жа час яны дазваляюць адчуць, наколькі чалавечным быў Канстанцін Міхайлавіч, як ягонае сэрца поўнілася дабрынёй і спагадай. А яшчэ пераконваюць у тым, якім дасведчаным ён з'яўляўся ва ўсім.

Узяць хоць бы апавяданне «Як вогнікі зніклі», якім адкрываецца зборнік. Сюжэт твора не такі і складаны. Хлапчук Міколка, на кватэры ў бацькоў якога спыніўся тым летам Колас, «нёс у хату дровы з хлеўчыка дый пасліznуўся. Упаў, руку вывіхнуў». Канстанцін Міхайлавіч дапамог яму, выправіў вывіх. Аднак і пасля гэтага Міколка кволіўся. А тут яшчэ «плямы ружовыя на целе хлапчука выступілі. Губы ў вогніках». Урачу б паказаць Міколку. Ды бальніцы ў Загібельцы не было, яна ў Тальцы знаходзілася. Канстанцін Міхайлавіч і гэтым разам узяўся дапамагчы: «Накапаў на балоце карэньчыкаў тапянай сушаніцы, прамыў, апусціў у гладыш, заліў гарачай вадой. Праз гадзіны тры змазаў Міколку губы змочанай ў адвары ваткай. Пад вечар зноў паўтарыў лячэнне. Вогнікі пад раніцу наступнага дня зніклі».

Аказваецца, лекарскія навыкі ў Коласа былі яшчэ з маленства. Пра гэта ён сам прызнаўся маці хлопчыка: «У нашай сям'і дзеці часта хварэлі. [...] Маці мая, Ганна Юр'еўна, ратавала нас. Адварам траў лячыла. От я і запомніў з дзяцінства. Мята добра хворыя бронхі лечыць, крапіўка апетыт прыбаўляе. А калі сэрца баліць, трэба пустырнік заварыць […]».

У апавяданні ж «Сямейная рэліквія», якое завяршае кнігу, удала спалучаны дзень учарашні і сённяшні. Галоўны герой твора хлапчук Паўлік. Як і большасць сучасных дзяцей, ён гарэзлівы, у меру свавольны, вялікі выдумшчык. Разам з сябрамі і дадумаўся свой «аркестр» стварыць. Слова гэтае невыпадкова ўзята ў двухкоссе. Свавольнікі на ўроку матэматыкі пачалі дзьмуць у пенал. Аднак настаўнік Пётр Іванавіч аказаўся добрым педагогам. Ён па-свойму знайшоў выйсце з такой неардынарнай сітуацыі. Выклікаў хлопчыкаў да дошкі і прапанаваў ім сыграць... «Кацюшу». Дый яшчэ нават дырыжыраваў ім.

Можа ўзнікнуць пытанне, а якое дачыненне да гэтай гісторыі мае Колас? Ды Паўлік, калі расказаў дзядулю пра свой «аркестр», пацікавіўся, а які пенал быў у яго, калі ён у свой час таксама ў школу хадзіў. Дзядуля адказаў які.

«— Драўляны? — здзівіўся Паўлік.

Такога пенала ён не бачыў.

— У пенале там ямінка ёсць. Я туды сцірку клаў, — прызнаецца дзед».

Аднак самае нечаканае было наперадзе:

«Дзядуля сціх, прыгадаўшы гады маленства. Затым узняўся з канапы і накіраваўся да бабулінага куфэрка. Дастаў адтуль пацямнелы, у высахшых чарнільных плямінках драўляны пенал.

— Гэта сямейная рэліквія, Паўлік. Даўно я чакаў гэтай хвіліны, — не мог стрымаць хвалявання дзед Алесь. — Дару табе, — працягнуў ён пенал унуку».

Згаданыя творы — «Як вогнікі зніклі» і «Сямейная рэліквія» — як бы абрамляюць усе астатнія апавяданні, даючы зразумець, што гэта не проста зборнік твораў «малога жанру», а менавіта кніга, аб'яднаная адзінствам задумы. Кожнае апавяданне дадае нешта новае да біяграфіі народнага песняра. Найчасцей гэта невялікія штрыхі, але не трэба забываць, што за ўсім паўстае постаць аднаго з самых выдатных нацыянальных геніяў, у жыцці якога няма дробязей. Дый не магло іх быць. Тым больш цікавымі гэтыя згадкі будуць для дзяцей. Асабліва ў такіх апавяданнях, што не проста чытаюцца з інтарэсам, а і выклікаюць на роздум. Як, напрыклад, апавяданне «Загібелька лепш Парыжа».

У аснову твора пакладзены факт, які меў месца ў сапраўднасці. У чэрвені 1935 года Колас прымаў удзел у рабоце Сусветнага кангрэса абароны культуры, што праходзіў у Парыжы. На ім Канстанцін Міхайлавіч выступіў з прамовай. Сведкам таго, як ён рыхтаваўся да гэтай адказнай паездкі, стаў і Міколка. Той самы, якога Колас лячыў («Як вогнікі зніклі»). Зразумела, што хлопчык хоча даведацца, што ўяўляе сабой невядомы яму Парыж:

«А ў Парыжы рака і лес ёсць? — пацікавіўся Міколка.

Дзядзька Якуб ніколечкі не здзівіўся пытанню:

— Лес у іх маецца, Булонскі. Французы так яго называюць. А ці растуць там, браце, грыбы — не ведаю. Сена ў іх ёсць, — дадаў дзядзька Колас».

Праўда, Міколка найменне «Сена» ўспрымае па-свойму: «[...] яго і ў іх пуні дастаткова. З мінулага года засталося. Летась дзядзька Якуб спаў на сенавале, казаў, што лепшага месца на ноч для адпачынку не знойдзеш. Не мулка, не душна. А ў Парыжы тым, можа, і парна, і такой прахалоды, як у Загібельцы, няма». Таму Колас мусіць патлумачыць яму, што Сена «[…] — гэта рака. На Сене Парыж стаіць».

У апавяданні відавочны пазнавальны момант. Адначасова ў творы гучаць і патрыятычныя матывы. Яны даюць аб сабе знаць пасля таго, як народны пясняр вяртаецца з Парыжа. Дакументальны акцэнт узмацняецца. Паколькі «пільныя грамадскія справы чакалі […] у сталіцы», Колас адразу накіраваўся ў Мінск. Там ён сустрэўся з Кандратам Крапівой, «расказаў яму, як сумаваў па Загібельцы». Кандрат Кандратавіч на гэта адгукнуўся эпіграмай. Колас жа ў адказ на сяброўскі жарт напісаў верш «Загібелька», у якім ёсць і такія радкі:

Калі агледзіш хвайнякі
І гэты кут пазнаеш бліжай,
Збіраючы баравікі. —
То вывад я раблю такі:
Мне Загібелька лепш Парыжа.

Апавяданні «Сакрэты без сакрэтаў», «Як баравікі на пнях выраслі», «Коласаў грузавічок» і іншыя таксама важкія сваім выхаваўчым эфектам. Сярод іх вылучаецца «Лясны мураш загадаў». Гэты твор сведчыць пра тое, што Колас, будучы добрым, спагадлівым, калі ўзнікала на тое неабходнасць, праяўляў характар. Так адбылося, калі хворую дзяўчынку Ганначку везлі ў бальніцу: «Але да гравійкі не даехалі. Заграз легкавічок, забуксаваў, глыбока засеўшы ў калдобінах».

Шафёр хацеў ссекчы сасонку, каб падважыць машыну, ды Канстанцін Міхайлавіч не дазволіў губіць дрэва, а пайшоў гукаць хлопцаў, якія б дапамаглі. Калі ж вярнуўся разам з імі, вельмі здзівіўся: машына ўжо стаяла на цвёрдай дарозе. Шафёр пахваліўся:

«Я ўвесь мурашыны стажок сюды перацягнуў. Можа, вёдраў якіх пятнаццаць. […] Вунь з таго сасонніку». Пасля гэтага ўчынку шафёр быў звольнены. З Ганначкай у Коласа адбылася такая размова:

« — А дзе той вясёлы дзядзечка, што ў бальніцу мяне вазіў?

— Яго ў сасонніку мурашы запынілі і не пускаюць нікуды. Так ім галоўны лясны мураш загадаў.

— І не адпусцяць? — устрывожылася Ганначка.

— Можа, і адпусцяць, калі ўсе лясныя мурашы даруюць яму...»

Паўтаруся: кніга «Сцяжынкамі Якуба Коласа» — з тых, якія не могуць быць не запатрабанымі. Пры тым з ёй пазнаёміцца розная чытацкая аўдыторыя. Заўвага аўтару толькі адна: у апавяданнях сустракаюцца словы, што ўжываюцца не так і часта. Ёсць і мясцовыя, дыялектныя. Зразумець сэнс іх дзецям цяжка. Таму не лішне было б змясціць у канцы невялічкі тлумачальны слоўнік. Але гэта ў пэўнай ступені і пажаданне на будучае. Упэўнены, што кніга Б. Зубкоўскага з цягам часу будзе перавыдадзена. Ва ўсякім разе на гэта хацелася б спадзявацца.

Алег ЯЦУК

# ШАНЫ СТАШАНАМ. І НЕ ТОЛЬКІ...

**Анатоль ШУШКО. Шаны.** Зборнік вершаў. *Мн.: Мінкапрынт, 2012.*

Варлен Бечык у 1981 годзе ў артыкуле «Набыццё вышыні» пісаў: «У жніўні 1971 года газета “Літаратура і мастацтва” надрукавала вершы Анатоля Шушко, семнаццацігадовага выпускніка-школьніка з палескай вёскі Сташаны. Якой важкай і цікавай творчай заяўкай здаліся вершы гэтага юнака! Былі ў іх і маладая ўсхваляванасць жыццём, і раздумная дапытлівасць, і назіральнасць, і псіхалагічная чуйнасць. Праглядвалі даволі выразныя рысы асабістасці, уласнага светаадчування. Малады паэт, зусім пачатковец дамагаўся не абы-якой шматмернасці і ўнутранай паўнаты ў паказе і асэнсаванні жыцця. [...] Заставалася толькі памнажаць набыткі, ісці па гэтак удала распачатым шляху...»

Гэтыя радкі вынесены на чацвёртую старонку кнігі А. Шушко з крыху дзіўнай назвай «Шаны». Другой па ліку. Першая «Выток і прычасце» выйшла ў 1994 годзе ў серыі «Бібліятэка часопіса “Маладосць”». Віктар Гардзей, прадстаўляючы яе чытачу, адштурхоўваўся і ад згаданай публікацыі Варлена Леанідавіча: «Першыя, яшчэ са школьнай лаўкі, вершы Анатоля Шушко заўважыў і шчыра падтрымаў незабыўнай памяці Варлен Бечык. З таго часу прайшло нямала летаў і зім, але малады паэт не дужа часта паказваўся “на людзі” — падборка ў “Маладосці”, падборка ў “ЛіМе”, ды зрэдзь яшчэ сям-там, хаця вершы пісаць ён ніколі не кідаў. Памяркоўны і сціплы па натуры, уражлівы і назіральны хлапчына з палескай вёскі Сташаны настойліва шукаў (шукае і цяпер) выток беларускіх крыніц, роднай мовы, чалавечай дабрыні і злыбеды, а таксама “воблік неразгаданага шчасця ў неспатольнай шчодрасці прычасця”. Сваю першую кнігу так і назваў “Выток і прычасце”. Два зусім розныя па семантыцы словы на дзіва ўдала характарызуюць агульны напрамак і настрой чыстай, светлай, шчымліва-самотнай паэзіі Анатолья Шушко».

Слова, калі можна так сказаць, на дарогу прамаўляе В. Гардзей і гэтым разам — «Шаны вам, Сташаны!». Асноўную ацэнку творчасці калегі па пяры і сябра ён пакідае ранейшай, амаль слова ў слова паўтараючы апошні абзац. Дарэчы, і сам А. Шушко некаторыя творы са сваёй першай кнігі ўключыў і ў новую. Але В. Гардзей адначасова пашырае характарыстыку напісанага А. Шушко, дадае тое, чаго ў першай прадмоўцы не было. Дый быць не магло. І з-за таго, што яна была невялікая, я прывёў яе цалкам. А яшчэ па іншай прычыне. Больш істотнай. Як ніяк, а з часу выхаду кнігі «Выток і прычасце» мінулася амаль дваццаць гадоў. Паэт дасягнуў такога ўзросту, калі ўжо нельга не азірацца назад. Каб узважыць набытае, здзейсненае, а таксама — хочаш таго ці не хочаш — у пэўнай ступені заняцца і падрахункаваннем. Усё ж паэтычны век, як і век жаночы, кароткі. Далёка не ўсё вызначаецца колькасцю пражытых гадоў.

Аднак пра саму назву другой кнігі А. Шушко, якую ў пэўнай ступені можна ўспрымаць і ягоным выбраным. Той, хто знаёмы з яго першым зборні-

кам, у гэтай назве нічога нечаканага і дзіўнага не бачыць. Быў жа ў «Вытоку і прычасці» верш «Сто шан для Сташан», які перайшоў і ў ягоную другую кнігу. Наватвор «шаны» ў А. Шушко ўзнік ад пераасэнсавання назвы ягонай роднай вёскі Сташаны, што знаходзіцца ў Пінскім раёне. Хоць, бадай, не толькі гэтым можна вытлумачыць ягонае з'яўленне. Бадай, правільным шукаць выток назвы «шаны» і ў словах «шанаваць», «шанаванне», «ушанаванне». Адным словам, ушанаванне сваё роднай вёскі. Шаны ў гонар яе. Паколькі ж любоў да кутка бязмерная, то і нарадзілася ажно «Сто шан для Сташан». Больш за тое, цэлая кніга — «Шаны». Выток жа гэтай кнігі, канечне, у самім верш «Сто шан для Сташан».

Як дакладна прыкмеціў В. Гардзей, «па сваёй структуры і будове твор уяўляе ўсхваляваны трыпціх, бо складаецца менавіта з трох раздзелаў, а кожны раздзел пачынаецца рэфрэнам, або іначай — падзякай-шанаваннем». Ад сябе дадам, што падзяка гэтая, гэтае шанаванне ідуць як бы па ўзрастаючай. Пачынаючы з ухвалення мясціны, дзе пашчасціла нарадзіцца, якая дала крылы для злёту і палёту і куды пастаянна хочацца вяртацца, каб душэўна і духоўна адпачыць, набрацца новых сіл для далейшых жыццёвых дарог:

Сто шан табе, мой лан, мой кут
З папінамі ля хаты!
Дзе ж адпачну, калі не тут,
Як птушанё крылаты.

Шанаванне зямлі роднай, бацькоўскай, але адначасова і падзяка ёй за тое, што дбае, клапоціцца пра цябе:

Сто шан табе, сташанскі хлеб!
Стазыкая падзяка!
Ты і сягоння на стале
Ка мне неабыякі.

Аднак адзін чалавек, калі ён, паруску кажучы, нават «семь пядей во лбу», яшчэ мала што значыць. Куды лепей ён можа сябе праявіць сярод іншых людзей, у грамадзе і згодзе — там, дзе свой сярод сваіх. Таму заключная частка верша і пачынаецца менавіта так:

Сто шан і Вам, браткі мае,
Палешукі-рупліўцы!
Хай усяго для Вас стае
І у садку, й на ніўцы.

Аднак правільным будзе сказаць, што А. Шушко, услаўляючы свае Сташаны, піша і з думкай пра ўсю Беларусь, на карце якой яны, хоць і маленькая, але такая прыкметная для яго кропка. Сімптаматычна, што ягоная першая кніга пачыналася менавіта чатырохрадкоўем-прысвячэннем «Беларусі»:

Голас песні маёй — рэха сэрца твайго,
покліч песняй душы, што не знае патолі.
Беларусь, не знаходжу я праўды другой,
бо інакш мне цябе не зайсці аніколі.

Не магу яшчэ раз не працытаваць В. Гардзея: «"Сто шан" бацькоўскай зямлі, свайму народу, роднай мове Анатоль Шушко, валодаючы псіхалагічнай дакладнасцю і рэдкай паэтычнай назіральнасцю, выказвае эмацыянальна, вобразна, яркімі штрыхамі і малюнкамі, у якіх адразу ўгадваецца непаўторны палескі каларыт». А яшчэ, што таксама вельмі істотна, тэма Беларусі, Радзімы, Айчыны для А. Шушко — гэта не толькі тое, што ёсць сёння, а таксама позірк у дзень заўтрашні, а ўсе мы (гэта не сакрэт), упэўнены ў тым, што там, у даляглядных прасторах усё будзе лепш, чым сёння.

Анатоль Шушко пільна ўзіраецца і ў дзень учарашні, у тое мінулае, якое засталося ў смузе часу. Але і тут у яго своеасаблівы падыход. Ён не столькі цікавіцца канкрэтнымі рэаліямі, гістарычнымі асобамі, хоць, як кажуць, і не без гэтага. Больш істотна іншае: да мінулага ў яго асаблівае стаўленне. Такое стаўленне, калі ўсё, што было і як было, існуе ў сваім адзінстве. У выніку вымалёўваецца цэласны малюнак часу, калі на першы план выступае панарамнасць прошласці, а з яе паўстае ўжо і дзень сённяшні. Ягоныя абрысы праступаюць праз тыя ж напластаванні былога. У гэтым сэнсе асабліва вылучаецца верш «Камяні», у якім у аднолькавай ступені цесна думцы і словам, але думка, падобна зерню на ўрадлівай зямлі, дае новыя і новыя парасткі, гэткія ж моцныя і жыццядайныя, як і папярэднія:

Вы — нібы здані прада мною
далёкіх прадзедаў маіх,
з іх невыказнаю тугою.
З глухой жальбой і болем іх.

О, камяні! — нямыя жорны
Імхом паросшай цішыні,
няўжо і дух іх непакорны
у вас, у чэрствых, не пранік?

Як быццам, і так ужо шмат сказана. Ды пакуль яшчэ не ўсё выказана, што паэту хацелася данесці чытачу. Таму верш на другой страфе не заканчваецца. Ёсць яшчэ працяг. Пры тым, як хутка ўпэўніваешся, арганічны, проста неабходны, іначай твор многае страціць. Ва ўсякім разе ўздзеянне яго на чытача зменшыцца. Галоўнае ж — не будзе той думкі-ідэі, якую, як высвятляецца, паэт прыхаваў на заканчэнне сваіх разваг:

Няўжо гарачаю падковай
конь Каліноўскага парой
з вас больш не высеча барвовы
агонь?.. Няўжо ваш лёс — спакой?

О, Камяні! Якая сіла
і хто вас можа абудзіць?
Вы — як пагаслыя свяцілы…
Няўжо павек вам не свяціць?..

Дарэчы, ва ўжо згаданым артыкуле В. Бечык звярнуў сваю ўвагу і на «Камяні» А. Шушко. Аднак спачатку зазначыў: «Дзесьці воддаль адсвечваў, праўда, ужо вядомы верш іншага паэта (Л. Дайнекі): “Камяні, камяні — ціхай вечнасці жорны… На гарачым кані праляцеў Каліноўскі…”». І тут жа В. Бечык дадаў: «Але толькі адсвечваў, бо думка развівалася сваім шляхам, і пачуццё было не пазычаным, сваім».

А гэта ў А. Шушко ўжо больш блізкае нашаму дню даўняе. Са згадкамі аб Вялікай Айчыннай вайне звязанае. У адным з безназоўных вершаў:

Пазарасталі ўжо сцяжыны
да партызанскае зямлянкі.
І гэты шчыры гімн птушыны —
светлавалосаму світанку.

Грыбное восеньскае рэха
гайдае сосен верхавіны…
Ды што ж так слых балюча рэжа?
Вуголлем дыхаюць каліны.

*(«***Пазарасталі ўжо сцяжыны…»)*

На першы погляд, у творы нічога такога, што магло б асабліва ўзрушыць. Але знешняя прастата падманлівая. Уважліва ўнікаеш у сэнс прамоўленага паэтам і адчуваеш, як шмат сказана ім у гэтым вершы. Становіцца відавочным, што нічога выпадковага тут няма. Усё працуе на аўтарскую задуму. Узяць хоць бы «светлавалосы світанак». Гэтае параўнанне з’явілася не само па сабе. Яно ўнутрана вынашанае, прапушчанае праз сябе. Светлавалосы світанак — гэта, калі праводзіць паралель, і той малады светлавалосы партызан, які перад самай вайной толькі паспеў скончыць сярэднюю школу. А то і не скончыў яе, а па ўзросце не трапіў у армію. Ды ўсё адно ўзяўся за зброю, бо не мог заставацца ў баку. Так выхаваны быў, што, калі нападзе вораг, трэба бараніць сваю Радзіму. Зусім невыпадковае ў вершы і такое параўнанне: «Вуголлем дыхаюць каліны». Гэта ўжо з іншай рэальнасці, паслячарнобыльскай. Па гэтых мясцінах таксама прайшоўся «фронт». Толькі нябачны, таму яшчэ ў большай ступені небяспечны.

Каб быць паэту самастойным, важна не толькі, пра што пісаць. Не менш важна, як пісаць. Прынамсі, у дачыненні да А. Шушко гэта адназначна правільна. Пацвярджэнне таму — не толькі вышэй згаданыя творы, а і шмат якія іншыя, што таксама сведчаць на карысць таго, як яму ўдаецца на, здавалася б, пратаранай сцяжыне абавязкова знайсці нешта сваё, іншымі не заўважанае. Як, напрыклад, у вершы, сціпла названым «Прадвесне». Як быццам наўрад ці можна тут знайсці нейкі свой паваротак думкі. Каб не толькі не паўтарыцца, а прамовіць так, каб гэта было свежа. Аказваецца, сапраўднаму таленту гэта па сіле:

І мроіцца снягам
Аб тапаліным леце,
Дзе босая нага
Ступае на суквецце.

І цёпла маразам!
Успыхне рунню поле.
І вастрыём ляза
Капеж зіму праколе.

А колькі вершаў-прызнанняў у любасці да роднай мовы напісана нашымі паэтамі! Ды, як гэта ні прыкра, далёка не ўсе такія творы па-сапраўднаму радуюць, усцешваюць душу, саграваюць сэрца. А ўсё таму, што нярэдка гэта пішацца не тады, калі на тое з'яўляецца душэўная патрэба, а як бы па неабходнасці. Маўляў, іншыя закранаюць гэтую тэму, то хіба я горшы за іх. Чытаеш жа А. Шушко і адразу адчуваеш, што гэта якраз тое, што не магло не з'явіцца. Перш чым легчы на паперу, яно неаднойчы было думана-перадумана, аэнсавана-пераасэнсавана. Толькі пасля ўсяго гэтага і з'явіліся радкі, якія так нязмушана кранаюцца струн тваёй душы. Тых струн, што настроены на ўспрыманне прыгожага, вечнага:

Святочнасць якая!
Як хораша тчэцца радок!
Шукаю цябе,
Першароднае мудрае слова.
Мацней пачуццё!
Зноў са мной, як зарок,
Мая беларуская
Кроўная, чыстая мова.

*(«***Няўжо яшчэ цеплішся…»)*

З таго ж шэрагу і верш «***Добры дзень! Родны ранак душы...»:

Добры дзень! Родны ранак душы.
Затушы мой боль, затушы.
Затапі маё гора глыбокае,
Засвятлі сваё шчасце далёкае.

Бо чакае сябрына, бо веруе,
Што аднойчы не ўласнай хімераю
Зазірну да іх я, і падзякую
Мовай роднаю — неабыякавай.

У вершы «Прачулае і весняе» А. Шушко запэўнівае: «Мне гаманіць ВЯСНОВЕЙ // На БЕЛАРУСКАЙ мове // На матчынай, на КРЭЎНАЙ, // Расістай, зорнай, спеўнай. // Мне прасвятляе вочы // Душа яе прарочая: // Здаецца, што Айчыну // Нясу я за плячыма, // І гэты груз найважкі // З УСІМ (усюды выдзелена самім паэтам. — **А. Я.**)». Таксама сказана шчыра. Гэтаксама прамоўленае ідзе з глыбіні сэрца.

Тым больш пасля гэтага дзіўна чытаць у вершы «Матулі»: «Даюць **па пысе (**тут і далей выдзелена мною. — **А. Я.**), // А я ўсё **пруся** // Да годнай, роднай — // Беларусі». Ці ў вершы «Чаму?»: «Чаму і ў скрусе адгукнуся, // Адклікнуўся зблудзіўшым рэхам? // Бо Беларуссю **захлынуся**, // Калі прад Ёй паўстану грэшным». Усё-такі словы «пыса», «пруся», «захлынуся» не стасуюцца з той вялікай любоўю, якой напоўнена сэрца лірычнага героя да сваёй роднай зямлі.

Ды гэта, бадай, выпадкі, калі нашы недахопы — вынік нашых дасягненняў. Лёгка напісалася лепшае (прынамсі, ствараецца такое ўражанне), не надта задумваючыся лягло на паперу і тое, без чаго можна абысціся, знайшоўшы іншыя, не менш пераканальныя эпітэты, але куды больш у дадзеным выпадку прымальныя. Ды, зразумела, зусім не гэтыя пралікі (калі быць прыдзірлівым, дык можна знайсці яшчэ сёе-тое) характарызуюць кнігу А. Шушко «Шаны», а тое, што чытач, які любіць традыцыйную паэзію, можа чарговы раз упэўніцца ў тым, якія вялікія ў яе творчыя магчымасці, калі за пяро бярэцца той, хто мае належны талент. У пэўнай ступені кніга «Шаны» стане для маладога пакалення і адкрыццём А. Шушко як паэта, бо далёка не ўсе чыталі ягоны зборнік «Выток і прычасце».

Сяргей ДЗЯМІДЧЫК

# ЗЯМЛЯ ДАЎНЯЯ, ЗЯМЛЯ СЛАЎНАЯ

*(Артыкул другі)*

## Флер'янова — куток позняга кахання

Фларыян Бохвіц — таксама не з Ляхаўшчыны. Нарадзіўся 4 мая 1799 года ў Міры, а гэта сёння зноў жа Карэліцкі раён. Вучыўся ў Нясвіжы, вывучаў права ў Кіеўскім і Віленскім універсітэтах, з'яўляўся членам Навагрудскай карпарацыі адвакатаў. Але ў 1838 годзе адмовіўся ад адвакацкай працы. Тады ж і набыў маёнтак Вошкаўцы на Ляхаўшчыне (сённяшняя вёска Ураджайная). Жывучы ў ім, доўгі час займаўся навуковай дзейнасцю і сельскай гаспадаркай. Напісаў працы «Сутнасць маёй думкі…», «Асновы маіх думак і пачуццяў», «Думкі пра выхаванне чалавека». Памёр 9 жніўня 1856 года.

У Бохвіца быў сын Ян (1835—1915). Ён удзельнічаў у паўстанні 1863—1864 гадоў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Таксама з'яўляўся чалавекам неабыякавым да творчасці, аб чым сведчаць ягоныя вершы, асобныя з якіх былі апублікаваны, а таксама праца «Як закладваць і даглядаць сады». Праўда, яна была напісана куды пазней, у 1904 годзе, пасля таго як сам Ян паспеў добра папрацаваць на зямлі.

Сельскай жа гаспадаркай ён займаўся ў сваёй сядзібе Флер'янова. Гэты маёнтак часам называлі і Фларыянава, а то і Фларыянаў. Няцяжка здагадацца, што гэта назва звязана з імем Фларыян. Сапраўды Ян, калі ўпадабаў мясціну непадалёку ад Ляхавіч, вырашыў назваць яе імем свайго бацькі. Аднак давялося маёнтак не толькі забудоўваць, а і адбудоўваць, бо ў час паўстання Флер'янова было разбурана. За давядзенне ўсяго да ранейшага ладу Ян і ўзяўся, вярнуўшыся сюды пасля адбыцця на працягу года зняволення ў Дынабургскай крэпасці.

Але найбольшага росквіту Флер'янова дасягнула пры ўнуку Фларыяна і сыну Яна — Тадэвушу (1863—1930). Дакладней, дзякуючы ягонай жонцы. У самога Тадэвуша былі іншыя інтарэсы. Ён скончыў славутую Слуцкую гімназію і землеробчую школу ў Горках. Праўда, вышэйшую адукацыю так і не атрымаў. Затое шмат займаўся самаадукацыяй, добра ведаў французскую мову. Захапляўся французскай літаратурай XIX стагоддзя, якую чытаў у арыгінале. Меў багаты збор перыёдыкі, які завяшчаў бібліятэцы ў Нясвіжы. На жаль, гэта газетная калекцыя часткова загінула ў Першую сусветную вайну. Затое захавалася нямала звестак, што тычацца кантактаў Тадэвуша Бохвіца з Элізай Ажэшкай. Беларускі чытач падрабязна даведаўся пра іхнія ўзаемаадносіны дзякуючы літаратуразнаўцу, аўтару кнігі «Эліза Ажэшка» Валянціне Гапавай.

У 1910-я гады ў сядзібе быў пансіён. Калі Ажэшка даведалася пра гэта, то вырашыла лета 1908 года правесці ў Флер'янове. З Тадэвушам у яе адразу склаліся прыязныя адносіны. У пэўнай ступені не толькі прыязныя. Нягледзячы на тое, што яна была больш як на дваццаць гадоў старэйшая за гаспадара пансіёна.

«Страфой паэмы» назвала Ажэшка гэтае сваё лета ў Флер'янове. «Паэма» пачалася з... перапіскі. Тадэвуш жыў у сваім пакоі. Яна ў тым, што быў адведзены ёй. І яны ліставаліся. Ужо ў другім лісце, датаваным 26 жніўня 1908 года і перададзеным праз кагосьці Бохвіцу, Ажэшка прызнавалася, што для яе літаратурнага

прызвання мала: «Тысячы разоў называлі мяне зоркай польскай літаратуры, але гэта зусім не прыдатна для шчасця. Апрача гэтага не маю нічога. Ці нічога?» Яна старалася хаваць свае пачуцці, аднак гэта ёй не ўдавалася. Некалькімі радкамі вышэй вырвалася іншае: «Я ахвотна аддала б рэшту жыцця, каб толькі на дарагую для мяне вашу галаву справадзіць прамень радасці. Але што я магу?»

Невядома, што адказаў на гэта Бохвіц. А не адказваць не мог. І не толькі атрымаўшы гэты ліст, а і калі ў ягоных руках быў першы ліст Ажэшкі. Дый пазней. Сведчанне таму — яе адказ Бохвіцу ад 31 жніўня 1908 года. Якраз вярнулася ў Гародню, а Тадэвуш загадзя паклапаціўся, каб парадаваць яе. Чытала ягонае пасланне і радавалася: «Не спадзявалася на яго, даў мне адчуць тое, чаго мне вельмі не хапае: помач на дарозе жыцця, руку, хоць аддаленую, але добрую і каханую».

Ажэшка пэўна ведала: наступным летам зноў прыедзе ў Флер’янова. У 1909 годзе пісала: «Скажыце фларыянаўскім бэзам, каб да майго прыезду не адквітнелі! А ружы не памерзлі? Ці дрэўцы мае жывуць?» Таму з 9 чэрвеня да 22 верасня ў яе жыццё ўпісвалася чарговая «страфа паэмы». Тады разам з Ажэшкай у Флер’янове адпачывалі знакаміты празаік, аўтар раманаў «Мужыкі» і «Зямля запаветная» Уладзіслаў Рэйтан, тэатральны дзеяч і крытык Юзаф Катарбінскі з жонкай Люцыянай, якая рэдагавала папулярны штотыднёвік, віленская піяністка Асецінская, на той час малады, а потым вядомы артыст Страхоцкі і доктар з Варшавы, у будучым прафесар Варшаўскага ўніверсітэта Генрык Нусбаум.

Ладзілі літаратурна-музычныя вечары. Захавалася праграма таго вечара, што адбыўся 18 жніўня. Ажэшка выступала «Са словам». Яна ж і Катарбінскі ў суправаджэнні хору дэкламавалі «Псалм добрай волі» С. Красінскага. Асецінская выконвала творы Шапэна, Грыга, Бетховена. Ініцыятарамі правядзення вечара выступілі Катарбінскі і Страхоцкі. Гэтае прадстаўленне дый іншыя называліся «Флерыянаўскі тэатрык».

Эліза Ажэшка ахвотна збірала гербарый з мясцовых раслін. З задавальненнем прагульвалася пехам і конна. Прымала ўдзел у дажынках, а таксама ў сяўбе жыта дзеля новага ўраджаю. Усё гэта было для яе часткай сялянскага жыцця, якое яна добра ведала. Адначасова, бадай, і развітвалася з Флер’яновам. Унутрана адчувала, што наўрад ці прыедзе яшчэ сюды. Так і сталася. Ажэшка пайшла з жыцця 18 мая 1910 года.

Засталося трыста старонак лістоў, адрасаваных на працягу двух гадоў у Флер’янова Тадэвушу Бохвіцу. Цэлы том, «трыста старонак мастацкай прозы», як сведчыць Гапава. Сапраўды, гэта не пісьмы ў традыцыйным разуменні, а споведзь душы, збалелай па-сапраўдным каханні, якая нарэшце гэтае каханне, няхай і запозненае, знайшла. Такое каханне, што ў будучым нічога не абяцае. Толькі дзеля гэтага ўсё ж хочацца (дый трэба!) жыць.

Засталася ў Флер’янове і сядзіба Бохвіцаў, якая некалі, як пісаў Аляксандр Ельскі, з’ўлялася «ўпрыгожаннем ваколіц». Зразумела, цяпер яна далёка не ў тым выглядзе, якой бачыла яе Ажэшка, дый іншыя, хто адпачываў тут. Але папранейшаму стаіць сядзібны дом, засталіся рэшткі некалі вялізнага фруктовага саду, што гатоў быў спусціцца да рэчкі Ведзьмы. Захаваўся і дуб, які пасадзіла Ажэшка восенню 1909 года, перад тым як назаўсёды пакінуць Флер’янова.

## У кожнага свой лёс

А вось гаспадарамі маёнтка Нач-Брыдзоўская (ён знаходзіўся каля цяперашняй вёскі Нача) з 1798 года з’яўляліся прадстаўнікі шляхецкага роду Чарноцкіх. У гэтым маёнтку 13 ліпеня 1866 года нарадзіўся публіцыст і перакладчык Напалеон Чарноцкі (памёр 14 лютага 1937 года), які зрабіў вельмі шмат для папулярызацыі беларускай літаратуры.

Скончыў Слуцкую гімназію, у час вучобы ўваходзіў у тайны гурток самаадукацыі. Калі ж паступіў на медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта, удзельнічаў у студэнцкім рэвалюцыйным руху, за што быў выключаны з яго. Чарноцкага саслалі пад нагляд паліцыі ў родныя мясціны. Пазней універсітэт ён усё ж скончыў, атрымаў прафесію ўрача. Але ад свабодалюбівых поглядаў не адмовіўся. Наладзіў сувязь з падпольнай друкарняй «Robotnik», якая, дарэчы, некаторы час знаходзілася ў Начы.

Яшчэ ў 1885 годзе ў Слуцку ўдзельнічаў у перакладзе на беларускую мову і выданні на гектографе першага варыянта рэвалюцыйнай брашуры «Дзядзька Антон». А вось апавяданне Уладзіміра Караленкі «У дрэннай кампаніі» пераклаў на польскую мову. Зрабіў гэта невыпадкова, бо не толькі любіў творчасць Караленкі, а і перапісваўся з ім. У перакладзе Чарноцкага па-беларуску ў 1910 годзе былі выдадзены п’есы Антона Чэхава «Сватанне» і Марка Крапіўніцкага «Пашыліся ў дурні».

Напалеон Чарноцкі выступаў у абарону беларускай мовы, аб чым, у прыватнасці, сведчыць ягоны артыкул «Да пытання пра беларускую народную школу», змешчаны ў газеце «Минский курьер» 10 красавіка 1908 года. З прыхільнасцю пісаў пра творчасць Якуба Коласа. Цікавіўся фальклорам і даследаваў яго. Апісаў батлеечнае прадстаўленне «Батлейкі з ваколіц Начы».

Фальварак Нача — радзіма перакладчыка, публіцыста, педагога, а да ўсяго вучонага і грамадскага дзеяча Янкі Сваяка. У сапраўднасці Марыян Фальскі. Нарадзіўся 7 снежня 1881 года, памёр 7 кастрычніка 1974-га ў Варшаве. У 1905—1906 гадах у Варшаве і Кракаве былі выдадзены беларускія пракламацыі, адным з аўтараў якіх ён з’яўляўся. Пераўвасобіў па-беларуску творы польскіх пісьменнікаў Стэфана Жаромскага і Генрыка Сянкевіча. Выдаў польскі буквар «Навука чытання і пісання», якім шэсцьдзясят гадоў у Польшчы карысталіся ў якасці падручніка.

Жыццё празаіка Сяргея Пясецкага, аўтара знакамітага рамана «Каханак Вялікай Мядзведзіцы», які ў свой час нават вылучаўся на Нобелеўскую прэмію, само па сабе заслугоўвае цікавай, захапляльна-прыгодніцкай кнігі, столькі ў ім нечаканага, неверагоднага, а то і авантурнага.

Нарадзіўся Пясецкі 1 чэрвеня 1899 года (па іншых звестках у 1901 годзе) у Ляхавічах. Спачатку ўдзельнічаў у беларускім антысавецкім руху «Зялёны дуб», потым стаў супрацоўнікам польскай разведкі. Аднак, як кажуць, перастараўся. Таму за шэраг злачынстваў і апынуўся за кратамі. Там і ўзяўся пісаць свой галоўны твор. Па-польску. На мове, якую добра ведаў, а да ўсяго акурат у гэты час у Польшчы быў аб’яўлены літаратурны конкурс на лепшы твор. На польскай мове пабачылі свет і іншыя творы С. Пясецкага: сатырычны раман «Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі» і дылогія, што складаецца з раманаў «Чалавек, ператвораны ў ваўка» і «Да гонару арганізацыі».

«Запіскі…», як і «Каханак Вялікай Мядзведзіцы», перакладзены на беларускую мову, а дылогія, у якой дзеянне адбываецца падчас акупацыі Вільні фашыстамі, — на рускую. Дарэчы, сам Пясецкі ў гады Другой сусветнай вайны падтрымліваў сувязі з Арміяй Краёвай. Па гэтай прычыне пасля вайны мусіў эмігрыраваць. Жыў у Англіі, дзе і памёр 14 верасня 1964 года.

Кароткім было жыццё ў паэта, публіцыста і ўдзельніка нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў Заходняй Беларусі Янкі Чабора. Сапраўднае прозвішча Патаповіч. Нарадзіўся 11 ліпеня 1911 года ў вёсцы Рачканы, загінуў, стаўшы ахвярай сталінізму, у 1943 годзе ў адным з лагераў. Звестак пра яго жыццё не так і шмат. Хіба што ўспаміны ягонага паплечніка па рэвалюцыйнай барацьбе журналіста і пісьменніка Якуба Міско.

Ён прыгадваў: «Сям’я Патаповічаў была вялікая, патрыярхальная — дваццаць тры душы. Падрастаючы, дзеці, хочаш не хочаш, пачалі думаць аб сваім будучым. Вельмі ж цесна было на вузкіх загонах. І падаўся Янка ў Віленскую беларускую

гімназію. Яго прынялі, здаецца, у чацвёрты клас. […] Добра памятаю гэтага высокага хлопца, хударлявага, з адкрытым тварам, у рагавых акулярах. Ён быў прыветлівы, вучыўся старанна, асабліва любіў літаратуру. Ужо ў пятым класе стаў камсамольцам. Прымаў актыўны ўдзел у выпуску вучнёўскага часопіса «Золак», дзе друкаваліся яго вершы і артыкулы, якія ён падпісваў псеўданімам Янка Чабор. Разам з іншымі вучнямі-камсамольцамі насіў перадачы-падаянкі палітвязням на “Лукішкі”, раскідваў па горадзе нелегальныя лістоўкі».

Не спыняў сваёй дзейнасці і пасля таго, як паступіў у Віленскі ўніверсітэт. У 1933 годзе стаў адным з ініцыятараў стварэння Літаратурнага фронту сялянска-рабочых пісьменнікаў. 25 студзеня 1934 года ў гэтай арганізацыі з’явіўся свой друкаваны орган — дадатак да «Беларускай газеты», што называўся «Літаратурная старонка». У звароце да ўсіх пісьменнікаў Заходняй Беларусі, які разам з Янкам Чаборам падпісалі Міхась Васілёк, Аляксей Рэдзька, Пятрусь Граніт, Звястун (Піліп Пестрак), Анатоль Іверс, гаварылася:

«Кідаючы гэты адкрыты вызаў барацьбы на літаратурна-мастацкім фронце ў нацыянальна-вызваленчым руху, мы кідаем заклік да ўсяго, што ёсць разумнага, свядомага, да працоўнага ў нашай краіне, да пісьменнікаў, што выйшлі з асяроддзя сярмяжнага люду, да пісьменнікаў ад варштата і плуга — зразумець адказнасць сучаснага стану… Клічам на творчую працу для народа і разам з ім. Мы разумеем умовы, разумеем, што перад намі цяжкасці і перашкоды, але тым з большым запалам бяромся за працу, за ажыццяўленне даўно наспелай думкі аб утварэнні каля часопіса свае ўласнае сялянска-работніцкай пісьменніцкай кагорты — арганізацыі».

Аднак свет пабачыў толькі адзін выпуск «Літаратурнай старонкі». Неўзабаве яна разам з «Беларускай газетай» была забаронена. Многія пісьменнікі, сярод якіх быў і Чабор, апынуліся за кратамі. Там яны выпускалі нелегальны часопіс «Краты», які да гэтага заснаваў Максім Танк. Са сваімі творамі ў ім выступаў і Чабор. На жаль, што гэта былі за творы, сказаць немагчыма. Нумары «Кратаў» з імі не захаваліся.

Следства працягвалася ажно дваццаць шэсць месяцаў. Судовы разгляд па справе кіраўнікоў і актывістаў «Беларускай газеты» і «Літаратурнай старонкі», а таксама сатырычнага часопіса «Асва» адбыўся толькі ў сакавіку 1936 года. Ён увайшоў у гісторыю як працэс «Малой Грамады». На ім з прамовай выступіў і Чабор. Як і іншыя падсудныя, вінаватым сябе не прызнаў. Гэтаксама, як і яны, абвінавачваў улады ў прыцясненні ўсяго беларускага, дый у тым, што яны давялі народ да галечы. Далі пяць гадоў турмы. Праўда, па амністыі, аб’яўленай у сувязі са смерцю Пілсудскага, тэрмін зняволення скарацілі напалову, і ў другой палове 1936 года Чабор апынуўся на свабодзе.

Арганізоўваў у роднай вёсцы і яе ваколіцах беларускія кааператывы, а пасля верасня 1939 года актыўна ўдзельнічаў ва ўсталяванні савецкай улады. А потым — новая несправядлівасць. Ён, сумленнейшы чалавек, які, кажучы словамі аднаго з твораў Валянціна Таўлая (дарэчы, Таўлай таксама праходзіў па працэсе «Малой Грамады» і разам з Піліпам Пестраком і Сцяпанам Міско атрымаў найбольшы тэрмін — па восем гадоў), вершам пілаваў краты, быў аб’яўлены «ворагам народа».

## Нізкі паклон родным мясцінам

З вёскі Вадзяціна — гэта непадалёку ад Ляхавіч, родам заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа Уладзімір Дамашэвіч. Нарадзіўся ён 17 лютага 1928 года. Праўда, у Вадзеціне (сам ён менавіта так называе сваю родную вёску) пражыў усяго дзесяць гадоў, пасля чаго сям’я пераехала на радзіму ягонай маці, у вёску Якшычы, а гэта ўжо

Клецкі раён. Ды памяць маленства асаблівая, яна з гадамі не забывае тое, што, здавалася б, не такое і значнае, але разам з тым у далейшым шмат паспрыяла і фарміраванню характару, і вызначэнню светапогляду. Дый увогуле стаўленню да жыцця.

У згадках «Родным мясцінам паклон» Уладзімір Максімавіч прызнаецца: «[…] не магу ўявіць сабе свайго жыцця без тых дзесяці год, якія пражыў у лясной глушы на радзіме свайго бацькі, дзеда Тамаша, прадзеда Лявона, якія пахаваны на гасцілавіцкіх могілках, на мяжы дзвюх суседніх вёсак.

Там я нарадзіўся на свет, упершыню сказаў “мама”, там я пачуў матчыну мову, якая акрыліла мяне, узняла над балотам і лесам, дала мне голас, ажывіла душу, мне цяпер здаецца, што, каб я не нарадзіўся ў Вадзеціне на лясным хутары, а ў нейкім іншым месцы, я ніколі не стаў бы тым, кім стаў сёння, што лёс мой быў бы зусім другі.

І таму я дзякую той зямлі і таму полю, таму лесу і балоту, а найбольш — тым людзям, якіх я бачыў змалку, сярод якіх я жыў і рос, з якімі побач набіраўся сілы і розуму.

Родным мясцінам — мой нізкі паклон».

У іншым месцы сваіх згадак У. Дамашэвіч сведчыць, што ён «на сваім матэрыяле з маленства […] напісаў усяго некалькі невялікіх апавяданняў (“Першыя зерняткі”, “Сівы конік”, “Абуджэнне”, “Начныя страхі” і інш.)», і, з уласцівай яму сціпласцю, дадае: «Што яны не сталі шэдэўрамі, вінаваты я сам, а не жыццё, якое я бачыў сваімі дзіцячымі вачыма і якое перажыў. Жыццё ўсё ж багатае, трэба толькі ўмець гэтае багацце перадаць на паперы — у фарбах, вобразах. У гэтым увесь сакрэт літаратурнай і ўсякай іншай творчасці: умець выявіць, умець паказаць — шырока і глыбока». Адно несумненна: уражанні маленства важныя, значныя тым, што іхні патэнцыял — тая скарбонка, з якой можна бясконца чэрпаць і чэрпаць тэмы, вобразы.

Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнанга ўніверсітэта У. Дамашэвіч працаваў у выдавецтвах «Народная асвета», «Беларусь», на Рэспубліканскім радыё, літработнікам у часопісае «Полымя», загадчыкам аддзела прозы часопіса «Маладосць», рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура», потым зноў вярнуўся ў «Маладосць».

Не толькі сам пісаў, а і актыўна (дый ахвотна) падтрымліваў творчую моладзь. Сёння многія вядомыя празаікі па праве лічаць сябе ягонымі вучнямі. Дый вучацца майстэрству ў свайго літаратурнага настаўніка. Напісана ж У. Дамашэвічам не так і мала. Выйшлі кнігі прозы «Заклінаю ад кулі» (1960), «Між двух агнёў» (1963), «Абуджэнне» (1968), «Порахам пахла зямля» (1975), «Камень з гары» (1990), «Кожны чацвёрты» (1991) і іншыя. Апавяданні, аповесці, раманы... Асобныя творы яшчэ чакаюць свайго выдання кнігамі, друкаваліся толькі ў перыёдыцы.

Алесь Бадак нарадзіўся 28 лютага 1966 года ў вёсцы Туркі. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў у Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі, у рэдакцыях часопісаў «Бярозка», «Полымя», «Маладосць». Цяпер — намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Нёман».

Аўтар паэтычных кніг «Будзень» (1989), «За ценем самотнага сонца» (1995), «Маланкавы посах» (2004). Ёсць у гэтых кнігах, дый у перыёдыцы друкаваліся вершы, што не маглі б нарадзіцца, калі б не было ўражанняў, якія можна пачэрпнуць толькі ў тых мясцінах, дзе прайшло тваё маленства. Як гэты верш — «Буслы»:

На Шчары садзяцца буслы,
Два вольныя, добрыя птахі.
Здаецца, адчую на слых
Іх думкі, як крылаў узмахі.

Бусліны нямы неспакой
У рухах і, пэўна ж, на сэрцы:
Ад сонца —
Вуголле ў траве за ракой,
А гэтак хацелі пагрэцца.

Хочацца згадаць яшчэ адзін верш А. Бадака. Гэтым разам безыменны. Пра тое, як «асеннія ліcткі, // Да канца не верачы і самі, // Як па ўзмаху нечае рукі, // Узляцелі ў неба матылькамі»:

З раніцы да вечара яны
З Ляхавіч ляцелі аж да Мінска.
Скоўвалі іх крылцы туманы,
І зіма была ўжо дзесьці блізка.

Так і не маглі знайсці нейкага прыстанішча: «Паляцець бы ў вырай. // Толькі дзе, // У якім баку той цёплы вырай?» Застаецца адно выйсце:

Паглядзі, вунь зноў яны ляцяць
Страшнай хмараю
У небе сінім.
І ніяк не могуць адшукаць
Гнёзды —
Пасівелыя асіны.

Шмат якія вершы А. Бадака пакладзены на музыку, сталі вядомымі песнямі.

Плённа працуе ён у галіне дзіцячай літаратуры: кнігі «Маленькі чалавек у вялікім свеце» (1995), «Верабей з рагаткай» (1999), «Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў» (2001), «Удивительные истории из жизни волшебников» (2011), а таксама серыя прыродазнаўчых эсэ «Усім пра ўсё»: «Расліны» (2008), «Жывёлы» (2009), «Птушкі» (2010), «Насякомыя» (2011).

Лаўрэат першай прэміі Рэспубліканскага конкурсу «Залаты Купідон», а таксама Літаратурнай прэміі імя Канстанціна Сіманава (Расія).

Паэт, публіцыст і перакладчык Леанід Пранчак нарадзіўся 12 лістапада 1958 года. Ягоная родная вёска — Пранчакі. Пранчакоў у ёй шмат. Пасяліся першыя Пранчакі ў тамашніх мясцінах яшчэ ў XVIII стагоддзі. Гэта былі далёкія продкі Леаніда Пранчака. Ён скончыў Пранчакоўскую школу, а потым факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Мінскі лінгвістычны ўніверсітэт.

За пяро ўзяўся яшчэ будучы шасцікласнікам. Пісаў карэспандэнцыі, вершы. Пасля атрымання журналісцкай адукацыі працаваў малодшым рэдактарам Магілёўскага абласнога радыё, потым у Рэспубліканскім штабе студэнцкіх атрадаў. У 1994—1995 гадах жыў у Злучаных Штатах Амерыкі, быў карэспандэнтам газеты «Рэспубліка». Вынікам знаходжання ў ЗША стала кніга нарысаў, інтэрв'ю «Беларуская Амерыка».

Першая кніга «Ясак любові» ўвайшла ў калектыўны зборнік паэзіі «Лагодны прамень раніцы» (1988). Выдаў кнігі «Першапутак» (1988), «Вольны птах», «Біблія для каханай» (абедзве 1998). Хораша зарэкамендаваў сябе Л. Пранчак як паэт-песеннік. На музыку пакладзены звыш 200 ягоных вершаў. Выйшлі аўдыяальбомы песень «Талака» (1998), «Пяшчота», «Цік-так ходзікі» (абодва 1999), «Між Нью-Йоркам і Менскам» (2000), кампакт-дыск «Галоўныя словы» (1998). Як і іншыя паэты, у сваёй творчасці не абыходзіць увагай родныя мясціны, аб чым сведчаць вершы «Вербы», «Бацька». «Мама», «Прызнанне», «Санет вяртання» і іншыя. Піша таксама для дзяцей: зборнікі «Дзяўчынка-беларуска» (1993), «Пра дзядулю, пра бабулю і пра іх унучку Юлю» (1999), «Цар-царэвіч з Івацэвіч» (2000). Л. Пранчак з'яўляецца аўтарам лібрэта дзвюх рок-опер. Першая з іх, паводле Максіма Багдановіча, называецца «Максім». Другая — «Беларушчына», у аснову якой пакладзены некаторыя творы Янкі Купалы.

## На гістарычнай ніве

Гісторык, літаратуразнавец Віталь Скалабан нарадзіўся 5 жніўня 1947 года ў вёсцы Шылавічы, памёр 20 жніўня 2011 года. Выпускнік Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат гістарычных навук. Быў рэдактарам, потым загадчыкам рэдакцыі гісторыі Беларусі выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя», намеснікам дырэктара, саветнікам Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы, намеснікам дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, працаваў у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. Асноўны накірунак навуковых памкненняў В. Скалабана — даследаванне гісторыі беларускага нацыянальнага руху, культуры XIX — пачатку XX стагоддзя, а таксама пытанні архівазнаўства, краязнаўства і бібліяграфіі. Менавіта ён з’яўляецца ўкладальнікам гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць» Ляхавіцкага раёна.

Віталь Скалабан — адзін са складальнікаў бібліяграфічных дапаможнікаў «М. М. Улашчык» (1996), «Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы» (1997), выданняў з рукапіснай спадчыны М. Улашчыка. На дзіва цікавай атрымалася ягоная кніга «Время и бремя архивов и имен», напісаная сумесна з Людмілай Рублеўскай. Суаўтар сцэнарыяў дакументальна-мастацкіх тэлефільмаў «Без эпітафіі» (пра Цішку Гартнага), «Справа Ігнатоўскага», «Ніколі я не паміраў» (пра Янку Купалу) і іншых. У пэўнай ступені ягонай лебядзінай песняй стаў трохтомнік «Купала і Колас, вы нас гадавалі», складзены разам з Вячаславам Селяменевым. Гэта ўпершыню ўведзеныя ў шырокі ўжытак архіўныя матэрыялы, што тычацца жыцця і творчасці класікаў нацыянальнай літаратуры і дазваляюць убачыць шмат у чым невядомых да гэтага Купалу і Коласа.

## Старонка ў біяграфіі

У 1918—1919 гадах у вёсцы Мядзведзічы жыла і працавала ў мясцовай беларускай школе Паўліна Мядзёлка. У сваіх мемуарах «Сцежкамі жыцця» яна згадвала: «Мядзведзічы — даволі вялікая вёска, хаты якой раскінуліся ў адну доўгую вуліцу. Пасярэдзіне вуліцы, на ўзгорку касцёл…»

Пабываў у Мядзведзічах і этнограф Ісак Сербаў. Гэтую вёску ён апісаў у «Паездцы па Палессі летам 1912 года». Наведванне Мядзведзічаў для Сербава стала плённым. Ад мясцовай жыхаркі Ганны Канцылярчык ён запісаў 20 народных песень. Зрабіў і некалькі фотаздымкаў, у тым ліку і мясцовых шляхцянак.

Зарыян жа Хадакоўскі цікавіўся фальклорам вёскі Мыслабаж. Тэкст песні «У гарадзішчах Мыслабожа» ён прыводзіў у лісце ад 9 кастрычніка 1822 года да свайго брата Караля, які тады валодаў маёнткам Нача. Прасіў яго запісаць і іншыя мясцовыя песні.

У 1962—1966 гадах намеснікам рэдактара ляхавіцкай раённай газеты «Будаўнік камунізму» працаваў Васіль Праскураў, які потым стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР. Супрацоўнікамі гэтай газеты ў розны час былі нарысіст, паэт Іван Кірэйчык, паэт Міхась Рудкоўскі, публіцыст Міхал Дубянецкі. У вёсцы Патапавічы настаўнічаў Мікола Купрэеў.

На Ляхаўшчыне пачынаў сваю творчую біяграфію знакаміты паэт, празаік, нарысіст і перакладчык, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа і прэміі «Залаты Купідон» Віктар Гардзей. У 1965—1966 гадах ён, працуючы ў мясцовай раёнцы, рэгулярна выступаў на яе старонках са сваімі карэспандэнцыямі, замалёўкамі, нарысамі. У гэтай газеце друкаваліся і ягоныя вершы. А яшчэ В. Гардзей цікавіўся гісторыяй, знаёміўся з мясцовым фальклорам, у прыватнасці з леген-

дамі, паданнямі. Пазней некаторыя з іх падказалі яму тэмы паэтычных твораў. Сярод іх і ўжо згаданы верш «Рэпіхава», а таксама паэтычна пераасэнсаванае паданне «Адкуль рака Ведзьма».

Паходжанне гэтага дзіўнага для ракі тапоніма, які з'явіўся недзе пяць стагоддзяў назад, тлумачыцца арыгінальна:

Патрэбны моцныя заслоны,
Бо шмат на рэчцы перапраў,
І замак тут для абароны
Хадкевіч-гетман збудаваў.

Дзе замак, там і горад, а які горад без гандлю? Ляхавічы не сталі выключэннем. Сюды таксама пачалі рэгулярна наведвацца. Балазе, быў зручны водны шлях. Аднак пры набліжэнні да замка іх заспела бура:

— Рака, ну, так, а нораў ведзьмы! —
Сказаў арцелі атаман. —
Дабраліся да месца ледзь мы —
І гром, і вецер, і туман!

Для люду, хто не вёў змагання,
Былі гасцінныя муры.
— Гарэза Ведзьма, да спаткання! —
Крычалі потым весляры.

* * *

У наш час Ляхаўшчыну наведвалі і прысвяцілі ёй свае творы многія пісьменнікі, у тым ліку Сцяпан Александровіч, Алег Лойка, Адам Русак, Юрась Свірка, Міхась Скрыпка і іншыя.

Такія яны, асобныя штрыхі з жыцця гэтага раёна Беларусі, гісторыя і сённяшні дзень якога, паўтаруся, заслугоўваюць асобнай кнігі.